насьць такіх спатканьняў, але сэрца не хацела слухаць даводаў розуму.

І запытаў раз Мартын Аўгіню:

— Помніш, Аўгіня, як гналіся мы, каб першаму даплыць да забітай качкі? А качку глынуў сом—ні ты, ні я не даплылі да яе.

Аўгіня толькі ўздыхнула.

## VII

Дзеду Талашу пачынала дакучаць гэта туляньне і бадзяньне па-за межамі свайго дому. Жыў ён некаторы час у свае дачкі ў Макушах. Вечарамі плёў і ладзіў унукам лапці, расказваў ім казкі. Але-ж стан рэчаў быў такі, што ня хіліў дзеда на такі спосаб жыцьця. Трэба было знаходзіць нейкі выхад з гэтага няпэўнага і прыкрага становішча. Тым-жа часам чуткі аб учынках польскай улады ў дачыненьні да ўсіх, хто пападаў на яе падазрэньне, разносіліся па ўсіх закутках Палесься, дзе толькі распасьціраў свае крыльлі «бялы польскі ожэл». І нічога добрага ня было ў гэтых чутках, і горш за ўсё—яны пацьвярджаліся фактамі.

З домам дзед Талаш сувязі ня губляў. Гэтай сувязьзю быў Панас. Дзед Талаш даведаўся ад Панаса, што Васіль Бусыга служыць за войта, што палякі загадалі праз войта сабраць па дзесяць пудоў сена і саломы з двара. А перад гэтым зьбіралі розную жыўнасьць: курэй, парасят, сала. Колькі калатні і лямапту было па вёсцы! А ўсякае супраціўленьне каралася жорстка, і расправа чынілася на мейсцы. У ход пускаліся нагайкі і шампалы. «Двадзесьце пеньць!» крычалі азьвярэлыя капралы. У вёсцы пачалі паяўляцца невядомыя людзі, шнырацъ, як цені, прыслухоўвацца, дзе што гаворыцца, дзе што робіцца. І ходзяць чуткі, што палякі будуць рабіць мабілізацыю. А войт распытваў яго, Панаса, дзе стары Талаш. Але Панас не такі дурань, каб сказаць яму праўду. Адным словам дзеду Талашу ніяк ня можна варочацца да дому—такі быў нязьменны прыпеў Панасавых навін.

Слухаў дзед Талаш гэтыя навіны, і яго ўласная крыўда заціралася, адступала на задні плян, і стажок, які забралі палякі і які паслужыў прычынаю ўсей гэтай бядзе, здаваўся цяпер маленькаю купінкаю і губляўся ў дзедавых думках. Справа абарочвалася значна горай, а на першае месца выпіналася агульная пляма сялянскай галечы. І што рабіць? Надзея на тое, што палякоў пагоняць назад, што паяўленьне іх, якое ўспрыймалася яшчэ некалькі дзён таму назад, як раптоўны налёт на кароткі час, пагражае стаць зацяжным, а можа назаўсёды фактам нямілай няволі. І няўжо-ж яму, дзеду Талашу, адрэзаны дарогі да свайго дому?.. А калі-б пайсьці, ды павініцца ў сваім учынку? Ды ў чым, якая віна яго? Яго пакрыўдзілі, зьняважылі, а ён будзе кланяцца ім? Да згінь-прападзі іх доля!

Дзед Талаш быў зацяты і горды, як дзікі арол.

Было гэта ў той дзень, калі дзед Талаш прышоў на ўмоўленае мейсца спатканьня з Панасам. Звычайна Панас прыходзіў першы і пасьвістваў, чакаючы бацькі. На гэты раз першы прышоў дзед Талаш. Прыслухаўся—жудкая, злавесная цішыня. Можа ён пасьпяшаўся? Дзед заняў пазыцыю пад старым прысадзістым, каржакаватым, як і сам дзед Талаш, дубам. Час ішоў. Панаса ня было. Прачакаў дзед гадзіну, прачакаў другую. Мулкая глухая трывога залягла ў дзедавым сэрцы. Якая прычына перашкодзіла Панасу прыйсьці сюды? Дзед Талаш прыпамінае апошняе спатканьне з Панасам—ці не магло тут быць якой памылкі, ці сапраўды на гэтым мейсцы ўмовіліся яны спаткацца? Не, памылкі ня было, і тоўсты дуб ускрай Сухога поля—гэта добра памятае дзед Талаш. Нават Панасавы словы, што былі сказаны на адвітаньні, гучаць у дзедавых вушах:

— Дык пад тоўстым дубам каля Сяхога поля.

Дзед Талаш падняў вочы на гэты каржакаваты гузасты дуб з магутнымі лапамі, як-бы чакаючы адказу на свае сумненьні. Дуб стаяў нярухома ў сваёй паважнай застыласьці, трымаючы ў разывілінах ёмкі ком сьнегу. Амяртвелае поле расьцілалася белым абрусам аднастайнай роўнядзі, а лес цёмна-сіняю сьцяною выступаў у нярухлівай постаці і тупой немаце. Прытоеная цішыня чутка вартавала кожны гук, кожны нясьмелы шолах. І толькі адзін дзяцел рытмічна і заўзята тукаў па галіне звонкага дрэва, не зважаючы ні на якія дзедавы трывогі.

Маркотна рабілася старому. У яго ўяўленьні замітусіліся розныя праявы і малюнкі, рысуючы яму самыя панурыя здарэньні, якія маглі налучыцца Панаса, Максіма і бабку Насту. А кожная хвіліна часу востраю стрэмкаю ўядалася ў яго сэрца. Дзедаваму цярпеньню прыходзіў канец—трэба кудысьці ісьці, трэба нешта рабіць.

На Палесьсе хутка насоўваўся зацяты ў сваёй маўклівасьці вечар, прыводзячы безьліч сваіх непадкупных вартавых і засьцілаючы цемранаю пасьцілкаю лес, далыня балоты і Сухое поле. Кусты і асобныя дрэвы на полі трацілі свае абрысы, пераходзілі ў постаці няясных расплыўлівых сілуэтаў.

Дзед Талаш ускінуў плячамі, ямчэй падаў стрэльбу, яшчэ раз абвёў вачамі навакол і ўжо хацеў рушыць і ісьці хоць куды, абы не стаяць тут у пустым і бясплодным чаканьні і раптам занямеў: з глыбі лесу пачуўся шоргат па сьнезе нейчых ног і прыглушаны лускат сухіх галінак пад нагамі. Шорганьне чаргавалася разьмерана і рытмічна—раз-два! раз-два! Часамі рытм парушаўся, але ўсё-ж захоўваў агульны свой тэмп. Па чаргаваньню гукаў дзед Талаш устанавіў, што гэта ішоў чалавек, але гэта былі не Панасавы крокі: ступаў хтосьці грамоздкі, грузна і цяжка. Дзед прытаіўся за дубам і стаў углядацца ў той бок, адкуль даносілася гэта шорганьне ног невядомага чалавека. Высокая цёмная чалавечая постаць мільгатнула ў навісі зацярушаных сьнегам галін і паволі выплывала на прагал,

вырысоўваючыся ўсё болей і болей ясна з лясной і вячэрняй цемры. Дзед Талаш стаяў у напружанай постаці чаканьня. Акликнуць ці не? Што за чалавек? І супраць волі вырваўся голас:

— Хто ідзе?

Высокі чалавек спуджана запыніўся, спасьцярожліва гледзячы перад сабою.

— Хто пытае?—пачуўся густы бас незнаёмага. Дзеда Талаша ня было відаць з-за дуба.

— Пытаю я!—азваўся дзед Талаш.

— А хто ты?

— А ты хто?

Па голасу і па гаворцы дзед Талаш дазнаўся, што гэта чалавек свой, тутэйшы. Дзедава напружанасьць і страх крыху ачахлі, але ўсё-ж такі ён покі што і на далей захоўваў сваё інкогніта і таму, калі наступіла недаўменная і няёмкая маўчанка ў іх распытваньнях, дзед Талаш зноў падаў голас:

— Я тутэйшы!

— Ты—адзін?—дапытваўся асьцярожны незнаёмы чалавек.

— Адзін і не адзін: са мною стрэльба.

— Ну, то кінь сваю стрэльбу: стрэльба ёсьць таксама і ў мяне і мусі быць лепшая за тваю,—горда прагучэў з лесу густы бас тонам, які не дапускаў ніякага сумненьня ў тым, што яго стрэльба лепшая за дзедаву.

Дзед Талаш высунуўся з-за дуба, а высокі незнаёмы чалавек сьмела і рашуча закалыхаўся да тоўстага пузастага дуба. Не даходзячы крокі тры, велікан спыніўся ў нямым зьдзіўленьні. Гэтае-ж зьдзіўленьне адбілася і на Талашовым твары:

— Дзядзька Талаш?!—грымнуў густы бас.

— Мартын! а бадай ты сказіўся!—радасна азваўся дзед Талаш і кінуўся да Мартына Рыля, таго самага Мартына, што папражаў канвойніку-легіанэру піхнуць яго так, што ён і касьцей не зьбярэ. Мужчыны моцна паціснулі адзін аднаму рукі.

— Каго-ж тут, дзядзька, вартуеш?

— Гэ, голубе! каго вартую! Выходзіць так, што вартую сам сябе... А ты?.. Як бачу, хлопча, ты дужа напуджаны...

— Ой, і ня пытай, дзядзька! З паляцкай няволі, з палону вырваўся. Ды не адзін я, з трыццаць шэсьць чалавек!

— Што ты кажаш?!—зьдзівіўся дзед Талаш:—як-жа гэта?

— А значыць, адступілі чырвоныя, прышлі палякі. Прышлі і пачалі вылоўліваць да хапаць найбольш тых... ну, хто ў рэвалюцыю сьмела пашоў ці рукі каля панскага дабра трохі пагрэў. А яны і пачалі помсьціцца, парадкі наводзіць, ціхемірыць ды граф̌і ўсякія прыпамінаць. А народ наш... сам ведаеш... захлынуцца-б такім сволачам, пачалі пад паноў падлабуньвацца, каторыя багатыя, ды выкрываць, хто чым грэшны. Вось і папаўся я: заарыштавалі. А па іншых мяйсцох і другіх такіх нацапалі. Так вось і назьбіралі цэлую

грамаду. Сабралі да купы і пагналі. А хлопцы ўсе хвацкія. Знаёмыя і незнаёмыя. Прывялі гэта нас да павятовага камісара, заперлі ў нейкі халодны склеп, у пустую адрыну. Думалі, што і канцы там будуць. Але пашла чутка, што нагоняць нас кудысь далей. А куды і чаго—ня ведаем. А быў сярод нас удалец такі, Марка Балук з-пад Цернішч. Прабеглы чалавячуга! салдат старой арміі.—А, кажа, буду я ім цягацца, як арыштант які! А трасца ім у бок? З нямецкага палону вырваўся, а тут, называецца, дома цярпець буду? Няма дурняў: Годзі!—Бачым, розумам чалавек па галаве кідае. Абступілі мы яго.—Як-жа ты зробіш гэта?—пытаем.—Прысягнеце, кажа, мне, што будзеце слухаць мяне, дык і вы будзеце на волі.—Бачым—надумаўся чалавек. А каму-ж ня хочацца на волі быць? Дык чаму ня прысягнуць? Вось ён і кажа:—прысягалі мы Мікалаю на эвангельлі, але прысяга яму не памагла. Вы-ж мне прысягнеце на нашым мужыцкім лапці. Пакляняцеся, што будзеце слухаць мяне, і кожны пацалуй свой лапаць!—Сур'ёзна гаворыць, не жартуе.—Лапаць, кажа,—сьцяг нашай мужыцкай долі.—І ведаеш, дзядзька, што, давай мы цалаваць свае лапці, сабе самы ў нагу. Яй-богу! Хто жартам, а хто і на праўду. Вось ён тады і гаворыць:

Ну, дык вось што. Калі нас павядуць і адвядуць вёрст пяцьшэсьць, а можа і болей—я буду меркавацца з месцам, то вы слухайце мой знак. А знак мой будзе вось які:—«Стой—лапаць скінуўся!» Як вы гэта пачуеце, тады маланкаю кідайцеся за мною на канвой, абязбройвайце яго. Усё залежыць ад раптоўнасьці і хуткасьці нападу. Два, тры чалавекі бяззбройныя лёгка справяцца з адным узброеным, калі толькі зробяць гэта борзда і спрытна. Спадабалася нам гэта стратэгія. Абдумалі, абмеркавалі кожную дробязь, разьбіліся на групкі. Гаворым шэптам, каб захаваць у потайку нашу змову... Вывелі нас. Глядзімо—дванаццаць канвойнікаў, трынаццаты камандзір. Трусімся мы, але і знаку не падаемо, што ў нас на мысьлі. Прыкінуліся ўсе, што мы аслабелі, ледзьве падымаем ногі, хістаемся. Паставілі ў рады, падаў капрал каманду, сам наперад пашоў. Рушылі. Пяць канвойнікаў з аднаго боку, пяць з другога, а два ззаду ідуць. Я ў першым радзе. З капрала вачэй ня зводжу, ня так з самога капрала, як з яго стрэльбы: дужа-ж яна мне падабаецца. А ў вушах увесь час тры словы гучаць: «Стой—лапаць скінуўся». А наш камандзір у заднім радзе стаў. Мінулі мястэчка. У поле вышлі. Сям-там хурманкі сустракаюцца, людзі праходзяць. А канвойнікі падганяюць нас, пакрыкваюць ды такімі паскуднымі словамі лаюцца, што і слухаць моташна. А мы гарым у нецярплівасьці. І ўжо так гадзіны паўтары клыгаем. А наш камандзір маўчыць. І толькі гэта мы выходзім з лесу на паляну, аж як гаркне наш Марка Балук: «Стой—лапаць скінуўся!» І што толькі сталася ў гэты момант! Што яно там зрабілася, дык і расказаць не магу. Усё мятушылася ў адным клубку бяз крыку, толькі ў цяжкім сапе і хрыпу. Я нават і ня памятую, як апынуўся я каля капрала. Помню толькі, што ён ляжыць у сьнезе з абадраным вухам і толькі вачыма лыпае, сам белы, як сьнег, ды

на мяне глядзіць. А я кажу яму: «Ляжы, не ўставай!» А ў мяне яго стрэльба—вось гэта самая, карабін заграгічны на сем патронаў. І рэвальвэр у мяне і шабля. Кідаюся другім памагаць, а там ужо і ня трэба мае дапамогі.—Слухай маю каманду!—гукнуў Марка, голаю шабляю махнуў, а ў другой руцэ рэвальвэр трымае—гайда ў лес і канвойных вядзі!—Перапалоханыя, бледныя, як сьмерць, пакорна сунуцца канвойнікі. Ды не яны цяпер канвойнікі, а мы. Годзі нас быдлам называць. Адышліся гоняў з пяць,—«Стой!»—камандуе Марка. Спыніліся.—Зьнімайце, паны, боты!—Разуліся. Лепшую пару выбраў сабе Марка, а рэшту падзялілі нашы лапатнікі. Трынаццаць чалавек абулася ў боты, а лапці канвойнікам аддалі. І кінулі іх там у лесе, жывых, але крыху памятых і наштурханых. Паразьбіралі іх зброю—хто стрэльбы, хто рэвальвэры, а хто шаблі. На разьвітаньне Марка сказаў:—Ну, хлопцы, гайда хто куды! Але прысягі я з вас ня зьнімаю! І вы, гіцлі, вольныя!—кажа да канвойнікаў: Адпачыньце тут ды ідзеце куды хочаце.—І падаўся ў свой бок, а кожны з нас—у свой.

— Ах, згінь іх доля! Чаму-ж гэта мяне з вамі ня было?! Ну-ж і стрэльбу здабыў ты сабе, Мартын!—цмакаў дзед Талаш, разглядаючы дзівосную стрэльбу

## VIII

Ня ведаў падлётак Панас, што яго асобаю цікавяцца людзі і не абы якія людзі, а сам войт Васіль Бусыга. Войту трэба ведаць, хто ў які лес глядзіць. Войту трэба прасачыць і выведаць, куды прапаў дзед Талаш і што ў яго на думках. Войт—начальства. А начальства носіць у галаве такія мысьлі, што ня ўсім падначаленым аб іх можна ведаць і асабліва аб іх не павінен ведаць такі разбэшчаны чалавек, як дзед Талаш. Дзед Талаш у грош ня ставіць паноў і начальства, на чужое дабро таліцца. Дзед Талаш наступ вораже ставіцца ў дачыненьні да такіх гаспадароў, як Васіль Бусыга, Кандрат Бірка і шмат да якіх паважаных асоб. Гэта ён званіў сярод галадранцаў, што за заможнікаў трэба ўзяцца ды пакроіць іх палеткі. У дзеда Талаша стаяў на кватэры бальшавіцкі камандзір. Дзед Талаш нарэшце з сякерай кідаўся на польскіх салдат. Карацей сказаць—дзед Талаш панюхаўся і прасяк бальшавіцкім духам. І цяпер ён напэўна злыгаўся з бальшавікамі. Хто можа паручыцца за тое, што ён не навядзе сюды чырвоных? Не: покі дзед Талаш туляецца невядома дзе, невядома з якімі намысламі, да таго часу ня будзе мець спакою пан войт, Васіль Бусыга. Гэта ня значыць, што ён, войт, баіцца дзеда Талаша. Не: войт—начальства і стаіць на варце закону і парадку. Ня дарма-ж і наказ яму дан ад вышэйшага начальства, ад павятовага «камісаржа» сачыць і браць на заметку таго, хто абуяны духам непаслушэнства і бунту. А што да чырвоных, то Васіль Бусыга спакойны на гэты конт: паляк не адзін—за яго сьпіною Францыя і Ангелька

стаяць. Не—адсьпявалі сваю песьню бальшавікі. Але клопату нарабіць яны яшчэ могуць, тым болей, што да войтавых вушэй даходзяць чуткі: па лясох бадзяюцца цёмныя людзі, змаўляюцца, да чагось рыхтуюцца і на нешта наважваюцца. Засьцярога тут не пашкодзіць. І няма нічога дзіўнага, што начальніцтва не такая ўжо простая рэч, як гэта можа здаецца каму збоку.

У першую чаргу трэба за дзеда Талаша ўзяцца.

З аднаго боку і добра, што Талашова хата стаіць на водшыбе: кожны хто ідзе туды або адтуль, заметней у вочы кідаецца. Але ёсьць тут і нязручнасьць адна: калі ты сам будзеш каля яе пакручвацца, то таксама будзеш у вочы кідацца. Прыглядаючыся сядытады да Талашовай хаты, Васіль Бусыга заўважыў, што Панас часад-часу адлучаецца з дому. Цікава—куды ён ходзіць? Датадваецца войт, што Панас і ёсьць той ключ, якім можна адамкнуць месца зьнікненьня дзеда Талаша. З Панаса і трэба пачынаць, але як? Даручыць хіба каму прасачыць, прыставіць спэцыяльнага чалавека? Войт памеркаваў і знайшоў гэты спосаб нязручным і рызыкоўна замешваць сюды трэціх асоб: трэція асобы—лішнія сьведкі супроць яго самаго. І затым няма ўпэўненасьці, што ўсё гэта застанецца ў сакрэце. Васіль Бусыга спыніўся на новым пляне. Ён даложыць куды трэба, даложыць як і праз каго можна даведацца пра дзеда Талаша, а там няхай дапытваюцца самі. І сена будзе цэла і козы будуць сыты.

Напярэдадні таго дня, калі Панас меўся спаткацца з бацькам пад тоўстым дубам каля Сухога поля, сярод ночы раптам пачуўся стук у дзьверы Талашовай хаты.

Першая прахапілася бабка Наста. У трывозе падняла галаву, прыслухалася. Стук паўтарыўся з большаю сілаю і настойлівасьцю.

— Ой, хто-ж гэта стукае?!—голасам, поўным страху, азвалася бабка Наста.

Максім, накінуўшы кажух, босы выбег у сені.

— Хто там?

— Адчыняй!—уладна і сярдзіта закамандваў хтось з двара.

— А хто там?—дапытваўся Максім.

— Адчыні, Максім: гэта—паны, «польская ўлада».

Максім у гэтым голасе пазнаў суседа Мікіту Целяха і адсунуў засоў.

Некалькі пар ног запрукала ў сенях і разам з адчыненымі дзьвярамі ў хату ўварваўся цэлы пук белага сьвятла. Адкормлены рыжавусы, тоўстаморды чалавек зьверскага віду трымаў у руках электрычны ліхтарык, асьвятляючы хату і яе ўбогую абстаноўку. Максім запаліў газоўку. Чорныя цені, здавалася, яшчэ шчыльней нагусьціліся каля сьцен і па кутках нізенькай хаткі. Асьмялелыя ўночы прусакі тлумна падаліся бліжэй да печы, хаваючыся ў шчылінах. Відаць і іх напалохаў гэты страшны пан сваім электрычным ліхтарыкам. Нечаканых гасьцей было чацьвёра: трое палякоў у вайсковай форме, а чацьвёрты Максім Целях, узяты за панятога.

Бабка Наста, трасучыся, як у ліхаманцы, нацягнула на сябе дзяружку і пужлівым недаўменным поглядам азірала невядомых вайскоўцаў. Панас ляжаў нярухліва, агорнуты цёмным неакрэсьленым страхам.

— Хто начуе тут?—запытаў рыжавусы. Пытаньне было такое нечаканае, такое неспадзяванае, што ніхто не патрапіў у першую хвіліну знайсьці на яго адказ.

— Хто начуе тут?—не адступаўся рыжавусы. Гэты перапалох і страх, здавалася, яшчэ болей надаваў рыжаму пыху.

— Усе... свае,—заікаючыся ад страху, падаў голас Максім. А ў гэты час другі, юркі і віхлявы, таксама запаліў ліхтарык і сьвяціў ім па хаце, заглядаючы на печ, у запечак і пад палок. Трэці стаяў моўчкі і нярухома, наглядаў і слухаў.

— Усе начуюць?—перапытаў Максіма той-жа рыжавусы. І ніхто ў хаце не азваўся.

Тады рыжавусы падышоў да Панасавага берлажка і штурхануў яго кулаком у плячук.

— Ну, ты... падымайся!—закамандваў ён.

Панас пакорна прысеў на пасьцелі.

— Ты хадзіў да бацькі на забачэньне?

— Як нажом разанула Панаса гэта запытаньне. У галаве яго борзда-борзда замітусіліся думкі. Раз ён так пытае, то значыць ведае, што ён Панас, хадзіў да бацькі. Першыя прыступы страху прайшлі.

— Хадзіў!—цьвёрда, пасьля кароткага маўчаньня адказаў Панас.

Рыжавусы пахваліў яго за праўдзівасьць і запытаў ужо болей лагодна:

— А дзе ест твой ойцец?

— Ня ведаю.

Рыжавусы паглядзеў на Панаса строга, галавою паківаў.

— Як-то ня ведаеш. А ты-ж сёньня ў дзень ладзіўся ісьці да бацькі?.. Ну?

Што было казаць Панасу? Праўда, ён зьбіраўся да бацькі. Але ў Панаса мільгнула думка, ці не бярэ яго на хітрыкі гэты рыжы д'ябал. Ён у сваю чаргу таксама кідаецца на хітрасьць.

— У дзень я да бацькі не хаджу.

— Брэшаш!—прыкрыкнуў рыжавусы:—а куды-ж ты ў дзень ходзіш?—Ён думаў, што падлавіў Панаса, а Панас цьвёрда адказаў:

— Хаджу на балота гучкі і венцьце рэзаць, худобу карміць. У нас забралі сена.

Гэты адказ зьбіў з тропу рыжавусага.

— А што табе казаў бацька?

— Казаў, каб я да яго болей не хадзіў.

— А дзе ты сустрачаўся з бацькам?

— У лесе.

— Аб чым-жа вы гаварылі?

— Аб усім: пра худобу, пра корм...

— А яшчэ што казаў бацька?

— Казаў, што да вясны ён дадому ня вернецца.

— Брэшаш, лайдак!—загрымеў рыжавусы.

— Паночку!—падаў голас Максім:—бацька наш стары. Яму семдзесят гадоў. Пагарачыўся, сам страху набраўся, а цяпер баіцца дома паказацца.

— Го-о, псямаць! баіцца!.. А бальшавік чаму стаяў тут на кватэры?

І, яшчэ болей павысіўшы тон, кінуў у твар Максіму:

— Дзе стары пес?

Бабка Наста кулём скацілася з печы і бухнула ў ногі рыжаму пану.

— А паночак! а залаценькі! А за што-ж на нас напасьць такая? Апошняе сена забралі, жудоба з голаду дохне. Стары з дому зьбег. А ён-жа ня вінаваты. Яго білі, штурхалі... А за што-ж вы калоціце нас?

Рыжавусы зьняважліва павярнуў з вышыні свайго пыху разбойніцкую морду ў бок бабкі Насты і на гэтай мордзе адбілася пагардлівасьць. Нічога не сказаў, як-бы бабка Наста і не заслугоўвала таго, каб азвацца да яе, і калі яна зноў стала маліць яго, ён крыкнуў:

— Мільч!

А потым спакойна і жорстка закончыў свой візыт.

— Ну, хлопча,—павярнуўся да Панаса—зьбірайся.

А калі выходзілі з хаты і вялі Панаса, сказаў цьвёрда і выразна:

— Пшыдзе до нас ойцец—бэндзе мял волю хлопак.

*(Працяг будзе)*

Андрэй Александровіч

## ПЕСЬНІ ПЕРШАМАЯ

(1933)

Змрокаў сьцень
З вока зьдзень,
Першамайскі крочыць дзень!
Веснавой зары далонь
Рассыпае свой агонь.
Ён разьлівамі ў вачох—
Грае славай перамог,
Зьяе дружбаю людзей
Бальшавіцкіх дум і дзей.

Сонца сее марш фанфар,
Разгарнуўшы наш штандар.
З чатырох зямлі старон—
Вяшчуном вялікіх дзён,
Грозна-ўздыбленых падзей—
Першамайскі дзень ідзе.

А чаго-ж на берагу
Іх зямлі—шалёны гул?
—Скача шал крыві ў галёп,
Раз астатні ярасьць згроб
Залаты атрутны труп,
Мкне граніцы зьнішчыць слуп.

Наша клясавая бронь—
Першамайскі наш агонь!
Ен—мяцеліцай зарніц,
Кругам сонца, без граніц,
Гулам рокатных навал
Свой спраўляе карнавал.

*

Выезд любімага намі наркома,
У зьвеях салюту, з варотаў Крамля—
Перарастае ў раскаты грому
Там, дзе адвеку расьпята зямля.

Важка і горда, як голас народу,
Гучыць перамогай прысяга байцоў.
Рэе Кастрычніцкі сьцяг пяцігодак,—
Сонечным поступам бальшавікоў.

Ля маўзалея ўрачыста з трыбуны
Братніх рэспублік таварыш Урад
Арміі нашай сусьветнай Камуны
Клічам вітаньня прымае парад.

Рушыцца коньніца волатаў-танкаў,
Гулам танкетак бягуць табуны.
Нават праменьні на аўта-тачанках
Вартай зэнітак—дазорцы вясны!

Рэжуць бязьмежжа надхмарнае трасы
Крыльлямі сталі высот караблі.
Як дэлегаты—рабочае клясы,
Росквіту нашага—нашай зямлі.

Чоткая чутна матораў работа,
Плаўна ўскрыляецца броневы мост!
Рота за ротай,—
Руш—разваротам!
СТАЛІНізована арміі моц!

*

Мы—моцныя, мы—дужыя,
Мы—шторму бурны шквал!
Гарыць братэрскай дружбаю
Калён мільённых вал.

Мацнеем год за годам мы!
Шагае—з краю ў край—
К нам новымі заводамі
Таварыш Першамай.

Рэспубліка савецкая,
Твая ў красе вясна!
Няма даляру дзецца, як—
Уздыблена канаць.

За зьменай зьмена—ў дзьве рукі.
У песьнях бур—крыляй!
Пакрылі тэмп Амэрыкі,
Таварыш Першамай!

У высь, у высь! Нам дорага
Хвіліны кожнай крок.
Кідай свой зрок на ворага,
І палец—на курок.

Гарым братэрскай дружбаю,
Агонь шырэй раскінь!
МЫ—МОЦНЫЯ, МЫ—ДУЖЫЯ,
БО МЫ—
БАЛЬШАВІКІ!

---

**Мікола Хведаровіч**

## НАШ МАЙ

Тут—і песьні прастор,
    І напеўней яна,
Радасьці бурлівай
    ня стрымаеш.
Гэта наша прышла
    баявая вясна,
Зацьвіла
  Звонкім,
  Песенным
  Маем.
Гэта нашы аркестры
    зазыўна гучаць,
Гэта нашых рабочых
    праменная радасьць,
Гэта мы вышлі разам
    вясну сустракаць,
  Баявой,
  Бальшавіцкай
  Брыгадай.
Дні вялікіх трывог,
  нашай працы уздым
І праменьняў вясновых
    гарэзьлівы лоскат—
Гэта наша юнацтва
    жыцьцём маладым,
Звонкім сьмехам
  Зьвініць камсамольскім.
Песьні нашых дзяўчат,
    Іх вачэй цяплыню
Вецер з поўначы н'ат
    не астудзіць.
Палымнеюць штандараў
    Чырвоных агні,
  Па вясноваму
  Водгульле
  Будзяць.

Трактары—
гэта коні
Сталёвай хады,
Вышлі ў бойку
З бядотай,
Нягодай.
Гэта марш пераможных,
Гэта сьпеў маладых
Сталінградзкіх
Ударных
Заводаў.
Дзе нага ня ступала
І дзёран буяў—
І на гэтых забытых
І дзікіх абшарах
Расьцьвітае калосьсем
Краіна мая,
Сотняй тысячаў
Новых
Гектараў.
Гэта іскрыцца
Сонца мільёнамі воч,
Веснацьветам
акропленых красак.
Гэта ўласнай аруды
пакінулі ноч,
Людзі новага—
Нашых
Калгасаў.
Хіба-ж гэтыя шэрагі
У бойцы здадуць?
Хто памерацца сілаю
Сёньня ахвочы?!
Гэта нашыя танкі
Калёнамі йдуць,
Гэта імі кіруе
Савецкі рабочы.
І калёнай армейскай,
І бляскам штыхоў,
І напружнай хадою
Вялікага часу
Бараніць край Саветаў
З нас кожны гатоў,
Край Саветаў
Сусьветнай
Рабочае
Клясы.

Гэта сіла пакорыць
Зямлю і ваду,
Можа ў промнях вясны,
Можа ў чадзе і дыме,
Але песьцім мы думку
Заўсёды адну
І чырвоны штандар
Над сусьветам
Уздымем.
Гэта-ж наша вясна,
Залатая вясна
Перамогі вялікай
І сілы бясконцай.
Першамайскую зноў
Засьпявала яна
Яркім промнем
Гарачага
Сонца.

---

Д. С.

## ГЭЙ, РВЕЦЕСЯ, ПЕСЬНІ...

Гэй, рвецеся, песьні,
Ў прастор залацісты,
Сатчэце там крыльлі:
Ды з нітак агністых,
Ды з хмар лёгкакрылых,
Ды з зор серабрыстых
І ў даль адпраўляйцеся, ў даль!

Ляцеце туды,
Дзе зьвіняць яшчэ путы,
Дзе люд мой бяздольны
Кайданамі скуты,
Дзе гора сьмяецца,
Дзе песьні пакуты,
Дзе звоніць катоўская сталь!

Ляцеце: на нівы,
У хаткі малыя,
На сьцежкі, зарослыя
Цернем, глухія!
Будзеце заснуўшыя
Душы жывыя,
Будзеце, настаў ужо час!

Кранеце наперад,
З сабою, бяздольных,
Замучаных горам,
Бяз хлеба—галодных,
Дзяцей беднаты
І рабоў паднявольных,
Кранеце, агонь ў іх ня згас!
Усіх вы вядзеце
За волю ў бой славы!

**1931 г.**
**Зах. Беларусь**

Міхась Багун

# ЖЫВЫЯ ЧЭРЦІ

## I

... Марылька сьпяшаючыся канчала абуваць на маленькую зграбную ножку новенькі жоўты чаравік. Блакітныя Марыльчыны вочкі гарэлі вялікай непазбыўнай радасьцю. Марыльцы страшэнна хацелася хутчэй звязаць гэтую няслухмяную калянуую завязку, ухапіць кужэльную торбачку з сшыткамі ды з кніжкамі і выскачыць на сонечную вясеньнюю вуліцу. Там, па вуліцы, пэўне, ужо бягуць у школу школяры, звонкім гарохам рассыпаецца вясёлы дзіцячы сьмех.

З-за вакна да Марыльчыных вушэй даляцеў гвалт перапалоханых курэй, прарэзьлівы ёнк пакрыўджанага сабакі.

— Во! Ужо ня рана, калі Хведараў Яська ў школу прэцца,—падумала Марылька.—Хаця каб яшчэ ад сьнеданьня як адкруціцца,—спотайку ўздыхнула яна.—Але дзе там адкруцішся. Хіба-ж матка пусьціць? Во, маеш...

— Ну, ты, красуня! Ці хутка ты там?—пачуўся ад печы сумны і ласкавы матчын голас.—Глядзі, спозьнішся—дасьць настаўнік!

Марылька ўжо мерылася раззлавацца на матку. Злосна завязала падвойным вузлом завязку на чаравіку, выпрасталася і, сустрэйшы вачыма ўсьмешлівыя матчыны вочы, убачыўшы, як у доўгія рудыя вусы ўсьміхаецца з лавы ад стала бацька, як замілавана глядзіць на яе старэйшы брат Петрык—засьмяялася.

— Ідзі сьнедай ды бяжы!—Маці адхінула на стале бераг чыстага калянага абрусу, дастала з-пад яго пахучы грудок гарачых таўстых бліноў і падсунула да Марылькі міску з верашчакаю.—Еж, дзеўка, здаровая будзеш!

— Ды яна й так на хворую не паказвае,—засьмяяўся Петрык, весела падміргнуўшы Марыльцы адным вокам.—Гляньце, твар які—аж блішчыць!

І ад таго, што брат падміргнуў ёй, і ад таго, што яе пахвалілі, Марылька густа зачырванелася.

— Бачыце, бачыце,—сьмяяўся Петрык,—як ружа, што ў садку нашым...

— Эгэ, хлопча, зірнуў-бы ты на яе год назад—кругом круглая была,—густым басам аказаўся ад вакна бацька.—А цяпер ня тое—у рост пайшла яна. Адзінаццаты гадок з Пятра пойдзе... А ты еж, ня слухай—вунь Хведараў маладзец ужо на вуліцы ўсіх сабак паразганяў, у школу ідучы.

— Ваякa?—сьмяючыся спытаў Петрык,—гэта якога Хведара—Канцавога?

— Але, Канцавога, якога спалілі летась...

— І ня летась, а залетась,—устаючы з-за стала і абціраючы ўробленыя ў верашчаку губы, паправіла бацьку Марылька.—Забыўся ўжо, стары!— Мы тады якраз авёс дажыналі...

— Ідзі, ідзі, жаба... Яна яшчэ нешта ведае,—жартам замахаў на Марыльку рукамі бацька. І перадражніў яе:—М-мы дажыналі... Бач ты, жняя...

Марылька гатова была зноў пакрыўдзіцца, але, успомніўшы на тое, што пара ўжо бегчы ў школу, каб не апазьніцца, хапіла ў рукі торбачку з кнігамі накінула на галаву чырвоную хусьцінку і выбегла з хаты на двор.

— Глядзі-ж, не забаўся нідзе: на абед у пару прыходзь,—крыкнула ёй усьлед матка, але дзьверы за Марылькаю пасьпелі ўжо з трэскам прычыніцца... Марылька, як віхор, ляцела па вуліцы пад школу.

— Во, кручаная,—паківала матка сівой галавой і, дастаўшы з печы глыбокую патэльню з яешняй, паставіла яе на стол.—Ну, мужчынкі, бярэцеся сьнедаць—ня рана ўжо... Ды не саромейся, госьцік дарагі, ня чужое...

З-пад столі, да вачэй захінуўшыся ў шырокую белую бараду, на невялікую сям'ю сурова паглядаў праз пыльнае шкло Мікалай угоднік.

## 2.

Калі патэльня з яешняй канчаткова спусьцела, калі маці, на дэсэрт паставіла на стол вялікую глiняную міску з крупнікам, скупа забеленым няцікавым сівым малаком, Петрык заглядзеўся на бацьку доўгім пранікліўым поглядам.

— «А здорава падаўся стары за гэтыя два гады»,—падумаў ён, глядзячы на пасівелыя бацькавы скроні, на востры сухі нос старога, на глыбокія трагічныя маршчакі, што густой уздоўжнай сеткай пакрылі высокі абветраны і загарэлы бацькаў лоб.—«Здорава падаўся»,—уздыхнуў Петрык і адчуў, як сэрца яго нае сьціскае нейкі, дагэтуль незнаёмы, глыбокі і глухі боль.—«Самае што жыць—сорак пяць год—а ён...»

Бацька адчуў пільны Петрыкаў погляд і павярнуў галаву да Петрыка. Стары зразумеў, аб чым думае сын—і ніякавата, крышку вінавата ўсьміхнуўся: «Што-ж зробіш, сынку»—здавалася гаварылі яго

збляклыя вадзяністыя, калісь блакітныя, як і ў Марылькі, вочы.— «Што-ж зробіш? Доля гэткая. Бач, як сагнула»...

Петрык ня вытрымаў гэтых немых перагавораў з дапамогаю вачэй. Мімаволі другі раз цяжка ўздыхнуўшы, ён правай рукой адкінуў з ілба назад шаўковістую хвалю густых русых валасоў і, ня гледзячы на бацьку, неяк недарэчы, спытаў:

— Ну, як справы, тату? Пэўне, шмат што зьмянілася за два гады?

Усьмешка зьбегла з бацькавага твару і твар старога зрабіўся шэры, невясёлы.

— Як справы, кажаш?—нібы ачнуўшыся ад задуменьня, пасьля вялікай паўзы, перапытаў стары:—Ат!—і ён с раптоўнай злосьцю махнуў рукой.—Калі яны ў нас былі добрыя? Ну, калі—скажы?— усім корпусам падаўся ён да сына, сьвідруючы яго сьцямнелымі халоднымі вачыма.—Калі? Думаеш сёньня маці на стол яешню паставіла, дык гэта й заўсёды так?

І, раптам засароміўшыся з свае нечападзяванае гарачнасьці, стары зноў скрывіў рот у вінаватай і разам з тым горкай усьмешцы і ўжо амаль спакойна загаварыў:

— Не, сынку! Верашчакі ды яешні—гэта не для нас пісана... Гэта што ты прыехаў... А так... капуста сівая каб была хаця...

Падпёршы рукою шчаку, каля печы стаяла матка і маўчала, утапіўшы ў падлогу засмучоны погляд.

— Землеўпарадкаваньне вунь рабілі,—з горкай іроніяй гаварыў далей бацька,—Пётру Купцэвічу—крамніку—добра: усё каля хаты, а нам выдзялілі кавалак за ракою—блізкі сьвет!—езьдзі цяпер туды, ары, сей!... Дый ці нам толькі?.. Усім бяднейшым... А яшчэ і падатак новы прыслалі—за землеўпарадкаваньне... камасатарскі... Прасіў іх нехта... бадай іх сьмерць упарадкавала... Эт! Ды што там гаварыць, сам хіба ня ведаеш, як мужыку жывецца... Жыве, як гарох пры дарозе: якая сволач ідзе, тая і скубе,—і, безнадзейна ўздыхнуўшы, бацька адвярнуўся да вакна.

— Гарэла-б яна з доляй гэткай!—з нейкай жахлівай абыякавасьцю і спакоем, нібы прыпячатваючы бацькавы словы, плюнула на падлогу матка.

Гэтыя абыякавасьць і спакой былі толькі павярхоўныя, удаваныя. Злосьць, якая за доўгія гады жыцьцёвых пакут ператварылася ў адчай, зараз-жа прарвала гэтую павярхоўную спакойнасьць.

Са сьлязьмі ў голасе, зьбіваючыся, глытаючы словы, матка пачала расказваць сыну пра сваё—адбалелае, горкае.

— Куры надоечы пазабіралі, парасё задушылі... таксама забралі... гэта, кажа, за падатак... што не заплаціў стары... апазьніўся на некалькі...

У Петрыка даўно ўжо ненатуральна пачалі блішчэць вочы, у горле стаяла нейкая няёмкая круглая куля. Петрык глытаў сьліну, намагаючыся адагнаць, адпіснуць уніз гэтую кулю, але яна не адыходзіла, а расла, павялічвалася...

Жывучы апошнія два гады далёка ад дому, Петрык, праўда, акуратна чытаў газэты, ведаў, што сярэдняму і незаможнаму сялянству жывецца дужа пагана, але ён ніколі ня ўяўляў, што гэтая «паганасьць» зайшла нагэтулькі далёка. Пазабіраныя матчыныя куры, парасё, прададзены сьвіран,—гэта-ж чорт ведае што!—абураўся Петрык і адчуваў, што куля ў горле паднялася высока, што з-пад гэтай дзіўной кулі зараз могуць вырвацца рыданьні... А ён думаў—прыедзе дамоў, наладзяць разам з бацькам гаспадарку, будуць усёй сям'ёй жыць, як людзі.... працаваць... не ўдалося давучыцца—працаваць асядзе... ліха з ім, з вучэньнем...

Адчуваючы, што сьлёзы варушацца ўжо недзе ў самым горле, ведаючы, што іх нельга, ні ў якім разе нельга, паказаць пры бацьках, бо гэта яшчэ больш усхвалюе і без таго знэрваваных змучаных старых, Петрык зьмяніў тэму гутаркі.

Устаўшы з лаўкі, ён засунуў рукі, сьціснутыя ў кулакі, глыбока ў кішэні, пару разоў прайшоўся па хаце—ад стала да дзьвярэй і назад—а тады, нібы між іншым, спытаў:

— Ну, а Багдановіч як? Усё яшчэ ў школе працуе? Ці можа кінуў ужо? Ён-жа калісь зьбіраўся нават ажаніцца тут...

— Багдановіч?—безнадзейна махнуўшы рукою, перапытала маці.— Багдановіч?... Быў ды сплыў... Няма, дзеткі, Багдановіча... Ужо хутка год, як няма...

— Як няма?—з неспадзяваньня Петрык аж стыпіўся перад маткаю.—А дзе? Выехаў куды?

— Выехаў!..—усьміхнуўся бацька.—Добра выехаў... Яго некуды так загналі, што, пэўне, каб з агнём шукаў, дык ня знойдзеш!..

— А хто-ж за настаўніка цяпер тут?

— Эт! Брыду нейкую прыслалі... Па-нашаму амаль не гаворыць... Швэндаецца з сабакам па лесе ды дзяцей у школе калечыць... Колькі прасілі, каб беларускую школу адчыніць у нас—дык дзе там табе... па судох толькі цягаюць...

Нечакана пад акном з вуліцы вырасла вялікая, рудая, калматая галава суседа Стапана. Зірнуўшы ў хату, галава знакам папрасіла бацьку выйсьці да яе на двор.

— Чаго?—спытаў бацька, падымаючыся з лавы.

— Ідзі, ідзі на двор, Міхал. Ды хутчэй,—намагаўся Стапан.— Справа ёсьць дужа пільная.

Бацька, насунуўшы на вушы старую кашлатую зімовую шапку, вышаў на двор. Стапан нешта пачаў расказваць яму, штохвіліну азіраючыся на вокны Міхалавай хаты.

— Ці не пра мяне што?—падумаў Петрык і адчуў, як у яго раптам зашчымела сэрца.—Пэўне, пра мяне...

Стапан з Міхалам вышлі з двара і, павольна, гаворачы, пайшлі ўздоўж сухой, запыленай вуліцы.

Петрык з маткаю асталіся ў хаце.

3.

З самага раньня дзіка балела галава. Яшчэ лежачы ў ложку Біль адчуў, што сёньня—дзень пакуты.

— Зноў мігрэнь,—з жахам канстантаваў ён, лёганька скалануўшы галавою.—Паляжу, можа, перасьціхне...

Закруціўшыся ў коўдру з галавою, Біль перакруціўся на ложку, лёг тварам уніз і, ашчапіўшы абедвуч галаву, заціх... Жоўтыя і сінія кругі мерна калыхаліся ў яго перад вачыма, а на галаву быццам хто націскаў цьвярдою халоднаю дошкаю... Працяжна застагнаўшы—стогн гэты быў надзвычай падобны да даўгога нуднага рыпу дзьвераў у закінутым доме—Біль схаваў галаву далёка пад падушку. Крыху палягчэла. Боль сьцішыўся, але Біль ведаў, што ён, гэты боль, гуляе з галавою, як вялікі сыты кот з прыдушаным да паўсьмерці мышанём: варта толькі зварухнуцца, зьмяніць становішча галавы—і боль зноў кінецца на яе, вострымі кіпцямі пачне скрэбсьці мазгі. Таму Біль намагаўся не варушыцца, ляжаў пад коўдраю даўгой нярухомай калодай.

Па сьцяне, асьвятляючы танныя алеаграфіі з шаблённымі экзатычнымі пэйзажамі, з таемнымі і суровымі абрысамі сярэднявечных гарадоў, прабіўшыся праз шчыліну ўваканіцы, бегаў вясёлы сонечны зайчык.

Павольна перасунуўшыся далей ён знайшоў невялічкае круглае люстэрка скокнуў у яго і, нібы падкінуты спружынамі, пераляцеў на процілеглую сьцяну, рассыпаўшыся па ёй бліскучымі пырскамі каляровай вясёлкі.

З мяккага мораку выступіў невялічкі, прыстаўлены шчыльна да сьцяны, чорны столік. Перад столікам нявыразным сілуэтам абрысавалася вялікае венскае, таксама чорнае, крэсла.

Спусьціўшыся крышку ніжэй, сонечны зайчык з выглядам найчысьцейшае цноты прапоўз між голых мясістых калён таўстазадай з вылупленымі сьляпымі вачыма Вэнэры. Скульптар які гэтую Вэнэру ляпіў, трэба меркаваць, хварэў на Базэдаву хваробу і таму мэханічна перанёс на статуэтку некаторыя ўласныя якасьці.

Каля ног Вэнэры, аздоблены выціснутымі па чорным скураным пераплёце залатымі літарамі ляжаў томік Дэкамэрона.

Уся частка сьцяны над столікам, завешаная фатаграфічнымі здымкамі, паштоўкамі, алеаграфіямі, нагадвала сабою рэклямную вітрыну таннага публічнага дому ў адным з эўрапейскіх партовых гарадоў. Паасобныя малюнкі на сьцяне праз сваю наіўнасьць і эратычную аголенасьць мелі дужа вялікае падабенства з малюнкамі, што звычайна зьмяшчаюцца ў танных выданьнях біблії.

Пэўне, за гэта Біль так і любіў гэты куток.

Звычайна, штовечар ён запальваў на століку высокую лямпу з ружовым контурам і—высокі, худы, згорблены—садзіўся ў чорнае крэсла. Пасьля некалькіх гадзін школьных заняткаў з гэтымі мужычанятамі—гэтак ён называў сваіх вучняў—хацелася адпачыць—або

сядзець заплюшчыўшы вочы, паклаўшы цяжкую галаву на тонкія сухія рукі, ні пра што ня думаючы, або накіраваць сваю думку ў іншую прыемную і культурную рочаіць.

У апошнім выпадку тонкія белыя рукі Браніслава Біля разгортвалі прыгожы томік Бакачыё і ён, не сьпяшаючыся, смакуючы кожную фразу чытаў адну з найбольш вострых новэль геніяльнага італійца.

— У гэтай глушы, — разважаў часам Біль, — ня маючы нечага такога... узрушальнага, востранькага—прападзеш. А прападаць, звар'яцець—я ня маю ніякай ахвоты. Я прызначаны для вялікіх спраў... Вось і патрэбна шукаць спосабы для таго, каб выкарыстаць запасы лішняй энэргіі...

На сваю цяперашнюю настаўніцкую дзейнасьць Браніслаў Біль глядзеў, як на недарэчны выкрунтас лёсу, і цьвёрда быў упэўнены, што гэты этап ягонага жыцьця неўзабаве міне, не пакінуўшы ў памяці нічога, апроч няпрыемнага каламутнага асадку.

## 4.

... За сьцяною гулка ляпнулі дзьверы пачуўся тупат некалькіх пар ног, звонкія дзіцячыя галасы, сьмех.

У школу пачалі зьбірацца вучні.

Першым у памяшканьне школы, асьцярожна, баязьліва аглядаючыся на дзьверы настаўніцкае кватэры, увайшоў Хведараў Яська. Скінуўшы шапку, ён на дыбачках прайшоў да сваёй парты, што стаяла ад самага заду ў цёмным кутку, упіхнуў у парту торбачку, туга набітую сшыткамі і кніжкамі, сеў на лаўку, пасядзеў колькі хвілін і, раптам сарваўшыся з месца, пратупацеў босымі нагамі па падлозе і выскачыў на двор. У напалову цёмным, ціхім пакоі Яську раптам апанаваў страх.

На двары весела блішчэла высокае сонца, беглі па небе кучаравыя белыя хмаркі, пахла сьвежым лісьцем маладога бярэзьніку.

Радасная і маладая на двары ішла вясна.

Шкаляры групамі зьбіраліся каля школы. Сьмяяліся, навыперадкі бегалі за матылькамі, пускалі каменчыкамі ў неўгамаваных крыклівых вераб'ёў, што бязладна мітынгавалі на паркане касьцельнага цьвінтару.

— Ух!—чмыхнуў, выскачыўшы са школы на вольнае паветра, Яська.—Ну, і боязна-ж гэнам,—з таемным выглядам расказваў ён прыяцелям-аднагодкам.—Толькі я туды ўвайшоў, паклаў кніжкі, а ў настаўнікавай кватэры нехта як застогне, як заенчыць, забурчыць, дык я—бегма з хаты, ледзь выскачыў...—І, стоячы з зьбянтэжаным выглядам, з шапкаю, ссунутаю на самую макавіну галавы, Яська абвёў слухачоў вялікімі шэрымі, спалоханымі вачыма.

— Гэта сьвіньня пад вакном рохнула, а ты спужаўся!—пакепліва выказаў сваю думку белабрысы дванаццацігадовы Стасік—сын арганістага.—Герой... бабы старой!—і зьняважліва зарагатаў.

— Ты—герой!—загарэўся Яська.—Ідзі пасядзі адзін у школе—пачуеш.

— А думаеш не пайду?—задзірыста матнуў кучараваю галавою Стасік.—І пайду! І пасяджу! І нічога ня будзе!... І, бачачы, што гурт дзяцей з пашанаю і захапленьнем глядзіць на яго, Стасік ужо крануўся быў ісьці ў школу.

У апошнюю хвіліну з гурту шкаляроў выступіла Міхалава Марылька. З усьмешкаю ў сініх вочках яна кранула Стасіка за рукаво чорнай суконнай камізэлькі і сур'ёзна папярэдзіла:

— Ня йдзі, Стась, дрэнна будзе. Учора бабка Крыстына казала, што на настаўніку чорт езьдзіць... Ён тады і стогне, і енчыць, і бурчыць... Яна бачыла аднойчы ўвечары... Прыбірала пакой і бачыла.

Стась, які зусім ужо намерыўся быў увайсьці ў цёмнае сырое памяшканьне школы, пасьля Марыльчыных слоў падаўся крыху назад.

— Чаго мне ісьці, — пад нос сабе буркнуў ён, — я чарцей не баюся, але...

— Дзе абразы вісяць, там чарцей ня бывае,—аўтарытэтна заўважыў шыракаплечы прысадзісты сын мясцовага солтыса—Янак Шчорс, які за свой сур'ёзны, заўсёды надзьмуты выгляд займеў ад дзяцей мянушку «Індык».

— Дужа ты ведаеш—ёсьць ці няма, зьняважліва зірнуў на Янака Стасік.—Сам настаўнік казаў, што нават у некаторых касьцёлах ёсьць чэрці. Індык ты дурны!—І Стасік, грэбліва зморшчыўшы нос, адвярнуўся ад Янака.

— Бабка Крыстына маніць ня будзе, яна кажа, што маніць—грэх,—з азартам зноў умяшалася ў дыскусію пра чарцей Марылька.— А бабка Крыстына казала, што чорт усьсеў на настаўніка конна, ды давай ганяць яго па хаце, ды давай...

— Марылька Міхалова,—пачуўся з адчыненай форткі няпрыемны скрыпучы голас.—Марылька Міхалова!... Загадай дзецям зараз-жа сабрацца ў школе—будзем пачынаць!—І, сказаўшы гэта роўным спакойным тонам, Біль прычыніў фортку.

Дзеці, зьбянтэжаныя раптоўным зьяўленьнем у фортцы настаўнікавай галавы, прыціхлі. Зьбялелая ад страху Марылька, стаяла апусьціўшы галаву і нэрвова перабірала пальцамі завязку ад торбачкі з кнігамі.

— Папалася!—падміргнуў Марыльцы Стасік,—пападзе цяпер табе за чарцей. Лепш ня йдзі ў клясу, бо будзе...—І, не зразумець было, ці Стасік спачувае Марыльцы, ці, жартуючы, страшыць яе настаўнікавым гневам.

Калі Марылька ўвайшла ў клясу, усе дзеці, сур'ёзныя, прыцішаныя, ужо сядзелі на партах. Ціханька ступаючы новымі скрыпучымі чаравікамі па бруднай падлозе, спусьціўшы галаву, Марылька села на сваё месца.

5.

Настаўнік быў ня ў гуморы. Дзеці адразу заўважылі гэта з таго, як злосна ляпнуў ён дзьвярыма, увайшоўшы ў клясу.

Усе дзеці паўставалі з месцаў і стаялі датуль, покуль Біль не паклаў на стол таўсты зялёны журнал і ня сеў у вялікае з высокай сьпінкай крэсла, што стаяла перад сталом.

У клясе панавала ціша.

Настаўнікаў твар з высокім вузкім ілбом і даўгім крукаватым носам здаваўся высечаным з каменю. Чырвоныя вочы халодна глядзелі на дзяцей бяздумнымі пустымі зрэнкамі. Дзеці з доўгае практыкі ўжо ведалі, што калі настаўнік глядзіць гэткімі пустымі вачыма— дабра не чакай. Кожны, на кім спыняўся халодны, сьляпы позірк гэтых страшных вачэй, спускаў галаву, убіраў яе ў плечы, нібы хочучы зрабіцца зусім маленькім, няпрыкметным.

Твар Марылькі Міхаловай раптам наліўся гарачай чырваньню— пусты позірк чырвоных страшных вачэй, прапоўзшы па дзесятку дзіцячых русых, чорных і рудых галоў, спыніўся на Марыльчыным твары.

Марылька адчула, як у яе раптам схаладзелі пальцы на нагах, а ў скронях трывожна застукала кроў. Спалоханымі блакітнымі вачыма яна глядзела ў чырвоныя вочы Біля—і не магла адарвацца ад іх. Малнькая сэрца хутка, хутка калацілася ў грудзях. Мімаволі, не ўсьведамляючы навошта яна гэта робіць, Марылька ўстала і, нечарэчна, адна з усяе клясы, стоячы, глядзела...

Нямаведама, чым-бы скончылася гэтае ўпартае глядзеньне, калі-б раптам дзьверы ў школу не адчыніліся і ў клясу не ўкацілася маленькая шэрая фігурка.

Стоячы ў парозе, фігурка скінула з галавы вялікую бацькаўскую шапку, нешта няўцямна, пад нос сабе, прабурчэла і пакацілася каля сьценкі да задніх партаў.

Гэта прымусіла Біля адарваць погляд ад Марыльчыных вачэй.

Пачырванеўшы ад злосьці, Біль стукнуў кулаком па стале, але тут-жа стрымаў сябе. «Ня варта псаваць крыві праз гэту быдляціну,—напомніў сабе Біль даўно прынятае правіла.—Можна і спакойна зрабіць уражаньне на іх».

І ўжо зусім спакойным, халодным тонам, абыякава гледзячы паверсе вучнёўскіх галоў, ён вымавіў:

— Круглік! Стэфан Круглік!

— Га? што?—пачуўся ззаду заклапочаны сур'ёзны голас.

У адказ на гэтыя пытаньні Біль скрыпнуў зубамі, але зноў стрымаў сябе.

— Стэфан Круглік! Выйдзі на клясу!

Некалькі хвілін на гэтую прапанову настаўніка ніхто нічога не адказваў. Пасьля на задніх партах вучні заварушыліся, пачуўся сьцішаны шэпат: «Ідзі! Ідзі, дурань, калі табе кажуць!»—і на сярэдзіну

клясы нясьмела, паблiскваючы вялiкiмi чорнымi вачыма, вышаў той самы хлапчук, што спазьнiўся i сваiм прыходам адцягнуў увагу настаўнiка ад Марылькi.

Спынiўшыся за некалькi крокаў ад настаўнiка, Круглiк утаропiў вочы ў падлогу i чакаў.

— Стэфан Круглiк!—Бiль праніклiва i пiльна пачаў глядзець у вочы хлапчуку.

Круглiк падняў галаву, напружана, не разумеючы, паглядзеў на настаўнiка i цiха спытаў:

— Ну?

— Ня «ну»?, а як я вучыў гаварыць, калi цябе пытаюцца?—раўнуў Бiль, канчаткова страцiўшы спакойнасьць, i трэснуў кулаком па стале.—Як я вучыў?

Круглiк стаяў, пакутна наморшчыўшы лоб, i напружана ўспамiнаў. Зрэшты, хiтра, аднымi вачыма ўсьмiхаючыся, ён голасна адказаў:

— Слухаю, пане настаўнiк!

— Так трэба было i гаварыць, а ня нукаць, жывёлiна!—кiпеў Бiль, моцна сьцiснуўшы зубы.—Чаму на лекцыю спазьнiўся?

Круглiк пакамячыў у руках старую шапку, паглядзеў на вучняў, на настаўнiка, тады зноў на вучняў i, таксама ўсьмiхаючыся адным вокам, адказаў:

— Сьнеданьне ня было гатова...

— Пане настаўнiк! Пане настаўнiк!—няроўным, ад злосьцi блiзкiм да крыку голасам выразна вымаўляў Бiль.

Круглiк зразумеў чаго ад яго хочуць i пакорлiва паўтарыў:

— Сьнеданьне ня было гатова, пане настаўнiк...

Сам невялiчкi, кiрпаносы, ён быў вельмi падобны з выгляду да вераб'я. Гэтае падабенства яшчэ больш павялiчвалi задзiрысты кучаравы вiхор над iлбом i рухавыя чорныя вочы—самае цiкавае з усяго, што было ў гэтым хлапчаняцi: няправiльна пастаўленыя, крышку косыя, абкружаныя густою сеткаю цененькiх старэчых маршчакоў, яны, здавалася, уважлiва прыглядалiся адразу да некалькiх рэчаў i хiтра ўсьмiхалiся. Нават тады, калi Стэфан плакаў—вочы ягоныя ня трацiлi хiтрай усьмешкi. Праз гэтыя вочы маленькi Стэфан меў заўсёды шмат няпрыемнасьцяй. Праз гэтыя вочы i настаўнiк незалюбiў яго з першага разу.

Так было i цяпер: спалоханы, гатовы заплакаць Стэфан стаяў перад грозным настаўнiкам, а вочы ягоныя хiтра сьмяялiся з нечага, чаго нiхто з прысутных ня бачыў.

— Дык кажаш сьнеданьне ня было гатова?—з наўмыснай падкрэсьленай спакойнасьцю перапытаў Бiль, ня гледзячы на Стэфана,—Сьнеданьне? Та-ак, так. Ну, а што трэба сказаць, калi ўваходзiш у школу?

Гэта Стэфан ведаў. Адагнаўшы рукою ад носу назольную муху, ён выпалiў, як з кулямёту:

— Нех бэндзе пахвалёны... Я-ж сказаў,—пачаў быў нават апраўдвацца ён, але Біль, ня даўшы яму дагаварыць да канца, перапыніў яго.

— Сказаў, кажаш? Добра. Так, так. Выйдзі на двор, прычыні за сабою дзьверы, тады зноў адчыні іх, увайдзі ў клясу і зрабі ўсё, што трэба зрабіць, калі прыходзіш у школу. Зразумеў?

Стэфан матнуў галавою і ціха адказаў:

— Зразумеў.

— Ідзі і рабі.—І Біль здавлены тым, што знайшоў, нарэшце, новы цікавы мэтад выхаваньня мужычых дзяцей, адкінуўшыся ўсім тулавам на сьпінку крэсла, склаўшы на жываце бледыя, зрэзаныя рэльефнай сеткаю сініх жылак рукі, намерыўся сачыць за тым, як Круглік выканае ўсе фармальнасьці, ведаць і выконваць, якія мае за абавязак кожны вучань кожнай культурнай школы...

Дзьверы за Круглікам са скрыпам зачыніліся, потым адчыніліся, ён увайшоў у клясу, стаў тварам да настаўніка і выразна сказаў:

— Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус!.. *).

— На векі векаў. Амэн!—адказаў урачыста Біль і працягнуў:

— Так... До-обра...

Стэфан, сьпяшаючыся, пабег на сваё месца. Не пасьпеў ён сьцягнуць з плеч і пакласьці ў парту зашмальцаваную торбачку з кнігамі, як да ягоных вушэй дапаўзло ўедлівае пытаньне:

— Стэфан Круглік! А хто табе дазволіў сесьці на месца?

Стэфан маўчаў.

— Я пытаюся,—паўтарыў Біль,—хто дазволіў Стэфану Кругліку сесьці на месца?

Стэфан маўчаў. Вучні пераглядаліся між сабою.

— Стэфан Круглік,—скрыпеў далей Біль,—выйдзі яшчэ раз за дзьверы, увайдзі ў клясу, зрабі ўсё спачатку і не забудзься папрасіць у настаўніка дазволу сесьці... Зразумеў?

— Зразумеў,—яшчэ цішэй адказаў Стэфан.

— Ідзі і зрабі.

Зноў з нудным скрыпам зачыніліся і адчыніліся дзьверы. Зноў Стэфан увайшоў у клясу і, стоячы перад настаўнікам, паўтарыў абрыдлае:

— Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус...

— На векі векаў. Амэн!—таксама ўрачыста адказаў Біль і з набожным выглядам заплюшчыў празрыстыя сінія павекі.

— Ці можна сесьці?

Біль расплюшчыў вочы і зірнуў на Стэфана.

— Стэфан Круглік! Ты пытаеш ці можна сесьці?

Стэфан панура матнуў галавою.

— Так. Ці можна сесьці?

---

*) Езуіцкая формула, якую каталікі ўжываюць замест прывітаньня пры ўваходзе ў хату.

— А дзе «пане настаўнік»?—вышчарыў усьмешкаю жоўтыя вялікія зубы Біль. На верхняй сківіцы пад зубамі ў настаўнікавым роце блішчэла нароўная, чырвоная, мокрая ад сьліны дзясна. Гэтая дзясна надавала Біляваму твару конскі выгляд.

— Дык дзе-ж «пане настаўнік», я пытаюся?—паўтарыў усьміхаючыся, Біль.—Ты ўсё сьмяешся, Стэфан Круглік, табе ўсё сьмешна, а я хачу гаварыць з табой сур'ёзна. Дзе твой «пане настаўнік»? Ці ты, можа, вунь у Марылькі Міхаловай пытаешся дазволу сесьці? Яна-ж у вас хутка паважанай асобай будзе: бацька яе хоча, каб тут беларускую школу адчынілі,—з кпліваю паватаю паглядзеў Біль на пачырванелую Марыльку. Недзе ззаду ўгодліва хіхікнуў Стасік Шчорс.

— Ну, дык як-жа?—насядаў на сваю ахвяру Біль.—У каго ты пытаешся дазволу сесьці: у мяне, ці ў Марылькі Міхаловай? Га?

Стэфан маўчаў. Блішчэлі і ўсьміхаліся ято затуманеныя нечаканым наплывам сьлёз вочы, дрыжэлі сьціснутыя ўпартаю складкаю тонкія вусны.

— Ты маўчыш, Стэфан Круглік? Пэўне табе сорамна сказаць, што дазвол сесьці трэба прасіць у пана-настаўніка?—злосна ўсьміхаўся Біль.—Га? Праўду я кажу, Стэфан Круглік?—І, раптам зьмяніўшы тон, Біль крута загадаў:—Вон з клясы! Яшчэ раз зробіць усё спачатку!

З трэскам зачыніліся за Стэфанам Круглікам дзьверы школы.

— Ага! Стукаць дзьвярыма! Я табе зараз стукну!—прасіпеў Біль праз сьціснутыя зубы.—Я табе зараз стукну!

Але «стукнуць» ня было каму, бо Стэфан упарта ўгнуўшы віхрастую круглую галаву, трымаючы ў руках старую бацькаўскую шапку, ішоў прэч ад білеўскай школы і насустрач яму ўсьміхалася веснавое сонца.

На вузенькіх плячох Стэфана недарэчна бялела кужэльная торбачка з кнігамі.

— Зьбегайце хто-небудзь зірнеце, дзе ён там праваліўся,—кінуў Біль да вучняў, калі мінула некалькі хвілін, а Стэфан усё ня прыходзіў.

Янак выскачыў на двор і, убачыўшы ў полі ўжо нявыразную, захпленую трымценьнем нагрэтага над паверхняй зямлі паветра, постаць Стэфана Кругліка, вярнуўся ў клясу і ўгодліва далажыў Білю.

— Ён пайшоў дахаты, пане настаўнік! Ужо чуць відаць... у полі...

— Дахаты?—скрыпнуў зубамі Біль.—Ну і няхай ідзе. Больш у школу ён ня прыдзе. Будзе, як і бацька, у мужыкоў сьвіньні пасьвіць,—і, грузна апусьціўшыся ў крэсла, ён ушпіліў погляд чырвоных вачэй у Марыльку.

— Дык, кажаш, твой бацька хоча, каб у вас беларуская школа была?—амаль ласкава, расьцягваючы кожнае слова, спытаўся Біль у Марылькі, працінаючы яе пустымі вачыма.—Беларуская каб? Чаму-ж

гэта ён так хоча? Марылька Міхалова, чаму ён так хоча, каб беларуская?

Не адчуваючы ў настаўнікавым пытаньні нічога падазронага— яно-ж сказана такім ласкавым, мяккім тонам!—Марылька ўстала з месца і, гледзячы проста на Біля, крышку засароміўшыся, сур'ёзна адказала:

— Але, каб беларускую! Бацька кажа, што мы павінны ведаць сваю родную мову. І яшчэ—нам цяжка вучыцца цяпер: мы дрэнна разумеем павашаму,—і Марылька вінавата ўсьміхнулася.

Біль, склаўшы на стале рукі і апусьціўшы на іх цяжкую стаўбунаватую галаву, крыва ўсьміхнуўся і нечакана для Марылькі зьмяніў тэму гутаркі.

— Кажуць, брат твой прыехаў дадому?.. Гасьцінца прывёз?

У Марыльчыных вачох загарэлася радасная ўсьмешка.

— Так, прыехаў Петрык...

— Зусім прыехаў, ці як?—зацікаўлена і знарок ласкава распытваў Біль.—Марылька Міхалова, зусім прыехаў?

— Я добра ня ведаю,—усьміхалася Марылька,—мусіць, на адпачынак толькі, а тады зноў паедзе ў гімназыю...

Біль устаў з крэсла, закурыў даўгую тоўстую папяросу. Усьмешка зьбегла з ягонага твару. Вочы заблішчэлі і зрабіліся вострымі калючымі, як дзьве іголкі.

— Марылька Міхалова!

Марылька ўздрыгнула, спалоханая неспадзяванай рэзкасьцю настаўнікавага голасу.

— Марылька Міхалова! А ці ведаеш ты, што тваго брата з гімназыі выгналі? А ці ведаеш ты... ці ведаеш ты, Марылька Міхалова, як на настаўніку езьдзяць чэрці?

Біль засунуў рукі ў глыбокія кішэні піджака.

— Быдля!—скрыпам, сухім скрыпам вырвалася з-пад сьціснутых, скрыўленых губ настаўніка.

Павольна, ня згінаючы ў каленах сухія рэўматычныя ногі, Біль пайшоў да Марылькі.

6.

Бацька ўвайшоўшы ў хату, кінуў на лаву цяжкую авечую шапку, рукой змахнуў з ілбу буйныя, бліскучыя кроплі поту і тады сеў каля стала.

За вакном сьмяялася вясёлая сонца, шалясьцела маладым зяленівам лістоў старая, пагорбленая ад веку, яблына. Гледзячы на яе шырока раскінутае масыўнае гольле, здавалася, што яна намагаецца ўхапіць гэтым гольлем у свае зялёныя абоймы як мага большы кавалак чыстага блакітнага неба. Набягала на неба хмарка, хмурнела зялёная радасьць старой яблыны, пад подыхам ветру нездаволена варушыліся, шапацелі, паскрыпвалі драўляныя, пакрытыя грубою патрэс-

канаю карою рукі. Злавалася старая на вецер, які, нагнаўшы хмарку, адбіраў ад яе сонечную ўсьмешку яснага неба. Злавалася і нездаволена скрыпела...

Маці—як яблыня. Сваімі колісь сінімі, як і ў Марылькі вачыма, яна намагалася ахапіць як мага больш радасьці, сабраць яе, гэтую радасьц, у глыбіні сваёй істоты, як акумулятар зьбірае ў сабе электрычную энэргію, сабраць яе на тое, каб пасьля аддаваць яе патрыснае на аздабленьне сямейнага жыцьця. Але жыцьцёвыя вятры наганялі хмары, вострым холадам білі ў твар, выпівалі з вачэй глыбокую ясную сінь, зьбіралі скуру на твары ў глыбокія цьмяныя маршчакі. Маршчакі гэтыя надавалі Юстынінаму твару пакутніцкі выгляд. Выдаткаваньне радасьці на працягу ўсяго Юстынінага жыцьця быў значна большы за набытак яе—у выніку акумулятар канчаткова вытхнуўся. І цяпер усьмешка дужа рэдкім госьцем бывае ў выцьвілых сумных Юстыніных вачох. Ня ўсьмешка—цяжкая горкая дума хмараю залягла ў іх, і калі Юстына глядзіць на каго, здаецца, што погляд яе цяжкі і няўцямны—цяжкі як восенскі балотны туман, няўцямны—як перадсьмяротны погляд халодных вачэй вераб'я, падбітага ў лёт трапна пушчаным рукою гарэзы-хлапчука каменем.

— А Пётра дзе-ж?—пільна гледзячы на матку спытаў Міхал—Ці пайшоў куды?

У Міхалавым запытаньні Юстыне чамусьці пачулася нешта трывожнае. Пузатае ад накручанай ніткі верацяно вывалілася з рук. Юстына трывожна павярнула галаву да мужыка.

— На вуліцу недзе вышаў.. Нядаўна... А што? Чаму ты пытаеш?

Нават не падымаючы верацяна—яно закацілася на няроўнай пукатай падлозе некуды далёка пад ложак,—Юстына перасела на лаву да стала і, непакоена гледзячы Міхалу ў твар, другі раз спытала.

— А што? Чаму ты пытаеш? Ці, можа, Стапан казаў што?

Міхал з нейкай асаблівай заклапочанасьцю шморгнуў носам і хутка заміргаў чырвонымі, пакрытымі сеткай дробненькіх сініх жылак, павекамі. Вочы яго, схаваныя пад густымі пасівелымі брыўмі, хавалі трывожную думку.

— Чаму ты маўчыш?—пыталася затрывожаная, усхваляваная Юстына. Голас яе апаў, бо матчыным нутром, яна адчувала, што Міхал ведае нешта нядобрае і гэтае нядобрае тычыцца Петрыка, дарагога госьця, сына.

— З гімназыі яго зволілі,—нечакана вымавіў бацька.—Два тыдні ў вастрозе быў...—і адвярнуўся да вакна, каб змахнуць рукавом з вока недалужную няпрошаную сьлязінку.

Юстына спачатку нават не зразумела, пра што гаворыць Міхал.

— Каго зволілі? Хто...—і, раптам зразумеўшы, ня скончыўшы пытаньня, яна ціха заплакала.

Бацька, старожка аглядаючыся на вокны, суцішаў жонку і адначасова расказваў усё, пра што ён даведаўся ад Стапана.

— Во-ё-ёй! А божачка ты мой! Што-ж нам цяпер рабіць,—залі-ваючыся сьлязьмі, ціханька прыгаворвала Юстына. Буйныя сьлёзы, як град, каціліся па ёйным твары і спадалі на сьвяточную паркалёвую кофтку, пакідаючы на ёй цёмныя мокрыя плямкі.

— Цішэй ты, дурная! Яшчэ пачуе хто,—суцішаў Міхал жонку.— І казаў яшчэ Стапан, што палкоўнік солтыса нашага выклікаў да сябе... Наконт Петрыка... Ды сьціхні ты! Нічога не скажу больш!— узлаваўся Міхал на жонку, што сваім плачам замінала яму гаварыць.

— Ня буду! Ня буду ўжо! Ну, ня буду—кажы далей,—сьціхла Юстына; заплаканыя вочы яе са страхам глядзелі на мужа.

— Забраць, кажа, могуць. Трэба, каб уцякаў куды Петрык. За-бяруць ды засадзяць—тады і ён ня вылезе і нам—капцы: усю гас-падарку рашаць...

Юстына больш не магла стрымаць рыданьняў. Схіліўшы галаву на рукі складзеныя на стале, яна ўголас заплакала:

— А маё-ж ты дзіцятка! А мой-жа ты родненькі! А я-ж цябе гадавала-мілавала.

Матка плакала па сыну.

Злавесны цень грознага, наканаванага, няўнікнёнага ўставаў пе-рад яе вачыма.

7.

Апрануты ў белую, з васільковым сінім каўняром, зграбна пашы-тую кашулю, у сінія суконыя порткі, абуты ў жоўтыя падношаныя чаравікі, Петрык не сьпяшаючыся ішоў па вуліцы, зьбіваючы гнут-кім стэкам жоўтыя галоўкі прыдарожных малачаёў.

Зьвінелі жаўранкі, сьмяялася сонца, лёгкі веснавы ветрык гуляючы раскідаў шаўкова-русыя Петрыкавы валасы.

Цяжкі настрой, які агарнуў Петрыка пасьля размовы з бацькамі, разьвеяўся бяз усякага сьледу. Вясна, сонца і васемнаццаць год узялі сваё: па прыгожым, крышку збледым, Петрыкавым твары, зьмяі-лася вясёлая усьмешка. Ён ведаў, што ўсё, што засталося ў вёсцы, ня выехала на поле, з-за платоў, з вокан, з варот глядзіць цяпер на яго. І таму ён ішоў сумысьля бадзёра, выпраставўшы крышку згорбле-ныя гімназыяльнай вучобай плечы, усьміхаючыся...

— Ах, зноў гэтая гімназыя!

Раптам Петрыкаў твар спахмурнеў, сьцямнелі сьветлыя шэрыя вочы: успомнілася недалёкае, няпрыемнае—супрацоўніцтва ў студэнц-кай беларускай левай газэце, мітынгі на заводах, лістоўкі з заклікам да барацьбы супроць прадпрыемцаў, арышт усіх супрацоўнікаў рэ-дакцыі, выключэньне з гімназіі, за „антыдзяржаўную» дзейнасьць, нудныя, доўгія, балючыя дні і ночы ў Лукішах... А крышку пазьней— засуджаныя на катаргу таварышы, некалькі—ў тым ліку Петрык— апраўданых за адсутнасьцю доказаў і, тым ня менш, воўчы білет, высылка з Вільні «па месцы пражываньня».

— «Ды і тут паліцыя жыць ня дасьць,—усьміхаўся засмучонымі вачыма Петрык.—«Дасылаецца пад нагляд мясцовых паліцэйскіх органаў»—успомніўся яму, пачуты перад выездам з Вільні ў памяшканьні паліцэйскай управы, абрывак гутаркі.

Ланцуг невясёлых думак перарваў незнаёмы, крыклівы, з ноткамі ліслівай пашаны голас:

— Пятро Міхалавіч! Пятро Міхалавіч!..

Петрык зьдзіўлёна спыніўся. Глянуў назад.

— Што-ж вы? Заганарыліся?! Старых знаёмых пазнаць ня хочаце, хе-хе-хе-хе!

З ганку крамкі, абвешанай размаляванымі бляшанымі шыльдамі, гасьцінна распасьцёршы рукі, насустрач Петрыку каціўся куртаценькі круглы чалавечак.

Паціскаючы пульхную цёплую руку чалавечка, усё яшчэ са зьдзіўленьнем гледзячы ў потны круталобы твар, у вёрткія птушыныя вочкі, Петрык устанавіў:—крамнік, Купцэвіч Пётра Карлавіч.

Выраз зьдзіўленьня на Петрыкавым твары зьмяніўся на выраз нуды і грэблівасьці. Праз сілу стрымліваючы сябе ад якога небудзь рэзкага, нетактоўнага выразу, Петрык думаў: «Чаго гэтай жывёліне ад мяне трэба?»

А сыты, круглы чалавечак дакорліваківаў галавою:

— Ня добра, ня добра, Пятро Міхалавіч! Ня добра. Я-ж, можна сказаць, вас яшчэ во якім ведаў,—адмераў Купцэвіч пухкаю, мяккаю рукою з паўмэтра ад зямлі.

— Ня добра! Няхай-бы зайшліся як небудзь, па суседзку пасядзець, пагаманіць.

— Выбачайце...

Але крамнік, нанізваючы слова на слова, не даваў Петрыку магчымасьці што-небудзь сказаць.

— І Янінка мая цяпер дома. Зайшліся-б, пафліртавалі-б, яна-б вам на раялі пайграла што небудзь такое, ведаеце... Эт! Ды што я ня ведаю: сам некалі малады быў—нічога ня трэба, толькі паненку прыгожанькую, крышку музыкі ды садок з месяцам, з лавачкамі, з кветачкамі, адным словам—лірыку!—І жартаўліва паматаўшы на Петрыка кароткім, таўстым, як агарак ад стэарынавай сьвечкі, пальцам, Купцэвіч зайшоўся гульлівым, закідным сьмехам.—Хе-хе-хе-хе-хе! Хе-хе!

Гэты хвілінны перапынак у нясутрымным струмені слоў крамніка Петрык скарыстаў для таго, каб паціснуць яму руку, і, адыходзячы, суха кінуць:

— Выбачце... Другім разам... Дужа заняты цяпер...

Крамнік не пакрыўдзіўся на нечаканае Петрыкава разьвітаньне,—стоячы на высокім ганку, ён матаў усьлед Петрыку пальцам і крычэў наўздагон яму:

— Дык-жа заходзьцеся! Сталічны чалавек! хе-хе-хе-хе! Абавязкова-ж!

Сьмех яго быў дужа падобны да кашлю чалавека, хворага на коклюш...

— Ото падліза! Ото зараза!—абураўся Петрык, шпарка адыходзячы ад гасьціннага гаспадара бакалейнай крамы.—«Заходзьцеся!»—унутрана перадражніваў ён Купцэвіча.—«На раялі,—ласкавы такі, ветлы, нібы і ня ён залетась выгладзіў мяне пугаю за тое, што я не дагледзеў свайго каня, у ягоны сад упусьціў! У-у, сьцерва!»—злосна плюнуў Петрык, моцна сьціснуўшы ў руцэ гнуткі тонкі стэк.—Кулак пракляты!—і хлапец яшчэ хутчэй пайшоў наперад, нібы баючыся раптам зноў пачуць за сьпіною ўгодлівы Купцэвічаў голас.

Не пасьпеў Петрык прайсьці дзесятак крокаў, што асталіся да канца пакручастай вясковай вуліцы, за якою пачыналася бясконцае зялёнае балота, як зноў пачуў ззаду голас. Але гэта ўжо ня быў голас крамніка.

— Петрык! Петрык!—надрываўся звонкі дзіцячы голас.—Петрык! Пачакайце! Пачакай!...

Петрык спыніўся. Да яго падбег замурзаны запылены Хведараў Яська. Бязладна махаючы торбачкаю з кнігамі, захліпаючыся ад нядаўняга шпаркага бегу, ён, усхваляваны выкрываючы, не дагаварваючы словы, тузаў Петрыка за рукаво, цягнучы яго за сабою некуды за касьцельны цьвінтар.

— Там... настаўнік... у хляве... Марылька... зьбілі... укусіла за руку... укінулі ў хлеў... плача...

Петрык нічога не зразумеў.

— Хто, настаўнік ў хляве плача? Марылька ўкусіла? Што ты плешчаш?—сьціснуў ён Яську за худзенькае кашчавае плячо.—Хто плача? Хто ў хляве? Каго ўкусілі?

Усхваляваны, распалены Яська раптам сьціх.

— Ну, што ты?—Петрык нагнуўся да потнага загарэлага твару і заглянуў у цёмныя Яськавы вочы.—Што ты? У чым справа? Ды куды ты мяне цягнеш?

Яська крыху аддыхаўся і тады загаварыў больш роўна і спакойна.

— Настаўнік пацягнуў Марыльку за вуха... Яна ўкусіла яго за руку... Ён папабіў яе кніжкаю і так, рукою, па мордзе, па галаве і выкінуў у хлеў... замкнуў... Хадзем хутчэй!

Петрык адчуў, што ў яго на руках і нагах раптам ахаладзелі пальцы, сэрца ў грудзях закалацілася. Такім немагчымым, дзікім, здавалася тое, што гаворыць Яська, Петрык ад неспадзяваньня, як здубеў.

— Ды ты што?—І ён так моцна сьціснуў Яськава плячо, што той ледзь ня крыкнуў—Ды ты маніш можа?

Не падобна было на тое, каб Яська маніў. Ды Петрык і сам гэта бачыў. Але ня мог даць веры, што ў культурным асяродку—школе могуць рабіцца такія рэчы. Петрык і верыў і ня верыў Яську, але ўвесь выгляд хлапца—напружаны, ашалелы ад страху,—прымушаў

верыць. І таму, калі Яська, выкрыкнуўшы: «Яна плача... Марылька. У хляве... сьвіньні там вялізныя. Хадзем!»—яшчэ раз тузануў Петрыка за рукаво, Петрык паверыў. Адчуваючы, што ўвесь гарыць ад злосьці і абурэньня, ён моцна сьціснуў у руцэ стэк і рашуча, абганяючы Яську, пайшоў пад школу.

Праз дзьве хвіліны яны стаялі ў школьным двары перад дзьвярыма невялічкага хляўчука. На дзьвярах хляўчука вісеў вялікі цяжкі замок. За дзьвярыма чулася неспакойнае рохканьне сьвіней і спалоханы, прыцішаны дзіцячы плач.

— Тут... плача...—сказаў Яська, зірнуў на Петрыка і—спалохаўся: руховы раней Петрыкаў твар, зьбялеў, моцна сьціснутыя скіўіцы зьмянілі, абвастрылі абрысы шчок, вочы гарэлі, як у разлютаванага пеўня.

— У каго ключы?—праз сьціснутыя зубы выдыхнуў Петрык і, прасачыўшы палахлівы ўзьлёт Яськавых вачэй на настаўнікавы вокны, зразумеў, што ключ—у настаўніка.

Цьвёрдым салдацкім крокам Петрык узышоў на школьны ганак, прайшоў праз пустую паўцёмную клясу і адчыніў дзьверы ў настаўнікаву кватэру. У першым пакоі ня было нікога. Адхінуўшы цяжкую чорную штору, Петрык увайшоў у габінэт Біля і спыніўся каля парогу: у кутку, у вялікім чорным крэсьле сядзеў чалавек і глядзеў на Петрыка ашклянелымі бяздумнымі вачыма.

Калі сьвятло праз рассунутыя Петрыкам шторы прабілася ў пакой, чалавек на крэсьле падняў галаву. У паўзмроку шклом блiснулі спусьцелыя вочы. Сухі і рэзкі, як скрып старых дзьвярэй голас варожа спытаў:

— Што вам тут патрэбна?

Гэты голас, ад якога веяла магільным холадам, абудзіў Петрыка ад зьдзіўленьня, выкліканага абстаноўкаю пакою, трупным выглядам чалавека, што сядзеў у крэсьле і—прымусіў яго ўспомніць тое, навошта ён сюды прышоў. Дрыготным ад злосьці голасам Петрык адказаў на пытаньне пытаньнем:

— Вы—настаўнік?

Біль падняўся з крэсла і з шумам адсунуў яго ў бок.

— Хто можа быць у кватэры настаўніка апроч гаспадара? Што вам тут патрэбна?

— Ключ!—захліпаючыся ад нянавісьці прахрыпеў Петрык.—Ключ ад хлява, у якім вы замкнулі маю сястру!..

— Ах, дык гэта вы—яе брат?—не хаваючы пагарды да брата дзікага «мужычаняці», спытаў Біль.—До-обрая ў вас расьце сястра! Няма што сказаць! Вазьмеце яе дадому. Гэткіх дзяцей наша культурная школа прымаць да сябе ня можа.

Петрыку дужа захацелася ўчапіцца абедзьвума рукамі ў худую тонкую шыю настаўніка і стукаць яго галавою аб драўляную сьценку датуль, пакуль з галавы не пацякуць мазгі...

Але тым часам Біль зьняў з цьвіка вялікі ключ і, прапусьціўшы Петрыка наперад, вышаў за ім на двор.

— Бачыце, што яна мне зрабіла?—спакойна паказаў ён Петрыку на руцэ сіні круг, аблямованы крывавымі кропкамі—сьлядамі вострых Марыльчыных зубоў.—Гэта-ж зьвярына дзікая, брудная сучка...

Петрык ня слухаў Біля. Адбіваючыся ў хляве стэкам ад дзьвёх вялізных, занепакоеных яго прыходам сьвіней, ён зьняў з бочкі амаль няпрытомную, заплаканую, Марыльку і на руках вынес яе на двор. Раззлаваныя нечаканым умяшаньнем у іхныя ўнутраныя справы, сьвіньні насядалі на дзьверы. Але Біль, наваліўшыся на іх усім целам, ужо замыкаў замок.

Петрык зірнуў на Марыльку і ў вачох у яго стала цёмна. Кроў моцна стукала ў скронях. Рукі дрыжэлі.

— Марылька Міхалова! Больш у школу ты ня прыдзеш.—прасхрыпеў Біль, зьбіраючыся ісьці ў хату.—Школе не патрэбны дзеці-злачынцы, дзеці, якія ня ўмеюць шанаваць...

Марылька, калоцячыся ўсім целам, ціха заплакала.

— ... шанаваць сваіх...

Скончыць Білю ня ўдалося.

У паветры залівіста сьвіснуў стэк і апавіў бледы арыстакратычны твар настаўніка. На твары наўкасы—ад вуха, праз нос і да верхняй часткі ілба, да валасоў—загарэўся і набег крывёю, няшырокі сіні пас. Стэк сьвіснуў другі раз, трэці—і першы сіні пас перакрыжавалі кароткія, яркія рубцы...

За дзьвярыма хляўчука дзіка раўлі сьвіньні...

8.

Калі ў хату ўвайшлі пагранічнікі на чале з сымпатычным бязвусым жандарскім сэржантам, ружовым і крамяным, як летні яблык, Юстыну пачала калаціць халодная ўнутраная дрыготка. Яна баялася не за сябе—што ёй могуць зрабіць жаўнеры? У горшым выпадку выб'юць пару зубоў. Яна баялася, да сьмерці баялася, што гэтыя жаўнеры зробяць благое ейнаму Петрыку, ейнаму любаму першанараджэнцу.

Жаўнеры спыніліся пры дзьвярах. Сэржант, ляснуўшы абцасамі новенькіх жоўтых ботаў, падышоў да бацькі.

— Ту мешка Міхал Студніцкі?

Бацька павольна ўстаў з лавы—у яго нэрвова калаціліся рукі і недалужна, непатрэбна падміргвала левае вока—і раптам, густа зачырванеўшыся (ад гэтага твар ягоны набыў колер цэглы) адказаў:

— Але-ж, але-ж... гэтта....

— Ты ест Міхал Студніцкі?—сур'ёзным ломкім басам, да якога так не пасавалі ўсьмешлівыя шэрыя вочы, дапытваўся юны сэржант.

— Я,—ціха адказваў на пытаньні Міхал. Ён адчуваў, адчуваў усім сваім сялянскім нутром, што з прыходам гэтага ружовага сэр-

жанта і сур'ёзных ваўкаватых жаўнераў, у яго хату ўвалілася цяжкая непапраўная бяда, няміиучае няшчасьце. Што гэта за бяда, што гэта за няшчасьце—ён ня ведаў і таму трымаўся з хітрай угодлівасьцю, ня зводзіў стрывожаных, пасабачы адданых, даверлівых вачэй з сэржанта, намагаўся, здавалася, адказаць на пытаньне раней, чымся яно будзе сказана.

Сэржант сеў на лаву і, увесь час усьміхаючыся, прысунуў да сябе стол, дастаў з сумкі службовыя бляшкі, разлажыў іх на стале перад сабою, паважным рухам рукі паправіў рэвальвэр і ўтаропіў Міхалу у твар раптам схаладзелыя, суровыя вочы.

— Падыдзі бліжэй!—загадаў ён каротка і суха.

З вялікай гатоўнасьцю Міхал выканаў загад.

— Тут стань!—паказаў сэржант на падлогу за тры крокі ад сябе.—А цяпер,—і ён сумысьля зрабіў доўгую паўзу, пільна гледзячы ў бацькавы вочы,—скажы мне, стары, дзе твой сын?

Юстына ўздрыгнула. З-за яе плячэй з цікавасьцю пазірала на тое, што дзеецца ў хаце, Марылька. З абвязанай галавой і падбітым апухлым вокам, яна хавалася за матчыну сьпіну. Юстына адвярнулася, абняла Марыльку за плечы, і, цалуючы яе ў лоб, шапянула:

— Выйдзі, дачушка, цішком, зьбегай у ток, пабудзі яго, ды скажы, каб схаваўся зараз-жа... Як найдалей каб куды...—І зноў ласкава, каб усе бачылі, пацалава яе ў абвязаную галоўку.

Уся калоцячыся, ледзь стрымліваючы сьлёзы, Юстына намагалася ўдаваць спакойны выгляд. І ў гэты самы час, як і ў Міхала, пад сэрцам у яе варушылася, шчымела, смактала адчуваньне непапраўнай вялікай бяды.

— Дык скажы мне, стары, дзе ест твой сын?—строга гледзячы на Міхала, паўтарыў пытаньне сэржант.

— Ня ведаю,—шырока і шчыра разьвёў рукамі бацька,—ня ведаю: вышаў, пэўне, недзе, на сяло, бо ў двары яго няма.

— Та-ак, та-ак,—сумна працягваў сэржант,—шкода, што яго няма ў хаце, вельмі шкода...

— Ну, а ці даўно ён прыехаў з Вільні?

— Хто? Сын?—нібы не разумеючы, перапытаў Міхал.

— А хіба і яшчэ хто прыехаў, што ты перапытваеш?—бліснулі сэржантавы вочы.—Хто яшчэ да цябе прыехаў з сынам?

— Як—хто? Ніхто!—спакойна адказаў Міхал і паціснуў плячыма. Ніхто больш. Адзін ён... А хто-ж яшчэ?...

«Боўтнуў, а цяпер сьляды замятае,—падумаў сэржант,—ну, мяне, браце, не ашукаеш»—і нешта запісаў у асобны жоўты блёкнот.

Тут патрэбна адзначыць, што малады сэржант, лічачы сябе за некага накшталт Шэрлёка Холмса, меў адмысловую здольнасьць бачыць падазронае, ключ да выкрыцьця антыдзяржаўных змоў і злачынстваў у такіх рэчах, дзе гэтага падазронага і знаку ня было. І гэтым ён быў дужа падобны да таго разумнага і праніклівага паліцэй-

скага вахмістра, які вызнаў Швэйка ў час яго славутага Будэёвіцкага паходу за шпёна расійскага генэральнага штабу.

— Што ён прывёз з сабою, твой сын?—перайшоў сэржант да наступнага пытаньня.

— А што ён прывёз?—зноў паціснуў плячыма Міхал.—Чаравікі Марыльцы, дачцы маёй, значыцца, прывёз хустку—матцы, мне—табакі ды люльку...

— І больш нічога?—хітра прымружыў павекі сэржант.

— Не... Нічога...

— А ці ведаеш ты, стары, што нам вядома, што твой сын прывёз да сябе сюды ямчэ і забароненыя кніжкі і адозвы?

Сэржант адначасова лічыў сябе і вялікім псыхолёгам. У спэцыфічных гутарках з калегамі за шклянкаю гарбаты, або за бутэлькаю гарэлкі ён, з выглядам спрактыкаванага старога ваўка, любіў аўтарытэтна заяўляць маладшым таварышом: «Кожны апэрацыйны працаўнік палітычнай паліцыі павінен быць добрым псыхолёгам і фізыёгамістам. Ён павінен умець расшыфраваць па свойму кожны адказ арыштаванага, чытаць па яго твары тое, што ён думае». Так і цяпер, задаўшы правакацыйнае пытаньне, ён з напружанай пільнасьцю ўшпіліўся сваімі вачыма ў вочы Міхала.. Убачыўшы на Міхалавым твары спачатку зьдзіўленьне, а потым страх, сэржант узрадваўся:

«Ага, ён зьдзіўлёны, адкуль мы ведаем, а цяпер ён баіцца за сябе, бо пераканаўся, што нас не ашукаеш».

І зноў ён нешта занатаваў у свой блёкнот.

Зайшло сонца і з куткоў на хату папаўзьлі ленныя сінявыя сузмрокі. Адзін з жаўнераў, стоячы каля печы, раз-по-раз клёваў носам у рулю карабіну. Двое другіх нудна пераступалі з нагі на нагу, абыякава і тупа гледзячы на сэржанта.

Юстына ўзяла з пяколку пачак запалак і запаліла над сталом невялікую падвесную лямпу. Па хаце разьлілося мутнае жоўтае сьвятло Марылька ціханька, не зачыняючы за сабою дзьвярэй вышла ў сенцы...

Раптам, зірнуўшы на гадзіньнік, сэржант успомніў, што а палове дзесятай ён павінен быць у Купцэвіча. Ён ня мог пазьніцца, ён даў слова чароўнай Янінцы і да таго-ж: да Купцэвіча павінны былі прыйсьці знаёмыя афіцэры з пагранічнай заставы... а гэта... а гэта пагражала сэржанту ў выпадку спазьненьня небясьпекай страціць на ўвесь вечар чароўную Яніну... Гэтыя важныя меркаваньні вызначылі далейшыя дзеяньні сэржанта ў хаце Міхала Студніцкага. Ён склаў у скураную торбу ўсе свае паперы, устаў з лавы і міргнуў жаўнерам.

Жаўнеры сваю справу ведалі дасканала. Адзін з іх палез на печ і, шукаючы падазроных рэчаў, пачаў скідаць адтуль на падлогу пасьцілкі, лучыну, торбы. Другі, выняўшы з похвы кінжал, мацаў ім трываласьць дошак у падлозе. Не знайшоўшы ў падлозе нічога

падазронага, ён выкінуў салому з ложка, распароў кінжалам падушку і высыпаў пер'е на падлогу.

Прарэзьліва, як па дарагім нябожчыку, загаласіла Юстына. Хмара белага пуху паплыла па хаце. Сэржант стаяў каля вакна і мройліва ўсьміхаўся, уяўляючы сабе такія блізкія прыгожасьці панны Яніны.

Убегла ў хату Марылька. Чуючы матчын плач і ня бачачы маткі за хмарай пуху, Марылька сама спалохана заплакала і кінулася да маткі на голас. Замест маткі ў пацёмку яна напаролася на жаўнера, які карыстаў з моманту, каб запхнуць сабе за пазуху новую матчыну хустку—Петрыкаў падарунак. Справіўшыся з хусткаю, жаўнер завярнуўся і цяжкім падкутым ботам наступіў Марыльцы на нагу. Прарэзаў паветра дзікі енк. З цемры пачулася злоснае:

— О, холера ценжка!

Міхал чуў, як крыкнула Марылька, як вылаяўся жаўнер, а пасьля аб падлогу нешта стукнула. З болем у сэрцы, да крыві закусіўшы губы, ён кінуўся на крык Марылькі, але...

Сэржант, хоць і быў заняты марамі аб чароўным вечары з чароўнай Янінай, але сваечасова заўважыў рух Міхала. Здаровым ударам сенжантавага кулака ў сківіцу Міхал быў адкінуты ў бок. Грукнуўшыся плячыма аб сьцяну—аж шыбы ў вакне зазьвінелі—ён астаўся ляжаць на падлозе.

Неўзабаве ператруска ў хаце была скончана. Нічога ня было знойдзена. Сэржант аднаго жаўнера пакінуў у хаце, а двум загадаў ісьці аглядаць пуні, хлеў і ток. Ён спадзяваўся, што Петрык,—гэты важны дзяржаўны значынца—можа, схаваўся дзе ў адным з гэтых будынкаў, і цешыў сябе надзеяй злавіць яго.

Юстына завіхалася каля аглушанага падвойным ударам Міхала, пырскала яму вадой у разьбіты, акрываўлены твар. У кутку, каля разбуранага ложку ціханька плакала Марылька.

## 9

Выратавацца Петрыку ўдалося толькі дзякуючы таму, што жаўнер, якому загадана было перапароць штыхам страху, ці то стаміўся, ці то проста заленаваўся. Першы раз усаджаны ў страху штых прабіў гнілую салому і прайшоў між Петрыкавых кален. Петрык адчуў холад сталёвага ляза і моцна зацiснуў рукою рот, каб не закрычаць ад страху. Другім ударам штых працяў салому на мэтр далей за Петрыкам. Цяжка дыхаючы і злосна мармочучы сабе пад нос нешта, чаго Петрык не зразумеў, жаўнер, поркаючы штыхам у страху адыходзіў усё далей і далей.

Галасы і лаянка ў манежы праз колькі часу сьціхлі.

«Пайшлі»,—здагадаўся Петрык, але не зварухнуўся, ляжаў затойваючы дух, баяўся каб на шолах, або на шум дыханьня не зьявіўся хтонебудзь з пагранічнікаў. Але ўсё было ціха. Петрык адважыўся, прыпадняўшыся на аднэй руцэ, засунуўшы другую пад сьпіну, адсунуць

у бок гэты праклятты гучок, што ўвесь час так балюча, муляўся пад сьпіною. Ад руху рукі зашархацела сухая салома, і Петрык увесь застыў у нэрвовым напружаным чаканьні.

Унізе, пад колам, пачуліся ціхія крокі асьцярожных ног і стрыманае моцнае дыханьне.

Валасы на Петрыкавай галаве заварушыліся. Па сьпіне—ад шыі да паясьніцы,—пабег цененькі халодны струменчык.—«Учулі. Пільнавалі, а я зварухнуўся і»...—Петрык заплюшчыў вочы, адчуваючы, як ягонае сэрца павольна, але настойліве спаўзае некуды пад дыяфрагму.

Зьнізу, з зямлі, да Петрыкавых схаладзелых ад жаху вушэй даляцела ледзь чутнае, адным дыханьнем вымаўленае:

— Петрык!..

Петрык больш не адчуваў ні рук, ні ног. Шалёна закалацілася сэрца. Твар, грудзі і сьпіну ўкрылі буйныя кроплі халоднага поту. У галаве неадступна стаяла адно—жахлівае і простае: «Канец! Канец!» І нават сэрца пачало ўпарта і гулка выстукваць:—Ка-нец! Ка-нец! Ка-нец!

— Петрык! Петрык! Гэта я, Марылька!—даносіўся з зямлі лёгкі, як подых веснавога ветру шэпат.—Петрык! Дзе ты тут? Ня бойся! Гэта я!

На гэты раз Петрык пачуў. Ён асьцярожна высунуў галаву ў шчыліну між жэрдкамі і нясьмела, таксама адным дыханьнем, спытаў:

— А дзе тыя... жаўнеры... сэржант?

— Пайшлі... на пастарунак. Адзін толькі ў хаце астаўся...—шэптала Марылька.—Злазь. Мне тут страшна аднэй,—і ціханька ўсхліпнула.

Петрык адным махам апынуўся на доле.

У манежы, шчыльна прытуліўшыся да сьцяны, стаяла Марылька. Нявыразна бялела ў мораку пляма перавязанай галавы. У руках дзеўчынка трымала вялікі круглы скрутак.

— Гэта табе маці... на дарогу,—працягнула Марылька скрутак да Петрыка і ўся закалацілася ад нясутрымнага ціхага плачу.

— Ну, што ты? Ну, чаго ты, дурненькая? Чаго ты плачаш? Не на век-жа... Я вярнуся, гасьцінца табе прывязу... чаравічкі новенькія,—суцішаў Петрык сястру, моцна абнімаючы рукою яе тоненькі стан, і адчуваў, што ў горле яго зноў, як уранку, вырастае цяжкі горкі камяк.—Ну, чаго ты, Марысенька? Ну, сьцішні, бо яшчэ тыя пачуюць... чэрці...

Марылька бліжэй прыціснулася да брата і, ўся калоцячыся, маленькаю ручкаю разгладжвала яго мяккія валасы.

— Вазьмі... вазьмі мяне з сабою... Я баюся тут... Яны зноў прыдуць...

— Куды-ж ты пойдзеш, дурненькая у гэткую дарогу?—пераконваў Петрык дзіця.—Як-жа мамка без цябе астанецца? Яна-ж плакаць будзе... А што гэта тут у клумку?—асьцярожна спытаў ён, спа-

дзяючыся гэтым пытаньнем адцягнуць Марыльчыны думкі ад страшкога падарожжа.—Што тут, Марылька? Га?

Дзеўчынка перастала плакаць. Яна спрытнымі рукамі раскруціла скрутак і выняла з яго невялікую, туга набітую торбачку. З гэтай зрэбнай торбачкай за плячыма Петрык калісь ганяў у поле. Торбачка ня здрадзіла яму да канца: яна прышла да яго ў апошні жахлівы момант, і ён мусіў узяць яе з сабою, як сумную памятку аб радзіме.

— Тут хлеб... і бліны.... і кавалачак сала маці ўлажыла... на дарогу табе...

— А гэта?—падняў Петрык з зямлі мяккі чорны скрутак.

— А гэта,—праз сьлёзы шапянула Марылька,—гэта татка казаў, каб я табе сказала... каб ты апрануў кашулю... каб ня відаць было здалёк... Гэта чорная яго, сьвяточная... і яшчэ казаў ён—ня ідзі па балоце... ідзі Воўчым логам на Дзьвіну...

За лесам мутна дагарала жоўтае халоднае пажарышча—месяц зайшоў. З балота павеяла вільготным пахам туману. Загусьцелі змрокі над зямлёй. Над вёскаю пакаціліся прарэзьліва-сонныя крыкі першых пеўняў.

— Ну, мне пара!—уздыхнуўшы падняўся з зямлі Петрык.—Іську шмат. Бывай, родная!—Ён падняў Марыльку на рукі і ў доўгім пацалунку прыцісьнуў губы да перавязанага ілба дзеўчынкі.—Пацалуй за мяне мамку, тату... Скажы... не на век...

Марылька адчула як на лоб яе з Петрыкавых вачэй скаціліся дзьве халодныя сьлязінкі.

— Бывай, родная!

І Петрыкава сьпіна, зацягнутая ў чорную бацькаву кашулю, зьнікла за частаколам.

Марылька доўга стаяла, глядзела ў той бок, дзе зьнік Петрык. Ды хіба льга было ўбачыць што праз густы туман, які з усіх бакоў напаўзаў на поле, перамежваючыся з густым перадсьвітальным моракам?

## 10.

Нечакана спраўджвалася даўняя мара.

Праўда, яна спраўджвалася крыху інакш, як некалі аб гэтым думаў Петрык, але ці-ж у гэтым справа? Самае важнае, самае каштоўнае гэта тое, што запаветная, даўняя мара спраўджвалася.

Пераскокваючы праз скібы на ральлі, праз кусты, праз балотныя канавы, упарта трымаючы курс на ўсход, Петрык з кожным крокам набліжаўся да шчасьлівае зямлі, на якой канчалася ўлада сэржантаў і жандараў.

Неадступна, назольна ў галаве стаяла гарклявая неспакойная дума: ідзе ў далёкі сьвет, можа назаўсёды пакідае радзіму—і нават не разьвітаўся з тымі, хто яму быў даражэй за ўсіх, пад замілаванай пяшчотнай апекай каго ён пачаў жыць і пражыў амаль ня ўсё сваё

ня дужа доўгае жыцьцё. Нават не давялося на разьвітаньне пацалаваць матку, моцна, да болю пацiснуць агрубелую шурпатую бацькаву руку. Можа яны, любыя, нават і ня ведаюць, куды ён выправіўся: ён-жа нічога не пасьпеў сказаць ім, ахоплены панічным жахам, жаданьнем выратаваць сваё маладое жыцьцё з рук азьвярэлых паграніччнікаў. І толькі там, у манежы, калі ён ляжаў, прыціснуўшыся да страхі, душачыся ад сухога дробнага пылу, яму стала ясна: больш на радзіме быць нельга—зловяць, і калі не заб'юць на месцы, дык, пакалечанага, зьбітага кінуць дагніваць у якім-небудзь мокрым, цьвілым вастрожным сутарэньні; і адзіным выйсьцем—гэта было так проста і зразумела—ёсьць уцёкі ў Савецкую Беларусь, туды на ўсход пад суровыя шаты чырвонага штандару.

Петрыкавы ногі захлюпалі па празкай балотнай твані. З кожным крокам ногі ўсё глыбей і глыбей грузьлі ў балоце... «Ня пройдзеш»,—з жахам падумаў Петрык і павярнуў назад.

Недзе недалёка грукнуў і гулкім рэхам пакаціўся па густых туманах стрэл. Петрык узмахнуў рукамі і бяз гуку зарыўся носам у гразь.

Сэрца ўзьляцела спалоханаю птушкаю і застыгла ў глыбіні гарачых грудзей. І ў гэты момант Петрыку прышло на памяць апошняе бацькава ўдарожнае і разьвітальнае слова:

...— Ня ідзі па балоце,—шэпча прыціснуўшыся да бярвенчастай сьцяны манежу Марылька, і ў голасе яе дрыжаць сьлёзы:—татка казаў: ня ідзі праз балота—яно пад наглядам, ідзі Воўчым логам на Дзьвіну... Ня ідзі па балоце...

Гэтыя ўспомненыя, перададзеныя Марылькаю бацькавы словы адразу нібы ўстанавілі паміж Петрыкам і далёкім цяпер бацькам няўлоўны ўнутраны кантакт.

— Значыць, ён ведаў, куды я пайду, нават больш, ён накіроўваў мяне на дарогу, гаворачы, каб я ішоў Воўчым логам,—шаптаў Петрык, лежачы ў твані, увесь укуцаны ў балота.

Гэтая ўпэўненасьць надала Петрыку новых сіл. Тое, што бацька ведае, куды ён, Петрык, выправіўся, тое, што бацька, магчыма, нават разумовымі вачыма сочыць за кожным крокам, які Петрык робіць па сваім шляху ў новае—усё гэта дужа ўзрадавала Петрыка.

Супакоіўшыся і пераканаўшыся, што стралялі не па ім, Петрык асьцярожна падняўся, вышаў з балота і нізам Воўчага логу—вялізнай, глыбокай, заваленай непраходным буралomam лагчынай, абапал якое беглі хвалістыя лясістыя ўзвышшы—пайшоў на поўнач. Нізіна Воўчага логу павінна была вывесьці Петрыка на бераг Дзьвіны. Да берагу аставалася каля кілёмэтру.

Аднекуль з туману да Петрыкавых вушэй даляталі далёкія крыкі пеўняў. У зубчастых вяршалінах хвой, што цёмнай таемнай вартаю стаялі абапал Воўчага логу, загуў перадсьвітальны налётны вецер. Змрокі загусьцелі яшчэ больш, зрабіліся яшчэ больш чорнымі і непраглядннымі перад тым, як саступіць дарогу шэрай сьвітальнай імгле.

Петрык сьпяшаўся. Трэба было за якіх паўгадзіны, што яшчэ аставалася да ранку, выбрацца на бераг і пасьпець пераплысьці праз шырокую і глыбокую Дзьвіну. Толькі на правым беразе яе ён мог лічыць першы, самы небясьпечны этап свайго падарожжа скончаным.

Сьпяшаючыся хутчэй выбрацца з Воўчага логу на бераг Дзьвіны, Петрык не забываўся і на асьцярожнасьць. Абмінаючы кусты, нячутна пералазячы праз вываратні, ён увесь час пільна прыслухоўваўся да навакольнае цішыні, над якою, амаль не парушаючы яе, панаваў мерны гуд хвояў. Абыходзячы бураломіну, Петрык незнарок наступіў на сухую галіну. Трэск яе пяруном аддаўся ў Петрыкавым сэрцы. І нібы ў адказ на гэты трэск за блізкім кустом алешыны зашапацела стрывожанае лісьце.

Петрык прыкіпеў да зямлі. Шапаценьне за алешынай таксама сьціхла

«Прасачылі,—рванулася ў мазгу жахлівая думка,—прасачылі. Бахне зараз...»

Раптам нейчыя ногі затупацелі па зямлі. Спатыкаючыся, падаючы і зноў усхопліваючыся, цяжка сапучы, нехта ўцякаў ад таго месца, дзе быў Петрык.

«Спужаўся,—мімаволі лягчэй уздыхнуўшы, усьміхнуўся Петрык,— таксама як і я, пэўне...»

Шарэла.

— Хацяб пасьпець да золаку,—паддаючы ходу, думаў Петрык.

А ісьці было ўсё цяжэй ды цяжэй.

З густога туману на кожным кроку выраставалі масыўныя целы паваленых бурамі сосен, праз якія патрэбна было асьцярожна пералазіць. Між кустоў часьцей і часьцей сустракаліся ямілы, цэлыя вазёры, напоўненыя дзьвінскаю веснавою вадою. Ногі да костачак грузьлі ў густым гляі, які прылепліваўся да падэшваў, рабіў ногі цяжкімі, як пудовыя шалі...

Праз паўгадзіны цяжкой хады высілены Петрык убачыў перад сабою, як вокам скінуць, мора белага густога туману. Гэта была Дзьвіна.

Узвышшы Воўчага логу крутою стромай абрывалася ў самай вадзе.

Змардаваны, увесь мокры ад поту Петрык на хвіліну прысеў пад кустом адпачыць. Трэба было сабраць сілы перад тым, як лезьці ў ваду. Прысеў і адразу ўскочыў: недзе ўгары, звонкая і пярыўная, зазьвінела песьня жаўранка. Бялелі і гасьлі за Дзьвіною зоры. Сьвятлела чорнае неба.

Закруціўшы порткі, торбачку і чаравікі ў чорную бацькаву кашулю Петрык астаўся ў аднэй бялізьне. Добра запраўшы сарочку ў споднікі, Петрык туга падперазаўся скураною дзяжкаю, закасаў да локця рукавы. Белая тканіна бялізны колерам зусім не адрозьнівалася ад туману. Стукала сэрца. Цела абняў няпрыемны востры халадок.

Колер неба за Дзьвіною з шэрага рабіўся сьветла блакітным. З ціхім плёскам каціласяі вірлівая Дзьвіна. Над чорным палатном дзьвінскай халоднай вады плыла шырокая сівая істужка туману.

Колер неба на ўсходзе набываў колер крыві. Звонка зьвінелі жаўранкі. Ішоў з усходу золак.

Петрык, завязаўшы клумак з вопраткай на галаву, падышоў да самага берагу і апошні раз агледнуўся назад. Над краем Петрыка і Петрыкавых бацькоў сьлязьмі асядала раса. Над краем Петрыка і Петрыкавых бацькоў гусьцелі чорныя непраглядныя перадсьвітальныя змрокі.

Непарушная ціша аглушала вушы. На ўсходзе зара настойліва і ўпэўнена разгортвала шырокі і крывавы штандар.

Петрык увайшоў у ваду.

**Менск, лістапад 1932 г.**

А. Граніт

## У ДАРОЗЕ

... Кайданаў звон
Зрываўся з рук, як цяжкі стогн,
І недзе гаснуў, заміраў...
Адзін з тых вязьняў засьпяваў:
„Раз паднялі трынаццаць гут
Бунтарны сьцяг, магутны бунт!

І з кіркай, з молатам пайшлі
Скідаць праклясьце з плеч зямлі.
А на спатканьне адусюль
Ім сыпанулі градам куль.
Мой бацька нёс крывавы сьцяг,
І першы з куляй паў ў грудзях,
Але другі рабочы ўзяў
Із рук забітага штандар.
Яшчэ вышэй яго падняў,
Падняў сьцяг грозны, як пажар.
Раз паднялі трынаццаць гут
Бунтарны сьцяг, магутны бунт!

Ў той дзень напілася зямля
Крыві людзкой... І плакаў я
Над бацькам. Цяжка ён стагнаў
І перад сьмерцю мне казаў:
„Ідзі і стань у тых радах,
Дзе я стаяў. І волі сьцяг
Ня дай ты з рук тваіх узяць,
Ня дай у гразь яго ўтаптаць".
І я пайшоў, як ён казаў,
Пайшоў ў рады барацьбітоў
І як усе не адступаў
Ні крок назад ад куль, штыхоў.
Раз паднялі трынаццаць гут
Бунтарны сьцяг, магутны бунт!"

Заціхла песьня... Рукавом
Канвойны сьцёр сьлязу з шчакі...
Ізноў стальны звон ланцугоў,
Дарожны горкі пыл, пяскі...

**Зах. Беларусь**

---

Міхась Лынькоў

# НА ЧЫРВОНЫХ ЛЯДАХ[1])

(Аповесьць)

## 1. ЦІХІЯ СЯЛІБЫ

Сястра Аўдакія была злосная. Яе маршчакаватьы, як печаная дуля, твар торгаўся ўсімі сваімі барадаўкамі, бляклыя вусны, якія яна штохвілінна абцірала хустачкай, варушыліся, нібы шэпчучы ні то малітву, ні то праклёны нейкія, ці пагрозы. Ды й ня дзіва!

Па-першае:

— Бач ты яго, а яшчэ благачынны. І яму мала... Хапіла-б ужо скарбоначнага збору, дык не, падавай яму частку капліччнага палатна... От напішу маці ігуменьні, няхай праз архірэя вуму-разуму навучыць...

Па-другое:

— І на параходзе чалавеку божаму не праехаць. Каму раба божыя, а то нашоўся: «мадам, пасуньцеся...» Нібы воч чалавек ня мае. Ды яшчэ выскаляецца... І матросы добрыя—каб чалавека за язык да парадку прывесьці, дык і тыя-ж туды. «Не чапайце гэтую плашчаніцу сухую, рассыплецца...»

І па-трэцяе:

— «Оскудзеніе ў людзях». Ты за іх богу маліся, сьвяты пост прыемлі і ня токма пост, а і кожную сераду і пяток ані млека, ані мяса, ані ў зуб скаромінны тае... Усё а госпадзе, а ўсеблагій яго міласьці, а вечным царстве яго думкі свае напаўняй, сэрцам да прастолу яго ўсявышняга вазнасіся...

— А ня дурна-б млекам гэта сьмірэнную плоць уцешыць... Даруе гасподзь за труды праведныя, за дарогу цяжкую...

Сястра Аўдакія шла з прыстані, з параходу. Змарылася, засаплася. Вось і лесу ўскраек, недалёка капліца, хутка і адпачын будзе. І пухавая пярына, і карэц млека халоднага. Марта самавар паставіць, балазе мёд сьвежы стаіць у кубле, соты пахучыя, ня кранутыя...

І пачынае адыходзіць душа сястры Аўдакіі ад крыўд мірскіх, ад сумятні тае чалавечае, грэшнае. Вось гудуць верхавінамі хвоі, гэтак лагодна гудуць, як залатыя пчолы божыя. І па тых верхавінах лаш-

[1]) Працяг, глядзі „Полымя Рэволюцыі" №№ 2-3, 4.

чыцца сонейка сваімі праменьнямі няўміруючымі, цёплымі стрэламі боскімі, схіляецца сонца на захад, усё ніжэй і ніжэй. І як рызы господні, рызы чыстыя, верхавіны тыя хваёвыя палымнеюць...

— Дзіўны дзялы твае, гасподзь, уся прамудрасьцю ясі... І што гэта там за халера?

На палянцы, на пеньчыку, бялее нешта, для палянкі той нязвыклае і нябачанае... Сядзяць удвох... І гэта каля сьвятой крыніцы, недалёчка ад вобразу нерукатворнага? Хто-ж асьмеліўся такі?

Сястра Аўдакія як крот, падбіраецца бліжэй, хаваючыся за разлапістымі елкамі.

— Бач ты іх, дзяўчына й хлапец, няйначай любоў круцяць, от жа знайшлі месца для скверны. Пастой-жа, пужну я вас так, што аж месца ня знойдзеце... А бо-о-жачка... Сьвят, сьвят, сьвят... Да гэта-ж Марта нягодніца... З Андрэем паповым... Божухна, не ўвядзі мяне ў іскушэньне... Да чаго дажылося сьвятое месца божае... Бач, сядзяць, абняліся гады... Іш, прыхілілася, як прыліпла ўсёроўна, як прыкіпела...

Сястра Аўдакія зашылася ў куст, ня можа адвесьці воч ад паганцаў гэтых, што сядзяць вось абняўшыся, гамоняць аб нечым... Божухна мой, шчэ й цалуюцца... Аж затрымцела старая, затрэслася ліхаманкава, суха шоркнулі чоткі ў кастлявых руках манашчыных. Ці то ад злосьці, ці так з прычыны якой. І самой разабрацца цяжка. Не сьцярпела толькі. Шугнула з кусту, ды як кошка, крадучыся, ўподбежку кінулася да тых, да двайх. Сьлінаю пырскала, хадуном хадзіў нос, крычала, тупала нагамі, да таго разьюшылася, што аж зьлезла хустка з галавы, растрэсьліся сівыя кудлы.

— Ты... дух нячысты... Змушчаць душы нявінныя... Сьляды багародзіцы плямішь, яе крыніцу цудатворную... А ты распусьніца... Перахрысьціць ілба ня можаш, а плоць ужо сваю распаляеш памышленьнямі блуднымі...

— От як цяпну я цябе па мышленьню твайму блуднаму, дык адразу дух твой будзе ў руцэ божыяй... Адыйдзі, пудзіла, ня ўводзь у грэх.

Марта кінулася наўцёкі, ня чуючы ног пад сабою. За ёю папляласся сястра Аўдакія, што раз пазіраючы назад і пагражаючы духу нячыстаму ўсімі карамі нябеснымі і зямнымі.

Калі Марта ўбегла ў хату, дык ня ведала, куды дзець твар ад сораму. Сястра Марыя сядзела ля вакна, калупалася нечага з іголкаю і, кінуўшы позірк на Марту, на яе гарэўшы полымем твар, на яе задужа жвавыя рухі, запытала, перакусваючы зубамі нітку:

— Нешта ты як утрапёная?

Марта спрытна завіхалася з венікам, падмятала падлогу. У галаве віхрам насіліся розныя думкі, і цяжка было на чым-небудзь спыніцца, прывесьці іх да парадку.

— От-жа Андрэй падвёў толькі... Колькі сораму таго... Не абярэшся цяпер ад манашак, а галоўнае ад сухарэбрай той... А дужа-ж

хвацкі... Андрэй гэта... Цалуецца от толькі... от дзівак... адно толькі мачокаткі дужа баюся...—прарываецца ў голас думка Марціна.

— Ты чаго гэта?

— А гэта я... Бачыце... Ага... Сястра Аўдакія там ідзе, з гораду прыехала...

— Што ты? Чаму-ж ня кажаш? Сустрэць хіба...

Сястра Аўдакія ўвайшла ў пакой ціха, паважна. Кінуўшы вокам на вобраз, доўга і павольна жагналася, гугнява расьцягваючы айца і сына... І калі атрымала ў адказ «амэн», паволі апусьцілася на лаву, правяла дапытлівым гаспадарчым вокам па ўсім пакоі і, нібы мучаніца тая, пакутніца за ўвесь грэшны сьвет, колькі раз уздыхнула. Уздыхнула цяжка, з надрывам, з ламаньнем пальцаў да хрусту.

— Хіба-ж то дрэннае што, сястра Аўдакія?

— Ніхто як бог...

— Хіба здарылася што?

— ...І яго сьвятыя вялікамучанікі...

— А мо' якія няпрыемнасьці?

— ...І заступнікі варкалабаўскія... Ох, грахі нашы, грахі... І дакуле, госпадзі, на зямлі нас грэшных трымаеш... Замарылася я... Дужа-ж замарылася... А ўсё а госпадзе, а сьвятой абіцелі яго клопаты... Ці не загадала-б ты, сястра Марыя, гэтай грэшніцы, гэтай Магдалене нераскаяннай, гэтай распусьніцы сусьветнай, самавар сагрэць... Дужа-ж гэта цяпер да гарачай вады з дарогі... З варэньнем-бы от... Ты ўжо, сястра Марыя, благаславі Марту на самавар...

— Сястра Аўдакія пасунулася ў другі пакой і доўга сапла там, крактала, распранаючы свае дарожныя, манаскія ўбёры. Потым доўга да поту, піла гарбату, старанна падкладаючы на нявыгшчарблены зуб кавалачак цукру. І памаліўшыся перад лямпадкаю, паклікала да сябе Марту.

— І чаго ёй, лысіне старой, трэба?

— А ну, ну... Хадзі сюды, раба божыя, раба грэшная, раба распусная, раба ня вартая сьледу божага датыкнуцца. Хадзі, хадзі, атракавіца, да не пакрыюцца вусны твае маною... А ну бліжэй... Хто?

— Ну, хто... Хіба ня бачылі?

— Глядзі ў вочы, ня віхляйся... Чаго гэта прыходзіў ён?

— Коняй шукаў, мусіць, зьбеглі ў лужкі...

— Я от табе пакажу лужкі... Дык што-ж вы рабілі там гэта?

— Нічога...

— Як-жа гэта нічога? Ну што, прызмушчаў гэта ён, га?

— Як гэта прызмушчаў?

— Гм... Ды як-жа гэта вы так, га? Дык з хлопцам, кажаш? Да спадобы прышоўся? Салодка з ім мусіць?

— Ды што вы?

— А ну, кажы, кажы, не хавайся...

Сястра Аўдакія вачмі тымі як сьвярдзёлкамі сьвідруе твар Марты. Марта цярэбіць рог хусты, і ня ведае, куды дзець вочы, якія от-от

гатовы пусьціць раўчукі сьлёз. А твар гарыць, па ім бегаюць чырвоныя плямы, палахліва міргаюць чорныя вейкі.

— І чаго гэта вы чэпіцеся да мяне... А бо-о-жачка мой... І што вам патрэбна?

— Ты мне ня плач... Ты мне туман з воч ня пускай... Распранайся адразу, гадаўка... Ну... Табе гавораць, ці што? А ну, сястра Марыля, дапамажы ёй сарочку зьняць.

Марта кідаецца ў куток, адбіваецца рукамі і нагамі, намагаецца ўкусіць руку ненавіснай Аўдакіі. Але ўсё дарэмна. Сарочка ўжо ў руках сястры Аўдакіі, і тая коржыкам панеслася з гэтай сарочкай аж да самай лямпадкі.

Марта стаіць у кутку і глытае сударгава сьлёзы, якія цякуць вось, размазваюцца па твары, падаюць на грудзі, гэтак ганебна выстаўленыя на паказ, на людзкое вока. Белае цела трымціць, пакрываецца крупкамі ад холаду, ад зьнявагі.

— Дык чаго вы хочаце, што вам ад мяне трэба?

— Ладна ўжо,—нібы лагодна і супакоеным ужо тонам адказвае Аўдакія.—А правучыць трэба, каб не павадна было, каб другім разам ня рымсьцілася... Ці доўга да граха, да скверны... А ну, лажыся, раба божыя, на лаву... Ну, ну хуценька... А ты падтрымай яе, сястра Марыля. Ды ніцма, ніцма, от так... Трымай яе за ногі...

Сястра Аўдакія бярэ ручнік, мочыць яго ў карцы з вадою і моцна, спакваля пачынае біць ім па голым Марціным целе. Яна б'е з поцягам, з захапленьнем... Зрэнкі воч яе звузіліся, заблішчэлі яшчэ зьрчэй, ўглядаючыся, як разыходзяцца белыя пісягі па чырвоным целе і як сьціскаюцца сударгава ногі, як сьціскаюцца плечы, гэтыя белыя вуглаватыя, што толькі, толькі пачынаюць наліваццa, як тое яблыка-летаўка, дзявочыя плечы. Прыемная млявасьць авалодвае сястрою Аўдакіяй, салодкімі колікамі заходзіцца сэрца, выступае пот з-пад навіслых кудлаў.

— От жа змарылася, усю руку адбіла, каб на цябе немач... Ну, уставай, ды памятай, як з хлопцамі справы мець... Не таго яшчэ паспытаеш... У-у... сараматніца...

Марта ўзьнімаецца на лаве, сядзіць колькі хвілін нярухома, потым схапіўшыся хуценька, тарапка нацягвае сарочку. Сарочка закасалася зьнізу і на няпрыкрытым мейсцы, расьпісаным узорам пісягоў, пабліскваюць водблікі зялёнай лямпадкі, ды на водбліскі тыя жмурыць вока сваё сьвяты Мікола, сьвяты цудатворца Мірлікійскі...

— Ну ты, карова... Іш да бога павярнулася, выставіла... Разбэхала сьцёгны, хоць ты ў ванглярні іх вешай, гладкая...

Марта сарамліва рыўком абцягвае сарочку і кідаецца з пакою. Сястра Аўдакія доўга стаіць перад лямпадкаю, падцягвае кнот і адбівае ўклоны. Старэчыя вусны шэпчуць нешта, і шэпт гэты—нібы шорах прусоў па за печчу, за комінам. Зялёная лямпадка ціха калышацца з боку ў бок і ад яе паўзуць па сьцяне бледныя цені, калышацца зялёны змрок. Гойдаецца ён управа і ўлева перад сьвятымі

вобразамі, перад сьвятымі ўгоднікамі, што сьцялі ў сьвятасьці сваёй зялёнай заняпалыя, уцягнутыя шчокі.

З-за дзьвярэй чуваць усхліпы. То плача Марта, прылішшы ілбом да аконнае шыбы. За вакном ужо цёмна і шэра, і цёмныя думкі мітусяцца ў Марцінай галаве.

— За што-б... Што ёй трэба сухой?

Сьвят, сьвят, сьвят...—чуваць тыя шэпты ад лампадкі і зялёнай нудой запаўняюць пакой, паўзуць па сьценах, паўзуць на двор, на паляну.

— У-у... зануда...—думае аб чымсьці сястра Марыля. Перад богам выхваляецца, задрыга старая...

---

— Ай-яй-яй... ай-яй-яй...

— Што, татэ?

— Ша!—і паважаны рэб Нохім ізноў чытае ліст, часам спыняецца, прыцмоквае языком, то гучна, то ціха айкае нечаму. Рэб Нохім радасна ўсхваляваны, рэб Нохім чамусьці ўзрадаваны.

— Мае дочкі, падыйдзеце сюды... Ну, Сіма, аць, два, станавіся... Ну, Роха, аць, два—бліжэй...

Сіма глядзіць на Роху, Роха глядзіць зьдзіўлена на Сіму—што за татэ, што за думкі ў яго.

Калі татэ пачынае камандаваць,—відаць, справа сур'ёзная, ці ня думае ён набыць кароў яшчэ дзе, то ня было клопату... І так ледзь упраўляешся з малаком, адны бітоны ачмурылі... Але тату трэба слухаць, татэ ня любіць, каб яго ня слухалі. Сіма і Роха становяцца каля стала—Сіма трохі рудаватая ў прышчыках, прысадзістая—у тату. Роха—тая чарней, гнуткая, як сьцяблінка—у матку вышла. Але абедзьве высокія, рослыя, як хлапцы тыя местачковыя.

— Ну, татэ!

— Слухаем, татэ!

— Ідзеце запражэце каня!

— І ўсяго, татэ?

— А вы думалі?

— Мы нічога ня думалі...

— Дзе-б вам думаць, то-ж бацькаў клопат. Дык от, дочкі, ці ведаеце вы брата вашага татэ?

— Гэта той, што вокны ў горадзе шкліць, крывы Борух?

— Фу-у... які там Борух і ці варта казаць аб ім... то-ж не чалавек, а от так сабе.

— Дык хіба што ў Адэсе?

— Хіба рэбэ Нісан?

— Ай-яй-яй, якія мае разумныя дочкі. Ну, канечне, Нісан, брат рэбе Нохіма... Ну, канечна, ён... Ён, які мае канатны завод, які мае тры-ы-ы дамы, які мае сыноў і мае дачок. І адзін сын у яго доктарам,

які лечыць людзей. І 'шчэ як лечыць! А другі сын вучыцца, а дочкі таксама... уга... дзесьці там на курсах ці ў ўнівэрсытэтах нейкіх навуку праходзяць... Дык от рэбэ Нісан гэта такі ваш дзядзька і выдае ён замуж старэйшую дачку.

Няхай-жа бог дасьць ім усяго найлепшага. Дык піша Нісан ліст да мяне і прывітаньне шле мне і вам усім. Дык запрагайце каня!

Нохім паважна апранаецца ў сьвятошны сурдут і йдзе на двор да калымажкі. Дочкі кіруюць канём, а ён сам сядзіць, ён, паважаны рэб Нохім, паважаны арандатар, ён... уга...

Калымажка паволі ўяжджае ў мястэчка і, паводле ўказаньняў рэб Нохіма, спыняецца ля крамы старой Еўніхі. Тая ўжо выбегла з крамы, ужо ветліва ківае галавою, ужо кінула сьпіцы з недаробленай панчохай і ўся расплываецца ў прыемнай усьмешцы.

— Ай, каго пасылае бог на пачын... Каго бачу я? То рэбэ Нохіма бачу і ўсю сямейку яго... Дык калі ласка, прашу, прашу...

Старая Еўніха хаваецца ў краме, бяжыць за прылавак, цягне адтуль рыпучае крэсла і, зьдзьмухнуўшы для прылiку пыл з яго, падносіць да рэбэ Нохіма. Сіма і Роха злазяць з калымажкі і стаяць ля дзьвярэй. Рэбэ Нохім садзіцца на крэсла, выцірае клятчатаю хусьцінкай пот, які ўкрывае ўсю яго бліскучую лысіну.

— Дык як справы, пані Еўніха?

— А дзякаваць богу... Як кароўкі вашыя?

— Нішто... А як дочкі вашы, пані Еўніха?

— А што з імі робіцца, жаніхоў чакаюць...

— Уга... вашыя дочкі... хіба ім у мястэчку можна знайсьці жаніха? Уга... Хіба толькі ў Карме, няйначай...

— Жартуеце, рэб Нохім... Унь вашы цьвітуць, як ружы ў садзе Алтэравым...

Рэбэ Нохім маўчыць з хвіліну—каго ня радуе пахвала дзецям сваім—і потым камандуе:

— Сіма, ідзі сюды... Ну, ну... аць, два.. Станавіся тут...—І ўжо да Еўнухі:—пане Еўніха, справа да вас. Патрэбна, бачыце амуніцыя некаторая для дачок маіх... А ну, павярніся, Сіма, няхай пані Еўніха агледзіць тваю камплекцыю... Бачыце, адмерайце ёй чаго-небудзь там на ліфчык... Колькі, кажаце? А гэта ўжо самі мяркуйце, дочкі ў мяне нішто... Паркалю? Няхай сабе й паркалю... Не... не... дайце ўжо чаго лепшага... Уга, каб рэб Нохім трымаў сваіх дачок у трантах... Ну, Сіма, айда назад... Роха, бліжэй... Аць, два... станавіся... І Рохі маёй на ліфчык... Аднолькавыя? Не... Рохе дайце от таго, ружовенькага, бо яна ў мяне чорная, у матку ўрадзілася... Чаго-б яшчэ там? Ну, куды ні шло, адмерайце ім яшчэ й на сукенкі. Цяпер, каманда, на воз, пасунем да хаты... Не, не... пачакайце крыху... Пані Еўніха, хіба адмерае яшчэ на ліфчык і дачцы маёй Бэці... не, не... меньш крышачку.. ды ўжо адным разам і на... штонікі там... У горадзе-ж яна ў мяне, у горадзе жыве, вучыцца...

— Ох, рэбэ Нохім, рэб Нохім...—уздыхнула Еўнуха,—цяжка мусіць вам. Гэта-ж трэба, любае дзіця ды ў чужых людзях трымаць. А як яно там жыве, а ці дасьпіць, ці даесьць... Усё то бяз маткі...

— Нішто, дочкі ў мяне па бацьку пайшлі, не загінуць... Ну, каманда, едзем. Дык вот вам і падарункі... А з чаго-б скажам?... А таму—радасьць у мяне сёньня, за брата рады, за справы яго, за сям'ю...

— Гэта за Боруха рады вы, татэ?

— Ой, розум! Што галава, то й розум... Падумаеш, Борух... вялікая цаца Борух... Хто Боруху вінаваты, што жыве так? Дужа мне аб Боруху галава баліць... Як-жа... Буду я аб ім думаць... Уга, валасы пазыпадаюць...

Але часам рэб Нохім думае і аб Боруху. Часьцей за ўсё тады, калі кідае ў скарбонку грошы на бедных. Думае яшчэ Нохім і аб дачцы Бэці.

— Бач, ёй дык усяго накупляў, для яе і грошай не шкадуе,— шэпчуцца ў голас Сіма і Роха, гойдаючыся на перадку калымажкі.

— Вы там цыц... Нечага... Бэці можа суджана вялікім чалавекам быць, можа Бэці будзе шчасьцем вашым... Можа Бэці, да што казаць, нічога вы не разумееце... Ну, от і прыехалі. Ідзеце, ці ня час ужо і каровы даіць...

---

Якаў Смык не маладзён ужо—шосты дзесятак пашоў ад пілпаўкі. А валасы яшчэ чорныя, от пашарэлі хіба крыху ды дзе-ні-дзе прабіваюцца сьветлыя валасіны. Такія-ж і вусы і барада, праўда, рэдкая барада, віхлястая і стаіць от старчаком тым. А ўсё-ж барада, і шануе яе Якаў, пагладжвае, асабліва, калі дзе ў вобчастве, панятым там ці сьведкаю, скажам, ці што.

— Я, пане-браце, ня будзь Якаў Смык, а ня іншы хто... Мянеста ня толькі хто, а й паны паважаюць і, калі хочаш, нават ручкаюцца, калі што... Дзіва тое, мой бацька валовік панскі трымаў, адных-ста валоў было пар з дваццаць... От-жа млын быў... Дык і колькі гэтых паноў перабачыў, не абяры божа...

— Ну дык што з таго, калі бачыў. Хіба-ж і я ня бачыла,—кідае жонка Вася, кабета гадоў пад трыццаць пяць.

— Бачыла, бачыла... от боўціла тое, чаўпе языком няма-ведама што,—перадражнівае жонку Якаў.—Справа ня ў тым, каб бачыць, а каб з панамі абыходжаньне мець. Другі вот няхай хоць і да пана пойдзе, хоць бы і да ўпраўляючага,—дык і ня выходзіць нічога, хоць сабе й на языкі гаворкія. А мне адным вобмегам: і шурку дроў, і палена якое на гумно, калі трэба. Ды ці толькі палена. От, трэба было пасаг дачцы купляць, дык і трыццаць рублёў пазычыў Мацьвей Юльевіч...

— Дзіва то пазычыў, калі ты каля яго, як сьляпень той, вісішся, ды яшчэ сучку гэтую часамі возіў...

— Ці-і-ху ты, шалёная... Ці можна-ж хіба так,—нават подплетка выпадае з Якавых рук, і ўвесь ён абураны.

— Хіба можна так аб чалавеку. Ды й пан-жа ён, ні абы хто. Дрэнна хіба было, калі прыяжджаў вот ды колькі тых грошай на гасьцінцы аддаў. Адным вунь дзецям тваім і то колькі грыўняў перапала.

— Радуйся, дурніца, што распусту завёў у хаце...

— А вот і парадуйся цяпер, калі выехала. Стаіць хата на ростаньні, добра яшчэ, калі падашлюць якога-небудзь настаўніка.

— А ты й рад... Самім-бы ўжо ня грэх перасяліцца, глядзі, столь чарэнь падпірае, спарахнела ўсё.

— Пражывеш і ў гэтай. А лішні рубель які, ён, брат, кішені не праціраае, ён-ста табе не завадзіць. От вучыся ў мяне вуму-разуму, бо прыдзецца-ж калі-небудзь жыць і без мяне. Як ні круці, а прыдзецца...

— Уга, куды загнуў... Ды цябе яшчэ даўбнёй не ўбабэкаеш... Бач, заморкам прыкідаецца....

— Я-ста, канечне, не кажу, што заморак, а розум трэба мець...

І сапраўды, не заморак дзядзька Якаў. Другіх ужо і дзядамі завуць, а ў яго жонка вот, хоць замуж яе аддавай—крамень жонка. Мужыку шосты, а жонка вясной, як пачнуць дзяўчаты вясьнянкі на прызбах пець ды кружыць карагоды, дык от і пашла-б здаецца, на вуліцу, ды з імі, з дзяўчатамі от бы ў прыскочку так і пашла-б па вуліцы, закружылася-б у скоках тых.

— Не, браце Вася, каюк і амэн, досі ўжо нагізавала, глядзі печы ды прытарадчы вячэру дзецям.

І трэба парадчыць. Вунь іх дзяцей загарадзь—аж чатыры на вуліцы бегаюць, ды пятае на падлозе поўзае. Ды што грэх таіць, папікала ў ночы Якава:

— І дзе твой сорам, каб ты ўжо сасьмяг насапраўды. Дзе ты іх падзенеш, калі шостае, крый божа, ды завязь пойдзе...

— Ну, ну, гавары там...

А пра двое старэйшых ад ранейшае жонкі нябошчыцы і казаць ня прыходзіцца, тыя ўжо вялікія, дачка замужам, сын на вайне дзесьці. Шкада крыху сына Арцімона,—гаруе от небарака ў акопах. Хіба рубля якога паслаць, дужа-ж харчы там слабыя... Трэба такі паслаць, усё-ж свае крыві чалавек. Хоць і дурны крыху, от верне пысу ад мачахі. А каб там к слову маткай назваць, дык і не гавары аб тым. Трохі супорлівы чалавек.

— Але нішто... уголас разважае Якаў,—жытка ў мяне, можна сказаць, нішто сабе жытка, дай божа ўсім добрым людзям. Хлеба, дзякаваць богу, уродзіць, ня будзе нястачы і з сенам. Можна, калі на тое пойдзе, з часьці ў Цыбала выкасіць. А хата? Хата добрая й старая, шчэ колькі год можна ў ёй пражыць. Але каго там чорт на гары носіць, аж пыл цярушыцца з бэлек. Няўжо лузаны там мае ізноў усхадзіліся, бач ты іх, мейсца для гульні знайшлі.

Якаў выходзіць з хаты і крадучыся лезе на гару ў прасьценку між хатай і клецьцю. Тут і драбін ня трэба. Упёрся нагой у бервяно хаты, другой у сьценку клеці і лезь. Вось і гара. Якаў асьцярожна выглядае і дзівіцца: прытуліўшыся за лежаком, старэйшы сын Мяфодзя перасыпае нешта, сапучы, з мяшка ў мяшок.

— А што-ж ты робіш тут, гад?

Хлапец аж здрыгануўся і хуценька запіхвае нагой мяшок пад ляжак.

— Бачу, бачу, гад... А ну пакажы, што гэта ў цябе тут за схованкі.

Мяфодзі стаіць унурыўшыся і падцягвае плячмі—дзіва то, без пачастунку не абыйдзешся, а крый божа, даведаецца бацька—будзе дыхту. У яго маленькай галаве роілам ходзяць думкі:

— Вот табе і цукеркі, вот табе й папяросы...

— Але-ж трэба апраўдвацца.

— Дзе ўзяў?—грозна пытае Якаў, бяручы Мяфодзю за каўнер аднэй рукою, а другой перасыпаючы ў мяшку гэткае-ж чыстае, бучное проса.

— А гэта-ж, татачка, Напрэя Казла Хведзька прынёс, мы от і схавалі тутака, прадамо ў нядзелю...

— Хведзька, кажаш... Іш супастаты, у бацькі мусіць сьпёр?

— А хто яго ведае... А мо' ты купіў-бы, татка?

— Ты што гэта, лузан? От вазьму мяшок, ды як агрэю па хрыбту, дык будзеш ведаць, як тыя схованкі крадзеныя рабіць... А гэта самае... ну... як яно... Хведзька твой... Пэўна-ж меркавалі, прадаць за колькі? Хведзька гэта твой, іш злодзей сапліві, а... Дык па чым гэта ён?

— Ды ён, татка рубля думае ўзяць,—гаворыць Мяфодзька і пазірае палахліва на бацьку—а што як агрэе?..

— Рубля? А хваробы ён ня хоча разам з табой... От вазьму Напрэю скажу...

— А, татачка, дык ён-жа і за паўрубля аддасьць, дадушы-ж аддасьць...

— Ну, дык бяры от, ды глядзі, каб я зноў цябе калі не спаймаў тут. Усю скуру скіну з паганца...

Мяфодзю толькі й бачылі. Якаў акуратна сьцёг мяшок з гары і высыпаў у клеці ў кубел з просам. Высыпаў, падзівіўся крыху.

— Каб на вас немач! Кашы тае не набярэшся, жаруць як у процьму, проста такі, як у мяхі тыя дзіравыя сыплецца... От за тыдзень які колькі проса пашло...

Алє задаволены ідзе да хаты—гэткую-ж выгодную справу зрабіў. Задаволены і Мяфодзі, які ўжо рэжа ў ачко за гумнамі, каб то кожнага дню зарабляць грошы так. Цэлы поўрубель грошай—гэта-ж ня жартачкі. І, цмыхаючы тоненькім, як той стручок гарохавым носам, ён паважна банкуе. Сапе ад натугі Пілішка Лаўрэнаў—прайграў аж дзьве грыўні. Чмыхае і стараецца плюнуць праз зубы (от-жа так Аніс шахцёр плюе) кірпаты Ахрэмчык Барташысін, прысадзісты, каржа-

каваты. Тут-жа і Цыбалаў Даніла і Хведзька Напрэяў—хлопчык статны і вёрткі, як сьцяблінка, з прыгожымі задуменнымі вачыма. У Цыбалавага Даніла новыя чабаты, сырыцовай жоўтай скуры, і гэта надае яму пыхі і павагі. Ён адчувае свае перавагі, знарок тыча чобат аж у самы круг, паволі асьцярожна набірае карты.

— Іш ты яго, саплівы... бяры хутчэй, здаецца, гад...—і Данілу штурхае ў бок Піліпка,—ты ў мяне ня дужа, і на чабаты не пагляджім..

— Дык чаго-ж табе трэба,—крыўдуе Даніла і ўжо крывіць рот, гатовы заплакаць.

— І-і... мымра... плаксун матчын, ідзі хаця спадніцай утрыся. Калі ўжо прайграў грыўню, дык і вочы на цэбар...

Каля картыжнікаў поўна ўсякае блазноты,—усе сочаць, як ідзе гульня і зайздроснымі вачыма праводзяць кожны рух Мяфодзькавай рукі, калі той запускае яе ў кішэнь з выйграным пятаком.

Нядзельны вечар ідзе к канцу, ужо не разьбярэш, ці то дама, ці то туз.

— Айда, хлопцы, дзевак пужаць!

Шайка картыжнікаў праносіцца віхрам па вуліцы, аж туды, да канчанскае ўдавы Пруzыны, дзе сыходзяцца дзеўкі на супрадкі, дзе магчыма, і гармонік будзе, і ігрышча наладзіцца. За імі лапаціць, аж слупам пыл узынімаецца, малеча галапузая, бясштонная, саплівая.

— Айда, Пірыпка, гаймонік с'юхаць,—і на хаду выцірае нос аб зашмальцаванае крысо згрэбнай сарочкі, што аж пыліць па дарозе, па пятах.

— От жа няма на іх зводу, на шкнарадзь... Да іх і вайна не дабярэцца. Абы бульбінай напхаў пуза і што яму трэба...—у задуменьні мармоча сабе пад нос старая бабулька, седзячы на падваконьні.

---

Лёкса Козіха крыху і не дабачыць, і кульгае крыху—шчэ нябожчык мужык падбіў калісьці нагу вальком. Калі ідзе ў сваіх парваных чаравіках па падлозе, дык нібы рублі лічыць: руб-два руб-два... Таму й завуць яшчэ часам—Лёкса Руб-два. Але Лёкса ня крыўдзіцца, абы карысьць была ад чалавека. Старэнькая, пахіленая хатка падпёрта з боку статнелымі дубовымі падпорынамі. Маленькія замурзаныя шыбкі ўзіраюцца ў самую зямлю, у пахучую мяту, у рамонкі, што захапілі ўвесь двор аж да самага хляўчука, які стаіць без страхі, з адным толькі рабрынамі паламаных, струхнелых латаў. Некаторыя шыбкі бяз шкла, у іх панапіханы старыя анучы, аблупленыя рукаў колішняй ватоўкі і рызьзё ад андарака.

— Хата мая кляновая—у марозы рыпіць, у нягоды хліпіць, а сяк-так глядзі й ліпіць...

Якая-б там ні была хата, а людная, колькі таго народу ў ёй не перабывае. Засмыліцца ў цябе на душы, загарэніцца—ідзі да Лёксы ці днём ці ўначы—апахмелішся. У яе і чарка для добрага чалавека заўсёды знойдзецца. Ня хочаш чаркі, пляшку бяры, толькі й бяды

разьлічышся, не пашкадуеш кайстры дабра, сала кавалак. У Лёксы і «сыгнал» свой: калі ляжыць на пахіленай шуле каменчык—сьмела йдзі, усё знойдзеш. Няма—выбач—дзесьці з каробкаю адмервае крокі Лёкса, да манапольскі кульгае па галоўкі тыя, па чырвоныя. Цяпер цяжэй, вайна, і манапольскі тыя пазачыняліся. А ў Лёксы ёсьць, на вінакурню ход займела, цягае ўпотайкі па начох гарцамі. Абы ўраднік не наскочыў. Абы пачаставаць было чым. Другі чалавек, які далёкі і начаваць зойдзе, трэба-ж і прытулак даць, і накарміць, і напаіць. Сама хатка пярэбаркай тонкай на дзьве часткі падзелена. За пярэбаркай, што ад самай печы ідзе, сама жыве і дочкі жывуць. Тры дачкі—Салманіда, Ганна і Тацяна. У Салманіды сын, у Ганны дачка, Тацьцяна шчэ так ходзіць, ялаўкаю, як кажа пад злосную руку сама Лёкса. І жывуць чатыры бабы і ніводная мужыка ня мае. А дзеці—самасейкі, от бы мак той ля плоту, і хто яго сеяў там, даглядаў. А дзівіся, парос які, аж у ваччу пярэсьціць. От і дзеці ў хаце самасейкавыя.

Ёсьць яшчэ ў Лёксы конь. Конь ня конь, а кабыла сівая, за Дзянісам нябожчыкам куплялі—пятнаццатая вясна пашла з таго часу, як сканаў Дзяніс, прыцiснула паленам у лесе. Кабылу запрагаюць хіба толькі тады, як трэба сушняку якога, гальля таго з лесу воз прывезьці. Тады ўсе ў чатырох завіхаюцца ля сівой кабылы, выцягваюць з хляўчуку старыя, бяз шынаў, калёсы, доўга корпаюцца з хамутом, з пазычынай у суседкі Агапкі—аднавочкі дугою. Самая маладзейшая—Тацьцяна—урачыста садзіцца на драбіны, усе падганяюць кабылу, каб як-небудзь з месца скрануць. Тады ўжо сама пойдзе. Калёсы панарад трымчыць, лапаціць вобад, і калі пабяжыць кабыла трушком з гары—стукат і грукат разносіцца далёка па ўсім сяле і мястэчку.

Дзядзькі і жанкі ўсьміхаюцца:

— Мусіць Лёксіна «капэля» па дровы паехала...

У Лёксы сядзіць суседка Агапка-аднавочка. Матка Аніса-шахцёра. Яе адзінае вока—пруткае, як мышанятка тое, ня знае ні хвіліны пакою, от так і шнышарыць па ўсіх кутках, па ўсіх шчылінках. Яе твар з гэтым адзіным вокам пад бялёсавымі брывямі ўвесь час насторожаны, як галава яшчаркі той. Яна хуценька захліпаючыся гаворыць, торгаючы рукой ражок хусьцінкі бруднай, выцьвілай, як і ўся Агапчына вопратка. У хусьцінцы грошы завязаны, скарб Агапчын, што хавае ад сына Аніса, каб не прапіў часам, не прабасячыў. Невялікія грошы там—от усяго рублёў з «шашнаццаць», як кажа Агапка, але дзе-ж ты іх паложыш. Таму й торгае рукой, занятак ёсьць, клопаты.

— Дык вот, таечка, і прыходзіць гэта падвечар Сілівон да мяне. Подвечар, от авечкі ўжо ў двары пазаганялі. Думаю, з якой такой прычыны ды Сілівону патрэбна да мяне. А ён сядзіць сабе. Сядзіць. Потым і ка':—пані Агапа, ці-ж табе сын ня сын?» К чаму-б гэта—думаю. А ён ізноў: «Ці вы ня матка над ім? Ці ты-ж сказаць ня можаш яму? Хіба яму й дарогі пазарасталі, акрамя як да мае Яўгінькі?»

— Хіба-ж то й цяпер ходзіць?—пытае Лёкса.

— А што яму... Ну, я й кажу тут Сілівону: «Братачка,—кажу,— ці ў гэтай справе вінавата я, ці што... І ці ведаць павінна я, дзе яго пранцы носяць... От жа не маленькі, яшчэ як на ніз хадзіў, дык быў яму ужо дваццаць пяты год. Ці я-ж яму ўказьніца, хіба да спадніцы яго прывяжу ці што...».

— І то праўда,—падказвае Лёкса,—а чаму ты яго, таечка, не ажэніш. Хіба то дзявок няма, колькі от чарапак гэтых па сяле галузае, а ім ніводная не папрэбуе...

— Дзе ты яго ажэніш. Хіба нячыстая сіла ўжо акруціць. Ходзіць от бугай бугаём... Хіба яму маткі слухаццца. Яму слова скажы, дык ён і пашле, так пашле, што далей некуды.

— Дзіва то...

— Ну, а твае як?

— А што ім робіцца, на пожні старэйшыя, Малявым сена грабуць...

— То-ж чалавек ненажэрлівы. Колькі то аднае пожні захапіў, зязюлькі мае... І куды што яно дзяецца...

— Як куды? Банадыся-ж трэба жаніць, ды й дачка на выданьні. Ды й сын жа ў салдатах недзе. Жвенькаюць людзі—на ахвіцэра вышаў. Пятро гэта. Ды што казаць, хлапец быў хвацкі, шчэ ў горадзе колькі год вучыўся перад салдатамі. Ну, а ты ўсё з дзеўкамі валаводзішся?

— Ды што ты, зязюлечка! Брэшуць людзі ўсё, пагалоску пускаюць, нібыта я дзяўкам дапамагаю, няхай яны абрыдаюць. Калі каторая скіне, дык на мяне плявузгаюць... Каму ня лень пакрыўдзіць мяне старую, усім то я на воку. А вялікі мне клопат, калі каторая нагуляе. Дужа я там завіхацца буду. Каб яны ўжо спарахнелі. Ат, людзі.

З бакоўкі выскачыла Тацьцяна і пашла да дзьвярэй, ветліва павітаўшыся з Агапкай.

У Тацяны тоўстая русая каса, хада ў дзяўчыны плаўная, мягкая— нібы бярліна тая па Дняпры плыве—думае Агапка.

І яшчэ рояцца ў яе думкі:

— Вот-бы ўхажора найсьці гэта каб, ды з розумам. Не адзін-бы трояк у кішэню патрапіў... Дзіва то і ня ў матку дзеўка,—поўная, сакавітая, грудзі тыя, як качкі, ідзе—калыхуцца...

— Нішто ў цябе Тацьцяна, таечка, дзеўка, адным словам,—уголас кідае Агапка.

— Няма чаго бога гнявіць,—расьце бяз край меры....

— Жаніха-б ёй важнецкага.

— Дзе тыя жаніхі цяпер, вадой заліліся. Ды й ці пры маёй гаспадарцы хто пакваліцца на яе. На заработкі от трэба выправіць, хіба ў фольварак, альбо на дойню.

— Ото-ж бо й то...—кажа Агапка. І ці спачувае яна, ці аб чым іншым думае—хто яе ведае. Абедзьве маўчаць. Лёкса глядзіць на

двор, на плот, на якім сушацца гладышы на сонцы. Ля плоту стаіць кабыла, унураўшыся ў гладыш і апусьціўшы ніжнюю губу, стаіць нярухома, адмахваючыся хвастом ад назойлівых мух і сьляпней.

— Здохне хутка, няйначай, бач рэбры тыя павыстарчаліся, паўсыхалі ў скуру, а дзе ты яго цяпер каня набудзеш, маладога,—думае пра сябе Лёкса. За пярэбаркай дзеці пісколяць, Лёксіны ўнукі самасейкавыя. Спрачаюцца аб чымсьці Тацьцяна з Ганнай, спрачаюцца нудна, абрыдліва, ці то з-за хусткі якой, ці за забарсьні сырцовыя, сьвятошныя.

— Каб ты ўжо задушылася імі, як мне патрэбны твае забарсьні.

— А каму іх узяць, як не табе...

— Ціху вы, кабылы... то-ж неўгамонлівыя, непадзялілі чаго...— умешваецца Лёкса.

— Бач, байструкоў напладзілі, не падзеляць,—думае Агапка і кідае ў голас:

— Дык бывай, пані-тая, заходзь ужо калі адвячоркам.

— Ды ўжо-ж, калі-ні-калі прыду...

---

— Хіба от Ігнатка па газу схадзі!

— Ідзі, калі табе трэба...

— Ды ўжо толькі й ведаў, каб сіднем сядзець, каб ты ўжо прымёрз на той лаве... у-у... гора на маю галаву...

— От здох-бы, рада была-б нябось...

— А то плакала-б?

— Замоўчы, заб'ю!

— Сядзі ўжо, недарубак...

— Ты-ы... Ма-а-ць...—узьняўся на лаве, пагражальна запрукацелі мыліцы. Шырокі твар зьбялеў, і на ім выпукліліся напружаныя сківіцы, ды вырачаныя бялкі воч дзіка глядзелі, праціналі вячэрні змрок хаты, і ў іх ня было тае звычайнае жаўціны, у якую афарбаваны гэтыя бялкі днём. Толькі зьзялі гэтыя белыя плямы воч, ды скрыўлены, напружаны твар нібы трымцеў у ліхаманкавай трасучцы, і здавалася старой маці—нібы іскры такія сінія ідуць от ад твару і працінаюць яе слабое, старэчае сэрца. Такія сінія, халодныя і разам пякучыя іскры. Якія абуджаюць жаласьць. Цёплую, ціхую, саромлівую нейкую жаласьць. Сарамліва і боязна неяк прызнацца ў ёй. І ніякавата неяк. А жаль бярэ, шкада бярэ. Старая Прузына стаіць ля печы. У руках ёмашнік. А для чаго той ёмашнік? Хіба сына біцца яна? От так, трапіў неяк у рукі...

— А сын ужо абмяк, асеў на лаву і толькі хударлявыя пальцы рук ходарам ходзяць, ніяк не пападуць на край карца, каб узяць яго, вады выпіць.

— Сыно-о-чак мой,—мітусяцца Прузыніны думкі.—А ці я-ж цябе не даглядала. А ці я табе ліха-гора жадала? А ці я-ж ня думала

аб табе—будзе матцы спакой, будзе ў хаце здабытчык? Дык от табе прычакалася... Пры-ы-чакалася...

— Дык ты ўжо, Ігнатка, папільнуй, каб цялушка ў гарод не заскочыла, а я ўжо схаджу на мястэчка па газу.

— Ідзі хіба...

У хаце пануе вячэрні змрок. У адчыненае вакно плыве пах канапель з агароду, шэлест бярозы за вакном. Дзесьці загуў жук, але раптам змоўк, выгнуўшыся аб шулу. (Абламаў нябось крыльлі, цяпер сіліцца выкараскацца з пяску, і ўсё растапырвае ўцалелае крыло, каб узьняцца, але дзе там, хваробы...—то думкі Ігната, думкі злосныя,—хва-а-робы...). У хаце душна і расплікае каўнер Ігнат, каб выпрастаць грудзі, вятрыску падставіць іх ціхаму, сьвежаму, такому-ж лагоднаму і пяшчотнаму. Шчымяць от толькі недарубкі ног, кульцяпкі гэтыя прыкрыя, хіба на нягоду часам? А сена шчэ ня прыбрана... Але за печкаю цвыркун пяе, і ад песьні той нібы празрыстасьць якая на сэрца лажыцца. І такія-ж ясныя, ясныя думкі ўсплываюць, як той вунь акрайчык неба пад чорным лесам. Таюць трывогі, адлятаюць, белымі ахлопкамі дзесьці сьцелюцца, ападаюць. І пачынаюцца мары. От ідуць, наплываюць, абымаюць цябе, аж захлынаешся часам, нібы даўкасьць якая, прыемная, салодкая, бярэ за горла цябе. Раней ня ведаў Ігнат хвілін такіх. Ці да таго-ж было. А вот, як адняліся ногі, дык колькі часу таго ляжаў. Ды адчуньваючы зноў ляжаў. Дый цяпер хіба здатны да працы. От і вольны час. І ходзяць ходарам думкі, снуюць у нясусьветныя карагоды. Аб вайне—дзіва то, крыві колькі наплыло тае. Пра цара—спаймаў-бы здаецца яго, ды тымі кульцяпкамі па пысе яго, па пысе—ці-ж гэта табе на народ звод пускаць, на людзей згубу чорную. Кажуць, дочкі ў цара ёсьць, міласэрныя нават сёстры... Няйначай, як тыя, што ў шпіталі былі, валавокія тыя, грудастыя. З паноў, кажуць, з вялікіх. Наведвалі гады ў рады.

— Чым хворы, салдацік?—і вусны як на прычасьце складзе. Маўчыць салдацік.

— Баліць хіба, салдацік?—Салдацік адварочвае нос да сьценкі.

— Ах, бедненькі... То-ж пакутнікі шэрыя, душы расейскія простыя, церпялівыя... Дык скажы, салдацік, чым кволішся?

І раптам рыўком словы, нібы кулі тыя алавяныя, што ні слова, то жах, што ні слова—вянуць вусны тыя, на прычасьце што складзены.

— Сьвярбіць, сястра, дужа сьвярбіць... Клізмы хочу, да некуды ўставіць, усю казённую часьць адчыкрыжыла... знарадамі... І ні віду цяпер, а ні с...

— Ах божа, да я... ах... доктару скажу, санітару... няхай дапамогуць... ну, бывайце, салдацікі...—І валавокія, грудастыя, як вялікія тыя матылі белыя, з трапяткім шорахам выляталі за дзьверы. Толькі пах ад іх заставаўся салодкі, даўкі. Спачувальна рагаталі пад коўдрамі землякі, другія цяжка і злосна сплёўвалі, трэція паміналі багародзіцу, кейчую маць і сьвятую тую вош-траяручыцу. Тую, што больш за вераб'я не расьце, загаворная...

Дзіва то не расьце...

... А за вокнамі сутоніцца. Дзесь гамоняць дзяўчаты, разьліваецца сьмех іхны і ў пустым паветры вячэрнім сьмех гэты звоніць, нібы сьплюцца грыўні срэбныя, новыя на стол, на лаву ліпавую. І на сэрцы лягчэй.

А вось і дзяўчаты.

Уваліліся гурмаю ў хату і рассыпаліся як гарох па далоні.

— Гэта ты, Ігнат, чаму лямпы ня паліш?

— Ямчэй от так.

А яно і сапраўды... Дзеванькі, айда ў жмуркі гуляць. А ну-Тацьцяначка, каму чарга пачынаць...—Скогат, гоман, хоць ты сьвятых вынось з хаты. Трышчаць палаці, зыбаюцца палавіцы, аж пыл ляціць са столі.

— Да ці не пашалелі вы часам, то-ж гіз напаў... То-ж няма хлапцоў на іх хвацкіх, каб да парадку давесьці, бач гізуюць...

То ўваходзіць Прузына, ідзе да стала, завіхаецца ўпоцемку ля лямпы, доўга шукае ў прымурку запалак і марудна нешта мармыча пад нос і, поркаючыся над кнотам, запальвае лямпу. Трохі суцішаюцца дзяўкі, сядзяць чырвоныя, спацелыя, галізьлівыя. Вочы так і гараць, шчокі пыхаюць крамянаю чырванью, ходарам ходзяць грудзі, як ня рэпнуць от кофтачкі гэтыя: чырвоныя, жоўтыя, сінія—у палоску, у клетачку, у гарошынку, у макавую тую бубачку. Ды з карункамі, вышываныя, загенчыкамі шкляных маністаў.

— А маманькі, ці-ж тыя хлапцы вадой заліліся, а ні дзыну, ні рыну, ні кагусенькі...

Але ў дзьверы ўжо суне Банадысь. Старастаў Банадысь. Ён абыходзіць усіх з ручкаю, нязграбна шчоўкае абцасамі рыпучых ботаў, здароўкаючыся з Ігнатам—перад вайсковым чалавекам трэба і па вайсковы. Вітаючыся, пасьпявае памацаць «цупкасьць» матэрыі у Настачкі, маладзенькай дзяўчынкі, якая ад сарамлівасьці аж хавае твар за сьпіну другіх дзяўчат. Дзяўкі ўжо насядаюць на Банадыся.

— Семак давай, што ты гэта за кавалер ды бяз семак... А ну, ну, выварочвай кішэні...

Хутка ў хаце поўна людзей. І хлопцаў і дзяўчат. Нават апоўзылікі тыя саплівыя пазьбіраліся, унь ушыліся каторыя за комін, дзівяцца. Ужо трынкнуўшы некалькі раз для прылiку (гэтак расьцягла і жаласьліва) пусьціў на ўсе галасы пераборы свой гармонік Руды Павал з таго канца. І заварушыўся люд. І местачковыя дзяўчаты тут—ліпучыя да гармоніка. Больш слухаюць, а каторая і ў скокі пусьціцца. Унь Фаня-швачка, дачка Абрума, так рэжа, аж як тыя чаравікі трымаюцца.

— Па нашынскі гоцае,—хвалячы абзываюцца хлопцы.

З ліхіх, бяз край меры вясёлых гукаў гармонік абрываецца і, перачакаўшы якую хвіліну, расплываецца павольнымі, плаўнымі гукамі. Ціха гойдаюцца адна за аднэй ліхія пары, крыху нязвыклыя

да марудлівага вальца. Але хутка ўваходзяць у лад і кружацца ў стройным парадку. Толькі от Мяфодзькі гэтыя, Ахрэмчыкі трапляюцца часам пад ногі, перашкаджаюць, а то шчэ і ўшчыпне каторы дзяўчыну зьнецікі.

— Я от цябе, смаркаты, так ушчыкну, што крывёю ўмыешся...

— А ты дужа там... бач ты яе, пава...

Але нішто. Весела. Прыемна гэта ў вальцы. Унь нават некаторыя старыя бабы падпіраюць дзьверы, дзівяцца, гутараць між сабой. Ля Ігната Наста сядзіць. Села аддыхаць, сядзіць і пазірае з захапленьнем на Банадыся. От-жа хлопец. Боты рыпяць аж, сарочка бліскучая, а чуб той, чуб, русы чуб, сукрыты... Ігнат пазірае на Насту і шчыміць крыху сэрца. От бы пайсьці з ёю ў скокі, закружыцца так, каб аж заняло дыхаць, несьці яе на руках, як саломінку тую, як пярынку. Бач, які нос у яе, а гэты шоўк валос, такія ядраныя шчокі, залацісты пух сукрыцца на шыі, а вочы тыя, вочы...

— Настачка,—кратае за руку і рука мімаволі адсуваецца ў бок.

— Настулька!—нахіліўшыся да вуха.

— Га...—спалохана,—чаго табе трэба?

— Гэта я...

— Ай, адчапіся... Не перашкаджай, бо хлапцоў ня бачу, бач, як прыгожа унь скачуць...

— Скачуць... так... ска-а-чуць, гады. У-у... сьцервы ня нашага бога...

Настачка робіць вялікія вочы і напалоханая перасоўваецца падалей ад Ігната. Ён сядзіць нярухомы і ўглядаецца, як угінаюцца палавіцы, як мітусяцца боты, чаравікі, сырыцовыя забарсьні чорныя, а от і проста басанож адбівае нехта тахты, вёртка падхватвае ногі ад ёмкіх абсацаў, падковак.

Але гармонік сьціхае. Нехта спрачаецца з гарманістам. То з другога сяла хлопцы прышлі, свой наводзяць парадак, і от павінен ім гарманіст барыню сыграць, для іх гэта значыцца, па іх спэцыяльнаму загаду. Ужо чырвоны Банадысь перад імі, сапе злосны. З імі і другія хлопцы, свае, сяльчанскія. Каторыя з баб старэйшых, што падпіралі дзьверы, пасунуліся на вуліцу, да вакон, малеча за комін ушчылілася, каторыя пужлівейшыя дзяўкі, пасунуліся ад стала падалей,— шчэ цяпне каторы зьнецiку ў карак, тады і шукай, хто. І ня ўгледзіць, як даў нехта па шкле лямпы, толькі пырснулі ў сьцены апшкалёпачкі тыя. І пачалася тузаніна, крык вэрхал, сьцены ходарам. Дзяўкі, як авечкі тыя, на вуліцу драпанулі. Пацягнулася на двор і ўся баталія. І доўга па вуліцах, па агародах бегалі як апшалелыя хлапцы, з дручкамі, з папружкамі, з апгакецінамі. Суседзяў лавілі, з другога сяла хлапцоў. І каб залішне не наводзілі фанабэрыі другім разам, цягнулі іх у старую лазьню, няхай от прачухаюцца да раніцы.

— Пасядзеце от, у Прузыніна ай лазьні, пашуруйце палок, дзе Прузына парыцца... Хіба от венікаў даць...

«Вязьні» раўлі на ўсё мястэчка і білі што моцы ў дзьверы. Але дзе ты іх асіліш, калі колькі тых дручкоў дзьверы падпёрла, да шчэ шулу старую нечую прыцягнулі хлопцы, волакам завалілі.

— От вам як лямпы біць, супастаты.

Умяшаўшыся ў справу соцкі—чалавек чаргу адбываў начную. Ды дзе там:

— У лазьню мо' хочаш, дык папарым...

— А каб вас прапцы паелі, бязулы... Няма на вас, на каторых, лібізацыі...

— Пагаворы там...

Звозіў копы Андрэй на лясной дзялянцы ля парому. Накладаў на вазы і звозіў на ўзгорак, дзе падвечар стог меліся класьці. Аднаму ня зусім было зручна: то разлазіцца воз, некаму ўтаптаць, то толькі пачнеш рубель уціскаць, вяроўка выскліжнецца, пакуль ты яе ізноў уцэліш накінуць. Накладаў і лаяўся, каня лаяў.

— Ты от у мяне павярушыся, падла доўгагрывая... Бач, як поп той, дужа ўжо скнарысты, ні аднэй травіны не праміне, каб ня згрызьці. І поп-жа шкадуе, каб людзей наняць, каб лішнюю якую залатоўку з кішэні пусьціць, дык «едзь адзін ужо, пасьцягвай капежкі, а падвечар паклічу каго, тады і стажок скідаеце».

А калі сьцёг апошнюю капу, распрог каня і пусьціў яго папасвацца крыху. Той узабраўся на сушэйшае мейсца і, адчуваючы сваю поўную волю конскую, доўга качаўся па зямлі і толькі ціхае іржаньне яго сьведчыла аб вялікай асалодзе, аб вялікім задавальненьні конскім. Калі скончыў устаў, падбрыкнуў разы са два і пашоў ціхенька выбіраць смачнейшыя травіны, скубсьці салодкую атаву пад лесам.

Андрэй забраўся ў цянькі і, лежачы на сьвежым пахучым сене, узіраўся ў бяздонную небавую сінь. Сонца ўжо схілілася з поўдня, і ня так пяклі яго празрыстыя праменьні. Ледзь-ледзь гаманілі верхавінамі хвоі, ды асіны, што стаялі на ўскрайку лесу шапацелі аб нечым сваімі кволымі трапяткімі лісткамі. Хіба аб блізкай восені, аб убёрах восеньскіх, жоўтых, мядзяных з адценьнямі чырвані цёплай. Да аб вятрох восеньскіх, што загойдаюць, зашугаюць па мокрых галінках, і затрапечуць галіны, зацярушаць лістамі пажоўклымі, затрымцяць сарамліва, скідаючы адзеньне сваё, пасьцілаючы ўбёры летнія па зямлі.

— Захаладала ўжо вока сонцава, бач глядзець у яго можна...

З лесу цягне пахам грыбоў, цьвілога лісьця і дрэва. Ды кружыць голаў салодкі пах багуну з лагчыны. Перакліkаюцца дзесьці, мусіць пастушкі, або хто па грыбох ходзіць. І прыемна ляжаць от так, прыслухацца да гукаў лясных, да шэпту лістовага, што хіліць да сну. Але нехта ідзе, чуваць, як патрэскваюць галінкі і суха шархаціць папараць на ўскрайку паляны, як чмокае вада пад чымсьці нагамі. Але лянота паварухнуцца, зірнуць туды. Крокі бліжэй, вось спы-

ніліся—відаць шукае каго чалавек, вачмі шукае. І раптам нечыя рукі цягнуць з капежкі.

— Ага, папаўся, лодыр!

Андрэй спаўзае з капежкі, ловіць рукамі дзяўчынін твар.

— Мартачка, а я думаў, што ты і ня прыдзеш. Усе копы сьцягнуў, а цябе ўсё няма і нямашака...

— Дурань... Ото-ж і добра, пасьцягаў копы, а цяпер і вольны... А я ледзь адпрасілася ў качарэжкі той. Я ўжо й так, я й гэтак: у траву,—кажу,—пайду, назьбіраю кветак вам, ды травы крыху... Яна унь цэлыя венікі вяжа, усю століь завесіла, усё ад хвароб розных... Я й то ўжо крыху прылаўчылася, ведаю, дзе і якая трава ад чаго: ад прастуды, ад жывата, калі ногі заломяць... Нават кроў затрымаць, і то ўжо магу...

— Ўга... У мяне от кроў так і кіпіць, так і шваркоча, а чым ты яе затрымаеш?

— Яшчэ што выдумаеш...

Марта сарамяжліва садзіцца поплеч.

— От ужо жыты пачалі жаць па ўзгорках... — гаворыць яна нараспеў, нібы прыслухаецца да свайго голасу.—Хутка, казала Марыля, прыстол будзе. Ганак ля капліцы папраўлялі ды на калодзежы на крыніцы зруб аднавілі, некалькі вянкоў новых дубовых паставілі.

— А як ты, Марта, думаеш, у крыніцы сьвянцоная вада ці не?

— А то як-жа... Вядома сьвянцоная... Вунь і сястра Аўдакія кажа...

— Ну, што твая качарэжка кажа?

— Ды от, кажа, у ясныя ночы, калі месік заглядаецца ў крыніцу, тады сыходзіць багародзіца з вобразу, купае хрыста ў ёй...

— З мылам?

— Аб чым ты гэта?

— Ды пытаюся, з мылам яна хрыста мые, ці от проста так папалошча, ды й годзе?

— А божухна, да змоўкні ты, язык-жа адсохне, от пасьмей толькі яшчэ сказаць так.

— Дурніца ты... Хіба-ж бачыла ты, як багародзіца гэта з вобразу сыходзіць?

— Я? Не, я ня бачыла... Але-ж сястра Аўдакія кажа, ды й людзі кажуць, ізноў-жа і Амяльлян кажа...

— Багата табе чаго твая Аўдакія нагавора. Чаго-ж гэта багародзіцы ня грэх у дзеўках раджаць. Бач, байстручка займела, ды й рада гэтаму сьвяту. А от бабы дурныя, разявы дзіравыя, носяць от дзяцей пупок той цалаваць байструковы, а мо' ад залатухі і дапаможа. Пацалуе пупок, да Аўдакію ў ручку цмок, да з дзесятак яец дасьць яшчэ. Аўдакія і нітачку тую, што ты-ж па яе даручэньню скрозь мышыныя вочы праццягвала гэта, каб дзіцяці на шыю вешаць... От ужо й будуць лекі і ад залатухі і ад грызі...

— Ды гэта-ж ужо сястра Аўдакія лечыць, а прычым-жа тут багародзіца... І дзе ты язык такі займеў, от убача госпад бог, ды й адсячэ, адваліцца...

— Не адваліцца!

— Да душы-ж адваліцца. От сястра Аўдакія...

— Ды кінь ты Аўдакію сваю, от узьлюбіла ты яе... А чаго яна да цябе чэпіцца?

— А хіба я ведаю.

— То та, ня ведаю... Слухайся от сьвятых сваіх, дык дурніцаю станеш... Чаго ёй карціць, што яна мае да цябе, калі сама нават біцца да цябе кідаецца. А ці ёй-жа, боскай паслушніцы, ды гэта кідацца біцца?

— Хіба я ведаю?

— То-ж то ня ведаеш... Ах-жа ты, мая няведніца, дай-жа я цябе хіба пацалую...

— Табе толькі й карціць, каб гэта... Нечага там... Сястра Аўдакія кажа і за кожны пацалунак з хлопцам будзеш ты ў пекле на круку вісець, ды ўзьдзенуць цябе за вусны, ды 'шчэ па гэтых вуснах прапякуць цябе жалезам каленым. Смаліць будуць: а не цалуйся з хлопцамі, а не цалуйся з кірпатымі от так, а не цалуйся з такімі от дурнесенькімі, а не цалуйся з такімі заразамі..

— Маці мая, царыца нябесная... Усё сена зьбілі... Дапамажы божа!

Айцец Панфіл стаіць ля капежкі, і калі толькі вынырнуў гад? Ён хітра ўсьміхаецца і бярэцца за праблі. Марта адразу кідаецца ў бок, але раптам схамянуўшыся і апусьціўшы вочы долу, просіць:

— Бацюшка, дык хіба й я дапамагу стог скідаць...

— Каб ён ды пры дапамозе тваёй не раскідаўся, чада маё... Але як хочаш, калі ўжо ў цябе такая ахвота, дык бярыся, працуй... А мо' і пасобіш крыху..

Андрэй моўчкі бярэ рашуча вілы і вось вось здаецца пратне ён папа, які, бач, моду ўзяў, зьяўляцца там, дзе яго ня просяць. Але вілы ўядаюцца ў тоўсты пласт сена і папраўляюць капёжку.

— Дык ты, Андрэй, падграбі тут крыху, а зараз Амяльлян прыдзе, ды мо' Лаўрэн падскоча, ды й скінеш стажок тымчасам...— І да Марылі:—Ну; дык калі, чада маё, на хрысьціны пазавеш і як зваць будам?—і пострэкія вочы айца Панфіла сьвідруюць постаць Марціну.

— Яна стаіць унурыўшыся, глядзіць кудысьці ўніз, дзе, заблытаўшыся ў сене, выглядае парыжэлы бацюшкаў чобат. Раптам адна за адной выплываюць сьлязінкі і коцяцца па шчацэ адна за адной. І адвярнуўшыся, раптам пацінае Марта плячмі і сударгава ўсхліпвае, абліваючыся сьлязьмі. Поп хмурыць бровы і да Андрэя:

— Ну, што-ж, змусьціў, нячысты дух, дзяўчыну, цяпер суцяшай ідзі. То-ж безьлюдзь, ня могуць так, каб гэта да па людзкі...

Андрэй ня ведае, што рабіць і чаго расхадзілася гэта яна з якой прычыны.

— Ну, чаго ты?

— Чаго, чаго... Ніколі людзкага слова ад іх не пачуеш... От качарэжка тая, манашкай завецца, дык скажы ёй, абавязкова скажы, як і што, цалаваліся як, што рабілі... Дык і бацюшка такі... Усё ім грэшнае на ўме...

Айцец Панфіл вінавата лыпае вачмі і, як пабіты сабака, моўчкі адыходзіць у бок, да ўскрайку лесу.

— Ды вы ўжо пачынайце тымчасам, а вунь і Амяльлян ідзе, ды й Лаўрэн хуткім часам...

— Ідзі ўжо, ідзі, жарабок стаенны,—мармоча пад нос Андрэй.— А ты чаго вочы распусьціла?

— А чаго яны чэпяцца?

— Дурная, то-ж сьвятыя твае, ім-жа акрамя як пра тое, нішто і ў голаў ня лезе...

— Складалі стог аж да самага позьняга. Ужо сьцямнела, як завяршылі яго. Андрэй узяў крыху ў бок, калі ехалі з пожні, каб падвезьці Марту. Гаварылі аб усякай драбязе, як манашкі жывуць, як ганяе поп пападзьдзю, як цягае ён, Андрэй, гладыш з сьмятанай.

— І чаго гэта яны скнары такія?

— А запытай ты іх... Чым багацей, тым больш скнары. Вунь у Цыбала парабак Напрэй дык таксама толькі бульбу жарэ, а калі ўжо ў сьвята якое собіць там чаго перахапіць, дык і то ў рот глядзяць, каб зьмаглі, дык, здаецца-б і з роту выцяглі...

— Напрэй, кажаш... А ў мяне брат таксама Напрэй. Толькі ня ведаю, дзе ён цяпер, таксама ў парабкох служыць...

На раскрыжаваньні дарог разышліся і толькі тут схамянулася Марта, што прыдзе яна да хаты ні з чым. Нават спынілася крыху, пастаяла хвілінку, але ўжо рашуча пашла да каплiцы.

— Ня зьесьць... А будзе дапытвацца, дык ня змоўчу. Ім толькі скарыся, дык і сарочку сьцягнуць...

---

«...жывом от, вошай гадуем. І нішто, п'юць нашу кровушку... Да як ужо небудзь прыдзе час, дамо як сьлед усім крывасмокам, ужо яны будуць ведаць... Ды, скажы там старасту, каб з пожнямі задужа ня крущіў, бо жылы ўсе павыкручваем, калі міне часам куля германская, ды да хат вернемся...»

Напрэй Казёл слухае ліст ад брата свайго Сёмкі Казла, што ўжо другі год як на вайне. Ліст чытае па складох Хведзька, чытае ў нос— няйначай прастыў гад недзе,—і ня дужа Напрэю ў толк, што гэта там у лісту пішацца. Але Хведзька дапамагае бацьку:

— Гэта, татка, дзядзька пра старасту піша, пра крывасмока нашага. Кажа, увесь хрыбет старасту зруйнуюць, калі з вайны вернуцца. Гэта няйначай як за пожні канчанскія...

— Дужа ты, саплівы, ведаеш, дзе яно і што да чаго. Як жа, паспрабуй слова яму сказаць, хоць-бы сабе й старасту, калі тут табе і вураднік і прыстаў і сам земскі начальнік. Што ні кажы, вялікую сілу чалавек займаў... Як-жа, возьмеш яго голымі рукамі...

— А яно-ж, татка, людзей гэта багата, а стараста адзін, ды й вураднік адзін...

— Цыц ты, шуядзь, чытай далей...

У хаце сядзяць: Лявон Ражок, Жаранкоў Хведар, Цыпрон Гугнявы, ды цётка Барташыха скіліла галаву на далонь, прыслухваецца.

— А ён гэта піша ўга, важнецкі піша...—кідае паважна Лявон і лезе ў кішэнь па табаку.

— Нябось ня так яшчэ ў акопе запішаш. Яно, брат, таго... Шчэ ў японскую вайну...—але закурваючы ўжо забыўся Хведар Жаранкоў, пра што гэта хацеў сказаць ён. Ды і ліст зноў чытаюць.

— ... ходзяць чуткі па салдатах—няйначай перадзел будзе зямельны. А як яно што—ня ведама яшчэ... А добра было-б, ды каб спраўдзілася. А чуткі нездарма. Бо некаторым з нашых, што са мной у акопах, пішуць, от, што і маёнткі ў іх паляць, дык мо' як і спраўдзіцца...

— Глядзі ты, дай-жа божа ды ў час добры!—уздыхае Барташыха.

— ... а вайне мо' і капут будзе, бо пішуць, што рабочыя дужа-ж супроць вайны пашлі, унь па каторых гарадох дык на фабрыках ды заводах хвалюецца народ, супроць закону выступае. Асабліва то ў Пецярбурзе, як кажуць нашыя хлопцы...

— Гэта ўжо здарма... Як можна, каб супроць закону! Ня можа чалавек супроць закону йсьці, бо ня намі гэты закон дадзены... Вунь у пятым годзе, дык колькі-та народу пабілі ў горадзе. А ўсё супроць закону ішлі. Не, гэта здарма...

— Што здарма?

— Да што супроць закону.

— Лапаць ты лазовы... Пражыў колькі год і хоць-бы табе разуменьне меў якое малое. Здарма, здарма...—перадражнівае Напрэй Жаранкова.

Ужо даўно скончаны ліст, перачытаны ўсе ўклоны і пажаданьні, а людзі сядзяць і зрэдку перакідаюцца думкамі кароткімі, сьціслымі, от такімі-ж простымі думкамі, як зямля, на якой сеяць трэба і няма часам на чым пасеяць.

— Дзіва то зямля... Вялікае слова зямля... Але як-жа ты да яе прыступішся, калі от за пожнямі—панскае, за рэчкай—папоўскае, пад лесам—ізноў жа панскае...

А ў цябе які шнур дык з бараною на ім ня выцягнешся...

— Ды яно-ж так, Лявонка,—устаўляе свае словы Барташыха,— у мяне от адзін на вайне, ды 'шчэ во' трое. А дзе ты ім зямлі набярэшся. Гэта-ж табе не пасеяць—узяў бы от і пасеяў. Гэта-ж зямля!

— Не кажы, чалавеча...

— От вам і зямля... А хто за гэтую зямлю, ды косткі свае ў зямлі парыць. Палічы от, колькі з аднаго нашага мястэчка людзей пабралі, да ўжо й няма некаторых. А колькі іх яшчэ ня будзе...

— Адзін гаспод бог ведае,—адказвае Барташыха і яе парэпаны, загарэлы твар робіцца яшчэ цямнейшы.

— А мо'-б як і дачакаліся. Вальней каб. Як ніяк, а павінна вайна палёгку нейкую зрабіць, каб дыхаць вальней.

— Як-жа, расьпіразвайся... Дасьць яна, прычакаеш!

— А хто яго тымчасам ведае?

Разыходзіліся. І ў кожнага варушыліся думкі. Вот як жорны тыя, марудныя, нярухомыя. І кожны жадаў, і кожны хацеў. І кожны верыў.

— А мо' яно што і будзе...

---

— Цялу-у-шачка мая!

Настуля выходзіла на двор, куды забягала з пашы па даўней звычцы цялушка, якую купіў тады з таргоў Цыбал. Яна лашчыла яе, давала скарынку хлеба. І тая нібы-та спагадна мыкала аб чымсьці, аб сваім, каровіным, цялячым. І шла да хлява.

— Не ўжо, мая лысыя, у хлеў я цябе ня пушчу, ідзі ўжо да свайго.

Заўсёды забягала па цялушку Макрыда, альбо зьяўляўся сам Цыбал. Ён ня гледзячы ў вочы, здароўкаўся з Мартай.

Дык ужо добры вечар, калі што...

— Каму і як...

— Дык хіба ты яшчэ злуеш за што?

Марта не адказвала. Яна звычайна пазірала, як не давалася цялушка ў рукі, як пускалася ў побрыкі па двары і як засопшыся бегаў усьлед за ёю Цыбал, перастаўляючы кароткія, як цюльпахі тыя, ногі.

— То-ж дай ёй рады... Вось я табе высьпятка ўжо як дам, дык ты мне пабрыкаеш, гіз на цябе ўсьсеў...

— Чужое, дык у рукі не даецца...—заўважвае нібы так, ні да чога, Настуля.

— Як гэта чужое? А чые грошы плачаны?

— Грошы? Вялікія тыя грошы... Хапіла-б хіба, каб пятлю купіць засіліцца за тыя грошы, калі можна грашмі лічыць капейчыны тыя Юдавы... Хіба то продаж, зладзейства то, а ня продаж. От кажуць, Хведар Жаранок злодзей—курыцу ўкраў... Не, ня ён злодзей. Ня там шукаць злодзея трэба... Другія от, у каторых з пуза лезе, а яны ўсё ўзахапкі, каб-жа да ўвесь сьвет у свае зладзейскія лапы ўзяць, каб-жа ў другога апошні акраец хлеба са стала сьперці... То-ж зладзюганы, крыважэрнікі...

— Ты гэта...

— Я гэта.

— Ты гэта, рыбачка, ня дужа каб зьвягала, ды са злодзеем гэта...

— А што?

— Ды кажу, каб ня дужа. Бо закон, ён, браце, не абышто, а за-кон, закон, табе гавару... Ён табе, браце...

— Воўк табе лесавы—брат... Бач, панібрат які знашоўся...

— Каб ты ўжо спарахнела. От жа язык, ты ёй, як з чалавекам, а яна на тры ступы, так і таўчэ, так і таўчэ... Ах, каб жа на цябе паляруш, ды на язык твой пякельны... то-ж без мазаля язык, як чым змазаны...

— Ідзі, ідзі з двара... Адразу-ж, каб і паху твайго ды й цялушкі тваё крадзенай тут не засталося. Адразу-ж, айда. А то не пагляджу на цябе, што ты мужчына, от увесь паркан паламаю аб твой хрыбет зладзейскі...

— Каб на цябе немач... От-жа кабеціна, даруй ты, божа...

---

Жалі ў Мялавых жыта. Жалі ўсе тыя, што на адработ пазычаліся. Тут і Тацьцяна Козішка і Палашчына Настачка і шмат яшчэ якія дзеўкі і салдаткі. Банадысь снапы зносіў. Складала ў бабкі дачка старастава. Калі сонца на поўдні стала, пачалі палуднаваць. Полудзень прывезла жонка старастава. Сабіраліся ля калёс і тут на посьцілцы і раскладаліся есьці. Старая наразала хлеб, усё старалася, каб станіць як лусты, не задужа ўжо каб раскідацца з дарам божым. Налівала поліўкі ў міскі і ўсё прымярала, прыкідала вокам, ці то хопіць ці не, накарміць каб.

— От жа арава, ці ты наварышся на яе, гэта-ж чыгун патрэбны, уга які...—думала яна, раскладаючы па кавалку мяса. Як ні скнара яна была, але-ж бяз мяса па полудзень нельга. На тое-ж жніво, а сыты чалавек ён табе ўдвойчы сажне.

— Дык вы ўжо, дзеванькі, ня дужа каб прахаладваліся, бо цяпянькі вы, канечне, упадабаеце, але трэба-ж як-небудзь і загон дажаць давечару.

— А калі й не сажнём, толькі й бяды: заўтра дажнём.

— Не, ягадка, заўтра трэба пачынаць пад лесам. Жыта яно, галубка, не чакае. Дзень, другі—яно і сыплецца... У другіх гаспадароў яно, канечне, і прычакаць можа крыху, бо й жніво таго, на дзедаў ўчкур. А ў нас-жа, уга, гаспадарка гэткая!

— Дзе-ж яго дзяваць гэтулькі жыта?

— Як гэта дзе дзяваць? У гаспадарцы яно ўсё спатрэбіцца, усё сваё месца знойдзе. Дзіва то, дзе дзяваць... Абы было!

Калі ўжо вечарэла, зносіла снапы Тацьцяна з Банадысём, дапамагаў. Ён хадзіў поплеч і ня столькі было тае дапамогі, колькі перашкаджаў толькі.

— Дужа ў цябе от каса тоўстая!

— Тоўстая, да не пра цябе.

— І грудзі ў цябе, як пампукі, крамяныя...

— А што табе клопат аб іх?

— Гэта я так. А калі прыду нанач сёньня, ці прымеш?

— Падумаеш, пэрсона гэткая, каб яшчэ да прымала. Вунь Настачка вочы на цябе прагледзіла, чаму-б табе і ня йсьці да яе...

— А можа ты мне падабаешся...

— Дужа там.

— Дальбог жа, Тацьцяна. Вот гляджу на цябе і дзіўлюся: дзеўка ты, не сказаць, каб з гаспадаркі якой, а ўсё пры месцы. І вочы ў цябе мне падабаюцца, і косы. От каб яшчэ хвартух з карункамі, дык і зусім тады хоць ты да шлюбу...

— Годзе табе ўжо кепікі строіць...

— Ды я ўсур'ёз. Пры чым тут кепікі, кажу што думаю. Да душы-ж ты мне да спадобы, хоць адразу да папа йдзі.

— Дзе ўжо табе, ты шукай сабе кампанію, каб роўную, от у Цымбала Макрыду, дзеўка нішто.

— Касавокая?

— Толькі тае бяды. Затое бацька пасаг дасьць і ёсьць з чаго даць.

— Ужо з поля ішлі, а Банадысь ўсё ня кідаў свае гаворкі.

— Дык прымаеш, кажаш...

— Адчапіся ўжо, назола.

— А ўсё-ж?

— Вот прысьпічыла чалавеку. І дзе гэта відана, каб от адразу, ды 'шчэ прыняць яго. А ты пахадзі, папрасіся, добра пакланіся дзеўцы, ды словам ае ласкавым прытулі. А то на табе: грудзі крамяныя, прымі яго. Што я табе гуляшчая якая?

— Да я ўсур'ёз-жа, Тацьцяна, кажу, не на жарт...

— А калі ўсур'ёз, дык і рабі па-людзку.

— Дык калі прыду?

— Папаў на язык, не перамеле.

— Дык прыду ўжо, Тацьцяна!

— От смала тая...

---

Іван Іванавіч падаграване жалезіну, каб лямеш наварыць. Зьлізала зямелька, прытупіла лямеш, замардуеш каня з плугам такім. Лявон паддувае мех. На кучы ўсякага жалезнага ламачча сядзіць цётка Барташыха—прывяла кабылу падкуць. Шыпіць у горане, разьлятаюцца іскры адтуль і сыплюцца на падлогу, на кавальскі хвартух, на яго рукі чорныя.

— Глядзі ты, і не пячэ!

— А чаму яму пячы?

Пад спрытнымі рукамі каваля выцягваецца лямеш, выростае. Вось і дзіркі тыя прасьвідраваў.

— Давай плужок!

Усё як сьлед прыпраўлена, хоць ты запрагай каня ды ў поле.

— Дык дзякую, Іван Іванавіч, цяпер і папар можна ўзьняць, усё жыта адсеяць...

— На здаровейка!

Лявон Ражок ужо зьбіраецца ісьці, але, прыгадаўшы нешта, мнецца з хвіліну і запытвае.

— От што, Іван Іванавіч, чалавек вы ў нас, можна сказаць, разумны. Скажэце, як вы глядзіце на такую от праяву. Ліст гэта атрымаў Напрэй ад Сёмкі, ад брата. Піша той, што чакаць можна пасьля вайны, а то й цяпер, перадзелу зямлі, нібыта і рабочыя там супроць закону выступаюць...

— Ну?

— Дык от, ці можа гэта быць, каб з зямлёй, значыцца, ды па новаму?

— Гм... Як табе сказаць... Яно на сьвеце няма нічога такога, каб не змагло спраўдзіцца. Асабліва, калі рабочыя гуртам возьмуцца, дык яно можа і споўніцца...

— Дык споўніцца, кажаце?

— А чаму й не... Усё можа быць, чалавеча. Рабочы чалавек чаго захоча, таго можа і дабіцца. Ды 'шчэ, скажам, калі й селянін спаць ня будзе, а дапаможа яму, ды пачне паноў падкурваць патроху.

— Дык кажаце, можа быць гэта?

— Ясна, можа.

— Дык вялікае-ж вам дзякуй. А мы, прызнацца, сумняваліся крыху—як гэта можна, ды супроць закону? А войска нашто, а паліцыя, а жандары тыя, стражнікі. Дык яшчэ дзякуй... От яно што значыць.

І Лявон пазірае на цётку Барташыху з такім выглядам, нібы хоча сказаць: «А што, я не гаварыў вам раней, хіба не па мойму вышла». Узяўшы на плечы плужок, Лявон бадзёры ідзе да хаты і пазьбітыя кіпці ног узьнімаюць на вуліцы цэлыя воблакі пылу.

— От што значыць, пагаварыць з разумным чалавекам. Яно і Сёмка не павінен-б брахаць. Таксама хвацкі хлопец. Разумны чалавек. Але ўсё-ж можа быць. А калі й другі чалавек такой-жа думкі, дык пэўна-ж што-небудзь і будзе. Дай-жа ты, божа.

І Лявону Ражку ўяўляюцца перад вачмі яго вузенькія шнурыкі, дзе ўжо часам і касой не размахнешся, няма ведама як і грэчку скасіць. А ратоў гэтых, каб на іх нарад, процьма.

Што год, то рот. Вунь і цяпер Лявонава жонка, гушкаючы малога ў калысцы, з трывогаю на жывот пазірае:

— Ня дай божа, ды двойне трапіцца, от будзе клопату!

— І радзімцы гэтых баб не забяруць. За якія год шэсьць цэлая плойма саплівых... Але не бяда, быў-бы здароў, гэтулькі то клопату...

---

Як толькі цямнее, Сідар лясьнік пакідае свой кардон, пільна аглядае дубальтоўку, падкладае сьвежыя пістоны і, трымаючы ў руцэ стрэльбу (ніколі, каб на рамень узяць), ідзе павольнай хадой. Ідзе ўнурыўшыся, сутуліўшы ўсю сваю постаць і толькі порсткія вочы шнырацць па бакох, ды старожкія вушы прыслухаюцца да кожнага ляснога гуку, да кожнага шорхату ў кустох. І хада ў яго спэцыяльная. Ня то, каб лесам ісьці, там, дзе відно, а от па лагчынках, па алешніках, па кустоўі, тропкамі тымі ваўчынымі. Каб менш прыглядзіць, учуць, каб налапам наляцець, ашаломіць чалавека выглядам сваім каршукаватым. Так ашаломіць, каб і думаць было некалі, каб сама сабой без загаду цюкнула ў мох, у сырую зямлю сякера войстрая, бліскучая.

— Сапраўды, каршун, пападзіся яму, скуру зьдзярэ...

І зьдзярэ. Калі ўжо служыць, дык служыць, ня ў жмуркі гуляць, павінен за дабро адказваць.

І ніхто другі, а павінен ты адказваць. «І з двара праганю як сабаку, калі заўважу яшчэ дзе пасечкі... У бараноў рог сагну, у турме як падлу згнаю, калі ды яшчэ, што заўважу... А будзе ў парадку ўсё—аб'ездчыкам будзеш. А слова маё,—сам ведаеш,—цьвёрдае слова». Так кажа Мацьвей Юльевіч, а ён свайго слова сапраўды трымаецца цьвёрда.

Сідар ідзе, вымае капшук, круціць цыгарку з самасею свае гадоўлі і, схаваўшыся ў кусты і пахіліўшыся да самай зямлі, пры курвае ўпотайкі, каб не заблішчэла сьвятло. Трымаючы цыгарку ў рукаве, паволі йдзе далей, туды, на гарбаху, дзе вялікі ўзгорак выпнуўся гарбылём гэткім, зарос высачэзнымі елкамі, дубнякамі а ўнізе раскудлачылася ляшчына і аж на вярсту якую маліньнік ідзе. Агрэст трапляецца дзікі, смародзіна чорная. Пах там заўсёды прыемны, нібы мёдам тым насычаны. І з гарбахі, калі прытулішся там дзе-небудзь пад разлапістай елкай, чуваць усё, што дзе дзеецца, аж па ўсім лесе. Ці то воўк дзе галінкай трэсьне, ціваскрыпяць калёсы дзе—кожны гук ляціць, ня мінае гарбахі.

Сідар ляжыць пад елкай і выцягнуўшы ногі—прыемна так вырастаць іх пасьля хады—снуе думкі свае, лесавыя думкі, карэжыстыя.

— Да хаты трысьцен трэба дарубіць, ну упраўляюшчы колькі тых дзяроў адпусьціць... Ды справа ня ў трысьцене, зрабіць яго ня дзіва... А столь, а падлога, а печку нябось прыдзецца класьці, ды грубку, ды каб так, як на хутарох бачыў—чыстая палавіна была-б. Нябось і сам земскі начальнік, калі-б на паляваньне з панамі прыехаў, не пагрэбаў-бы і перапаць у ёй... А гэта ўжо верны траяк. Канечне, можна-б было і карову каторую прадаць, альбо й каня другога. Ды дзе гэта, каб у гаспадарцы звод дапушчаць... Ня грэх і спадлаваць крыху ў лесе, канечне, калі з добрым чалавекам, ад якога і ў рукі сёе, тое перападзе. От-бы, скажам, з Цыбалам. Увесь двор згараў, колькі тых шулаў, адных, а колькі бярвеньняў тых,

калі перасыпаў гумно... І ўсё без адбою. Праўда, было колькі камлёў і адбою, для прыліку больш. Глядзі ў Сідара і карова новая, ацялілася от вясной. А бервяно ў лесе ўзяць, што плюнуць. Адрэзаў ля самай зямлі, гольле ў нетры куды, а самы пеньчык дзёрнікам прыкрыў—быў дуб і няма дуба. Гэта калі на панскае вока... Яно, канечне, і ад кожнай сякеры адабранай прыбытак—плаціць кантора па колькі тых грывень. Але гэта ўжо сьлёзы. Ня грошы, а сьлёзы. Ад іх на ногі ня ўстанеш. Адна адзнака, перад панам заслуга.

Думкі снуюць, абрываюцца, але вуха слухае сваім чарадом. Нейкая птушка з прасоньня зашастала крыльлем унізе ў лагчыне, зацялёпкала нешта ў сажалцы, дзе стаяць на беразе высокія, панурыя, алешыны,—ня йначай вуж падаўся на той бераг. Ды ад Дняпра, аж адтуль, дзе капліца павінна стаяць, чуваць лёгкія, што ледзь-ледзь далятаюць ось, рыпы. Сідар аж тулава прыўзьняў, абапёрся на локці, сьцяў дыханьне нават, каб ня ўпусьціць гуку, прычыны яго вызначыць. І зноў супакоіўся. Прылёг, пачаў новую цыгарку круціць.

— То дзеда Амяльляна паром. Калі нацягвае паром канат на самай сярэдзіне Дняпра, рыпяць тады от так зьлёгку, мілагучна рыпяць слупы ды кола драўлянае, за якія канат той прывязаны, да берагоў умацаваны. І сапраўды, от і гамонка чуваць. Ляцяць галасы праз лес у начной вільгаці, праз туманы золкія. Крыклівы голас адзін, другі от толькі бубніць: бум-бум-бум... Няйначай Амяльлян за гарцы сварыцца. Чалавек то божы: бульбу пячэ, шчупакоў пляжыць... А да гарцаў спрыт мае... Як-жа, служба... Ты гэта аднаму даруй, другому даруй, зганяй каторы раз пасудзіну на-шармака— з чым-жа ў кантору зьявішся... Дужа на цябе паглядзяць тады.

Ужо векі пачало прымружваць—да чаго-ж дрымота авалодвае— як новы гук крануў Сідарава вуха і зусім у новым кірунку. Нібы ступіць вось дзесьці ляснула разсохлая, а вось зачапіўся падгерац за ламачыну, трэснула ламачына. Аб сушняк відаць падгерцам трапіла. Прыліпла да самай зямлі Сідарава вуха. Чуваць як гойдаюцца ціха, асьцярожна, па сухіх звонкіх карэньнях колы, цяжка ступае конь, от стукнуў капытом па карчы, дзынкнула атоса, мусіць зачапілася вось за што-небудзь. Цішыня з хвіліну, а потым ізноў нібы шына бразнула. Няма чаго сумнявацца, злодзей едзе, злодзей лесавы. І суне гад аж на самы мысок, туды, на бераг Дняпра, на высокі абрывісты бераг, што падставіў свае высокія грудзі рацэ, пасунуў яе далёка ў бок, прымусіўшы зрабіць вялікую паваротку. Па беразе дубы растуць, адборныя, стромкія дубкі—прадае на млыны пан, пакрысе параходзтву. На ўсякую патрэбу можна ўжыць дубкі тыя.

Сідар прыўстае пад елкай, апраўляе адзежынку, дубальтоўку і сьпяшаючыся ідзе да мыска, прадзіраючыся праз каржакаваты хваёвы парасьнік па балацянішчы. Ён крадзецца, выгінаючыся як кот, і чым бліжэй падыходзіць, тым ніжэй прысядае яго тулава да зямлі, а самі ногі нібы плывуць па імхох, па сушменю, па коўзкаму насьцілу хваёвых голак. Плаўна гойдаюцца плечы, згінаюцца рукі ў тахт хадзе, каб жа ня бразнула дубальтоўка, не зачапіла руляй за дрэва.

Ужо радзеюць дрэвы, бялее туман над Дняпром, ужо відны самы рог мыска, відны пянькі ад Кунецкай высечкі.

Натапыраная, насаторожаная постаць Сідарава спыняецца, далёка выцягваецца ўперад шыя, ды шырока ўцягваюць паветра грудзі. Хоча нюх пасобіць слыху, дапамагчы вачам у начной лесавай цемры. Бяручы на згатоўку стрэльбу, Сідар рушыцца ўправа, да берагу, туды, дзе цемравее нешта ля вілаватага дуба. Ён пераступае з нагі на нагу, на хвіліну спыніцца, высуне з-за камля сваю шапку-кучомку і зноў далей.

— Іш ты, каня прывязаў ля грабіны... Пастой-жа...

І калі дзесьці там сарамліва і нерашуча цюпнула сякерка па дрэву (гук захліп у дрэве, зьмягчэў), нібы лётам савы кінулася чорная постаць з-за дрэў туды, дзе цемравее нешта ля вілаватага дуба.

---

За хляўчуком пад паветкаю дужа-ж спаць добра. Узложыш на калёсы сена ахапак, дзяружку наверх, падушку—ну што табе тыя пярыны. Ні прус цябе тут ня джгне, ні блыха ня ўкусіць, а ні той задыхнечы хатняй, млоснай. А тут табе пекната: патыхае мятай паветра, з гумна нясе пахам сенным, густым, хмялявым, і сама пярына твая—мурагі сонечныя, квяцістыя. Ляжыш, і нібы ты ў баразёнцы дзе, і аўсы зьвіняць, ціхесенька так да шчакі дакранаюцца вусамі калючымі, то вятрыска гойдае іх, калыша. Трымцяць у аўсох канапелькі, званочкі, дзесьці там высока, высока заліваецца жаўранак, на сонцы купаецца.

— Дужа там жаўранкі! Бач, вярзецца што...—І ўсьміхнуўшыся Таццяна паварочваецца на другі бок і ўглядаецца ў грушу-дзічку, што расьце на дварэ Агапкі-аднавочкі. Разгалістая груша, на ўвесь двор разраслася, адных тых лежанак колькі гарцаў набірае Агапка і колькі дае потым бабам на ўзвар, на салодкі ўзвар парадзіхам.

Рыпнула хвортка ў Агапкі, от павярнулася закрутка—мусіць то Аніс да хаты прышоў, з пагулянак. І добры здаецца хлопец, на работу цяглы, але нейкі дзіўны крыху. Нібыта з нейкай чарваточынкай. Усё ў яго не да ладу—абы дня пражыць да й годзе. Каб каня, скажам, набыў і ці калёсы там новыя прыдбаў—дык дзе там. Ці з хлопцамі ў карты прайграе рубель зароблены, а то й прап'е часам. А калі п'е, тады-ж дужа матку лае, што над ёю толькі ні вычварае. «Пупарэзьніца ты, зьнішчыцельніца роду чалавецкага. Адыйдзі, погань з воч маіх. От скажу людзям пра брыду тваю, пра заняцію тваю брудную... От скажу, чаму Палашка сохне, белага сьвету ня бачучы праз твае басурманскія рукі... «Чаго, чаго толькі не нагавораць. А як жывучы па суседзку, дык яно ўсё і чуваць. Няўжо такі дзеўкі ходзяць, каторыя гэта...

За гумнамі дзесьці зарыпелі калёсы. «Бач, ты, чалавеча стараецца, у лес мусіць пацягнуўся, няйначай...»

— А ці прыдзе ўсё-ж-ткі...—зьяўляецца думка.—Павінен прыйсьці. З паўгода ўжо, як увачавідкі ад усіх дзявок да яе заляцаецца

і ці на йгрышчы то, ці так на пагулянках дзе, ці на вуліцы... І нішто хлопец, асабліва-ж гэтыя вочы сінія, да такі сукрыты чуб русы... Нішто хлопец... Толькі ці я-ж яму раўня... Ці бабыльчына дачка, ды каб замуж гэта..., ды за каго? За Банадыся старастава... Унь у яго і брат, кажуць людзі, ужо ахвіцэра заслужыў... Хіба- то раўня... Ды паспрабуй Хвядосу скажы, што сын яго да Тацьцяны чэпіцца, на біду яе мае, ды шчэ ўсур'ёз—такі-б гармідар узьняў, не паздаровілася-б і Банадысю... Хіба от Настачка Палашчына... Дык то-ж цялушка, дальбог цялушка, от толькі й ведае вочкамі міргаць, ды чырванець па самыя вушы. А Банадысь нішто. Праўда, крыху заціхі, калі што, ня зусім такі, як бацька. Той як усярдуе, дык такі-ж гарачы, хоць ты запалкай да яго дакраніся—загарыцца... А гэты ў матку мусіць пашоў... І асабліва-ж чуб, вісіць от так, цэлым рогам закручаным над вокам, над сінім.

Тацьцяна з прыемнасьцю выцягвае ногі і прыжмурваючы вочы прыслухаецца, як тахкае кроў у крамяным целе, як разьліваецца па ім хмялявая млявасьць, якая напружвае цела, прымушае яго дугой выгінацца ў салодкіх пацалунках.

Але вось зашорхала нешта ля парканчыку каля хлява, стукнула аштакецінай. Чорная постаць вынырнула ля калёс. Тацьцяна маўчыць, духі ўцяўшы,—няхай от пашукае.

Хлопец соўдае рукамі па калёсах, от на яе патрапіў, схапіў пад пахі, казыча.

— Кінь ты, Банадысь, дурыкамі займацца...

— Эге, каго яна чакае, бач ты яе...

Тацьцяна ня бачыць, але па тым, як гарачымі робяцца вушы, адчувае, што ўся чырвоная.

— Чаго гэта ты Аніс? І ня сорам табе, дзе-ж гэта твае вочы. Хіба ўжо не хапае табе Аўгінькі Мялавай...

— Цішэй ты, дурная!

— Ды што там цішэй. Дык чаго-ж гэта ты?

— А дай, думаю, суседку папужаю, бачыў, як мясьцілася ты на калёсах. А яна ўжо брыкаецца...

— Да я... што я... Ідзі ты ўжо, Аніська, адкуль прышоў... Просам цябе прашу, да душы-ж спаць хочацца, а ты, валацуга, швэндаешся от, як кот той марцовы...

— Ну, годзе табе. Пайду ўжо вот. Ня буду табе значыцца, перашкаджаць. Ды й навошта добрым людзям шкоду рабіць. Але толькі, калі ты на Банадыся думку маеш, дык па суседзку ня раю, дальбог ня раю... Калі там што якое, дык хіба табе карысьць якая... Калі й на ўме яму што, дык хіба каб толькі пабязуліць. А калі ўсур'ёз, калі ў яго сур'ёзны да цябе інтарэс, дык бацька яму такі інтарэс на хрыбту прапіша, што ён і дзесятаму закажа. Дальбог жа, от-жа павер мне...

— Ды кінь ты, Аніська, з сваімі інтарэсамі, спаць от дай, мне-ж повідну трэба на поле ісьці.

— Ну йду, йду, дабранач табе...

— Ня прыдзе мусіць... Толькі для хворсу пэўне днём як смала чапіўся. Ну й што-ж, падумаеш... Няхай сабе і ня йдзе... Ня было-б то клопату... Высплюся хаця...—павярнулася ніцма на падушку.

Але спаць не хацелася. Перавярнулася на другі бок, плюшчыла вочы і ніяк не магла іх прымружыць. То мулка нешта здавалася, то здавалася, нібы казюрка тая ў сена ўвабралася, шархаціць от пад падушкай, пад вухам самым не дасі ей рады...

І калі прышоў нарэшце і Банадысь той, ніяк ня было ўжо таго чаканьня, нейкае тае радасьці, што раней была. Прышоў, ну й няхай. А ён адразу юрк пад коўдру, прытуліўся да боку.

— Ты-б ужо хаця боты зьдзеў, усе пальцы мне здратуеш падкоўкамі...

Устаў, засопшыся, сьцягваў чобаты, бразгатаў драбінамі калёс.

— Да цішэй ты хіба, няўклюда...

Калі-ж ляжаў ужо ля боку, моцна, моцна прытуліўшыся і паціскаючыся яе рукі—адлягло ў Тацьцяны на сэрцы, цяплей яму зрабілася. «Ага, ўсё-ж-ткі прышоў, ня здрадзіў, кахае ўсё-ж...» Шапталіся пад коўдрай, мілаваліся, абменьваліся гарачымі пацалункамі, такімі гарачымі, што аж сэрца заходзіцца і нібы ляціш, ляціш у безданьне тое, а якое, ліха яго ведае.

— Я-ж цябе ад тройцы самае от-жа як люблю,—і сьціскаў так моцна, што займала аж дыхаць.—Як пагляджу на цябе, дык у мяне й ногі так і млеюць, от на зямлі ня ўстояць...

— Дужа там... Дзіўлюся я, колькі ты разоў на зямлю падаў...

— Да ты ня сьмейся, Тацьцяначка, праўду кажу, шчырую праўду.

І праз колькі часу:

— Не, Банадыська, пра гэта ты і ня думай... Крый, божа, каб ты гэта... і думкі такія адкінь адразу... Бач ты яго... Вот ажанішся, тады ўжо...

А сэрца ў самой гарыць ліхаманкавым агнём, пячэ, апальвае, пруткім целам да яго туліцца, захліпаецца пацалункамі моцнымі. Ды шэпты гэтыя лезуць у душу ня просячыся, пасьцілаюць у думках пухавыя надзеі, снуюць у мярэжавах тых, кволяць цела ды ўпросьлівым словам, хмялявым.

— От цалую крыж часны, калі ня верыш... Тацьцяначка... да я-ж... даражэнькая, да хіба я здраджу... От пад гарбахай выражам хутар... І жыць будам...

— Ня трэба, Банадыська, ня трэба, ах божа-ж мой, дарагі мой... сукрысты мой...

Хмелем кружыцца галаў і адлятаюць кудысьці і падушка і хляўчук і павіслыя над галавой латы страхі. І от тая дзічка, ігрушка суседзкая, бабкі той Агапкі-аднавочкі, бабкі-нагаворшчыцы... Потым хутка ўсё на мейсца ставіцца: і страха і груша тая Агапчына. І вось ляжыць ля боку, прыціх, не заварухнецца. І ў гародчыку відаць, як зьвесілі долу свае шапкі росныя, шапкі жоўтыя сланечнікі тыя— от семак тых лузаць колькі будзе. Зірнула на сланечнік яшчэ раз і заплакала—ціха, у падушку. Толькі плечы так ціха ўздрыгваюць.

— Дык чаго ты?—і голас такі звычайны ўжо,—хіба ты першая, хіба ты апошняя. Ды што я кажу... прабач, даражэнькая, я-ж свайму слову гаспадар... Дзіва-то, дзе ты бачыла, каб гэта хто да вянца закону трымаўся, пост блюў...

— Ідзі ты, дурыбала...

— Да чаго ты ўсамдзеле? Я-ж табе не абы як кажу...

— А як у салдаты цябе от возьмуць, што я рабіць тады буду?

— У салдаты? Гм...—і ўжо цішэй:—ня возьмуць мяне ў салдаты.

— Хіба ты сьвяты, ці што, каб гэта не ўзялі?

— А вот і ня возьмуць. Няма такога закону, каб бралі..

— Чаму-ж гэта так? Хіба прынц які з цябе, каб гэта ды ня было закону, каб бралі яго...—перадражнівае ўжо Тацьцяна.

— А таму й ня возьмуць...—і шэптам зусім...—грызь я сабе зрабіў, пашкодзіўся крыху... Спэцыяльна да Агапкі хадзіў знарок. Бацька унь пудоў пяць збожжа аддаў, ды сам ’шчэ колькі...

— Ты?—і ў вырачаных вачах Тацьцяны ні то грэблівасьць, ні то зьдзіўленьне.

— А ты думала, гэта страшна? Раз, два і гатова... Па белым білеце назусім...—выхваляючыся кажа Банадысь.

— Ах-жа ты, сьлімак-жа ты гэтакі... кілаваты... Каб-жа то знацьцё... а, божачка-ж мой...

— Што гэта табе зарупіла?

— Ідзі ўжо ты... Чуеш ці не...—І рукой пад бок:—Табе кажу, ці не—разьвіднее ўжо, людзі ўбачаць, айда да хаты...

Банадысь торапка нацягвае чобаты і, суха разьвітаўшыся, з вінаватым выглядам, нібыта сабака той пабіты, адыходзіць ад калёс і няёмка лезе праз парканчык.

— Глядзі, каб не распароў...—хоча сказаць Тацьцяна, але толькі махнула рукой.

— Няхай ужо, чорт яго бяры... Што будзе, то будзе...

Спаць ужо некалі. На ўсходзе чырванее паўнеба, замітусіліся птушкі па агародах, мыкаюць па хлявох каровы—хутка затрубіць пастух Валодзька, зганяючы тавар на выган.

— Уставаць хіба... От-жа сьлімак...

---

Ля калодзежа коняй паілі: Напрэй—парабак Цыбалаў і Андрэй папоўскі. Трапіла так, каб разам. Не сустракаліся даўно, бадай з таго часу, як на сяло зьявіліся.

— Дык жывеш, кажаш?

— От-жа бачыш, жыву тым часам. А як пападзьдзя твая?

— Ды трасе ўсё кудламі, няма на яго пагібелі на праскамідыю...

— Што?

— Ды гэта я так...

— А поп?

— А што яму жарабку дзеецца... Прыходзь от хаця падвечар.

Заціхла песьня... Рукавом
Канвойны сьцёр сьлязу з шчакі...
Ізноў стальны звон ланцугоў,
Дарожны горкі пыл, пяскі...

**Зах. Беларусь**

---

Міхась Лынькоў

# НА ЧЫРВОНЫХ ЛЯДАХ[1])

(Аповесьць)

## 1. ЦІХІЯ СЯЛІБЫ

Сястра Аўдакія была злосная. Яе маршчакаваты, як печаная дуля, твар торгаўся ўсімі сваімі барадаўкамі, бляклыя вусны, якія яна штохвілінна абцірала хустачкай, варушыліся, нібы шэпчучы ні то малітву, ні то праклёны нейкія, ці пагрозы. Ды й ня дзіва!

Па-першае:

— Бач ты яго, а яшчэ благачынны. І яму мала... Хапіла-б ужо скарбонкачнага збору, дык не, падавай яму частку каплічнага палатна... От напішу маці ігуменьні, няхай праз архірэя вуму-разуму навучыць...

Па-другое:

— І на параходзе чалавеку божаму не праехаць. Каму раба божыя, а то нашоўся: «мадам, пасуньцеся...» Нібы воч чалавек ня мае. Ды яшчэ выскаляецца... І матросы добрыя—каб чалавека за язык да парадку прывесьці, дык і тыя-ж туды. «Не чапайце гэтую плашчаніцу сухую, рассыплецца...»

І па-трэцяе:

— «Оскудзеніе ў людзях». Ты за іх богу маліся, сьвяты пост прыемлі і ня токма пост, а і кожную сераду і пяток ані млека, ані мяса, ані ў зуб скароміны тае... Усё а госпадзе, а ўсеблагій яго міласьці, а вечным царстве яго думкі свае напаўняй, сэрцам да прастолу яго ўсявышняга вазнасіся...

— А ня дурна-б млекам гэта сьмірэнную плоць уцешыць... Даруе гасподзь за труды праведныя, за дарогу цяжкую...

Сястра Аўдакія шла з прыстані, з параходу. Змарылася, засапілася. Вось і лесу ўскраек, недалёка капліца, хутка і адпачын будзе. І пухавая пярына, і карэц млека халоднага. Марта самавар паставіць, балазе мёд сьвежы стаіць у кубле, соты пахучыя, ня кранутыя...

І пачынае адыходзіць душа сястры Аўдакіі ад крыўд мірскіх, ад сумятні тае чалавечае, грэшнае. Вось гудуць верхавінамі хвоі, гэтак лагодна гудуць, як залатыя пчолы божыя. І па тых верхавінах лаш-

[1]) Працяг, глядзі „Полымя Рэволюцыі" №№ 2-3, 4.

чыцца сонейка сваімі праменьнямі няўміруючымі, цёплымі стрэламі боскімі, схіляецца сонца на захад, усё ніжэй і ніжэй. І як рызы господні, рызы чыстыя, верхавіны тыя хваёвыя палымнеюць...

— Дзіўны дзялы твае, гасподзь, уся прамудрасьцю ясі... І што гэта там за халера?

На палянцы, на пеньчыку, бялее нешта, для палянкі той нязвыклае і нябачанае... Сядзяць удвох... І гэта каля сьвятой крыніцы, недалёчка ад вобразу нерукатворнага? Хто-ж асьмеліўся такі?

Сястра Аўдакія як крот, падбіраецца бліжэй, хаваючыся за разлапістымі елкамі.

— Бач ты іх, дзяўчына й хлапец, няйначай любоў круцяць, от жа знайшлі месца для скверны. Пастой-жа, пужну я вас так, што аж месца ня знойдзеце... А бо-о-жачка... Сьвят, сьвят, сьвят... Да гэта-ж Марта нягодніца... З Андрэем паповым... Божухна, не ўвядзі мяне ў іскушэніе... Да чаго дажылося сьвятое месца божае... Бач, сядзяць, абняліся гады... Іш, прыхілілася, як прыліпла ўсёроўна, як прыкіпела...

Сястра Аўдакія зашылася ў куст, ня можа адвесьці воч ад паганцаў гэтых, што сядзяць вось абняўшыся, гамоняць аб нечым... Божухна мой, шчэ й цалуюцца... Аж затрымцела старая, затрэслася ліхаманкава, суха шоркнулі чоткі ў кастлявых руках манашчыных. Ці то ад злосьці, ці так з прычыны якой. І самой разабрацца цяжка. Не сьцярпела толькі. Шугнула з кусту, ды як кошка, крадучыся, ўподбежку кінулася да тых, да дваіх. Сьлінаю пырскала, хадуном хадзіў нос, крычала, тупала нагамі, да таго разьюшылася, што аж зьлезла хустка з галавы, растрэсьліся сівыя кудлы.

— Ты... дух нячысты... Змушчаць душы нявінныя... Сьляды багародзіцы пляміць, яе крыніцу цудатворную... А ты распусьніца... Перахрысьціць ілба ня можаш, а плоць ужо сваю распаляеш памышленьнямі блуднымі...

— От як цяпну я цябе па мышленьню твайму блуднаму, дык адразу дух твой будзе ў руцэ божыяй... Адыйдзі, пудзіла, ня ўводзь у грэх.

Марта кінулася наўцёкі, ня чуючы ног пад сабою. За ёю папляпалася сястра Аўдакія, што раз пазіраючы назад і пагражаючы духу нячыстаму ўсімі карамі нябеснымі і зямнымі.

Калі Марта ўбегла ў хату, дык ня ведала, куды дзець твар ад сораму. Сястра Марыя сядзела ля вакна, калупалася нечага з іголкаю і, кінуўшы позірк на Марту, на яе гарэўшы полымем твар, на яе задужа жвавыя рухі, запытала, перакусваючы зубамі нітку:

— Нешта ты як утрапёная?

Марта спрытна завіхалася з венікам, падмятала падлогу. У галаве віхрам насіліся розныя думкі, і цяжка было на чым-небудзь спыніцца, прывесьці іх да парадку.

— От-жа Андрэй падвёў толькі... Колькі сораму таго... Не абярэшся цяпер ад манашак, а галоўнае ад сухарэбрай той... А дужа-ж

хвацкі... Андрэй гэта... Цалуецца от толькі... от дзівак... адно толькі шчокаткі дужа баюся...—прарываецца ў голас думка Марціна.

— Ты чаго гэта?

— А гэта я... Бачыце... Ага... Сястра Аўдакія там ідзе, з гораду прыехала...

— Што ты? Чаму-ж ня кажаш? Сустрэць хіба...

Сястра Аўдакія ўвайшла ў пакой ціха, паважна. Кінуўшы вокам на вобраз, доўга і павольна жагналася, гугнява расьцягваючы айца і сына... І калі атрымала ў адказ «амэн», паволі апусьцілася на лаву, правяла дапытлівым гаспадарчым вокам па ўсім пакоі і, нібы мучаніца тая, пакутніца за ўвесь грэшны сьвет, колькі раз уздыхнула. Уздыхнула цяжка, з надрывам, з ламаньнем пальцаў да хрусту.

— Хіба-ж то дрэннае што, сястра Аўдакія?

— Ніхто як бог...

— Хіба здарылася што?

— ... І яго сьвятыя вялікамучанікі...

— А мо' якія няпрыемнасьці?

— ... І заступнікі варкалабаўскія... Ох, грахі нашы, грахі... І дакуле, госпадзі, на зямлі нас грэшных трымаеш... Замарылася я... Дужа-ж замарылася... А ўсё а госпадзе, а сьвятой абіцелі яго клопаты... Ці не загадала-б ты, сястра Марыя, гэтай грэшніцы, гэтай Магдалене нераскаяннай, гэтай распусьніцы сусьветнай, самавар сагрэць... Дужа-ж гэта цяпер да гарачай вады з дарогі... З варэньнем-бы от... Ты ўжо, сястра Марыя, благаславі Марту на самавар...

— Сястра Аўдакія пасунулася ў другі пакой і доўга сапла там, крактала, распранаючы свае дарожныя, манаскія ўбёры. Потым доўга да поту, піла гарбату, старанна падкладаючы на нявышчарбляны зуб кавалачак цукру. І памаліўшыся перад лямпадкаю, паклікала да сябе Марту.

— І чаго ёй, лысіне старой, трэба?

— А ну, ну... Хадзі сюды, раба божыя, раба грэшная, раба распусная, раба ня вартая сьледу божага датыкнуцца. Хадзі, хадзі, атракавіца, да не пакрыюцца вусны твае маною... А ну бліжэй... Хто?

— Ну, хто... Хіба ня бачылі?

— Глядзі ў вочы, ня віхляйся... Чаго гэта прыходзіў ён?

— Коняй шукаў, мусіць, зьбеглі ў лужкі...

— Я от табе пакажу лужкі... Дык што-ж вы рабілі там гэта?

— Нічога...

— Як-жа гэта нічога? Ну што, прызмушчаў гэта ён, га?

— Як гэта прызмушчаў?

— Гм... Ды як-жа гэта вы так, га? Дык з хлопцам, кажаш? Да спадобы прышоўся? Салодка з ім мусіць?

— Ды што вы?

— А ну, кажы, кажы, не хавайся...

Сястра Аўдакія вачмі тымі як сьвярдзёлкамі сьвідруе твар Марты. Марта цярэбіць рог хусты, і ня ведае, куды дзець вочы, якія от-от

гатовы пусьціць раўчукі сьлёз. А твар гарыць, па ім бегаюць чырвоныя плямы, палахліва міргаюць чорныя вейкі.

— І чаго гэта вы чэпіцеся да мяне... А бо-о-жачка мой... І што вам патрэбна?

— Ты мне ня плач... Ты мне туман з воч ня пускай... Распранайся адразу, гадаўка... Ну... Табе гавораць, ці што? А ну, сястра Марыля, дапамажы ёй сарочку зьняць.

Марта кідаецца ў куток, адбіваецца рукамі і нагамі, намагаецца ўкусіць руку ненавіснай Аўдакіі. Але ўсё дарэмна. Сарочка ўжо ў руках сястры Аўдакіі, і тая коржыкам панеслася з гэтай сарочкай аж да самай лямпадкі.

Марта стаіць у кутку і глытае сударгава сьлёзы, якія цякуць вось, размазваюцца па твары, падаюць на грудзі, гэтак ганебна выстаўленыя на паказ, на людзкое вока. Белае цела трымціць, пакрываецца крупкамі ад холаду, ад зьнявагі.

— Дык чаго вы хочаце, што вам ад мяне трэба?

— Ладна ўжо,—нібы лагодна і супакоеным ужо тонам адказвае Аўдакія.—А правучыць трэба, каб не павадна было, каб другім разам ня рымсьцілася... Ці доўга да граха, да скверны... А ну, лажыся, раба божыя, на лаву... Ну, ну хуценька... А ты падтрымай яе, сястра Марыля. Ды нішма, нішма, от так... Трымай яе за ногі...

Сястра Аўдакія бярэ рушнік, мочыць яго ў карцы з вадою і моцна, спакваля пачынае біць ім па голым Марціным целе. Яна б'е з поцягам, з захапленьнем... Зрэнкі воч яе звузіліся, заблішчэлі яшчэ зырчэй, углядаючыся, як разыходзяцца белыя пісягі па чырвоным целе і як сьціскаюцца сударгава ногі, як сьціскаюцца плечы, гэтыя белыя вуглаватыя, што толькі, толькі пачынаюць налівацца, як тое яблыка-летаўка, дзявочыя плечы. Прыемная млявасьць авалодвае сястрою Аўдакіяй, салодкімі колікамі заходзіцца сэрца, выступае пот з-пад навіслых кудлаў.

— От жа змарылася, усю руку адбіла, каб на цябе немач... Ну, уставай, ды памятай, як з хлопцамі справы мець... Не таго яшчэ паспытаеш... У-у... сараматніца...

Марта ўзьнімаецца на лаве, сядзіць колькі хвілін нярухома, потым схапіўшыся хуценька, тарапка нацягвае сарочку. Сарочка закасалася зьнізу і на няпрыкрытым мейсцы, расьпісаным узорам пісягоў, паблісквающь водблікі зялёнай лямпадкі, ды на водбліскі тыя жмураць вока сваё сьвяты Мікола, сьвяты цудатворца Міркікійскі...

— Ну ты, карова... Іш да бога павярнулася, выставіла... Разбэхала сьцёгны, хоць ты ў ванглярні іх вешай, гладкая...

Марта сарамліва рыўком абцягвае сарочку і кідаецца з пакою. Сястра Аўдакія доўга стаіць перад лямпадкаю, падцягвае кнот і адбівае ўклоны. Старэчыя вусны шэпчуць нешта, і шэпт гэты—нібы шорах прусоў па за печчу, за комінам. Зялёная лямпадка ціха калышацца з боку ў бок і ад яе паўзуць па сьцяне бледныя цені, калышацца зялёны змрок. Гойдаецца ён управа і ўлева перад сьвятымі

вобразамі, перад сьвятымі ўгоднікамі, што сьцялі ў сьвятасьці сваёй зялёнай заняпалыя, уцягнутыя шчокі.

З-за дзьвярэй чуваць усхліпы. То плача Марта, прылішшы ілбом да аконнае шыбы. За вакном ужо цёмна і шэра, і цёмныя думкі мітусяцца ў Марцінай галаве.

— За што-б... Што ёй трэба сухой?

Сьвят, сьвят, сьвят...—чуваць тыя шэпты ад лампадкі і зялёнай нудой запаўняюць пакой, паўзуць па сьценах, паўзуць на двор, на паляну.

— У-у... зануда...—думае аб чымсьці сястра Марыля. Перад богам выхваляецца, задрыга старая...

---

— Ай-яй-яй... ай-яй-яй...

— Што, татэ?

— Ша!—і паважаны рэб Нохім ізноў чытае ліст, часам спыняецца, прыцмоквае языком, то гучна, то ціха айкае нечаму. Рэб Нохім радасна ўсхваляваны рэб Нохім чамусьці ўзрадаваны.

— Мае дочкі, падыйдзеце сюды... Ну, Сіма, аць, два, станавіся... Ну, Роха, аць, два—бліжэй...

Сіма глядзіць на Роху, Роха глядзіць зьдзіўлена на Сіму—што за татэ, што за думкі ў яго.

Калі татэ пачынае камандаваць,—відаць, справа сур'ёзная, ці ня думае ён набыць кароў яшчэ дзе, то ня было клопату... І так ледзь упраўляешся з малаком, адны бітоны ачмурылі... Але тату трэба слухаць, татэ ня любіць, каб яго ня слухалі. Сіма і Роха становяцца каля стала—Сіма трохі рудаватая ў прышчыках, прысадзістая—у тату. Роха—тая чарней, гнуткая, як сьцяблінка—у матку вышла. Але абедзьве высокія, рослыя, як хлапцы тыя местачковыя.

— Ну, татэ!

— Слухаем, татэ!

— Ідзеце запражэце каня!

— І ўсяго, татэ?

— А вы думалі?

— Мы нічога ня думалі...

— Дзе-б вам думаць, то-ж бацькаў клопат. Дык от, дочкі, ці ведаеце вы брата вашага татэ?

— Гэта той, што вокны ў горадзе шкліць, крывы Борух?

— Фу-у... які там Борух і ці варта казаць аб ім... то-ж не чалавек, а от так сабе.

— Дык хіба што ў Адэсе?

— Хіба рэбэ Нісан?

— Ай-яй-яй, якія мае разумныя дочкі. Ну, канечне, Нісан, брат рэбе Нохіма... Ну, канечна, ён... Ён, які мае канатны завод, які мае тры-ы-ы дамы, які мае сыноў і мае дачок. І адзін сын у яго доктарам,

якi лечыць людзей. I шчэ як лечыць! А другi сын вучыцца, а дочкi таксама... уга... дзесьцi там на курсах цi ў унiвэрсытэтах нейкiх навуку праходзяць... Дык от рэбэ Нiсан гэта такi ваш дзядзька i выдае ён замуж старэйшую дачку.

Няхай-жа бог дасьць iм усяго найлепшага. Дык пiша Нiсан лiст да мяне i прывiтаньне шле мне i вам усiм. Дык запрагайце каня!

Нохiм паважна апранаецца ў сьвяточны сурдут i йдзе на двор да калымажкi. Дочкi кiруюць канём, а ён сам сядзiць, ён, паважаны рэб Нохiм, паважаны арандатар, ён... уга...

Калымажка паволi ўяжджае ў мястэчка i, паводле ўказаньняў рэб Нохiма, спыняецца ля крамы старой Еўнiхi. Тая ўжо выбегла з крамы, ужо ветлiва кiвае галавою, ужо кiнула сьпiцы з недаробленай панчохай i ўся расплываецца ў прыемнай усьмешцы.

— Ай, каго пасылае бог на пачын... Каго бачу я? То рэбэ Нохiма бачу i ўсю сямейку яго... Дык калi ласка, прашу, прашу...

Старая Еўнiха хаваецца ў краме, бяжыць за прылавак, цягне адтуль рыпучае крэсла i, зьдзьмухнуўшы для прылiку пыл з яго, падносiць да рэбэ Нохiма. Сiма i Роха злазяць з калымажкi i стаяць ля дзывярэй. Рэбэ Нохiм садзiцца на крэсла, выцiрае клятчатаю хусьцiнкай пот, якi ўкрывае ўсю яго блiскучую лысiну.

— Дык як справы, панi Еўнiха?

— А дзякаваць богу... Як кароўкi вашыя?

— Нiшто... А як дочкi вашы, панi Еўнiха?

— А што з iмi робiцца, жанiхоў чакаюць...

— Уга... вашыя дочкi... хiба iм у мястэчку можна знайсьцi жанiха? Уга... Хiба толькi ў Карме, няйначай...

— Жартуеце, рэб Нохiм... Унь вашы цьвiтуць, як ружы ў садзе Алтэравым...

Рэбэ Нохiм маўчыць з хвiлiну—каго ня радуе пахвала дзецям сваiм—i потым камандуе:

— Сiма, iдзi сюды... Ну, ну... аць, два.. Станавiся тут...—I ўжо да Еўнухi:—пане Еўнiха, справа да вас. Патрэбна, бачыце амунiцыя некаторая для дачок маiх... А ну, павярнiся, Сiма, няхай панi Еўнiха агледзiць тваю кампклекцыю... Бачыце, адмерайце ёй чаго-небудзь там на лiфчык... Колькi, кажаце? А гэта ўжо самi мяркуйце, дочкi ў мяне нiшто... Паркалю? Няхай сабе й паркалю... Не... не... дайце ўжо чаго лепшага... Уга, каб рэб Нохiм трымаў сваiх дачок у трантах... Ну, Сiма, айда назад... Роха, блiжэй... Аць, два... станавiся... I Рохi маёй на лiфчык... Аднолькавыя? Не... Рохе дайце от таго, ружовенькага, бо яна ў мяне чорная, у матку ўрадзiлася... Чаго-б яшчэ там? Ну, куды нi шло, адмерайце iм яшчэ й на суконкi. Цяпер, каманда, на воз, пасунем да хаты... Не, не... пачакайце крыху... Панi Еўнiха, хiба адмерае яшчэ на лiфчык i дачцы маёй Бэцi... не, не... менш крышачку.. ды ўжо адным разам i на... штонiкi там... У горадзе-ж яна ў мяне, у горадзе жыве, вучыцца...

— Ох, рэбэ Нохім, рэб Нохім...—уздыхнула Еўнуха,—цяжка мусіць вам. Гэта-ж трэба, любае дзіця ды ў чужых людзях трымаць. А як яно там жыве, а ці дасьпіць, ці даесьць... Усё то бяз маткі...

— Нішто, дочкі ў мяне па бацьку пайшлі, не загінуць... Ну, каманда, едзем. Дык вот вам і падарункі... А з чаго-б скажам?... А таму—радасьць у мяне сёньня, за брата рады, за справы яго, за сям'ю...

— Гэта за Боруха рады вы, татэ?

— Ой, розум! Што галава, то й розум... Падумаеш, Борух... вялікая цаца Борух... Хто Боруху вінаваты, што жыве так? Дужа мне аб Боруху галава баліць... Як-жа... Буду я аб ім думаць... Уга, валасы павыпадаюць...

Але часам рэб Нохім думае і аб Боруху. Часьцей за ўсё тады, калі кідае ў скарбонку грошы на бедных. Думае яшчэ Нохім і аб дачцы Бэці.

— Бач, ёй дык усяго накупляў, для яе і грошай не шкадуе,—шэпчуцца ў голас Сіма і Роха, гойдаючыся на перадку калымажкі.

— Вы там цыц... Нечага... Бэці можа суджана вялікім чалавекам быць, можа Бэці будзе шчасьцем вашым... Можа Бэці, да што казаць, нічога вы не разумееце... Ну, от і прыехалі. Ідзеце, ці ня час ужо і каровы даіць...

---

Якаў Смык не маладзён ужо—шосты дзесятак пашоў ад пілпаўкі. А валасы яшчэ чорныя, от пашарэлі хіба крыху ды дзе-ні-дзе прабіваюцца сьветлыя валасіны. Такія-ж і вусы і барада, праўда, рэдкая барада, віхлястая і стаіць от старчаком тым. А ўсё-ж барада, і шануе яе Якаў, пагладжвае, асабліва, калі дзе ў вобчастве, панятым там ці сьведкаю, скажам, ці што.

— Я, пане-браце, ня будзь Якаў Смык, а ня іншы хто... Мянеста ня толькі хто, а й паны паважаюць і, калі хочаш, нават ручкаюцца, калі што... Дзіва тое, мой бацька валовік панскі трымаў, адных-ста валоў было пар з дваццаць... От-жа млын быў... Дык і колькі гэтых паноў перабачыў, не абяры божа...

— Ну дык што з таго, калі бачыў. Хіба-ж і я ня бачыла,—кідае жонка Вася, кабета гадоў пад трыццаць пяць.

— Бачыла, бачыла... от боўціла тое, чаўпе языком няма-ведама што,—перадражнівае жонку Якаў.—Справа ня ў тым, каб бачыць, а каб з панамі абыходжаньне мець. Другі вот няхай хоць і да пана пойдзе, хоць бы і да ўпраўляючага,—дык і ня выходзіць нічога, хоць сабе й на языкі гаворкія. А мне адным вобмегам: і шурку дроў, і палена якое на гумно, калі трэба. Ды ці толькі палена. От, трэба было пасаг дачцы купляць, дык і трыццаць рублёў пазычыў Мацьвей Юльевіч...

— Дзіва то пазычыў, калі ты каля яго, як сьляпень той, вешся, ды яшчэ сучку гэтую часамі возіў...

— Ці-і-ху ты, шалёная... Ці можна-ж хіба так,—нават подплетка выпадае з Якавых рук, і ўвесь ён абураны.

— Хіба можна так аб чалавеку. Ды й пан-жа ён, ні абы хто. Дрэнна хіба было, калі прыяжджаў вот ды колькі тых грошай на гасьцінцы аддаў. Адным вунь дзецям тваім і то колькі грыўняў перапала.

— Радуйся, дурніца, што распусту завёў у хаце...

— А вот і парадуйся цяпер, калі выехала. Стаіць хата на ростаньні, добра яшчэ, калі падашлюць якога-небудзь настаўніка.

— А ты й рад... Самім-бы ўжо ня грэх перасяліцца, глядзі, столь чарэнь падпірае, спарахнела ўсё.

— Пражывеш і ў гэтай. А лішні рубель які, ён, брат, кішені не працірае, ён-ста табе не завадзіць. От вучыся ў мяне вуму-разуму, бо прыдзецца-ж калі-небудзь жыць і без мяне. Як ні круці, а прыдзецца...

— Уга, куды загнуў... Ды цябе яшчэ даўбнёй не ўбабэкаеш... Бач, заморкам прыкідаецца....

— Я-ста, канечне, не кажу, што заморак, а розум трэба мець...

І сапраўды, не заморак дзядзька Якаў. Другіх ужо і дзядамі завуць, а ў яго жонка вот, хоць замуж яе аддавай—крамень жонка. Мужыку шосты, а жонка вясной, як пачнуць дзяўчаты вясьнянкі на прызбах пець ды кружыць карагоды, дык от і пашла-б здаецца, на вуліцу, ды з імі, з дзяўчатамі от бы ў прыскочку так і пашла-б па вуліцы, закружылася-б у скоках тых.

— Не, браце Вася, каюк і амэн, досі ўжо нагізавала, глядзі печы, ды прытарадчы вячэру дзецям.

І трэба парадчыць. Вунь іх дзяцей загарадзь—аж чатыры на вуліцы бегаюць, ды пятае на падлозе поўзае. Ды што грэх таіць, папікала ў ночы Якава:

— І дзе твой сорам, каб ты ўжо сасьмяг насапраўды. Дзе ты іх падзенеш, калі шостае, крый божа, ды завязь пойдзе...

— Ну, ну, гавары там...

А тра двое старэйшых ад ранейшае жонкі нябошчыцы і казаць ня прыходзіцца, тыя ўжо вялікія, дачка замужам, сын на вайне дзесьці. Шкада крыху сына Арцімона,—гаруе от небарака ў акопах. Хіба рубля якога паслаць, дужа-ж харчы там слабыя... Трэба такі паслаць, усё-ж свае крыві чалавек. Хоць і дурны крыху, от верне пысу ад мачахі. А каб там к слову маткай назваць, дык і не гавары аб тым. Трохі супорлівы чалавек.

— Але нішто... уголас разважае Якаў,—жытка ў мяне, можна сказаць, нішто сабе жытка, дай божа ўсім добрым людзям. Хлеба, дзякаваць богу, уродзіць, ня будзе нястачы і з сенам. Можна, калі на тое пойдзе, з часьці ў Цыбала выкасіць. А хата? Хата добрая й старая, шчэ колькі год можна ў ёй пражыць. Але каго там чорт на гары носіць, аж пыл цярушыцца з бэлек. Няўжо лузаны там мае ізноў усхадзіліся, бач ты іх, мейсца для гульні знайшлі.

Якаў выходзіць з хаты і крадучыся лезе на гару ў прасьценку між хатай і клецьцю. Тут і драбін ня трэба. Упёрся нагой у бервяно хаты, другой у сьценку клеці і лезь. Вось і гара. Якаў асьцярожна выглядае і дзівіцца: прытуліўшыся за лежаком, старэйшы сын Мяфодзя перасыпае нешта, сапучы, з мяшка ў мяшок.

— А што-ж ты робіш тут, гад?

Хлапец аж здрыгануўся і хуценька запіхвае нагой мяшок пад ляжак.

— Бачу, бачу, гад... А ну пакажы, што гэта ў цябе тут за схованкі.

Мяфодзі стаіць унурыўшыся і падцягвае плячмі—дзіва то, без пачастунку не абыйдзешся, а крый божа, даведаецца бацька—будзе дыхту. У яго маленькай галаве роілам ходзяць думкі:

— Вот табе і цукеркі, вот табе й папяросы...

— Але-ж трэба апраўдвацца.

— Дзе ўзяў?—грозна пытае Якаў, беручы Мяфодзю за каўнер аднэй рукою, а другой перасыпаючы ў мяшку гэткае-ж чыстае, бучное проса.

— А гэта-ж, татачка, Напрэя Казла Хведзька прынёс, мы от і схавалі тутака, прадамо ў нядзелю...

— Хведзька, кажаш... Іш супастаты, у бацькі мусіць сьпёр?

— А хто яго ведае... А мо' ты купіў-бы, татка?

— Ты што гэта, лузан? От вазьму мяшок, ды як агрэю па хрыбту, дык будзеш ведаць, як тыя схованкі крадзеныя рабіць... А гэта самае... ну... як яно... Хведзька твой... Пэўна-ж меркавалі, прадаць за колькі? Хведзька гэта твой, іш злодзей саплівы, а... Дык па чым гэта ён?

— Ды ён, татка рубля думае ўзяць,—гаворыць Мяфодзька і пазірае палахліва на бацьку—а што як агрэе?..

— Рубля? А хваробы ён ня хоча разам з табой... От вазьму Напрэю скажу...

— А, татачка, дык ён-жа і за паўрубля аддасьць, дадушы-ж аддасьць...

— Ну, дык бяры от, ды глядзі, каб я зноў цябе калі не спаймаў тут. Усю скуру скіну з паганца...

Мяфодзю толькі й бачылі. Якаў акуратна сьцёг мяшок з гары і высыпаў у клеці ў кубел з просам. Высыпаў, падзівіўся крыху.

— Каб на вас немач! Кашы тае не набярэшся, жаруць як у процьму, проста такі, як у мяхі тыя дзіравыя сыплецца... От за тыдзень які колькі проса пашло...

Але задаволены ідзе да хаты—гэткую-ж выгодную справу зрабіў. Задаволены і Мяфодзі, які ўжо рэжа ў ачко за гумнамі, каб то кожнага дню зарабляць грошы так. Цэлы поўрубель грошай—гэта-ж ня жартачкі. І, цмыхаючы тоненькім, як той стручок гарохавым носам, ён паважна банкуе. Сапе ад натугі Пілішка Лаўрэнаў—прайграў аж дзьве грыўні. Чмыхае і стараецца плюнуць праз зубы (от-жа так Аніс шахцёр плюе) кірпаты Ахрэмчык Барташысін, прысадзісты, каржа-

каваты. Тут-жа і Цыбалаў Даніла і Хведзька Напрэяў—хлопчык статны і вёрткі, як сьцяблінка, з прыгожымі задуменнымі вачыма. У Цыбалавага Данілы новыя чабаты, сырыцовай жоўтай скуры, і гэта надае яму пыхі і павагі. Ён адчувае свае перавагі, знарок тыча чобат аж у самы круг, паволі асьцярожна набірае карты.

— Іш ты яго, саплівы... бяры хутчэй, здаецца, гад...—і Данілу штурхае ў бок Піліпка,—ты ў мяне ня дужа, і на чабаты не паглядзім..

— Дык чаго-ж табе трэба,—крыўдуе Даніла і ўжо крывіць рот, гатовы заплакаць.

— І-і... мымра... плаксун матчын, ідзі хаця спадніцай утрыся. Калі ўжо прайграў грыўню, дык і вочы на цэбар...

Каля картыжнікаў поўна ўсякае блазноты,—усе сочаць, як ідзе гульня і зайздроснымі вачыма праводзяць кожны рух Мяфодзькавай рукі, калі той запускае яе ў кішэнь з выйграным пятаком.

Нядзельны вечар ідзе к канцу, ужо не разьбярэш, ці то дама, ці то туз.

— Айда, хлопцы, дзевак пужаць!

Шайка картыжнікаў праносіцца віхрам па вуліцы, аж туды, да канчанскае ўдавы Прузыны, дзе сыходзяцца дзеўкі на супрадкі, дзе магчыма, і гармонік будзе, і ігрышча наладзіцца. За імі лапаціць, аж слупам пыл узынімаецца, малеча галапузая, бясштонная, сапліваяя.

— Айда, Підыпка, гаймонік с'юхаць,—і на хаду выцірае нос аб зашмальцаванае крысо згрэбнай сарочкі, што аж пыліць па дарозе, па пятах.

— От жа няма на іх зводу, на шкнарадзь... Да іх і вайна не дабярэцца. Абы бульбінай напхаў пуза і што яму трэба...—у задуменьні мармоча сабе пад нос старая бабулька, седзячы на падваконьні.

---

Лёкса Козіха крыху і не дабачыць, і кульгае крыху—-шчэ нябожчык мужык падбіў калісьці нагу валыком. Калі ідзе ў сваіх парваных чаравіках па падлозе, дык нібы рублі лічыць: руб-два руб-два... Таму й завуць яшчэ часам—Лёкса Руб-два. Але Лёкса ня крыўдзіцца, абы карысьць была ад чалавека. Старэнькая, пахіленая хатка падпёрта з боку статнелымі дубовымі падпорынамі. Маленькія замурзаныя шыбкі ўзіраюцца ў самую зямлю, у пахучую мяту, у рамонкі, што захапілі ўвесь двор аж да самага хляўчука, які стаіць без страхі, з адны́мі толькі рабрынамі паламаных, струхнелых латаў. Некаторыя шыбкі бяз шкла, у іх панапіханы старыя анучы, аблупленыя рукаў колішняй ватоўкі і рызьзё ад андарака.

— Хата мая кляновая—у марозы рыпіць, у нягоды хліпіць, а сяктак глядзі й ліпіць...

Якая-б там ні была хата, а людная, колькі таго народу ў ёй не перабывае. Засмыліцца ў цябе на душы, загарэніцца—ідзі да Лёксы ці днём ці ўначы—апахмелішся. У яе і чарка для добрага чалавека заўсёды знойдзецца. Ня хочаш чаркі, пляшку бяры, толькі й бяды

разьлічышся, не пашкадуеш кайстры дабра, сала кавалак. У Лёксы і «сыгнал» свой: калі ляжыць на пахіленай шуле каменчык—сьмела йдзі, усё знойдзеш. Няма—выбач—дзесьці з каробкаю адмервае крокі Лёкса, да манапалькі кульгае па галоўкі тыя, па чырвоныя. Цяпер цяжэй, вайна, і манапалькі тыя пазачыняліся. А ў Лёксы ёсьць, на вінакурню ход займела, цягае ўпотайкі па начох гарцамі. Абы ўраднік не наскочыў. Абы пачаставаць было чым. Другі чалавек, які далёкі і начаваць зойдзе, трэба-ж і прытулак даць, і накарміць, і напаіць. Сама хатка пярэбаркай тонкай на дзьве часткі падзелена. За пярэбаркай, што ад самай печы ідзе, сама жыве і дочкі жывуць. Тры дачкі—Салманіда, Ганна і Тацяна. У Салманіды сын, у Ганны дачка, Тацьцяна шчэ так ходзіць, ялаўкаю, як кажа пад злосную руку сама Лёкса. І жывуць чатыры бабы і ніводная мужыка ня мае. А дзеці—самасейкі, от бы мак той ля плоту, і хто яго сеяў там, даглядаў. А дзівіся, парос які, аж у ваччу пярэсьціць. От і дзеці ў хаце самасейкавыя.

Ёсьць яшчэ ў Лёксы конь. Конь ня конь, а кабыла сівая, за Дзянісам нябожчыкам куплялі—пятнаццатая вясна пашла з таго часу, як сканаў Дзяніс, прыціснула паленам у лесе. Кабылу запрагаюць хіба толькі тады, як трэба сушняку якога, тальля таго з лесу воз прывезьці. Тады ўсе ў чатырох завіхаюцца ля сівой кабылы, выцягваюць з хляўчуку старыя, бяз шынаў, калёсы, доўга корпаюцца з хамутом, з пазычынай у суседкі Агапкі—аднавочкі дугою. Самая маладзейшая—Тацьцяна—урачыста садзіцца на драбіны, усе падганяюць кабылу, каб як-небудзь з месца скрануць. Тады ўжо сама пойдзе. Калёсны панарад трымчыць, лапаціць вобад, і калі пабяжыць кабыла трушком з гары—стукат і грукат разносіцца далёка па ўсім сяле і мястэчку.

Дзядзькі і жанкі ўсьміхаюцца:

— Мусіць Лёксіна «капэля» па дровы паехала...

У Лёксы сядзіць суседка Агапка-аднавочка. Матка Аніса-шахцёра. Яе адзінае вока—пруткае, як мышанятка тое, ня знае ні хвіліны пакою, от так і шныпарыць па ўсіх кутках, па ўсіх шчылінках. Яе твар з гэтым адзіным вокам пад бялёсавымі брывямі ўвесь час насторожаны, як галава яшчаркі той. Яна хуценька захліпаючыся гаворыць, торгаючы рукой ражок хусьцінкі бруднай, выцьвілай, як і ўся Агапчына вопратка. У хусьцінцы грошы завязаны, скарб Агапчын, што хавае ад сына Аніса, каб не прапіў часам, не прабасячыў. Невялікія грошы там—от усяго рублёў з «шашнаццаць», як кажа Агапка, але дзе-ж ты іх палажыш. Таму й торгае рукой, занятак ёсьць, клопаты.

— Дык вот, таечка, і прыходзіць гэта падвечар Сілівон да мяне. Подвечар, от авечкі ўжо ў двары пазаганялі. Думаю, з якой такой прычыны ды Сілівону патрэбна да мяне. А ён сядзіць сабе. Сядзіць. Потым і ка':—пані Агапа, ці-ж табе сын ня сын?» К чаму-б гэта—думаю. А ён ізноў: «Ці вы ня матка над ім? Ці ты-ж сказаць ня можаш яму? Хіба яму й дарогі пазарасталі, акрамя як да мае Яўгінькі?»

— Хіба-ж то й цяпер ходзіць?—пытае Лёкса.

— А што яму... Ну, я й кажу тут Сілівону: «Братачка,—кажу,— ці ў гэтай справе вінавата я, ці што... І ці ведаць павінна я, дзе яго пранцы носяць... От жа не маленькі, яшчэ як на ніз хадзіў, дык быў яму ужо дваццаць пяты год. Ці я-ж яму ўказьніца, хіба да спадніцы яго прывяжу ці што...».

— І то праўда,—падказвае Лёкса,—а чаму ты яго, таечка, не ажэніш. Хіба то дзявок няма, колькі от чаропак гэтых па сяле галузае, а ім ніводная не патрэбуе...

— Дзе ты яго ажэніш. Хіба нячыстая сіла ўжо акруціць. Ходзіць от бугай бугаём... Хіба яму маткі слухацца. Яму слова скажы, дык ён і пашле, так пашле, што далей некуды.

— Дзіва то...

— Ну, а твае як?

— А што ім робіцца, на пожні старэйшыя, Малявым сена грабуць...

— То-ж чалавек ненажэрлівы. Колькі то аднае пожні захапіў, зязюлькі мае... І куды што яно дзяецца...

— Як куды? Банадыся-ж трэба жаніць, ды й дачка на выданьні. Ды й сын жа ў салдатах недзе. Жвенькаюць людзі—на ахвіцэра вышаў. Пятро гэта. Ды што казаць, хлапец быў хвацкі, шчэ ў горадзе колькі год вучыўся перад салдатамі. Ну, а ты ўсё з дзеўкамі валаводзішся?

— Ды што ты, зязюлечка! Брэшуць людзі ўсё, пагалоску пускаюць, нібыта я дзяўком дапамагаю, няхай яны абрыдаюць. Калі каторая скіне, дык на мяне пляву згаюць... Каму ня лень пакрыўдзіць мяне старую, усім то я на воку. А вялікі мне клопат, калі каторая нагуляе. Дужа я там завіхацца буду. Каб яны ўжо спарахнелі. Ат, людзі.

З бакоўкі выскачыла Тацьцяна і пашла да дзьвярэй, ветліва павітаўшыся з Агапкай.

У Тацяны тоўстая русая каса, хада ў дзяўчыны плаўная, мяккая— нібы бярліна тая па Дняпры плыве—думае Агапка.

І яшчэ рояцца ў яе думкі:

— Вот-бы ўхажора найсьці гэта каб, ды з розумам. Не адзін-бы трояк у кішэню патрапіў... Дзіва то і ня ў матку дзеўка,—поўная, сакавітая, грудзі тыя, як качкі, ідзе—калышуцца...

— Нішто ў цябе Тацьцяна, таечка, дзеўка, адным словам,—уголас кідае Агапка.

— Няма чаго бога гнявіць,—расьце бяз край меры....

— Жаніха-б ёй важнецкага.

— Дзе тыя жаніхі цяпер, вадой заліліся. Ды й ці пры маёй гаспадарцы хто пакваліцца на яе. На заработкі от трэба выправіць, хіба ў фольварак, альбо на дойню.

— Ото-ж бо й то...—кажа Агапка. І ці спачувае яна, ці аб чым іншым думае—хто яе ведае. Абедзьве маўчаць. Лёкса глядзіць на

двор, на плот, на якім сушацца гладышы на сонцы. Ля плоту стаіць кабыла, унураўшыся ў гладыш і апусьціўшы ніжнюю губу, стаіць нярухома, адмахваючыся хвастом ад назойлівых мух і сьляпней.

— Здохне хутка, няйначай, бач рэбры тыя павыстарчаліся, паўсыхалі ў скуру, а дзе ты яго цяпер каня набудзеш, маладога,—думае пра сябе Лёкса. За пярэбаркай дзеці пісколяць, Лёксіны ўнукі самасейкавыя. Спрачаюцца аб чымсьці Тацьцяна з Ганнай, спрачаюцца нудна, абрыдліва, ці то з-за хусткі якой, ці за забарсьні сырцовыя, сьвятошныя.

— Каб ты ўжо задушылася імі, як мне патрэбны твае забарсьні.

— А каму іх узяць, як не табе...

— Ціху вы, кабылы... то-ж неўгамонлівыя, непадзялілі чаго...— умешваецца Лёкса.

— Бач, байструкоў напладзілі, не падзеляць,—думае Агапка і кідае ў голас:

— Дык бывай, пані-тая, заходзь ужо калі адвячоркам.

— Ды ўжо-ж, калі-ні-калі прыду...

---

— Хіба от Ігнатка па газу сходзі!

— Ідзі, калі табе трэба...

— Ды ўжо толькі й ведаў, каб сіднем сядзець, каб ты ўжо прымёрз на той лаве... у-у... гора на маю галаву...

— От здох-бы, рада была-б нябось...

— А то плакала-б?

— Замоўчы, заб'ю!

— Сядзі ўжо, недарубак...

— Ты-ы... Ма-а-ць...—узьняўся на лаве, пагражальна загрукацелі мыліцы. Шырокі твар зьбялеў, і на ім выпукліліся напружаныя сківіцы, ды вырачаныя бялкі воч дзіка глядзелі, праціналі вячэрні змрок хаты, і ў іх ня было тае звычайнае жаўціны, ў якую афарбаваны гэтыя бялкі днём. Толькі зьзялі гэтыя белыя плямы воч, ды скрыўлены, напружаны твар нібы трымцеў у ліхаманкавай трасучцы, і здавалася старой маці—нібы іскры такія сінія ідуць от ад твару і праціналоць яе слабое, старэчае сэрца. Такія сінія, халодныя і разам пякучыя іскры. Якія абуджаюць жаласьць. Цёплую, ціхую, саромлівую нейкую жаласьць. Сарамліва і боязна неяк прызнацца ў ёй. І ніякавата неяк. А жаль бярэ, шкада бярэ. Старая Прузыпа стаіць ля печы. У руках ёмашнік. А для чаго той ёмашнік? Хіба сына біцца яна? От так, трапіў неяк у рукі...

— А сын ужо абмяк, асеў на лаву і толькі хударлявыя пальцы рук ходарам ходзяць, ніяк не пападуць на край карца, каб узяць яго, вады выпіць.

— Сыно-о-чак мой,—мітусяцца Прузыніны думкі.—А ці я-ж цябе не даглядала. А ці я табе ліха-гора жадала? А ці я-ж ня думала

аб табе—будзе матцы спакой, будзе ў хаце здабытчык? Дык от табе прычакалася... Пры-ы-чакалася...

— Дык ты ўжо, Ігнатка, папільнуй, каб цялушка ў гарод не заскочыла, а я ўжо схаджу на мястэчка па газу.

— Ідзі хіба...

У хаце пануе вячэрні змрок. У адчыненае вакно плыве пах канапель з агароду, шэлест бярозы за вакном. Дзесьці загуў жук, але раптам змоўк, вытнуўшыся аб шулу. (Абламаў нябось крыльлі, цяпер сіліцца выкараскацца з пяску, і ўсё растапырвае ўцалелае крыло, каб узьняцца, але дзе там, хваробы...—то думкі Ігната, думкі злосныя,— хва-а-робы...). У хаце душна і расплікае каўнер Ігнат, каб выпрастаць грудзі, вятрыску падставіць іх ціхаму, сьвежаму, такому-ж лагоднаму і пяшчотнаму. Шчымяць от толькі недарубкі ног, кульцяпкі гэтыя прыкрыя, хіба на нягоду часам? А сена шчэ ня прыбрана... Але за печкаю цвыркун пяе, і ад песьні той нібы празрыстасьць якая на сэрца лажыцца. І такія-ж ясныя, ясныя думкі ўсплываюць, як той вунь акрайчык неба пад чорным лесам. Таюць трывогі, адлятаюць, белымі ахлопкамі дзесьці сьцелюцца, ападаюць. І пачынаюцца мары. От ідуць, напльваюць, абымаюць цябе, аж захлынаешся часам, нібы даўкасьць якая, прыемная, салодкая, бярэ за горла цябе. Раней ня ведаў Ігнат хвілін такіх. Ці да таго-ж было. А вот, як адняліся ногі, дык колькі часу таго ляжаў. Ды адчуньваючы зноў ляжаў. Дый цяпер хіба здатны да працы. От і вольны час. І ходзяць ходарам думкі, снуюць у нясусьветныя карагоды. Аб вайне—дзіва то, крыві колькі паплыло тае. Пра цара—спаймаў-бы здаецца яго, ды тымі кульцяпкамі па пысе яго, па пысе—ці-ж гэта табе на народ звод пускаць, на людзей згубу чорную. Кажуць, дочкі ў цара ёсьць, міласэрныя нават сёстры... Няйначай, як тыя, што ў шпіталі былі, валавокія тыя, грудастыя. З паноў, кажуць, з вялікіх. Наведвалі гады ў рады.

— Чым хворы, салдацік?—і вусны як на прычасьце складзе. Маўчыць салдацік.

— Баліць хіба, салдацік?—Салдацік адварочвае нос да сьценкі.

— Ах, бедненькі... То-ж пакутнікі шэрыя, душы расейскія простыя, церпялівыя... Дык скажы, салдацік, чым кволішся?

І раптам рыўком словы, нібы кулі тыя алавяныя, што ні слова, то жах, што ні слова—вянуць вусны тыя, на прычасьце што складзены.

— Сьвярбіць, сястра, дужа сьвярбіць... Клізмы хочу, да некуды ўставіць, усю казённую часьць адчыкрыжыла... знарадамі... І ні віду цяпер, а ні с...

— Ах божа, да я... ах... доктару скажу, санітару... няхай дапамогуць... ну, бывайце, салдацікі...—І валавокія, грудастыя, як вялікія тыя матылі белыя, з тораткім шорахам вылятали за дзьверы. Толькі пах ад іх заставаўся салодкі, даўкі. Спачувальна рагаталі пад коўдрамі землякі, другія цяжка і злосна сплёўвалі, трэція паміналі багародзіцу, нейчую маць і сьвятую тую вош-трояручыцу. Тую, што больш за вераб'я не расьце, загаворанае...

Дзіва то не расьце...

... А за вокнамі сутоніцца. Дзесьці гамоняць дзяўчаты, разьліваецца сьмех іхны і ў пустым паветры вячэрнім сьмех гэты звоніць, нібы сыплюцца грыўні срэбныя, новыя на стол, на лаву ліпавую, на сэрцы лягчэй.

А вось і дзяўчаты.

Уваліліся гурмаю ў хату і рассыпаліся як гарох па далоні.

— Гэта ты, Ігнат, чаму лямпы ня паліш?

— Ямчэй от так.

А яно і сапраўды... Дзеванькі, айда ў жмуркі гуляць. А ну-Тацьцяначка, каму чарга пачынаць...—Скогат, гоман, хоць ты сьвятых вынось з хаты. Трышчаць палаці, зыбаюцца палавіцы, аж пыл ляціць са столі.

— Да ці не пашалелі вы часам, то-ж гіз напаў... То-ж няма хлапцоў на іх хвацкіх, каб да парадку давесьці, бач гізуюць...

То ўваходзіць Прузына, ідзе да стала, завіхаецца ўпоцемку ля лямпы, доўга шукае ў прымурку запалак і марудна нешта мармыча пад нос і, порkаючыся над кнотам, запальвае лямпу. Трохі суцішаюцца дзяўкі, сядзяць чырвоныя, спацелыя, галізьлівыя. Вочы так і гараць, шчокі пыхаюць крамянаю чырванью, ходарам ходзяць грудзі, як ня рэпнуць от кофтачкі гэтыя: чырвоныя, жоўтыя, сінія—у палоску, у клетачку, у гарошынку, у макавую тую бубачку. Ды з карункамі, вышываныя, загенчыкамі шкляных маністаў.

— А маманькі, ці-ж тыя хлапцы вадой заліліся, а ні дзыну, ні рыну, ні кагусенькі...

Але ў дзьверы ўжо суне Банадысь. Старастаў Банадысь. Ён абыходзіць усіх з ручкаю, нязграбна шчоўкае абцасамі рыпучых ботаў, здароўкаючыся з Ігнатам—перад вайсковым чалавекам трэба і па вайсковы. Вітаючыся, пасьпявае памацаць «цупкасьць» матэрыі у Настачкі, маладзенькай дзяўчынкі, якая ад сарамлівасьці аж хавае твар за сьпіну другіх дзяўчат. Дзяўкі ўжо насядаюць на Банадыся.

— Семак давай, што ты гэта за кавалер ды бяз семак... А ну, ну, выварочвай кішэні...

Хутка ў хаце поўна людзей. І хлопцаў і дзяўчат. Нават апоўзылікі тыя саплівыя пазьбіраліся, унь ушыліся каторыя за комін, дзівяцца. Ужо трынкнуўшы некалькі раз для прылiку (гэтак расьцягла і жаласьліва) пусьціў на ўсе галасы пераборы свой гармонік Руды Павал з таго канца. І заварушыўся люд. І местачковыя дзяўчаты тут—ліпучыя да гармоніка. Больш слухаюць, а каторая і ў скокі пусьціцца. Унь Фаня-шавачка, дачка Абрума, так рэжа, аж як тыя чаравікі трымаюцца.

— Па нашынскі гоцае,—хвалячы абзываюцца хлопцы.

З ліхіх, бяз край меры вясёлых гукаў гармонік абрываецца і, перачакаўшы якую хвіліну, расплываецца павольнымі, плаўнымі гукамі. Ціха гойдаюцца адна за аднэй ліхія пары, крыху нязвыклыя

да марудлівага вальца. Але хутка ўваходзяць у лад і кружацца ў стройным парадку. Толькі от Мяфодзькі гэтыя, Ахрэмчыкі трапляюцца часам пад ногі, перашкаджаюць, а то шчэ і ўшчыпне каторы дзяўчыну зьнецікі.

— Я от цябе, смаркаты, так ушчыкну, што крывёю ўмыешся...

— А ты дужа там... бач ты яе, пава...

Але нішто. Весела. Прыемна гэта ў вальцы. Унь нават некаторыя старыя бабы падпіраюць дзьверы, дзівяцца, гутараць між сабой. Ля Ігната Наста сядзіць. Села аддыхаць, сядзіць і пазірае з захапленьнем на Банадыся. От-жа хлопец. Боты рыпяць аж, сарочка бліскучая, а чуб той, чуб, русы чуб, сукрыты... Ігнат пазірае на Насту і шчыміць крыху сэрца. От бы пайсьці з ёю ў скокі, закружыцца так, каб аж заняло дыхаць, несьці яе на руках, як саломінку тую, як пярынку. Бач, які нос у яе, а гэты шоўк валос, такія ядроныя шчокі, залацісты пух сукрыцца на шыі, а вочы тыя, вочы...

— Настачка,—кратае за руку і рука мімаволі адсуваецца ў бок.

— Настулька!—нахіліўшыся да вуха.

— Га...—спалохана,—чаго табе трэба?

— Гэта я...

— Ай, адчапіся... Не перашкаджай, бо хлапцоў ня бачу, бач, як прыгожа унь скачуць...

— Скачуць... так... ска-а-чуць, гады. У-у... сьцервы ня нашага бога...

Настачка робіць вялікія вочы і напалоханая перасоўваецца падалей ад Ігната. Ён сядзіць нярухомы і ўглядаецца, як угінаюцца палавіцы, як мітусяцца боты, чаравікі, сырыцовыя забарсьні чорныя, а от і проста басанож адбівае нехта тахты, вёртка падхватвае ногі ад ёмкіх абсацаў, падковак.

Але гармонік сьціхае. Нехта спрачаецца з гарманістам. То з другога сяла хлопцы прыйшлі, свой наводзяць парадак, і от павінен ім гарманіст барыню сыграць, для іх гэта значыцца, па іх спэцыяльнаму загаду. Ужо чырвоны Банадысь перад імі, сапе злосны. З імі і другія хлопцы, свае, сяльчанскія. Каторыя з баб старэйшых, што падпіралі дзьверы, пасунуліся на вуліцу, да вакон, малеча за комін ушчылілася, каторыя пужлівейшыя дзяўкі, пасунуліся ад стала падалей,—шчэ цяпне каторы зьнецiку ў карак, тады і шукай, хто. І ня ўгледзіць, як даў нехта па шкле лямпы, толькі пырснулі ў сьцены апкалёпачкі тыя. І пачалася тузаніна, крык вэрхал, сьцены ходарам. Дзяўкі, як авечкі тыя, на вуліцу драпанулі. Пацягнулася на двор і ўся баталія. І доўга па вуліцах, па агародах бегалі як ашалелыя хлапцы, з дручкамі, з папружкамі, з аштакецінамі. Суседзяў лавілі, з другога сяла хлапцоў. І каб залішне не наводзілі фанабэрыі другім разам, цягнулі іх у старую лазьню, няхай от прачухаюцца да раніцы.

— Пасядзеце от, у Прузынінай лазьні, пашуруйце палок, дзе Прузына парыцца... Хіба от венікаў даць...

«Вязьні» раўлі на ўсё мястэчка і білі што моцы ў дзьверы. Але дзе ты іх асіліш, калі колькі тых дручкоў дзьверы падпёрла, да 'шчэ шулу старую нечую прыцягнулі хлопцы, волакам завалілі.

— От вам як лямпы біць, супастаты.

Умяшаўшыся ў справу соцкі—чалавек чаргу адбываў начную. Ды дзе там:

— У лазьню мо' хочаш, дык папарым...

— А каб вас транцы паелі, бязулы... Няма на вас, на каторых, лібізацыі...

— Пагавары там...

---

Звозіў копы Андрэй на лясной дзялянцы ля парому. Накладаў на вазы і звозіў на ўзгорак, дзе падвечар стог меліся класьці. Аднаму ня зусім было зручна: то разлазіцца воз, некаму ўтаптаць, то толькі пачнеш рубель уціскаць, вяроўка выскліэьнецца, пакуль ты яе ізноў уцэліш накінуць. Накладаў і лаяўся, каня лаяў.

— Ты от у мяне паварушыся, падла доўгагрывая... Бач, як поп той, дужа ўжо скнарысты, ні аднэй травіны не праміне, каб ня згрызьці. І поп-жа шкадуе, каб людзей наняць, каб лішнюю якую залатоўку з кішэні пусьціць, дык «едзь адзін ужо, пасьцягвай капежкі, а падвечар паклічу каго, тады і стажок скідаеце».

А калі сьцёг апошнюю капу, распрог каня і пусьціў яго папасвацца крыху. Той узабраўся на сушэйшае мейсца і, адчуваючы сваю поўную волю конскую, доўга качаўся па зямлі і толькі ціхае іржаньне яго сьведчыла аб вялікай асалодзе, аб вялікім задаваленьні конскім. Калі скончыў устаў, падбрыкнуў разы са два і пашоў ціхенька выбіраць смачнейшыя травіны, скубсьці салодкую атаву пад лесам.

Андрэй забраўся ў цянькі і, лежачы на сьвежым пахучым сене, узіраўся ў бяздонную небавую сінь. Сонца ўжо схілілася з поўдня, і ня так пяклі яго празрыстыя праменьні. Ледзь-ледзь гаманілі верхавінамі хвоі, ды асіны, што стаялі на ўскрайку лесу шапацелі аб нечым сваімі кволымі трапяткімі лісткамі. Хіба аб блізкай восені, аб убёрах восеньскіх, жоўтых, мядзяных з адценьнямі чырвані цёплай. Да аб вятрох восеньскіх, што загойдаюць, зашугаюць па мокрых галінках, і затрапечуць галіны, зацярушаць лістамі пажоўклымі, затрымцяць сарамліва, скідаючы адзеньне сваё, пасьцілаючы ўбёры летнія па зямлі.

— Захаладала ўжо вока сонцава, бач глядзець у яго можна...

З лесу цягне пахам грыбоў, цьвілога лісьця і дрэва. Ды кружыць голаў салодкі пах багуну з лагчыны. Пераклікаюцца дзесьці, мусіць пастушкі, або хто па грыбох ходзіць. І прыемна ляжаць от так, прыслухацца да гукаў лясных, да шэпту лістовага, што хіліць да сну. Але нехта ідзе, чуваць, як патрэскваюць галінкі і суха шархаціць папараць на ўскрайку паляны, як чмокае вада пад чыімсьці нагамі. Але лянота павярухнуцца, зірнуць туды. Крокі бліжэй, вось сьпы-

ніліся—відаць шукае каго чалавек, вачмі шукае. І раптам нечыя рукі цягнуць з капежкі.

— Ага, папаўся, лодыр!

Андрэй спаўзае з капежкі, ловіць рукамі дзяўчыніп твар.

— Мартачка, а я думаў, што ты і ня прыдзеш. Усе копы сьцягнуў, а цябе ўсё няма і нямашака...

— Дурань... Ото-ж і добра, пасьцягаў копы, а цяпер і вольны... А я ледзь адпрасілася ў качарэжкі той. Я ўжо й так, я й гэтак: у траву,—кажу,—пайду, назьбіраю кветак вам, ды травы крыху... Яна унь цэлыя венікі вяжа, усю столь завёсіла, усё ад хвароб розных... Я й то ўжо крыху прылаўчылася, ведаю, дзе і якая трава ад чаго: ад прастуды, ад жывата, калі ногі заломяць... Нават кроў затрымаць, і то ўжо магу...

— Уга... У мяне от кроў так і кіпіць, так і шваркоча, а чым ты яе затрымаеш?

— Яшчэ што выдумаеш...

Марта сарамяжліва садзіцца поплеч.

— От ужо жыты пачалі жаць па ўзгорках... — гаворыць яна нарасьпеў, нібы прыслухаецца да свайго голасу.—Хутка, казала Марыля, прыстол будзе. Ганак ля капліцы папраўлялі ды на калодзежы на крыніцы зруб аднавілі, некалькі вянкоў новых дубовых паставілі.

— А як ты, Марта, думаеш, у крыніцы сьвянцоная вада ці не?

— А то як-жа... Вядома сьвянцоная... Вунь і сястра Аўдакія кажа...

— Ну, што твая качарэжка кажа?

— Ды от, кажа, у ясныя ночы, калі месік заглядаецца ў крыніцу, тады сыходзіць багародзіца з вобразу, купае хрыста ў ёй...

— З мылам?

— Аб чым ты гэта?

— Ды пытаюся, з мылам яна хрыста мые, ці от проста так папалошча, ды й годзе?

— А божухна, да змоўкні ты, язык-жа адсохне, от пасьмей толькі яшчэ сказаць так.

— Дурніца ты... Хіба-ж бачыла ты, як багародзіца гэта з вобразу сыходзіць?

— Я? Не, я ня бачыла... Але-ж сястра Аўдакія кажа, ды й людзі кажуць, ізноў-жа і Амяльлян кажа...

— Багата табе чаго твая Аўдакія нагавора. Чаго-ж гэта багародзіцы ня грэх у дзеўках раджаць. Бач, байстручка займела, ды й рада гэтаму сьвяту. А от бабы дурныя, разявы дзіравыя, носяць от дзяцей пупок той цалаваць байструковы, а мо' ад залатухі і дапаможа. Пацалуе пупок, да Аўдакію ў ручку цмок, да з дзесятак яец дасьць яшчэ. Аўдакія і нітачку тую, што ты-ж па яе даручэньню скрозь мышыныя вочы працягвала гэта, каб дзіцяці на шыю вешаць... От ужо й будуць лекі і ад залатухі і ад грызі...

— Ды гэта-ж ужо сястра Аўдакія лечыць, а прычым-жа тут багародзіца... І дзе ты язык такі займеў, от убача госпад бог, ды й адсячэ, адваліцца...

— Не адваліцца!

— Да душы-ж адваліцца. От сястра Аўдакія...

— Ды кінь ты Аўдакію сваю, от узьлюбіла ты яе... А чаго яна да цябе чэпіцца?

— А хіба я ведаю.

— То та, ня ведаю... Слухайся от сьвятых сваіх, дык дурніцаю станеш... Чаго ёй карціць, што яна мае да цябе, калі сама нават біцца да цябе кідаецца. А ці ёй-жа, боскай паслушніцы, ды гэта кідацца біцца?

— Хіба я ведаю?

— То-ж то ня ведаеш... Ах-жа ты, мая няведніца, дай-жа я цябе хіба пацалую...

— Табе толькі й карціць, каб гэта... Нечага там... Сястра Аўдакія кажа і за кожны пацалунак з хлопцам будзеш ты ў пекле на крюку вісець, ды ўзъдзенуць цябе за вусны, ды 'шчэ па гэтых вуснах прапякуць цябе жалезам каленым. Смаліць будуць: а не цалуйся з хлопцамі, а не цалуйся з кірпатымі от так, а не цалуйся з такімі от дурнесенькімі, а не цалуйся з такімі заразамі..

— Маці мая, царыца нябесная... Усё сена зьбілі... Дапамажы божа!

Айцец Панфіл стаіць ля капежкі, і калі толькі вынырнуў гад? Ён хітра ўсьміхаецца і бярэцца за граблі. Марта адразу кідаецца ў бок, але раптам схамянуўшыся і апусьціўшы вочы долу, просіць:

— Бацюшка, дык хіба й я дапамагу стог скідаць...

— Каб ён ды пры дапамозе тваёй не раскідаўся, чада маё... Але як хочаш, калі ўжо ў цябе такая ахвота, дык бярыся, працуй... А мо' і пасобіш крыху...

Андрэй моўчкі бярэ рашучa вілы і вось вось здаецца пратне ён папа, які, бач, моду ўзяў, зьяўляцца там, дзе яго ня просяць. Але вілы ўядаюцца ў тоўсты пласт сена і папраўляюць капёжку.

— Дык ты, Андрэй, падграбі тут крыху, а зараз Амяльльян прыдзе, ды мо' Лаўрэн падскоча, ды й скінеш стажок тымчасам...— І да Марылі:—Ну; дык калі, чада маё, на хрысьціны пазавеш і як зваць будам?—і пострыкія вочы айца Панфіла сьвідруюць постаць Марціну.

— Яна стаіць унурыўшыся, глядзіць кудысьці ўніз, дзе, заблытаўшыся ў сене, выглядае парыжэлы бацюшкаў чобат. Раптам адна за аднэй выплываюць сьлязінкі і коцяцца па шчацэ адна за аднэй. І адвярнуўшыся, раптам пацінае Марта плячмі і сударгава ўсхліпвае, абліваючыся сьлязьмі. Поп хмурыць бровы і да Андрэя:

— Ну, што-ж, змусьціў, нячысты дух, дзяўчыну, цяпер суцяшай ідзі. То-ж безьлюдзь, ня могуць так, каб гэта да па людзкі...

Андрэй ня ведае, што рабіць і чаго расхадзілася гэта яна з якой прычыны.

— Ну, чаго ты?

— Чаго, чаго... Ніколі людзкага слова ад іх не пачуеш... От качарэжка тая, манашкай завецца, дык скажы ёй, абавязкова скажы, як і што, цалаваліся як, што рабілі... Дык і бацюшка такі... Усё ім прэшнае на ўме...

Айцец Панфіл вінавата лыпае вачмі і, як пабіты сабака, моўчкі адыходзіць у бок, да ўскрайку лесу.

— Ды вы ўжо пачынайце тымчасам, а вунь і Амяльлян ідзе, ды й Лаўрэн хуткім часам...

— Ідзі ўжо, ідзі, жарабок стаенны,—мармоча пад нос Андрэй.— А ты чаго вочы распусьціла?

— А чаго яны чэпяцца?

— Дурная, то-ж сьвятыя твае, ім-жа акрамя як пра тое, нішто і ў голаў ня лезе...

— Складалі стог аж да самага позьняга. Ужо сьцямнела, як завяршылі яго. Андрэй узяў крыху ў бок, калі ехалі з пожні, каб падвезьці Марту. Гаварылі аб усякай драбязе, як манашкі жывуць, як ганяе поп пападзьдзю, як цягае ён, Андрэй, гладыш з сьмятанай.

— І чаго гэта яны скнары такія?

— А запытай ты іх... Чым багацей, тым больш скнары. Вунь у Цыбала парабак Напрэй дык таксама толькі бульбу жарэ, а калі ўжо ў сьвята якое собіць там чаго перахапіць, дык і то ў рот глядзяць, каб змаглі, дык, здаецца-б і з роту выцяглі...

— Напрэй, кажаш... А ў мяне брат таксама Напрэй. Толькі ня ведаю, дзе ён цяпер, таксама ў парабкох служыць...

На раскрыжаваньні дарог разышліся і толькі тут схамянулася Марта, што прыдзе яна да хаты ні з чым. Нават спынілася крыху, пастаяла хвілінку, але ўжо рашуча пашла да капліцы.

— Ня зьесьць... А будзе дапытвацца, дык ня змоўчу. Ім толькі скарыся, дык і сарочку сьцягнуць...

---

«...жывом от, вошай гадуем. І нішто, п'юць нашу кровушку... Да як ужо небудзь, прыдзе час, дамо як сьлед усім крывасмокам, ужо яны будуць ведаць... Ды, скажы там старасту, каб з пожнямі задужа ня круціў, бо жылы ўсе павыкручваем, калі міне часам куля германская, ды да хат вернемся...»

Напрэй Казёл слухае ліст ад брата свайго Сёмкі Казла, што ўжо другі год як на вайне. Ліст чытае па складох Хведзька, чытае ў нос— няйначай прастыў гад недзе,—і ня дужа Напрэю ў толк, што гэта там у лісту пішацца. Але Хведзька дапамагае бацьку:

— Гэта, татка, дзядзька пра старасту піша, пра крывасмока нашага. Кажа, увесь хрыбет старасту зруйнуюць, калі з вайны вернуцца. Гэта няйначай як за пожні канчанскія...

— Дужа ты, саплівы, ведаеш, дзе яно і што да чаго. Як жа, паспрабуй слова яму сказаць, хоць-бы сабе й старасту, калі тут табе і вураднік і прыстаў і сам земскі начальнік. Што ні кажы, вялікую сілу чалавек займаў... Як-жа, возьмеш яго голымі рукамі...

— А яно-ж, татка, людзей гэта багата, а стараста адзін, ды й вураднік адзін...

— Цыц ты, шуядзь, чытай далей...

У хаце сядзяць: Лявон Ражок, Жаранкоў Хведар, Цыпрон Гугнявы, ды цётка Барташыха схіліла галаву на далонь, прыслухваецца.

— А ён гэта піша ўга, важнецкі піша...—кідае паважна Лявон і лезе ў кішэнь па табаку.

— Нябось ня так яшчэ ў акопе запішаш. Яно, брат, таго... Шчэ ў японскую вайну...—але закурваючы ўжо забыўся Хведар Жаранкоў, пра што гэта хацеў сказаць ён. Ды і ліст зноў чытаюць.

— ... ходзяць чуткі па салдатах—няйначай перадзел будзе зямельны. А як яно што—ня ведама яшчэ... А добра было-б, ды каб спраўдзілася. А чуткі нездарма. Бо некаторым з нашых, што са мной у акопах, пішуць, от, што і маёнткі ў іх паляць, дык мо' як і спраўдзіцца...

— Глядзі ты, дай-жа божа ды ў час добры!—уздыхае Барташыха.

— ... а вайне мо' і капут будзе, бо пішуць, што рабочыя дужа-ж супроць вайны пашлі, унь па каторых гарадох дык на фабрыках ды заводах хвалюецца народ, супроць закону выступае. Асабліва то ў Пецярбурзе, як кажуць нашыя хлопцы...

— Гэта ўжо здарма... Як можна, каб супроць закону! Ня можа чалавек супроць закону йсьці, бо ня намі гэты закон дадзены... Вунь у пятым годзе, дык колькі-та народу пабілі ў горадзе. А ўсё супроць закону ішлі. Не, гэта здарма...

— Што здарма?

— Да што супроць закону.

— Лапаць ты лазовы... Пражыў колькі год і хоць-бы табе разуменьне меў якое малое. Здарма, здарма...—перадражнівае Напрэй Жаранкова.

Ужо даўно скончаны ліст, перачытаны ўсе ўклоны і пажаданьні, а людзі сядзяць і зрэдку перакідаюцца думкамі кароткімі, сьціслымі, от такімі-ж простымі думкамі, як зямля, на якой сеяць трэба і няма часам на чым пасеяць.

— Дзіва то зямля... Вялікае слова зямля... Але як-жа ты да яе прыступішся, калі от за пожнямі—панскае, за рэчкай—папоўскае, пад лесам—ізноў жа панскае...

А ў шчабе які шнур дык з бараною на ім ня выцягнешся...

— Ды яно-ж так, Лявонка,—устаўляе свае словы Барташыха,— у мяне от адзін на вайне, ды 'шчэ во' трое. А дзе ты ім зямлі набярэшся. Гэта-ж табе не пасеяць—узяў бы от і пасеяў. Гэта-ж зямля!

— Не кажы, чалавеча...

— От вам і зямля... А хто за гэтую зямлю, ды косткі свае ў зямлі парыць. Палічы от, колькі з аднаго нашага мястэчка людзей пабралі, да ўжо й няма некаторых. А колькі іх яшчэ ня будзе...

— Адзін гаспод бог ведае,—адказвае Барташыха і яе парэпаны, загарэлы твар робіцца яшчэ цямнейшы.

— А мо'-б як і дачакаліся. Вальней каб. Як ніяк, а павінна вайна палёгку нейкую зрабіць, каб дыхаць вальней.

— Як-жа, расьпіразвайся... Дасьць яна, прычакаеш!

— А хто яго тымчасам ведае?

Разыходзіліся. І ў кожнага варушыліся думкі. Вот як жорны тыя, марудныя, нярухомыя. І кожны жадаў, і кожны хацеў. І кожны верыў.

— А мо' яно што і будзе...

---

— Цялу-у-шачка мая!

Настуля выходзіла на двор, куды забягала з пашы па даўней звычцы цялушка, якую купіў тады з таргоў Цыбал. Яна лашчыла яе, давала скарынку хлеба. І тая нібы-та спагадна мыкала аб чымсьці, аб сваім, каровіным, цялячым. І шла да хлява.

— Не ўжо, мая лысыя, у хлеў я цябе ня пушчу, ідзі ўжо да свайго.

Заўсёды забягала па цялушку Макрыда, альбо зьяўляўся сам Цыбал. Ён ня ледзячы ў вочы, здароўкаўся з Мартай.

Дык ужо добры вечар, калі што...

— Каму і як...

— Дык хіба ты яшчэ злуеш за што?

Марта не адказвала. Яна звычайна пазірала, як не давалася цялушка ў рукі, як пускалася ў побрыкі па двары і як засопшыся бегаў усьлед за ёю Цыбал, пераставуляючы кароткія, як цюльпахі тыя, ногі.

— То-ж дай ёй рады... Вось я табе высьпятка ўжо як дам, дык ты мне пабрыкаеш, гіз на цябе ўсьсеў...

— Чужое, дык у рукі не даецца...—заўважвае нібы так, ні да чога, Настуля.

— Як гэта чужое? А чые грошы плачаны?

— Грошы? Вялікія тыя грошы... Хапіла-б хіба, каб пятлю купіць засіліцца за тыя грошы, калі можна грашмі лічыць капейчыны тыя Юдавы... Хіба то продаж, зладзейства то, а ня продаж. От кажуць, Хведар Жаранок злодзей—курыцу ўкраў... Не, ня ён злодзей. Ня там шукаць злодзея трэба... Другія от, у каторых з пуза лезе, а яны ўсё ўзахапкі, каб-жа да ўвесь сьвет у свае зладзейскія лапы ўзяць, каб-жа ў другога апошні акраец хлеба са стала сьперці... То-ж зладзюганы, крываžэрнікі...

— Ты гэта...

— Я гэта.

— Ты гэта, рыбачка, ня дужа каб зьвягала, ды са злодзеем гэта...
— А што?
— Ды кажу, каб ня дужа. Бо закон, ён, браце, не абышто, а за-кон, закон, табе гавару... Ён табе, браце...
— Воўк табе лесавы—брат... Бач, панібрат які знашоўся...
— Каб ты ўжо спарахнела. От жа язык, ты ёй, як з чалавекам, а яна на тры ступы, так і таўчэ, так і таўчэ... Ах, каб жа на цябе паляруш, ды на язык твой пякельны... то-ж без мазаля язык, як чым змазаны...
— Ідзі, ідзі з двара... Адразу-ж, каб і паху твайго ды й цялушкі твае крадзенай тут не засталося. Адразу-ж, айда. А то не пагляджу на цябе, што ты мужчына, от увесь паркан паламаю аб твой хрыбет зладзейскі...
— Каб на цябе немач... От-жа кабеціна, даруй ты, божа...

---

Жалі ў Мялавых жыта. Жалі ўсе тыя, што на адработ пазычаліся. Тут і Тацьцяна Козішка і Палашчына Настачка і шмат яшчэ якія дзеўкі і салдаткі. Банадысь снапы зносіў. Складала ў бабкі дачка старастава. Калі сонца на поўдні стала, пачалі палуднаваць. Полудзень прывезла жонка старастава. Сабіраліся ля калёс і тут на посьцілцы і раскладаліся есьці. Старая наразала хлеб, усё старалася, каб станіць як лусты, не задужа ўжо каб раскідацца з дарам божым. Налівала поліўкі ў міскі і ўсё прымярала, прыкідала вокам, ці то хопіць ці не, накарміць каб.

— От жа арава, ці ты наварышся на яе, гэта-ж чыгун патрэбны, уга які...—думала яна, раскладаючы па кавалку мяса. Як ні скнара яна была, але-ж бяз мяса па полудзень нельга. На тое-ж жніво, а сыты чалавек ён табе ўдвойчы сажне.

— Дык вы ўжо, дзеванькі, ня дужа каб прахаладваліся, бо цянькі вы, канечне, упадабаеце, але трэба-ж як-небудзь і загон дажаць давечару.

— А калі й не сажнём, толькі й бяды: заўтра дажнём.

— Не, ягадка, заўтра трэба пачынаць пад лесам. Жыта яно, галубка, не чакае. Дзень, другі—яно і сыплецца... У другіх гаспадароў яно, канечне, і прычакаць можа крыху, бо й жніво таго, на дзедаў учкур. А ў нас-жа, уга, гаспадарка гэткая!

— Дзе-ж яго дзяваць гэтулькі жыта?

— Як гэта дзе дзяваць? У гаспадарцы яно ўсё спатрэбіцца, усё сваё месца знойдзе. Дзіва то, дзе дзяваць... Абы было!

Калі ўжо вечарэла, зносіла снапы Тацьцяна з Банадысём, дапамагаў. Ён хадзіў поплеч і ня столькі было тае дапамогі, колькі перашкаджаў толькі.

— Дужа ў цябе от каса тоўстая!
— Тоўстая, да не пра цябе.
— І грудзі ў цябе, як пампукі, крамяныя...

— А што табе клопат аб іх?

— Гэта я так. А калі прыду нанач сёньня, ці прымеш?

— Падумаеш, пэрсона гэткая, каб яшчэ да прымала. Вунь Настачка вочы на цябе прагледзіла, чаму-б табе і ня йсьці да яе...

— А можа ты мне падабаешся...

— Дужа там.

— Дальбог жа, Тацьцяна. Вот гляджу на цябе і дзіўлюся: дзеўка ты, не сказаць, каб з гаспадаркі якой, а ўсё пры месцы. І вочы ў цябе мне падабаюцца, і косы. От каб яшчэ хвартух з карункамі, дык і зусім тады хоць ты да шлюбу...

— Годзе табе ўжо кепікі строіць...

— Ды я ўсур'ёз. Пры чым тут кепікі, кажу што думаю. Да душы-ж ты мне да спадобы, хоць адразу да папа йдзі.

— Дзе ўжо табе, ты шукай сабе кампанію, каб роўную, от у Цымбала Макрыду, дзеўка нішто.

— Касавокая?

— Толькі тае бяды. Затое бацька пасаг дасьць і ёсьць з чаго даць.

— Ужо з поля ішлі, а Банадысь ўсё ня кідаў свае гаворкі.

— Дык прымаеш, кажаш...

— Адчапіся ўжо, назола.

— А ўсё-ж?

— Вот прысьпічыла чалавеку. І дзе гэта відана, каб от адразу, ды 'шчэ прыняць яго. А ты пахадзі, папрасіся, добра пакланіся дзеўцы, ды словам яе ласкавым прыгулі. А то на табе: грудзі крамяныя, прымі яго. Што я табе гуляшчая якая?

— Да я ўсур'ёз-жа, Тацьцяна, кажу, не на жарт...

— А калі ўсур'ёз, дык і рабі па-людзку.

— Дык калі прыду?

— Папаў на язык, не перамеле.

— Дык прыду ўжо, Тацьцяна!

— От смала тая...

---

Іван Іванавіч падагравае жалезіну, каб лямеш наварыць. Зьлізала зямелька, прытупіла лямеш, замардуеш каня з плугам такім. Лявон паддувае мех. На кучы ўсякага жалезнага ламачча сядзіць цётка Барташыха—прывяла кабылу падкуць. Шыпіць у горане, разьлятаюцца іскры адтуль і сыплюцца на падлогу, на кавальскі хвартух, на яго рукі чорныя.

— Глядзі ты, і не пячэ!

— А чаму яму пячы?

Пад спрытнымі рукамі каваля выцягваецца лямеш, выростае. Вось і дзіркі тыя прасьвідраваў.

— Давай плужок!

Усё як сьлед прыпраўлена, хоць ты запрагай каня ды ў поле.

— Дык дзякую, Іван Іванавіч, цяпер і папар можна ўзьняць, усё жыта адсеяць...

— На здаровейка!

Лявон Ражок ужо зьбіраецца ісьці, але, прыгадаўшы нешта, мнецца з хвіліну і запытвае.

— От што, Іван Іванавіч, чалавек вы ў нас, можна сказаць, разумны. Скажэце, як вы глядзіце на такую от праяву. Ліст гэта атрымаў Напрэй ад Сёмкі, ад брата. Піша той, што чакаць можна пасьля вайны, а то й цяпер, перадзелу зямлі, нібыта і рабочыя там супроць закону выступаюць...

— Ну?

— Дык от, ці можа гэта быць, каб з зямлёй, значыцца, ды па новаму?

— Гм... Як табе сказаць... Яно на сьвеце няма нічога такога, каб не змагло спраўдзіцца. Асабліва, калі рабочыя гуртам возьмуцца, дык яно можа і споўніцца...

— Дык споўніцца, кажаце?

— А чаму й не... Усё можа быць, чалавеча. Рабочы чалавек чаго захоча, таго можа і дабіцца. Ды ’шчэ, скажам, калі й селянін спаць ня будзе, а дапаможа яму, ды пачне паноў падкурваць патроху.

— Дык кажаце, можа быць гэта?

— Ясна, можа.

— Дык вялікае-ж вам дзякуй. А мы, прызнацца, сумняваліся крыху—як гэта можна, ды супроць закону? А войска нашто, а паліцыя, а жандары тыя, стражнікі. Дык яшчэ дзякуй... От яно што значыць.

І Лявон пазірае на цётку Барташыху з такім выглядам, нібы хоча сказаць: «А што, я не гаварыў вам раней, хіба не па майму вышла». Узяўшы на плечы плужок, Лявон бадзёры ідзе да хаты і пазьбітыя кішці ног узьнімаюць на вуліцы цэлыя воблакі пылу.

— От што значыць, пагаварыць з разумным чалавекам. Яно і Сёмка не павінен-б брахаць. Таксама хвацкі хлопец. Разумны чалавек. Але ўсё-ж можа быць. А калі й другі чалавек такой-жа думкі, дык пэўна-ж што-небудзь і будзе. Дай-жа ты, божа.

І Лявону Ражку ўяўляюцца перад вачмі яго вузенькія шнурыкі, дзе ўжо часам і касой не размахнешся, няма ведама як і грэчку скасіць. А ратоў гэтых, каб на іх нарад, процьма.

Што год, то рот. Вунь і цяпер Лявонава жонка, гушкаючы малога ў калысцы, з трывогаю на жывот пазірае:

— Ня дай божа, ды двойне трапіцца, от будзе клопату!

— І радзімцы гэтых баб не забяруць. За якія год шэсьць цэлая плойма саплівых... Але не бяда, быў-бы здароў, гэтулькі то клопату...

Як толькі цямнее, Сідар лясьнік пакідае свой кардон, пільна аглядае дубальтоўку, падкладае сьвежыя пістоны і, трымаючы ў руцэ стрэльбу (нікол і, каб на рамень узяць), ідзе павольнай хадой. Ідзе ўнурыўшыся, сутуліўшы ўсю сваю постаць і толькі порсткія вочы шнырацаць па баках, ды старожкія вушы прыслухаюцца да кожнага ляснога гуку, да кожнага шорхату ў кустох. І хада ў яго спэцыяльная. Ня то, каб лесам ісьці, там, дзе відно, а от па лагчынках, па алешніках, па кустоўі, тропкамі тымі ваўчынымі. Каб менш прыглядзіць, учуць, каб налапам наляцець, ашаломіць чалавека выглядам сваім каршукаватым. Так ашаломіць, каб і думаць было некалі, каб сама сабой без загаду цюкнула ў мох, у сырую зямлю сякера войстрая, бліскучая.

— Сапраўды, каршун, пападзіся яму, скуру зьдзярэ...

І зьдзярэ. Калі ўжо служыць, дык служыць, ня ў жмуркі гуляць, павінен за дабро адказваць.

І ніхто другі, а павінен ты адказваць. «І з двара праганю як сабаку, калі заўважу яшчэ дзе пасечкі... У бараноў рог сагну, у турме як падлу згнаю, калі ды яшчэ, што заўважу... А будзе ў парадку ўсё—аб'ездчыкам будзеш. А слова маё,—сам ведаеш,—цьвёрдае слова». Так кажа Мацьвей Юльевіч, а ён свайго слова сапраўды трымаецца цьвёрда.

Сідар ідзе, вымае капшук, круціць цыгарку з самасею свае гадоўлі і, схаваўшыся ў кусты і пахіліўшыся да самай зямлі, пры курвае ўпотайкі, каб не заблішчэла сьвятло. Трымаючы цыгарку ў рукаве, паволі йдзе далей, туды, на гарбаху, дзе вялікі ўзгорак выпнуўся гарбылём гэткім, зарос высачэзнымі елкамі, дубнякамі а ўнізе раскудлачылася ляшчына і аж на вярсту якую маліньнік ідзе. Агрэст трапляецца дзікі, смародзіна чорная. Пах там заўсёды прыемны, нібы мёдам тым насычаны. І з гарбахі, калі прытуліцца там дзе-небудзь пад разлапістай елкай, чуваць усё, што дзе дзеецца, аж па ўсім лесе. Ці то воўк дзе галінкай трэсьне, ці заскрыпяць калёсы дзе—кожны гук ляціць, ня мінае гарбахі.

Сідар ляжыць пад елкай і выцягнуўшы ногі—прыемна так вырастаць іх пасьля хады—снуе думкі свае, лесавыя думкі, каржыстыя.

— Да хаты трысьцен трэба дарубіць, ну упраўляюшчы колькі тых дзяроў адпусьціць... Ды справа ня ў трысьцене, зрабіць яго ня дзіва... А столь, а падлога, а печку нябось прыдзецца класьці, ды грубку, ды каб так, як на хутарох бачыў—чыстая палавіна была-б. Нябось і сам земскі начальнік, калі-б на паляваньне з панамі прыехаў, не пагрэбаў-бы і пераспаць у ёй... А гэта ўжо верны трак. Канечне, можна-б было і карову, каторую прадаць, альбо й каня другога. Ды дзе гэта, каб у гаспадарцы звод дапушчаць... Ня грэх і спадлавацъ крыху ў лесе, канечне, калі з добрым чалавекам, ад якога і ў рукі сёе, тое перападзе. От-бы, скажам, з Цыбалам. Увесь двор згораў, колькі тых шулаў, адных, а колькі бярвеньняў тых,

калі перасыпаў гумно... І ўсё без адбою. Праўда, было колькі камлёў і адбою, для прыліку больш. Глядзі ў Сідара і карова новая, ацялілася от вясной. А бервяно ў лесе ўзяць, што плюнуць. Адрэзаў ля самай зямлі, гольле ў нетры куды, а самы пеньчык дзёрнікам прыкрыў—быў дуб і няма дуба. Гэта калі на панскае вока... Яно, канечне, і ад кожнай сякеры адабранай прыбытак—плаціць кантора па колькі тых грывень. Але гэта ўжо сьлёзы. Ня грошы, а сьлёзы. Ад іх на ногі ня ўстанеш. Адна адзнака, перад панам заслуга.

Думкі снуюць, абрываюцца, але вуха слухае сваім чарадом. Нейкая птушка з прасоньня зашастала крыльлем унізе ў лагчыне, зацялёпкала нешта ў сажалцы, дзе стаяць на беразе высокія, панурыя, алешыны,—ня йначай вуж падаўся на той бераг. Ды ад Дняпра, аж адтуль, дзе капліца павінна стаяць, чуваць лёгкія, што ледзь-ледзь далятаюць ось, рыпы. Сідар аж тулава прыўзьняў, абапёрся на локці, сьцяў дыханьне нават, каб ня ўпусьціць гуку, прычыны яго вызначыць. І зноў супакоіўся. Прылёг, пачаў новую цыгарку круціць.

— То дзеда Амяльляна паром. Калі нацягвае паром канат на самай сярэдзіне Дняпра, рыпяць тады от так зьлёгку, мілагучна рыпяць слупы ды кола драўлянае, за якія канат той прывязаны, да берагоў умацаваны. І сапраўды, от і гамонка чуваць. Ляцяць галасы праз лес у начной вільгаці, праз туманы золкія. Крыклівы голас адзін, другі от толькі бубніць: бум-бум-бум... Няйначай Амяльлян за гарцы сварыцца. Чалавек то божы: бульбу пячэ, шчупакоў пляжыць... А да гарцаў спрыт мае... Як-жа, служба... Ты гэта аднаму даруй, другому даруй, зганяй каторы раз пасудзіну на-шармака— з чым-жа ў кантору зьявішся... Дужа на цябе паглядзяць тады.

Ужо векі пачало прымружваць—да чаго-ж дрымота авалодвае— як новы гук крануў Сідарава вуха і зусім у новым кірунку. Нітo ступіць вось дзесьці лясьнула разсохлая, а вось зачапіўся падгерац за ламачыну, трэснула ламачына. Аб сушняк відаць падгерцам трапіла. Прыліпла да самай зямлі Сідарава вуха. Чуваць як гойдаюцца ціха, асьцярожна, па сухіх звонкіх карэньнях колы, цяжка ступае конь, от стукнуў капытом па карчы, дзынкнула атоса, мусіць зачапілася вось за што-небудзь. Цішыня з хвіліну, а потым ізноў нібы шына бразнула. Няма чаго сумнявацца, злодзей едзе, злодзей лесавы. І суне гад аж на самы мысок, туды, на бераг Дняпра, на высокі абрывісты бераг, што падставіў свае высокія грудзі рацэ, пасунуў яе далёка ў бок, прымусіўшы зрабіць вялікую паваротку. Па беразе дубы растуць, адборныя, стромкія дубкі—прадае на млыны пан, пакрысе параходзтву. На ўсякую патрэбу можна ўжыць дубкі тыя.

Сідар прыўстае пад елкай, апраўляе адзежынку, дубальтоўку і сьпяшаючыся ідзе да мыска, прадзіраючыся праз іржакаваты хваёвы парасьнік па балацянішчы. Ён крадзецца, выгінаючыся як кот, і чым бліжэй падыходзіць, тым ніжэй прысядае яго тулава да зямлі, а самі ногі нібы плывуць па імхох, па сушменю, па коўзкаму насьцілу хваёвых голак. Плаўна гойдаюцца плечы, згінаюцца рукі ў тахт хадзе, каб жа ня бразнула дубальтоўка, не зачапіла руляй за дрэва.

Ужо радзеюць дрэвы, бялее туман над Дняпром, ужо відны самы рог мыска, відны пянькі ад Кунецкай высечкі.

Натапыраная, настарожаная постаць Сідарава спыняецца, далёка выцягваецца ўперад шыя, ды шырока ўцягваюць паветра грудзі. Хоча нюх пасобіць слыху, дапамагчы вачам у начной лесавай цемры. Бяручы на згатоўку стрэльбу, Сідар рушыцца ўправа, да берагу, туды, дзе цемравее нешта ля вілаватага дуба. Ён пераступае з нагі на нагу, на хвіліну спыніцца, высуне з-за камля сваю шапку-кучомку і зноў далей.

— Іш ты, каня прывязаў ля грабіны... Пастой-жа...

І калі дзесьці там сарамліва і нерашуча цюпнула сякерка па дрэву (гук захліп у дрэве, зьмягчэў), нібы лётам савы кінулася чорная постаць з-за дрэў туды, дзе цемравее нешта ля вілаватага дуба.

---

За хляўчуком пад паветкаю дужа-ж спаць добра. Узложыш на калёсы сена ахапак, дзяружку наверх, падушку—ну што табе тыя пярыны. Ні прус цябе тут ня джгне, ні блыха ня ўкусіць, а ні той задыхнечы хатняй, млоснай. А тут табе пекната: патыхае мятай паветра, з гумна нясе пахам сенным, густым, хмялявым, і сама пярына твая—мурагі сонечныя, квяцістыя. Ляжыш, і нібы ты ў баразёнцы дзе, і аўсы зьвіняць, ціхесенька так да шчакі дакранаюцца вусамі калючымі, то вятрыска гойдае іх, калыша. Трымцяць у аўсох канапелькі, званочкі, дзесьці там высока, высока заліваецца жаўранак, на сонцы купаецца.

— Дужа там жаўранкі! Бач, вярзецца што...—І ўсьміхнуўшыся Тацьцяна паварочваецца на другі бок і ўглядаецца ў грушу-дзічку, што расьце на двары Агапкі-аднавочкі. Разгалістая груша, на ўвесь двор разраслася, адных тых лежанак колькі гарцаў набірае Агапка і колькі дае потым бабам на ўзвар, на салодкі ўзвар парадзіхам.

Рыпнула хвортка ў Агапкі, от павярнулася закрутка—мусіць то Аніс да хаты прышоў, з пагулянак. І добры здаецца хлопец, на работу цятлы, але нейкі дзіўны крыху. Нібыта з нейкай чарваточынкай. Усё ў яго не да ладу—абы дня пражыць да й годзе. Каб каня, скажам, набыў і ці калёсы там новыя прыдбаў—дык дзе там. Ці з хлопцамі ў карты прайпрае рубель зароблены, а то й прап'е часам. А калі п'е, тады-ж дужа матку лае, што над ёю толькі ні вычварае. «Пупарэзьніца ты, зьнішчыцельніца роду чалавецкага. Адыйдзі, погань з воч маіх. От скажу людзям пра брыду тваю, пра заняцію тваю брудную... От скажу, чаму Палашка сохне, белага сьвету ня бачучы праз твае басурманскія рукі... «Чаго, чаго толькі не нагавораць. А як жывучы па суседзку, дык яно ўсё і чуваць. Няўжо такі дзеўкі ходзяць, каторыя гэта...

За гумнамі дзесьці зарыпелі калёсы. «Бач, ты, чалавеча стараецца, у лес мусіць пацягнуўся, няйначай...»

— А ці прыдзе ўсё-ж-ткі...—зьяўляецца думка.—Павінен прыйсьці. З паўгода ўжо, як увачавідкі ад усіх дзявок да яе заляцаецца

і ці на йгрышчы то, ці так на пагулянках дзе, ці на вуліцы... І нішто хлопец, асабліва-ж гэтыя вочы сінія, да такі сукрыты чуб русы... Нішто хлопец... Толькі ці я-ж яму раўня... Ці бабыльчына дачка, ды каб замуж гэта... ды за каго? За Банадыся старастава... Унь у яго і брат, кажуць людзі, ужо ахвіцэра заслужыў... Хіба- то раўня... Ды паспрабуй Хвядосу скажы, што сын яго да Таццяны чэпіцца, на віду яе мае, ды 'шчэ ўсур'ёз—такі-б гармідар узьняў, не паздаровілася-б і Банадысю... Хіба от Настачка Палашчына... Дык то-ж цялушка, дальбог цялушка, от толькі й ведае вочкамі міргаць, ды чырванець па самыя вушы. А Банадысь нішто. Праўда, крыху заціхі, калі што, ня зусім такі, як бацька. Той як усярдуе, дык такі-ж гарачы, хоць ты запалкай да яго дакраніся—загарыцца... А гэты ў матку мусіць пашоў... І асабліва-ж чуб, вісіць от так, цэлым рогам закручаным над вокам, над сінім.

Таццяна з прыемнасьцю выцягвае ногі і прыжмурваючы вочы прыслухаецца, як тахкае кроў у крамяным целе, як разьліваецца па ім хмялявая млявасьць, якая напружвае цела, прымушае яго дугой выгінацца ў салодкіх пацалунках.

Але вось зашорхала нешта ля парканчыку каля хлява, стукнула аштакецінай. Чорная постаць вынырнула ля калёс. Таццяна маўчыць, духі ўцяўшы,—няхай от пашукае.

Хлопец соўдае рукамі па калёсах, от на яе патрапіў, схапіў пад пахі, казыча.

— Кінь ты, Банадысь, дурыкамі займацца...

— Эге, каго яна чакае, бач ты яе...

Таццяна ня бачыць, але па тым, як гарачымі робяцца вушы, адчувае, што ўся чырвоная.

— Чаго гэта ты Аніс? І ня сорам табе, дзе-ж гэта твае вочы. Хіба ўжо не хапае табе Аўгінькі Мялавай...

— Цішэй ты, дурная!

— Ды што там цішэй. Дык чаго-ж гэта ты?

— А дай, думаю, суседку папужаю, бачыў, як мясьцілася ты на калёсах. А яна ўжо брыкаецца...

— Да я... што я... Ідзі ты ўжо, Аніська, адкуль прышоў... Просам цябе прашу, да душы-ж спаць хочацца, а ты, валацуга, швэндаешся от, як кот той марцовы...

— Ну, годзе табе. Пайду ўжо вот. Ня буду табе значыцца, перашкаджаць. Ды й навошта добрым людзям шкоду рабіць. Але толькі, калі ты на Банадыся думку маеш, дык па суседзку ня раю, дальбог ня раю... Калі там што якое, дык хіба табе карысьць якая... Калі й на ўме яму што, дык хіба каб толькі пабязуліць. А калі ўсур'ёз, калі ў яго сур'ёзны да цябе інтарэс, дык бацька яму такі інтарэс на хрыбту прапіша, што ён і дзесятаму заказа. Дальбог жа, от-жа павер мне...

— Ды кінь ты, Аніська, з сваімі інтарэсамі, спаць от дай, мне-ж повідну трэба на поле ісьці.

— Ну йду, йду, дабранач табе...

— Ня прыдзе мусіць... Толькі для хворсу пэўне днём як смала чапіўся. Ну й што-ж, падумаеш... Няхай сабе і ня йдзе... Ня было-б то клопату... Высплюся хаця...—павярнулася нішма на падушку.

Але спаць не хацелася. Паравярнулася на другі бок, плюшчыла вочы і ніяк не магла іх прымружыць. То мулка нешта здавалася, то здавалася, нібы казюрка тая ў сена ўвабралася, шархаціць от пад падушкай, пад вухам самым не дасі ёй рады...

І калі прышоў нарэшце і Банадысь той, ніяк ня было ўжо таго чаканьня, нейкае тае радасьці, што раней была. Прышоў, ну й няхай. А ён адразу юрк пад коўдру, прытуліўся да боку.

— Ты-б ужо хаця боты зьдзеў, усе пальцы мне здратуеш падкоўкамі...

Устаў, засопшыся, сьцягваў чобаты, бразгатаў драбінамі калёс.

— Да цішэй ты хіба, няўклюда...

Калі-ж ляжаў ужо ля боку, моцна, моцна прытуліўшыся і пацiскаючыся яе рукі—адлягло ў Тацьцяны на сэрцы, цяплей яму зрабілася. «Ага, ўсё-ж-ткі прышоў, ня здрадзіў, кахае ўсё-ж...» Шапталіся пад коўдрай, мілаваліся, абменьваліся гарачымі пацалункамі, такімі гарачымі, што аж сэрца заходзіцца і нібы ляціш, ляціш у безданьне тое, а якое, ліха яго ведае.

— Я-ж цябе ад тройцы самае от-жа як люблю,—і сьціскаў так моцна, што займала аж дыхаць.—Як пагляджу на цябе, дык у мяне й ногі так і млеюць, от на зямлі ня ўстояць...

— Дужа там... Дзіўлюся я, колькі ты разоў на зямлю падаў...

— Да ты ня сьмейся, Тацьцянчка, праўду кажу, шчырую праўду.

І праз колькі часу:

— Не, Банадыська, пра гэта ты і ня думай... Крый, божа, каб ты гэта... і думкі такія адкінь адразу... Бач ты яго... Вот ажанíся, тады ўжо...

А сэрца ў самой гарыць ліхаманкавым агнём, пячэ, апальвае, пруткім целам да яго туліцца, захліпаецца пацалункамі моцнымі. Ды шэпты гэтыя лезуць у душу ня просячыся, пасьцілаюць у думках пухавыя надзеі, снуюць у мярэжавах тых, кволяць цела ды ўпросьлівым словам, хмялявым.

— От цалую крыж часны, калі ня верыш... Тацьцянчка... да я-ж... даражэнькая, да хіба я здраджу... От пад гарбахай выражам хутар... І жыць будам...

— Ня трэба, Банадыська, ня трэба, ах божа-ж мой, дарагі мой... сукрысты мой...

Хмелем кружыцца галаў і адлятаюць кудысьці і падушка і хляўчук і павіслыя над галавой латы страхі. І от тая дзічка, ігрушка суседзкая, бабкі той Агапкі-аднавочкі, бабкі-нагаворшчыцы... Потым хутка ўсё на мейсца ставіцца: і страха і груша тая Агапчына. І вось ляжыць ля боку, прыціх, не заварухнецца. І ў гародчыку відаць, як зьвесілі долу свае шапкі росныя, шапкі жоўтыя сланечнікі тыя—от семак тых лузаць колькі будзе. Зірнула на сланечнік яшчэ раз і заплакала—ціха, у падушку. Толькі плечы так ціха ўздрыгваюць.

— Дык чаго ты?—і голас такі звычайны ўжо,—хіба ты першая, хіба ты апошняя. Ды што я кажу... прабач, даражэнькая, я-ж свайму слову гаспадар... Дзіва-то, дзе ты бачыла, каб гэта хто да вянца закону трымаўся, пост блюў...

— Ідзі ты, дурыбала...

— Да чаго ты ўсамдзеле? Я-ж табе не абы як кажу...

— А як у салдаты цябе от возьмуць, што я рабіць тады буду?

— У салдаты? Гм...—і ўжо цішэй:—ня возьмуць мяне ў салдаты.

— Хіба ты сьвяты, ці што, каб гэта не ўзялі?

— А вот і ня возьмуць. Няма такога закону, каб бралі..

— Чаму-ж гэта так? Хіба прынц які з цябе, каб гэта ды ня было закону, каб бралі яго...—перадражнівае ўжо Тацьцяна.

— А таму й ня возьмуць...—і шэптам зусім...—грызь я сабе зрабіў, пашкодзіўся крыху... Спэцыяльна да Агапкі хадзіў знарок. Бацька унь пудоў пяць збожжа аддаў, ды сам 'шчэ колькі...

— Ты?—і ў вырачаных вачах Тацьцяны ні то грэблівасьць, ні то зьдзіўленьне.

— А ты думала, гэта страшна? Раз, два і гатова... Па белым білеце назусім...—выхваляючыся кажа Банадысь.

— Ах-жа ты, сьлімак-жа ты гэтакі... кілаваты... Каб-жа то знацьцё... а, божачка-ж мой...

— Што гэта табе зарупіла?

— Ідзі ўжо ты... Чуеш ці не...—І рукой пад бок:—Табе кажу, ці не—разьвіднее ўжо, людзі ўбачаць, айда да хаты...

Банадысь торапка нацягвае чобаты і, суха разьвітаўшыся, з вінаватым выглядам, нібыта сабака той пабіты, адыходзіць ад калёс і няёмка лезе праз парканчык.

— Глядзі, каб не распароў...—хоча сказаць Тацьцяна, але толькі махнула рукой.

— Няхай ужо, чорт яго бяры... Што будзе, то будзе...

Спаць ужо некалі. На ўсходзе чырванее паўнеба, замітусіліся птушкі па агародах, мыкаюць па хлявох каровы—хутка затрубіць пастух Валодзька, зганяючы тавар на выган.

— Уставаць хіба... От-жа сьлімак...

---

Ля калодзежа коняй паілі: Напрэй—парабак Цыбалаў і Андрэй папоўскі. Трапіла так, каб разам. Не сустракаліся даўно, бадай з таго часу, як на сяло зьявіліся.

— Дык жывеш, кажаш?

— От-жа бачыш, жыву тым часам. А як пападзьдзя твая?

— Ды трасе ўсё кудламі, няма на яго пагібелі на праскамідыю...

— Што?

— Ды гэта я так...

— А поп?

— А што яму жарабку дзеецца... Прыходзь от хаця падвечар.

нізацыі, якая спрабавала ісьці супроць сацыялістычнага наступу); разам з тым, раман зьяўляецца як-бы «ніякага» часу. У ім адзін-два разы ўпамінаюцца «бальшавікі», «рэвалюцыя», «мясцком» (чыгуначнікаў). Па-за гэтым мы нічога ня знойдзем у рамане, што зьвязвала-б яго з савецкай рэчаіснасьцю. Аўтар злаўчыўся так гэрмэтычна запячатаць сваіх герояў у сваёй пісьменьніцкай лябараторыі, што сувязь іх з усім найбольш выдатным і найбольш характэрным для савецкай рэчаіснасьці амаль ня цалкам абарвалася.

Але найбольш характэрнае, што наглядаецца ў гэтым рамане Кузьмы Чорнага, як і ў іншых ягоных творах таго часу, гэта ўплыў на пісьменьніка твораў Кнута Гамсуна. Кузьма Чорны ўспрыняў ад Кнута Гамсуна псыхалёгізм, біялёгізм у буржуазным, ідэалістычным асьвятленьні.. Ягоныя героі ў сваіх дзеяньнях (як і аўтар) ня ведаюць абумоўленасьці, прычыннасьці дзеяньняў і ня цікавяцца гэтым. Усе іх дзеяньні адбываюцца «раптам», нечакана, інстынктыўна. Словы аднаго з герояў раману—Ваці: «А ўчынкі чалавека, калі нават на іх часам і няма цьвёрдых прычын, я паважаю»,—можна паставіць эпіграфам для ўсяго раману. Аўтар ня шукае прычыннасьці зьяў, ён сьвядома ігнаруе гэтую прычыннасьць. Дзеяньні вынікаюць з-пад сьвядомага, як поўнай біялёгічнай заканамернасьці, якая зьяўляецца незалежнай ад вакольных прычын, неабумоўленай сьвядомасьцю чалавека. Ня толькі ў дзеяньнях (калі толькі можна назваць дзеяньнямі ўсё, што робяць ягоныя героі) герояў, але і ў вакольных зьявах аўтар ня хоча шукаць канкрэтнасьці. Раман скрозь перасыпаны такімі тэрмінамі як «раптам», «нешта», «нейкая», «недзе», «няма ведама чаму», «няма ведама што», «чамусьці», «як-бы» і г. д.

У дзеяньнях і адчуваньнях герояў «Сястры» пераважае падсьвядомае, інстынктыўнае, ірацыянальнае.

Яны нагадваюць сабою Кнута Гамсунаўскага героя з раману «Голад». Толькі ў апошняга ўсё гэта даведзена да найбольшай яскравасьці, калі чалавек становіцца як-бы поўным жывым аўтаматам, выканаўцам капрызаў таемнага падсьвядомага.

У свой час, калі адбывалася дыскусія ў ВОАПП'е аб творчым мэтадзе, гаварылася аб славутым «жывым» чалавеку і псыхалёгізьме, узьнімалася пытаньне аб сьвядомым і падсьвядомым, у чалавечай дзейнасьці, аб гэтак званых «непасрэдных» уражэньнях», аб ідэалістычнай трактоўцы гэтых пытаньняў у Ю. Лібядзінскага. Падсьвядомае ў чалавека зьяўляецца абумоўленым самой клясавай прыналежнасьцю чалавека, хоць выяўляецца гэта ў супярэчлівым і складаным працэсе ўзаемадзеяньня. Зразумела, чымся больш яскрава фармуецца ў чалавека клясавая ідэалёгія, клясавая сьвядомасьць, тым, больш яскрава яна абумоўлівае і падсьвядомае. Для пралетарскага пісьменьніка ня існуе падсьвядомага, як стыхійнага, біялёгічнага, неабумоўленага. Тэорыя «непасрэдных уражаньняў», як прымат падсьвядомага, зьяўляецца буржуазнай, ідэалістычнай тэорыяй.

У творы «Сястра» (ды ў іншых творах на тым этапе), Кузьма Чорны, выступае ў поўнай меры як рамантык, хоць і не пасьля-

доўны. Адным з аб'ектаў рамантыка зьяўляецца «ўнутраны сьвет» сваіх герояў, іх пачуцьці, узятыя асобна ад іх сацыяльнае практыкі. Рамантыка ня цікавяць сапраўдныя падзеі; ён ня бачыць розьніцы паміж сапраўднымі падзеямі і выдуманымі, паміж вялікімі падзеямі і малымі. Так і Кузьма Чорны ў сваім рамане клапатліва калупаецца ў дробных перажываньнях сваіх герояў, у дробных здарэньнях (калі толькі бясконцыя іхныя сустрэчы і размовы можна назваць здарэньнямі). Унутраны сьвет сваіх, даволі абмежаваных, герояў, іх адчуваньні, праявы псыхалёгічнага парадку—гэта ўсё, чым заняты Кузьма Чорны ў згаданым рамане. І раман «Сястра» ў гэтым сэнсе сваімі дакучлівымі і нуднымі дробязямі часам нагадвае творы Марсэля Пруста, гэтага апісальніка адчуваньняў тых пластоў буржуазіі, якія акрамя свайго «я», нічога ведаць ня хочуць.

Хто такія героі «Сястры» і як абмалёўвае іх аўтар?

Казімір, толькі што скончыў мэдфак і стаў доктарам.

Ён не спрачаецца аб грамадзкіх справах, але і не згаджаецца з сваімі апанэнтамі. (Галадоўка ў гады студэнцтва, праца па пагрузцы вагонаў, вельмі нагадвае эпізод з біаграфіі самога аўтара). Якія вынікі атрымаліся ад казіміравай вучобы? Абыякасьць, стомленасьць. знуджанасьць, незацікаўленасьць, у якой-бы та ня было меры, грамадзкім жыцьцём,—вось найбольш характэрныя рыскі для Казіміра. Замкнуты і адарваны ад людзей, вузкі практык-спэцыяліст Казімір недалёка адышоў ад таго вядомага героя Шолам Алейхэма, пра якога ўслужлівы шатхэн (сват) Мэнахэм Мэндэль кажа клапотлівай мамашы: «Незакончаны доктар, два дамы ў мястэчку».

А вось другі герой, Ваця Браніславец:

«Заўсёды носячы ў сябе пачаткі імкненьня, ні да чаго рэальна не прыкладзенага, ясна ня выяўленага, ня маючы ўпартасьці яго накіраваць і дысцыплінаваць, ён меў вялікую здольнасьць адмаўляць усё тое, чаго не адмаўляе той, каго ён ня любіць. І цяпер пасьля інстытуту, зрабіўшыся ў лясным аддзеле Наркамзему таксатарам лясоў, ён пачаў разьвіваць з вялікім посьпехам востры скэптыцызм, адзнакі якога зьяўляліся ў яго з раньніх дзён».

Ваця ўсімі і ўсім нездаволены. Чаго хоча, ён і сам акрэсьлена ня ведае. Адно выразна, што гэты «лішні чалавек» XX стагодзьдзя адмоўна ставіцца да савецкага ладу (хоць гэта аўтарам выразна і не паказана). У сваім адмаўленьні ён выступае супроць умоўнасьці, супроць мэтазгоднасьці, супроць прычыннасьці. Так, працуючы на глухой станцыі, ён няма ведама чаго езьдзіць за 100 кілёмэтраў... пагуляць у карты, або і зусім бяз мэты. «З вамі цьвярозымі прападзеш»—гаворыць Ваця.

У Ваці ўсё-такі ёсьць пэўная пасьлядоўнасьць, калі ён гаворыць: «З вамі, цьвярозымі, прападзеш». Яго больш за ўсё аўтар паказвае нам у піўнушках, на папойках у нейкага паэты, або на бязьлюдным Каломенскім сквэры. У гэтага героя, які ня скромна пазіруе перад намі элемэнтамі выразнага нігілізму, ёсьць таксама нешта падобнае ад Івара Карэно, з п'есы Кнута Гамсуна «Ля царскіх варот».

Той лічыць, што мае «думкі свабодныя, як птушка», культывуе... ненавісьць да пралетарыяту і лічыць гэта прагрэсыўнай праявай сваёй незалежнай ідэалёгіі. Наш Ваця хіба больш абмежаваны, пусты і туманны ў сваіх нігілістычных развažаньнях.

Просты і шчыры, хоць і вельмі абмежаваны ў сваім разуменьні жыцьця ён зьяўляецца як-бы пэўным заспакаеньнем для Вацінага бушаваньня. Гэты сучасны Каратаяў, ахутаны сымпатыяй аўтара і Ваці, як-бы супроцьставіцца суровай савецкай рэчаіснасьці. Ён выказваецца за дружбу і чалавечнасьць і асабліва паважае Вацю за тое, што ён не такі, як усе... «цяперашнія».

Панкрат Малюжыц, чыгуначнік,—«найбольш індустрыяльны чалавек», як яго называе аўтар,—нагадвае чыгуначніка... ніякага часу, і пэўных характэрных рысаў рабочага чыгуначніка ня мае.

«Сястра» Маня, падфарбаваная постаць звычайнай хутаранскай дзяўчыны, што пашла жыць у горад, варта свайго брата. Яе ідэалы ня цяжка разгадаць па адносінах да Ваці: «Вы слаўны, слаўны»,—кажа яна Вацю, ад'яжджаючы з гораду.

Гэтыя галоўныя героі аб'ектыўна падаюцца аўтарам, як станоўчыя. Іншыя героі акрэсьлены схэматычна і часам пародыйна. Так, камандзір роты выяўляе сабою вобраз абмежаванасьці і можа быць камандзірам роты любое арміі па сваёй апалітычнасьці: ні аб чым, як аб лыжным спорце, мы ад яго ня чуем. «Член ці сакратар»—абагуленая пародыя на грамадзкага працаўніка і ўваскрошвае ў памяці Дубоўкавага матэматыка (з паэмы «І пурпуровых ветразей узьвівы»).

Героі «Сястры», уключаючы і Маню, нудзяцца і стамляюцца ў горадзе. Горад для іх, і усё ў ім, чужое. «Мне куды небудзь у спакой хочацца, у вёску мне хочацца. М ожа я як небудзь і паеду»,—кажа Маня. Гэтая цяга ў вёску, у глуш характэрна і для іншых герояў. Прычына яе—поўная адчужанасьць ад грамадзкай дзейнасьці, якая найбольш інтэнсыўна пульсуе ў горадзе, і дробна-буржуазная індывідуалістычная замкнёнасьць. Пры агульнай супольнасьці ў поглядах, пры аднолькавым, бадай, ідэалёгічным узроўні, яны неяк ня любяць адзін аднаго і толькі да Мані, як да дзяўчыны, у іх добрыя адносіны. Абмалёўваючы вобраз кожнага з іх, аўтар своеасабліва сьцьвярджае іхную дадатнасьць; аўтар хваліць аднаго, а той хваліць іншага.

Гэтая асаблівая «кругавая парука» аўтара за героя і героя за іншага героя, пры даволі імглістай «крытыцы» развažаньняў гэтых герояў, прыводзіць да вываду, што аўтар трактуе іх як дадатныя тыпы. Аўтар своеасабліва пераацэньвае іхныя, па сутнасьці справы, дробныя, бязмэтныя і нявыразныя «перажываньні». Апісаньню гэтых перажываньняў і прысьвечана пераважная большасьць старонак раману. Развažаньні аўтара і герояў пра «бурныя шляхі», «бурнае жыцьцё» і г. д. гучаць даволі фальшыва таму, што гэтыя героі ня ідуць сапраўды вялікімі шляхамі і ў сапраўды бурным жыцьці ня ўдзельнічаюць. (Крылоўскія мухі: «Мы таксама аралі»... седзячы на

рагах у вала). Гэта адзін са спосабаў ідэалізацыі даволі пустых і бяспрынцыпных людзей, з іх «бяспрычыннымі», інакш кажучы інтуітыўнымі, падсьвядомымі перажываньнямі.

«Філёзофскія» выказваньні аўтара і ягоных герояў,—не акрэсьленыя, імглістыя і бязмэтныя. Паколькі такую імглістую філёзофію цяжка тлумачыць, пераказваць яе сэнс сваімі словамі, дык мы дамо слова самому аўтару:

«... Сярод жалеза, вугальля, агню і дыму будзе там грымець і стукаць па ўсіх прывакзальных лініях Панкрат Малюжыц, а ў гадзіну ночы павядзе адухоўленае жалеза і сотні людзей у прасторы зямлі... Зямля адкрые грудзі свае; на іх паўстане вялікасьць адной з формаў існаваньня сьвету»...

Ня будзем марнаваць час і здагадвацца, якая гэта «адна з формаў існаваньня сьвету» мае паўстаць. Паслухаем аб чым разважае Ваця ў думках:

«... Гэтыя абрыўкі дум беглі ў галаве яго і **адна ўпартая думка вялікая, моцная і раптоўная цягнула яго ў апартамэнты** Радзівона Цівунчыка.

Як-бы што звала яго: ты вечна ідзі. І жадай толькі аднаго, каб было табе куды вечна ісьці. І калі ты вернешся назад, памятай, што ты быў ужо тут. Бо калі забудзеш—тады пойдзеш назад і назад»...

Адным словам, ідзі, незалежна ад таго, куды і дзеля чаго, але ўсё-такі ідзі, паводле вымаганьняў слаўтага рамантызму. Пажадаем яму шчасьлівай дарогі і паслухаем, што гаворыць Абрам пра Маню.

— Ня чужая, а толькі сама за сябе любіць дзейнічаць. Якая каму справа да каго, разумеючы гэта вузка... І яшчэ—яна любіць жыць... Любіць дзень, любіць ноч... І ведаеш, што значыць любіць дзень, ноч... Самы працэс, самае існаваньне: бачыць бег і зьмену, так, як яно ёсьць і здагадвацца, што за ім глыбіцца далей?!

Нельга супярэчыць таму, што Маня «любіць дзень, любіць ноч». І калі другі чалавек будзе любіць раніцу і вечар, дык паміж ім і Маняй пэўна-ж ня ўзьнікае антаганізму сацыяльнага парадку. Матывы, паводле якіх Маня любіць дзень і ноч—«бачыць бег і зьмену»,—бачыць толькі самы працэс існаваньня, а не яго сутнасьць—мэту,—нішшэанскія, рамантычныя (прымаецца толькі сама форма барацьбы, як нязьменная, нявычарпальная, а не ідэалы, ня мэты, якія пасьля дасягненьняў перастаюць быць ідэаламі).

Уцёкі ад канкрэтнай рэчаіснасьці, ідэалістычныя разважаньні аб нейкім абстрактным працэсе, абнаўленьні, жыцьці ў Кузьмы Чорнага адбываюцца паводле ўласьцівасьці нэорамантыкаў. Філёзофскія выказваньні аўтара непасрэдна і праз сваіх герояў, не складаючы выразнай, стройна пабудаванай сыстэмы, рассыпаны ўрыўкамі цьмяных разважаньняў па ўсёй кнізе. Маня таксама не пазбаўлена такой «філёзофіі».

Маня сапраўды «шырокая натура». Яна ўсё прымае, і «лётарэйную» выпадковасьць жыцьцёвых зьяў у Ваці, і прагнасьць паволь насьці і супакою хутараніна, у якога яна госьціць.

Побач з ідэаліазцыяй герояў, у Кузьмы Чорнага наглядаецца і ідэалізацыя хутарскага жыцьця, хутарской цішыні. Праўда, іншы раз, калі адзін з герояў праяўляе залішне вострую чульлівасьць да пакінутага хутара, аўтар тлумачыць гэта ўспамінамі аб маленстве і г. д. Аднак, ва ўсім рамане разважаньні аб хутары настраіваюць герояў на думку, што там супакой, там забыцьцё ад трывог, там адпачынак. Яны (героі) ня любяць гораду, нудзяцца ў ім, не знаходзяць сабе зацікаўленасьці.

Кузьма Чорны ў гэтым рамане зьяўляецца апісальнікам прывабнага, хутарскага, **аб'ектыўна**-кулацкага жыцьця.

Героі «Сястры» выказваюць залішнюю, дробна-буржуазную, інтэлігенцкую чульлівасьць там, дзе бывае спроба разважаць аб іх ідэалёгічнай накіраванасьці. Асабліва нецярпіма адносіцца да рэвізіі сваёй ідэалёгіі Вацяў. Ён прызнаецца свайму таварышу, з якім ён працуе ў лесе:

«Не стаўляеш сябе, значыцца, супроць усяго, у чым віназацію мяне яшчэ нядаўна адзін член у горадзе.

— Які член?

— Член сэкцыі нейкае, ці обэр-сэкцыі... Што я, кажа, стаўлю сябе асобна ад усяго. Натура мая, кажа такая, што я хачу, каб сьвет быў такім, як мне хочацца...»

У другім месцы Вацяў прызнаецца:

«— Само ўва мне ўсе перабродзіць, пераплавіцца. Вось тут, у лясох. Іначай мне, як раней. Можа таму, што няма зларадных таварышоў, якія вядучы нейкую сваю лінію, усё лезьлі мне ў настаўнікі. Можа і за тым...»

Казіміра надта абурае «злараднае» Абрамава прызнаньне, як калісьці ён, будучы камісарам палка, не адпусьціў Вацю, калі той хацеў наведаць хворую Маню.

Наогул у герояў «Сястры» наглядаецца вострае хваравітае адчуваньне свайго спэцыфічнага дробна-буржуазнага «я», якое яны абярагаюць з выключнай клапатлівасьцю.

Яшчэ Пляханаў даў трапную характарыстыку прычын гэтай павышанай увагі дробнага буржуа да свайго «я».

«Ідэйны запас усякага дадзенага чалавека вызначаецца і ўзбагачаецца ягонымі адносінамі да сапраўднага сьвету. І той, чые адносіны да гэтага сьвету склаліся так, што ён лічыць сваё «я» адзінай рэальнасьцю, няўхільна становіцца круглым бедняком па часьці ідэй. У яго ня толькі няма іх, але галоўнае, няма магчымасьці да іх дадумацца. І, як бяз хлеба людзі ядуць лебяду, так бяз ясных ідэй яны здавальняюцца цьмянымі намёкамі на ідэі, сурагатамі, якія начэрпнуты ў містыцызьме, у сымбалізьме і ў іншых падобных «ізмах», якія характарызуюць сабою эпохі заняпаду»... (Пляханаў: «Искусство и общественная жизнь).

Гэткую характарыстыку можна застасаваць і да герояў «Сястры», гэтых «круглых беднякоў па частцы ідэй». Аўтар з лішне вялікай увагай займаецца іхнымі «перажываньнямі», разважаньнямі, цьмя-



нымі і нявыразнымі, якія зьяўляюцца «сурагатамы ідэй». Ім і аўтару, акрамя гэтых «сурагатаў ідэй», фактычна няма чаго сказаць.

Паказ такіх герояў, такіх характараў быў-бы апраўданым, каб аўтар падкрэсьліў іх ідэйную «бяднацкасьць» на фоне вялізных сацыяльна-клясавых канфліктаў нашай рэчаіснасьці, на фоне высокай ідэйнасьці барацьбітоў за новы сацыялістычны лад жыцьця; быў-бы мэтазгодным паказ таго, як адсталыя элемэнты з асяродку дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, сустрэўшыся з новым, перадавым, савецкім, пад уплывам гэтага новага,—перараджаюцца, «багацеюць», успрымаючы перадавыя, пралетарскія погляды. Не, усяго гэтага ў рамане «Сястра» няма. Аўтар вывеў у сьвет і пакінуў сваіх герояў «у чым маці радзіла». Мы дарэмна будзем шукаць у рамане, хоць-бы намёкаў на тое, што той або іншы герой нешта новае ўсьведамляе, мяняе свае погляды, робіцца больш перадавым. Аўтара гэта ня цікавіць. Працэс, перабробкі чалавечай псыхікі, дыялектычны супярэчлівы працэс зьмены яе астаецца па-за ўвагай аўтара. Ён аднолькава паважае і «ўчынкі чалавека, калі нават няма на іх пэўных прычын», ён займаецца дробным чалавечым «я», адарваным ад канкрэтнай рэчаіснасьці, ад сацыяльна клясавай практыкі чалавека.

Кляйнборт у сваёй кнізе «Молодая Белоруссия» падае гэткае прызнаньне Кузьмы Чорнага наконт аб'ектаў сваёй творчасьці:

«Галоўнае, што займае, нават мучыць мяне,—піша мне пісьменьнік,—гэта пакуты чалавека на зямлі, якія яшчэ ня выяўлены знутры, і вось аб гэтым выяўленьні мы цяпер і клапоцімся. І гэта таму, што я прышоў у літаратуру з самога дна беларускага жыцьця-быцьця; з гэтым «дном» зьвязаны я да гэтага дня і духоўна, і фізычна. Усе блізкія мне людзі і цяпер жывуць на гэтым дне».

Мы ведаем, што Максім Горкі, гэты выдатнейшы пралетарскі пісьменьнік прышоў з «дна» і апісваў людзей гэтага-ж «дна». Аднак, горкаўскія людзі «дна» сталі людзьмі гэтага «дна» дзякуючы несправядлівасьцям капіталістычнага ладу; гэта сапраўдныя ахвяры капіталістычнага ладу. І таму, **такое** апісаньне гэтых людзей, **якое дае Максім Горкі,** зьяўляецца пратэстам супроць капіталістычнага ладу, супроць яго несправядлівасьцяй, жорсткасьці, зьдзекаў.

Кузьма Чорны гаворыць аб «дне» ва ўмовах савецкага ладу, ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту. Сацыяльны склад людзей «дна», прычыны, дзеля якіх яны апынуліся на гэтым «дне», і само апісаньне гэтых людзей у Кузьмы Чорнага і Максіма Горкага зусім іншыя. Ва ўмовах савецкага ладу на «дне» апынуліся якраз людзі, якія ня прынялі рэвалюцыі, якія выкінуты рэвалюцыяй з каляіны жыцьця і якія калупаюцца чульліва ў сваім індывідуалістычным «я», супроцьстаўляючы гэтае калупаньне найбольш значным падзеям навакольнай рэчаіснасьці. Блізкасьць Кузьмы Чорнага да такога «дна» ня можа лічыцца зьявай прагрэсыўнай. Героі «Сястры» (як і іншых твораў Кузьмы Чорнага на тым этапе) сапраўды людзі «дна» ва ўмовах савецкага ладу, людзі, выбітыя рэвалюцыяй з сваіх каляін жыцьця. Праўда, яны не выступаюць актыўна супроць рэвалюцыі і абмяжоў-

ваюцца скэптыцызмам і зьнеахвочанасьцю да савецкага грамадзкага жыцьця. Адсюль у іх прагнасьць быць у глушы, у цішыні, у спакоі.

Каб скончыць характарыстыку дадзенага твору з боку ягонага зьместу, варта адзначыць яшчэ адну асаблівасьць. Наогул, зьмест твору ў сэнсе пэўнае фабулы, пэўных падзей—не багаты, прытым адарваны ад канкрэтнай савецкай рэчаіснасьці. Ад савецкага бярэцца толькі адмоўнае, зусім не характэрнае, аднак, яно абагульняецца і зьяўляецца аб'ектам іроніі.

Аб'ектыўна рэакцыйны зьмест раману, абумоўлівае своеасабліва і мастацкую спэцыфіку. Раман складаецца з дробязяй. Яму-б улась-ціва была назва «Дробязі жыцьця» або «Дробязі пачуцьцяў». Героі сустракаюцца, гутараць, нешта перажываюць. Ва ўсім гэтым няма нічога, што нельга было-б назваць дробязямі; прычым гэтыя дробязі не зьяўляюцца дэталямі, якія дапаўняюць малюнак агульнага. Яны адарваны ад агульнага, жывуць самастойным жыцьцём. Аўтар не робіць розьніцы паміж вялікімі і дробнымі падзеямі. Яны маюць для яго аднолькавую каштоўнасьць. Падзеі (хоць іх так мала ў рамане) і перажываньні герояў паказаны эмпірычна, бяз іх абумоўленасьці і прычыннай сувязі.

З ліку больш значных пытаньняў, аб якіх ідзе гутарка ў рамане, можна назваць выказваньні аўтара за «чалавечнасьць». Праўда, і гэтае пытаньне, як і ўсе іншыя, узята абстрактна, бяз сувязі з канкрэтнай рэчаіснасьцю, без абумоўленасьці пэўнымі прычынамі.

Аўтар піша павольна, без напружаньня, без пафасу. Дзякуючы таму, што пісьменьнік ня мае нічога канкрэтнага, большага сказаць, твор пазбаўлены дынамікі, расьцягнены і распылены на паасобныя спатканьні і гутаркі герояў. Рассыпаныя ўсюды «філёзофскія» разважаньні толькі заімгляюць зьмест. Аўтару няма аб чым гаварыць, што хвалявала-б, а тым дробным зьявам, якія ён апісвае, ён імкнецца надаць большую значнасьць.

Дыялёгі кароткія, сухія, аднолькавыя для ўсіх герояў. Толькі адзін Цівунчык мае свой стыль у размове. Лепш характарызуе аўтар гаворку вяскоўцаў,—гэтых людзей ён лепш ведае і заўсёды заўважыць у іх што небудзь больш характэрнае. Твор скупы на мэтафары, яскравыя параўнаньні, яскравыя вобразы (больш сустракаюцца «сінія», «сіневатыя»)—больш апісвае аўтар не падзеі, (якіх так мала ў творы), а звычайныя сустрэчы, у час якіх пераважна разважаюць.

Характэрнае для аўтара ўспрыйманьне навакольных зьяў праз пахі, своеасаблівы біялёгізм успрыйманьня. Так, у аўтара пахне вуліца, дамы, салома і нават вада ў рэчцы ў час веснавога разводзьдзя. Перабіраючы чалавечыя пачуцьці, аж да найдрабнейшых, аўтар своеасабліва актывізуе мёртвую прыроду, узмацняючы яе біялёгічныя асаблівасьці, з якіх найбольш выпукляе пах. Гэтым аўтар як бы прыроўнівае біялёгічна актывізаваныя элемэнты прыроды, да чалавечых пачуцьцяў: апошняе зьніжае праз абстрактныя, адарваны ад агульнага, адарваны ад прычыннай абумоўленасьці паказ іх,—першыя ўзьнімае праз актывізацыю біялёгічных асаблівасьцяй. Біялёгізм—

мост, які спалучае праявы так апісаных чалавечых пачуцьцяў з элемэнтамі прыроды. Біалёгізм—характэрная дамешка да рамантызму, якім багата насычаны творчы мэтад Кузьмы Чорнага на тым этапе.

Па сваёй кампазыцыі твор таксама залішне заблытаны. Падзеі апісваюцца быццам-бы храналёгічна, але ў творы багата інтэрмэдыйных уставак, калі працягваецца мінулае праз успаміны героя, або сам аўтар вяртаецца да якога небудзь ужо апісанага месца твору і працягвае апісаньне. Наглядаецца своеасабліва інтрыгаваньне чытача. Чытач папярэдня падрыхтоўваецца да сустрэч з героямі, ці іх перажываньнямі. Падзеі раскрываюцца не адразу. Чытач чакае, што нешта значнае павінна быць. Аднак, гэта «значнае» не здараецца, таму, што за аднэй дробязьзю праходзіць другая. Бяз такой заінтрыгаванасьці чытач магчыма не дачытаў-бы кніжку. З першых старонак твору,—калі чаканьні не апраўдваюцца, калі пераконваешся, што гэта толькі мастацкі прыём, каб надаць большую ўвагу таму, што наступіць,—ахоплівае пэўнае расчараваньне.

Раман фактычна ня скончаны. Яго можна было-б так працягваць бясконца. Яго можна было-б скончыць і на другім месцы, раней. Усё тое, што выказана ва ўсім рамане, усе гэтыя «сурагаты ідэй», ужо выказаны ў першых частках.

«Бязідэйнасьць» раману, якім ён зьяўляецца на першы погляд, лішні раз пераконвае, што ня існуе твору, у якім-бы ня было выказана пэўнай ідэі. Раман адлюстроўвае настроі тэй часткі дробнай буржуазіі, якая не стала на шлях спадарожнічаньня пралетарыяту, спынілася на раздарожжы, скэптычна, з іроніяй сустракала кожны недахоп сацыялістычнага будаўніцтва, не разумеючы працэсу далейшага разьвіцьця рэвалюцыі. Яна актыўна ня выступала супроць рэвалюцыі, замкнулася ў сваіх уласных перажываньнях, супроцьстаўячы іх клясавай барацьбе, сацыялістычнаму будаўніцтву. Ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, супрацiўленьня капіталістычных элемэнтаў сацыялістычнаму наступу яна сеяла абыякавасьць, зьнеахвочанасьць, «бяз'ідэйнасьць» і гэтым самым садзейнічала клясаваму ворагу. У гэтым рэакцыйнасьць твору.

«Бяз'ідэйнасьць»—у гэткім разуменьні,—твору абумовіла і пэўную кансэрватыўнасьць яго мастацкай спэцыфікі.

Творчы мэтад Кузьмы Чорнага на тым этапе, найбольш яскрава выяўлены ў рамане «Сястра», адлюстраваўся як у творчасьці напісанай да раману «Сястра», так, на значным адрэзку часу, і пасьля яго. Асобныя элемэнты гэтага творчага мэтаду захаваліся і ў пазьнейшай творчасьці Кузьмы Чорнага. У аснове гэтага творчага мэтаду ляжыць ідэалістычны сьветапогляд пісьменьніка. «Праблема жывога чалавека, толькі жывога чалавека займае мяне»—так паведамляе пісьменьнік Кляйнборту. Вось гэтым жывым чалавекам, у ідэалістычным разуменьні, яго пачуцьцямі, перажываньнямі гэтага чалавека, адарваным ад сацыяльнай практыкі яго, гэтым вузкім псыхалёгізмам клапатліва і замілавана займаецца аўтар на працягу доўгага яшчэ часу. Ён ігна-

руе найбольш характэрныя і значныя падзеі савецкай рэчаіснасьці ва ўмовах дыктатуры пралетарыяту.

Кепскі ўплыў на пісьменьніка зрабіла «Ўзвышша», якім кіравалі актыўныя нацыянал-дэмакратычныя элементы. Своеасаблівыя ўцёкі пісьменьніка ад найбольш актыўных і значных падзей савецкай рэчаіснасьці—фактычна нацдэмаўская рэакцыя на сацыялістычнае будаўніцтва. Нацдэмаўскі ўплыў на пісьменьніка яшчэ больш яскрава выявіўся ў ягоных артыкулах, што друкаваліся ў часопісі «Ўзвышша».

Аднак, нацдэмаўскі ўплыў найбольш пашкодзіў творчасьці пісьменьніка. Свае мастацкія сродкі, ужо тады даволі значныя, ён нямэтазгодна і бескарысна (з пункту гледжаньня інтарэсаў працоўных) растрачваў на апісаньне дробных не характэрных зьяў, на апісаньне дробных перажываньняў людзей савецкага «дна», скэптыкаў, якія ўсяму багацьцю навакольных зьяў супроцьставяць сваё індывідуалістычнае «я».

Гэтыя асаблівасьці творчага мэтаду моцна адчуваюцца і ў пазьнейшым рамане Кузьмы Чорнага «Зямля». Тут наглядаецца ігнараваньне клясавай барацьбы ў вёсцы, голы эмпірызм паасобных зьяў, не зьвязаных прычынна з агульным працэсам. Аўтар з аднолькавай сымпатыяй адносіцца да пачуцьцяў, перажываньняў, і вясковых беднякоў і заможнікаў-кулакоў. Чалавечнасьць, якую прапаведвае аўтар у ранейшых сваіх творах, ператвараецца ў «Зямлі» ў прапаганду своеасаблівых «братэрскіх адносін» паміж вяскоўцамі, незалежна ад іх сацыяльнага стану. Сьмерць Тамаша, гэтага ціхага лятуценьніка аб пабудове камуны, прымірае неяк вяскоўцаў, паляпшае іх «братэрскія адносіны». Гэтае своеасаблівае «мэмэнто моры» супроцьстаўляецца клясавай барацьбе, супроцьстаўляецца змаганьню за новае лепшае жыцьцё. Бедняком так і ня выбрацца з сваёй бядоты, прычым сама беднасьць разглядаецца заможнікамі, як праява звычайнай чалавечай няўдачы, або гультайства.

Пасьпяховы рост сацыялістычнага будаўніцтва ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, рост сацыялістычных элемэнтаў, які асабліва павязаўся з пачаткам пэрыяду сацыялістычнай рэканструкцыі, паставіў перад Чорным (як і наогул перад савецкімі пісьменьнікамі) рэзка пытаньне аб яго далейшым творчым шляху. У працэсе клясавай барацьбы былі выкрыты і разьбіты нікчэмныя патугі контррэвалюцыйных нацыянал-дэмакратычных элемэнтаў змагацца з савецкай уладай для абароны рэшткаў буржуазнай клясы і кулацтва. Аставацца на раздарожжы, ігнаруючы працэс сацыялістычнага будаўніцтва, замыкацца ў вузкае кола чалавечых перажываньняў, адарваных ад сацыяльнай практыкі чалавека, ужо далей нельга. На этапе сацыялістычнай рэканструкцыі ў Кузьмы Чорнага наглядаецца значны зрух у бок зжываньня рэакцыйных, па сваёй сутнасьці, элемэнтаў свайго ранейшага творчага мэтаду. Ужо ў рамане «Ідзі, ідзі» наглядаецца першы зрух, наглядаецца першая спроба больш правільнага зацьвярджэньня клясавай барацьбы. У аповесьці «Вясна» мы маем далейшы крок наперад, наглядаем ужо іншыя спачуваньні

да беднякоў, а калектывізацыя выступае ўжо больш канкрэтна, жыцьцёва, чымся мары ціхага Тамаша, са сьмерцю якога памірае і сама ідэя калектывізацыі.

Але найбольш значную перабудову сваёй творчасьці Кузьма Чорны паказаў у апошнім рамане «Бацькаўшчына». Ужо сама праблема,—бацькаўшчына,—зьяўляецца надзвычайна актуальнай. Значная частка дробна-буржуазнай інтэлігенцыі жыла з ілюзыямі, што нібы-та яна—інтэлігенцыя зьяўляецца сваеасаблівым духоўным правадыром народу, сваеасаблівым інтэлектуальным прадстаўніком «сваёй» бацькаўшчыны. Гэтыя дробна-буржуазныя ілюзыі не пазвалялі бачыць жорсткай рукі капіталу, гэтага бескампраміснага дырыжора—кіраўніка і распарадчыка ўсёй так званай «духоўнай» працы інтэлігенцыі, якая (за пэўным выключэньнем) фактычна выконвала сацыяльны заказ буржуазіі. Правільнае, клясавае, пралетарскае разуменьне праблемы бацькаўшчыны дае магчымасьць дробна-буржуазнай інтэлігенцыі разумець больш правільна і тыя сацыяльна-клясавыя працэсы, што адбываюцца ў гэтай бацькаўшчыне. Капіталістычная дзяржава не зьяўляецца сапраўднай бацькаўшчынай для пралетараў, для шырокіх працоўных мас як пануючай так і прыгнечанай нацыянальнасьці.

Ужо з першых старонак «Бацькаўшчыны» не цяжка пераканацца, што творчы мэтад Кузьмы Чорнага ў «Бацькаўшчыне» якраз працілеглы ягонаму творчаму мэтаду ў рамане «Сястра» (хоць паасобныя элемэнты ранейшага творчага мэтаду ўсё-такі прасочваюцца ў «Бацькаўшчыне»).

Тут аўтар паказвае зьявы рэчаіснасьці ў іх клясавай супярэчнасьці,—супярэчнасьці паміж працай і багацьцем, паміж эксплёатуемымі і эксплёататарамі. З вострай іроніяй, насьмешкай аўтар апісвае «попіка», кулакоў Сурвілу, Мазавецкага, гарадзкога прыстава. Гэтым прадстаўніком капіталістычнага ладу аўтар супроцьстаўляе панскага парабка, а пазьней вясковага бедняка Леапольда Гушку. Пачуцьцё цёплай сымпатыі, якой аўтар ахутвае Леапольда Гушку і іншых прадстаўнікоў вясковай беднаты, мае сваёй крыніцай на гэты раз не абстрактную чалавечнасьць, не народніцкі гуманізм, а спачуваньне ім, як пакрыўджаным несправядлівасьцямі капіталістычнага ладу. Аўтар ужо бачыць прычыны цярпеньня і пакуты вясковых беднякоў,—гэта несправядлівасьці пануючага ладу, тэта прагнасьць да нажывы кулакоў і паноў.

Клясавая барацьба, у «Бацькаўшчыне», паказана на значным адрэзку часу: пачынаецца яна перад вайной і даводзіцца аж да стварэньня савецкай улады. Асноўная ідэя твору—гэта клясавыя супярэчнасьці паміж працоўнымі і эксплёататарамі, інтэрнацыянальнае адзінства працоўных усіх краін. Леапольд Гушка (гэты патомак паўстанца капіталістычнай Нямеччыны, сілескі ткач) прымушан быў эміграваць у царскую Расію. Тут Леапольд Гушка, хаваючы некаторыя цёплыя пачуцьці, пераплеценыя з успамінамі пра маленства, да сваёй колішняй бацькаўшчыны, марыць знайсьці сабе новую бацькаўшчыну прыдбаньнем уласнага кавалка зямлі. Леапольд Гушка ў скла-

даным пераплёце клясавай барацьбы прыходзіць да пераканаяньня, што толькі СССР можа быць сапраўднай бацькаўшчынай для працоўных, незалежна ад іх нацыянальнасьці.

Калі ў рамане «Сястра» мы наглядаем ідэалізацыю хутара, гэтага закутка, дзе ціха і павольна плыве жыцьцё, дык у аповесьці «Бацькаўшчына» мы маем ужо іншую трактоўку і гэтага пытаньня. Аўтар паказвае, што толькі на хутарох кулакоў Сурвілы і Мазавецкага, а пазьней панскіх асаднікаў Заходняе Беларусі, разгортваецца гаспадарка, павялічваецца багацьце за кошт эксплёатацыі беднаты. «Хутаранін» Леапольд Гушка, як і пазьнейшая хутарская бедната ў Заходняй Беларусі гібее на сваіх мізэрных кавалачках зямлі, адракаецца, часам, і ад гэтае зямлі, каб здабыць сабе сродкі на існаваньне тымі выпадковымі і нізкімі заробкамі, якія можна знайсьці пры капіталістычным панскім ладзе.

Зьмена ў сьветапоглядзе пісьменьніка, зьмена ў разуменьні зьяў рэчаіснасьці абумовілі і зьмену мастацкай спэцыфікі. Наўрад ці знойдзем мы ў беларускай літаратуры больш спатадны матар'ял для пацьвярджэньня гэтай думкі, як раманы «Сястра» і «Бацькаўшчына» Кузьмы Чорнага, гэтыя дзьве тычкі на розных адрэзках творчага шляху пісьменьніка.

Аўтар і ў «Бацькаўшчыне» таксама займаецца апісаньнем пачуцьцяў і паражываньняў сваіх герояў, пераважна прадстаўнікоў вясковай беднаты. Глыбока эмацыянальна апісаны аўтарам перажываньні старой Гушкавай жонкі, старога Няміры; іхныя перажываньні апісаны аўтарам больш пераканальна і яскрава. Але на гэты раз перажываньні не адарваны ад іх прычыннасьці, ад канкрэтнай рэчаіснасьці; яны—перажываньні зьяўляюцца як-бы пэўнай прызмай, скрозь якую пераламляюцца зьявы рэчаіснасьці. І паколькі чытач цяпер ведае і прычыны гэтых перажываньняў, ён разам з аўтарам спачувае героям, у яго ўзьнікае пратэст супроць прыгняťальнікаў.

Аўтару ўсё-ж такі лепш удаюцца апісаньні перажываньняў герояў. Схэматычна, сухавата, ня досыць вобразна апісвае аўтар падзеі. Гэткімі недахопамі менавіта зьменшана пераканальнасьць апісаньня лютаўскай рэвалюцыі на фронце, расстрэлу дэманстрантаў у Заходняй Беларусі. Кузьма Чорны, як буйны мастак, які без напружаньня, вольна ўмее выказваць у мастацкай форме свае думкі, апісваць падзеі, даваць малюнкі прыроды і г. д.—павінен-бы з большаю сакавітасьцю, вобразнасьцю і пераканальнасьцю падаць такія буйныя падзеі. Ранейшае ігнараваньне найбольш значных зьяў рэчаіснасьці, відаць, не прайшло бескарна для Кузьмы Чорнага. У «Бацькаўшчыне», менавіта, вузкімі месцамі, у гэтым сэнсе, зьяўляюцца якраз апісаньні падзей.

Фабула цяпер у Кузьмы Чорнага, сюжэтная пабудова больш сканцэнтравана, больш насычана дзеямі, больш дынамічная. У гэтым сэнсе «Бацькаўшчына» (раман) ужо больш мае драматургічнасьці.

Апісаньне дробязяй у «Бацькаўшчыне» падначалена больш галоўнаму цэламу. Яны ўжо зьяўляюцца ў большай меры патрэбнымі

дэталямі для паўнаты, для большай яскравасьці створаных вобразаў, апісаных зьяў.

Мова ў «Бацькаўшчыне» больш жывая, простая, зразумелая, дынамічная, бяз шкоды для мастацкасьці твору (акрамя хіба, тых частак аповесьці, дзе наглядаецца схэматычнае апісаньне падзей). Твор чытаецца больш лёгка, больш зацікаўлівае, больш пераконвае, хвалюе, бо аўтар ужо хоча і можа значнае, цікавае, актуальнае сказаць.

Галоўныя героі «Бацькаўшчыны»,—вясковая беднота, якая пазьней прымае ўдзел у рэвалюцыйнай клясавай барацьбе,—апісана, як ужо было сказана, з цяплынёю і спачуваньнем, іншай ад тэй абстрактнай «чалавечнасьці», якую шукаў раней аўтар. Спальваньне панскіх маёнткаў, забойства пана і эканома ў Заходняй Беларусі не парушаюць ужо гэтай «чалавечнасьці», а зацьвярджаюцца аўтарам як няўхільнае ў рэвалюцыйнай барацьбе, апраўдваюцца як частка барацьбы за лепшае жыцьцё, барацьбы людзей, даведзеных да роспачы зьдзекамі і гвалтамі з боку прадстаўнікоў капіталістычнага ладу. Леапольд Гушка, да рэвалюцыі, і стары Няміра, гэта сапраўды людзі «дна», толькі ня беспрычынныя жыхары гэтага «дна», а ахвяры капіталістычнага ладу. З іх найбольш характэрны прадстаўнік жыцьцёвага «дна»—стары Няміра. Ён адседзеўшы ў панскім астрозе, вяртаецца на сваю бацькаўшчыну, дзе знаходзіць толькі парослае травою вогнішча ад сваёй сядзібы.

Вобраз старога Няміры, гэтай ахвяры бязглуздага панскага тэрору, адзін з найбольш яскравых і пераканальных вобразаў «Бацькаўшчыны», хвалюе сваім трагізмам, дзякуючы, менавіта, таму, што мы ведаем прычыны ягонай—Няміравай пакуты.

Абмалёўваючы характары адмоўных тыпаў, аўтар не пазбаўляе іх рысак пэўнай чалавечнасьці, прычым гэтая чалавечнасьць ня досыць яскрава паказана як барацьба аднэй з двух супярэчнасьцяй (пан дазваляе прагнанаму парабку Гушку пабудаваць хату на сваёй зямлі, кулак Сурвіла надта заклапочаны гараваньнем уцекачоў і дае ім нават прытулак у сваёй хаце). Гэткі паказ крыху нагадвае прынцып Станіслаўскага «В плохом ищи хорошего»,—і наадварот. Гэткі паказ не падпарадкаваны асноўнай ідэі, асноўным палажэньням аўтара, скочваецца да паказу «мастацтва дзеля мастацтва». Зразумела, і адмоўныя тыпы могуць мець дадатныя рыскі. Але паказваючы гэтыя рыскі, аўтар павінен паказаць адну асноўную вядучую тэндэнцыю ў барацьбе двух процілегласьцяй, павінен паказаць больш яскрава і прычыны, чаму гэтыя дадатныя рыскі ў адмоўных тыпаў ня могуць разьвівацца ў перамагальную тэндэнцыю і зьмяняць іх, як адмоўных тыпаў.

Да хібаў раману «Бацькаўшчына» трэба аднесьці, як ужо было сказана вышэй, схэматычнае апісаньне падзей (малюнкі вайны, лютаўскай рэвалюцыі на фронце, дэманстрацыі ў Заходняй Беларусі), якія пададзены аўтарам ня досыць яскрава і пераканальна.

У рамане не паказана дзейнасьць нацдэмаў, не паказаны самі нацдэмы на іх шкоднай працы ў Заходняй Беларусі (СССР прысьве-

чаны толькі адзін невялікі ўрывак раману), не паказаны як «канкрэтныя носьбіты зла». У гэтым значны недахоп раману «Бацькаўшчына».

Трэба спадзявацца, што Кузьма Чорны, зрабіўшы грунтоўную рэвізію і зьмену сваіх поглядаў і свайго творчага шляху на матар'яле дарэвалюцыйным і першых год рэвалюцыі, ня спыніцца на гэтым, а папрацуе і над пазьнейшым матар'ялам, зжываючы рэшткі свайго ранейшага творчага мэтаду, засьмечанага багата ідэалістычна-рамантычнымі элемэнтамі.

Рамантызм, як я ўжо казаў, зьяўляецца аднэй з найбольш рэакцыйных школ буржуазнай літаратуры. Элемэнтамі рамантызму, у іх мадэрнізаваным выглядзе, стасоўна да абставін нашага часу, да ўмоў клясавай барацьбы ў краіне, прасякнута і творчасьць некаторых савецкіх пісьменьнікаў.

Найбольш яскравым прадстаўніком такога рамантызму ў сучаснай беларускай савецкай літаратуры зьяўляецца Міхась Зарэцкі. Я мушу напомніць агаворку, што ня маю на мэце рабіць разгляду агульнай ідэйнай накіраванасьці творчасьці М. Зарэцкага, а маю на ўвазе спыніцца каротка толькі на некаторых асаблівасьцях ягонага творчага мэтаду і мастацкай спэцыфікі.

Характэрнае для творчасьці М. Зарэцкага, для ягонага творчага мэтаду,— гэта пошукі нязвычайнага, эфэктнага, прыгожага, што сваеасабліва хвалюе. Героі ў Міхася Зарэцкага—гэта ня зьбіральныя тыпы з характэрнымі жыцьцёвымі рыскамі, а «выдуманыя», нязвычайныя, «оригинальные».

На першым этапе сваёй творчасьці М. Зарэцкі аддае вялікую ўвагу «лішнім» людзям, былым людзям, ідэалізуючы іх, з захапленьнем апісваючы іхныя перажываньні. У такіх творах, як «Кветка пажоўклая», «Сьцежкі-дарожкі», «Ворагі», аб'ектам сваёй творчай увагі пісьменьнік бярэ не паказ людзей, што змагаюцца за перабудову жыцьця на новы, сацыялістычны лад, а, менавіта, гэтых былых людзей з іхнымі жыцьцёвымі заблытанасьцямі, трагізмам, людзей, што «жоўкнуць» на новай савецкай глебе, людзей з іх «складанай», запавышанай гульлівасьцю; у асяродку гэтых людзей, на іншых заблытаных «сьцежках-дарожках» ён шукае эфэктнага, усхвалёвана-трагічнага, а захапленьне ўсім гэтым мае сваім вынікам ідэалізацыю яго. Прыхільнасьць да рамантызму, што набывае ў М. Зарэцкага сваеасаблівую сантымэнтальную афарбоўку, прасякае густа ўсю ягоную творчасьць з пачатку яе разьвіцьця.

Калі мы правядзем лінію разьвіцьця творчасьці М. Зарэцкага, з пункту гледжаньня яе ідэйнай накіраванасьці, ад «Кветкі пажоўклай» да апошняга раману «Вязьмо», дык заўважым, што гэтая лінія дае вялікі згін уніз такімі творамі, як «Крывічы», «Падарожжа на новую зямлю». З старонак гэтых твораў павеяла найбольш выразна прапагандай нацыянал-дэмакратычных ідэй.

Раман «Вязьмо» зьяўляецца для пісьменьніка, бясспрэчна, крокам наперад, ня толькі параўнальна з такімі выразна нацдэмаўскімі творамі, як «Крывічы», але і параўнальна з творамі ранейшага этапу

ягонай творчасьці. Дзеі раману разгорнуты на сучасным актуальным матар'яле: калектывізацыя, клясавая барацьба ў вёсцы, дзейнасьць кулакоў і вясковых перагібшчыкаў, барацьба за правядзеньне лініі партыі. Ад ранейшай прапаганды прышчэпаўскай хутарызацыі аўтар пераходзіць да паказу працэсаў калектывізацыі, гэтага адзіна правільнага шляху, па якім павінны пайсьці працоўныя масы сялянства.

У рамане «Вязьмо» яскрава абмалёваны, хоць і крыху шаржыраваны, тып кулака Гвардыяна; праўда, Гвардыян, як кулацкі тып, больш переканальны для адбудоўнага пэрыяду, чымся цяпер, калі ён маскуецца, прыстасоўваецца да новых абставін. Выведзены на сцэну і вясковыя перагібшчыкі (Карызна, Пацяроб)—гэтыя посьбіты «галавакружэньня ад посьпехаў», якія не разумеюць задач калектывізацыі, дапушчаюць шэраг перагібаў у адносінах да серадьнякоў і беднякоў і гэтым шкодзяць самой калектывізацыі.

Але актуальная тэматыка, матар'ял яшчэ не вырашаюць пытаньня. Асноўным зьяўляецца тое, як пісьменьнік падыходзіць да гэтай тэматыкі, як, **з чыйго пункту гледжаньня** ён паказвае зьявы рэчаіснасьці.

Агульная каштоўнасьць раману «Вязьмо», яго актуальнасьць зьмяншаецца, прыніжаецца, дзякуючы таму, што аўтар не пазбавіўся яшчэ хібаў свайго творчага мэтаду, не адмовіўся ад сваёй някрытычнай прыхільнасьці да рамантызму. У рамане залішняя ўвага аддаецца «эфэктнаму», нязвыкламу і таму няжыцьцёваму, што засланяе і прыніжае асноўнае, актуальнае. Героі раману «Вязьмо», як дадатныя, так і адмоўныя, яшчэ ня могуць вылушчыцца з рамантычнай абалонкі, у якую іх аправіў аўтар. Возьмем для прыкладу тып Зялянюка. Гэта малады рабочы, партыец, прысланы ў вёску за брыгадзіра для правядзеньня калектывізацыі. Зьвернем увагу хоць-бы на стыль Зялянюковага ліста да камсамолкі Стасі, якую нібы-та шчыра кахае. Стыль гэтага ліста даволі эклектычны і нават эксцэнтрычны. Побач з таварыскімі паведамленьнямі аб падзеях у вёсцы, аб сваіх адчуваньнях, мы маем і элемэнты своеасаблівай рафінаванай пяшчотнасьці:

> ... «Любая, мілая, слаўная, злосная, дрэнная Стаська!»...
> ...«Каб ты, хітрая, дрэнная Стаська, хоць трошачку менш была ўпэўнена ў маім каханьні, ты магла-б зайздросьціць да гэтай жанчыны»...

Возьмем гэтыя кавалкі ліста асобна і прыпішам да іх «мой Стась» тады яны ў нашым уяўленьні будуць выклікаць вобраз не рабочага партыйца Зялянюка, а капрызную «ўзгаламучаную», эксцэнтрычную, кінематаграфічную гераіню, якая са словамі прытворнага незадаваленьня—«ты брыдкі, злы, ня добры»... цалуе свайго каханка.

> «Ты думаеш, што я цябе, свайго дарагога зайчыка, не ўспамінаю кожную хвіліну, кожную сэкунду, кожную... (ня ведаю ці ёсьць яшчэ што меншае за сэкунду)? Ты думаеш, што я не абнімаю цябе ў думках, не цалую тваіх сярдзітых губак, тваіх

зялёных, як у кошкі—вочак? Ты думаеш, што калі рэдка пішу, дык я ўжо і забываюся на цябе? Ведаеш мая...»

Да гэтых лістоў, як і наогул да трактоўкі Зялянюка як тыпа, М. Зарэцкі робіць гэткія заўвагі:

«Але ці варта перачытваць сьмешную сантымэнтальную пісаніну маладога хлопца, які працяты нястрыманым палам пяшчотнасьці, забываецца на ўсю сваю грамадзкую значнасьць і станавітасьць і пачынае верзьці зусім нестасоўнае глупства»...

... «Далей у лісьце ішло ўжо рознае нестасоўнае глупства, якое толькі можа верзьці хлопец у дваццаць, ці троху болей год, горача, прагавіта закаханы ў сваю дзяўчыну. Бо Зялянюк, хоць і паказваецца ў гэтым апавяданьні, як цалкам станоўчы, мала неідэальны герой сучаснасьці, але і ён, як кожны жывы чалавек, меў свае слабасьці».

Гэты эклектычны сваім зьместам ліст (з якога я падаў урыўкі толькі аднаго, «пяшчотнага» стылю)—мешаніна цёплай камсамольскай таварыскасьці і рафінавай, эксцэнтрычнай мяшчанскай пяшчотнасьці,—накладвае пэўна адбітак на супярэчлівы характар Зялянюка як тыпа, паказвае, што ён, (характар) не зьяўляецца суцэльным і аўтарам не прадуманы. Урыўкі з гэтага ліста я ўзяў толькі для прыкладу, разам з аўтарскімі «камэнтарамі» да іх. Справа ня ў тым, ці павінен пісьменьнік перадаваць «нестасоўнае глупства». Нас цікавіць больш тое, як пісьменьнік тлумачыць паходжаньне, карэньні гэтага «глупства». Выходзіць, што гэткае «глупства», «можа верзьці хлопец дваццаць ці троху болей год, горача, прагавіта закаханы ў сваю дзяўчыну», або яшчэ хлопец, «які працяты нястрыманым палам пяшчотнасьці». І так, агульныя прычыны «нестасоўнага глупства»—маладосьць, закаханасьць і «нястрыманы пал пяшчотнасьці» ў іх біалёгічных праявах. (А можа ня кожны малады хлопец,—спытаемся мы,—пры наяўнасьці гэтых фактараў, будзе «верзьці нестасоўнае глупства», можа іншы **па іначшаму, у іншым стылі** выкажа свае пачуцьці. Дык у чым-жа прычына будзе гэтага **іначшага**? Можа ўплыў **іншага** сацыяльнага асяродку, **іншай літаратуры,** прачытанай ім, **іншых** умоў жыцьця і г. д.). Як бачым «прагноз» М. Зарэцкага ў гэтым выпадку павярхоўны і банальны: маладосьць і закаханасьць, як агульныя віноўнікі.

Аўтар быццам чакае дакораў, ці, прынамсі, запытаньняў наконт гэтай раздвоенасьці Зялянюковага характару; ён робіць адпіску, своеасаблівую самастрахоўку, ацэньваючы гэта як «слабасьці», «нестасоўнае глупства». Ён абмяжоўваецца адпіскай у адносінах да адмоўных зьяў у Зялянюковым характары, называючы іх «слабасьцямі», «сьмешнай сантымэнтальнай пісанінай», не ставячы сабе за клопат вытлумачыць **прычыны** гэтых зьяў. Аўтар не паказвае гэтыя «слабасьці» ў Зялянюку, як адну з супярэчнасьцяй, што змагаюцца ў ім, якая абумоўлена пэўнымі сацыяльна-клясавымі (а ня толькі, і менш за ўсё, біалёгічнымі) прычынамі. Яны («слабасьці»)

паказаны паводле канонаў рамантыкі, як праява чульлівасьці, аўтара цікавіць самы паказ іх—застрахаваны адпіскай,—а не раскрыцьцё прычын іх, як аднэй з супярэчлівых тэндэнцый у Зялянюковым характары, якая абумоўлена пэўнымі сацыяльна-клясавымі прычынамі, уплывам у пэўнага сацыяльнага асяродку і г. д.

Па рамантычнаму згушчаны сплёт асабістых адчуваньняў, асабістых інтарэсаў у таго самага Зялянюка. Дзякуючы правільнаму працягу, згоду з палітычнаму партыйнай лініі, вынікам якой было выключэньне з партыі сакратара парт'ячэйкі Карызны, Зялянюк страціў Стасю, (як выявілася, Карызнаву дачку), яна ня можа дараваць гэтага Зялянюку, парывае з ім. Праўда, Зялянюк, як быццам «узнагароджаны» тым, што прыдбаў прыхільнасьць Тацяны.

У Зарэцкага паказ адмоўнага ў дадатных тыпаў, без высьвятленьня прычын іх, без паказу гэтага ў пляне барацьбы супярэчнасьцяй, таксама збочвае на фармалістычныя пазыцыі Станіслаўскага: «В хорошем ищи плохое», як рэцэпт для стварэньня «жывога чалавека». Гэтыя адмоўныя рыскі ня маюць прызначэньня паказаць пэўную зьяву рэчаіснасьці, адну з яе супярэчнасьцяй, а зьяўляюцца элемэнтам абстрактнага жывога чалавека, сродкам дадатковай «мастацкасьці».

Вясковы перагібшчык, старшыня сельсавету Пацяроб характэрны як перагібшчык у сваіх дзеяньнях, аднак, па свайму дыялёгу ён жарганізаваны пад стыль вясковай бабы, дзякуючы чаму зьмяншаецца пераканальнасьць яго, як тыпа.

Галілей, вясковы дзівак-вынаходнік, носьбіт «вясковай мудрасьці»—тэатралізаваны тып з сэрыі «нязвычайных». Абмалёўцы гэтага тыпу аўтар аддаў багата месца і маляўнічых сродкаў. Аднак, дзякуючы яго нязвычайнасьці, праз ягоны вобраз нельга ўявіць сабе вясковую беднату.

Карызна—галоўны герой «Вязьма». М. Зарэцкі ў газэце «Літаратура і мастацтва» («Размова нязвычайнай шчырасьці») паведаміў, што Карызна, як тып, мае пахаўтурыць ягонага героя з раману «Сьцежкі-дарожкі» Лясьніцкага. Праўда, Карызна, як рамантычны тып, заблытаўся ў сваіх асабістых пачуцьцях і грамадзкай дзейнасьці, неапанаваўшы супярэчнасьці і патануў у памылках, як перагібы і г. д. Калі Карызна і паказаны як адмоўны, рамантычны тып, дык іншыя героі «Вязьмо», як рамантычныя тыпы жывуць сабе на здароўе. Той самы Карызна, вынікам, да якога ён прыйшоў, у пэўнай меры «пахаўтурыў» Лясьніцкага, але ў той-жа самы час «уваскрэсіў» «непахаванага» яшчэ героя з аповесьці «Голы зьвер».

Маладая настаўніца Вера Засуліч (назва, якая нязвычайная) зьяўляецца пэўным, на мой погляд, ключом да густу, да эстэтыкі М. Зарэцкага. Па прызнаньні самога аўтара яна—«натура рамантычная». Старанна і густа прасыпаныя тэрміны, як «цудоўная», «чароўная», «анельская» і г. д., як і агульная абмалёўка яе—ствараюць вобраз Засуліч, нязвычайнай, рэдкай анёлка-падобнай дзяўчыны. Гэтая «кветка расьцьвіўшая» абмалёвана аўтарам з вялікай стараннасьцю і несхаваным захапленьнем. Ці патрэбен быў такі тып, як антытэза

для стварэньня гэтых супярэчлівых Карызнавых перажываньняў, той калізіі, адкуль пачаліся ягоныя нягоды. Карызна сам па сабе непаказаны такою «ўтончанай» натурай, якую толькі падобныя да Веры Засуліч могуць выводзіць з сваёй раўнавагі. Карызна, відаць, задаволіўся-б і другім «ніжэйшым», больш «біалёгічным» тыпам жанчыны, накшталт тэй самай Тацяны.

Гвардыян—даволі яскрава абмалёваны тып кулака, пераважна кулака на этапе адбудоўчым, актыўнага, нахабнага.

Аўгінька, вясковая дзяўчына, атрымала залішнюю дозу дзяцінства, (хоць-бы ўзяць малюнак, дзе яна папракае Віктара, што той спазьніўся разьвітацца з Зялянюком). Такіх-жа ўласьнівасьцяй залішне надаў аўтар і Віктару, сакратару камсамольскай ячэйкі.

Шыбянкоў, малады вясковы хлопец, бедняк, хоць і непаказаны, як вобраз, больш яскрава, дык даходзіць да чытача вядомым тэатральным спосабам паўтарэньняў. Кожны раз мы яго застаем як ён сядзіць у Веры Засуліч, закінуўшы нагу на нагу і тырынкаючы на сваёй нязьменнай гітары.

Своеасаблівасьць герояў «Вязьмо» (як і ранейшых твораў М. Зарэцкага), выпукленьне ў іх «эфэктных», але не агульна-характэрных рысак, дзякуючы чаму яны не зьяўляюцца тыповымі для канкрэтнай рэчаіснасьці, дзякуючы чаму іх часам цяжка абагуліць, як прадстаўнікоў пэўных жывых людзей нашай рэчаіснасьці, прадстаўнікоў пэўных сацыяльных пластоў.

У рамане «Вязьмо» наглядаецца і своеасаблівая «рамантызацыя зьяў». Успомнім малюнак раскулачваньня Гвардыяна. Гэта нагадвае своеасаблівую пантаміму з якога-небудзь кіно-фільму, накшталт «Робін-Гуд», не хапае толькі рапір і шпагаў для паядынку. Малюнак «эфэктны», але не праўдападобны і таму неперакаанальны. Такіх малюнкаў у рамане ня мала.

Бадай, што ўсе героі раману «Вязьмо» захаканыя: брыгадзір Зелянюк і Стася (пазьней—Тацяна), сакратар партячэйкі Карызна і настаўніца Вера Засуліч, сакратар камсамольскай ячэйкі Віктар і Аўгінька; «падрыхтаваны» да закаханьня Шыбянкоў, мусіць закахаўся-б пакалечаны белапалякамі былы чырвоны партызан Лакота; адносіны Галілея да былой карызнавай жонкі таксама маюць элемэнты пэўнага закаханьня (калі ўзяць пад увагу старэйшы ўзрост Галілея). Зразумела, што каханьне як зьява рэчаіснасьці мае права на свае месца ў мастацкай літаратуры. Аднак, у М. Зарэцкага тут залішне многа «закаханых пар», што не зьяўляецца неабходным для выпукленьня пакладзенай у аснову твору ідэі. Паказ каханьня мае тут залішне «самастойную мэту» і разгорнуты больш у пляне рамантызму.

І паказ каханьня ў М. Зарэцкага падпарадкаваны, як ужо было сказана вышэй, абстрактным, рамантычным пошукам найбольш «эфэктнага», нязвычайнага, што таксама зьніжае актуальнасьць раману «Вязьмо»; дзякуючы таму, што аўтар яшчэ ня вызваліўся з палону рамантызму, «Вязьмо», хоць і разгорнута на актуальным сучасным матар'яле, шмат траціць.

І калі для Максіма Горкага жыцьцё ўяўляецца як: «суровая сказка, хорошо рассказанная добрым, но мучительно правдивым гением», дык твор М. Зарэцкага часам нагадвае суровую, па сваёй праўдзе, п'есу жыцьця, пастаўленую здольным, але эклектычным рэжысэрам, падфарбаваную і ўпрыгожаную вонкавымі, эфэктнымі, але лішнімі тэатральнымі трукамі, якія адцягваюць увагу ад праўдзівасьці, заценяюць яе.

Наглядаюцца зрывы ідэалёгічнага парадку ў паказе паасобных зьяў рэчаіснасьці. Няправільна пададзены гэнэзіс разьвіцьця кулацтва. Карызнавы бацькі сталі кулакамі дзякуючы таму, што Карызна ўвесь час пасылаў ім грошы, даваў парады. Гвардыян служыў у пэўнай урадавай «камісіі», зарабіў там грошы і, прыехаўшы ў вёску, стаў кулаком. А сапраўднай асновай паходжаньня і разьвіцьця кулацтва зьяўляецца кулацкая эксплёатацыя (у капіталістычным ладзе) бядняцкіх пластоў вёскі.

Творчая перабудова М. Зарэцкага адбываецца больш павольна і менш грунтоўна, у параўнаньні з Кузьмом Чорным. Раман «Вязьмо», бязумоўна, зьяўляецца пачаткам перабудовы, але аўтар зьмяншае яе дзякуючы таму, што да вырашэньня новай праблемы, новае тэмы, ён прыйшоў са сваімі старымі мастацкімі сродкамі, з жаданьнем захаваць свой ранейшы творчы мэтад і мастацкую спэцыфіку. Мастацкая спэцыфіка М. Зарэцкага не падпала пад такую зьмену, якая вымагалася для найбольш поўнага і правільнага выяўленьня працэсаў калектывізацыі, як адзіна-правільнага шляху для працоўных сялянскіх мас.

Фабула раману насычана дзеямі; у гэтым дадатны бок раману. Але і гэтыя дзеі залішне прапітаны асабістымі перажываньнямі герояў у пляне вонкавай і непатрэбнай эфэктнасьці; падзеі аўтар апісвае толькі ў такой меры, у якой неабходна «выяўленьне» пачуцьцяў герояў. Па-за гэтым актуальныя і цікавыя падзеі нашай рэчаіснасьці, якія можна было-б кампазыцыйна ўвязаць у творы, не цікавяць аўтара. Таму ў яго няма, бадай, вобразна, эмацыянальна апісаных падзей, якія характэрны і ўласьцівы для нашай рэчаіснасьці, але ў якіх няма гэтай славутай эфэктнасьці, як прыгожай рамкі для паказу сваіх герояў.

У паказе псыхалёгіі герояў «Вязьмо» таксама не адлюстроўваецца характэрнае, жыцьцёвае, так абмалёваную псыхалёгію цяжка перанесьці, абгрунтаваць на вядомыя нам жыцьцёвыя прыклады; яна, ізноўтакі, толькі своеасаблівая аправа для эфэктнага. У гэтым сэнсе наглядаецца вялікая розьніца паміж апісаньнем псыхалёгіі герояў у Кузьмы Чорнага і ў М. Зарэцкага. Кузьма Чорны абмалёўвае псыхалёгію герояў больш глыбока, ён аддае ўвагу і нязначным, але характэрным рысам чалавечай псыхалёгіі. М. Зарэцкі бярэ толькі эмацыянальнае, эфэктнае. Таму перакапальнасьць тыпаў у М. Зарэцкага, іх жыцьцёвасьць значна зьніжаецца. Вобраз Галілея, напрыклад, не дае нам магчымасьці раскрыць, пазнаць псыхалёгію вясковай беднаты.

Кампазыцыйная пабудова «Вязьмо» нескладаная, без «вышуканства», цікавая: дзеі адбываюцца ў іх эвалюцыйным разьвіцьці. Час ад часу аўтар толькі «прыбярагае» для чытача эфэктныя трукі ў чыста рамантычным пляне. Так у рамане «Вязьмо» мы даведваемся раней пра Карызнаву дачку, якая вучыцца ў горадзе, якая нават знаёма (купаліся разам) з новай Карызнавай каханкай Верай Засуліч; адначасна мы даведваемся і пра каханку брыгадзіра Зялянюка Стасю, з якою пазнаёміўся на заводзе і так чульліва ўспамінае пра яе, будучы на вёсцы. І вось, у самы напружны момант, калі ў сельсавет прыяжджае партыйная камісія, якая ўскрывае карызнавы і пацяробавы перагібы, (у выніку чаго яны выключаюцца з партыі), у часе пасяджэньня гэтай камісіі зьяўляецца асоба, якая злучае ў сябе двух гераінь—Карызнаву дачку і Зялянюкову каханку Стасю. У выніку Карызна страціў партбілет, а брыгадзір Зялянюк—каханку. Праўда, у канцы раману трагізм герояў быццам згладжваецца: Зялянюк прапануе Карызну ехаць працаваць на завод, Карызна згаджаецца. Не хапае толькі яшчэ ўзнагародзіць Зялянюка за ягоную страту і ажаніць яго з Тацянаю (паміж імі пачынаецца ўжо новае каханьне), тады разьвязка будзе падобна да «старых, добрых «камэдый», дзе ўсё канчаецца добра: разлучаныя пары жэняцца, а кат і ягоная ахвяра танцуюць разам вясёлы танец.

Рамантычныя трукі ў даволі стройнай кампазыцыйнай пабудове раману зьяўляюцца, на мой погляд, тым лішнім, што ўзяў М. Зарэцкі ад рамантызму.

Мова ў М. Зарэцкага даволі сакавітая, вобразная, багатая яскравымі эпітэтамі, але з лішняй дамешкай звычайнай літаратуршчыны. Ён лёгка спраўляецца, пры дапамозе такой вобразнай мовы, з апісаньнем яскравых малюнкаў, з абмалёўкай пачуцьцяў сваіх герояў. Аднак, і тут у паасобных, найбольш «рамантычных» мясьцінах твору мова М. Зарэцкага набірае багата сваеасаблівай, рамантычнай салодкасьці, пяшчотнасьці, і ў такіх выпадках яна можа быць мінусам для сур'ёзнага, глыбокага мастацкага твору.

Па сваіх мастацкіх магчымасьцях М. Зарэцкі зьяўляецца даволі буйным мастаком, але карыстаецца гэтымі сродкамі эклектычна, асобныя элемэнты з гэтых мастацкіх сродкаў зьяўляюцца ў яго самамэтай для большай эфэктнасьці, а не для большага выяўленьня агульнай ідэі твору.

Ідэйная накіраванасьць «Вязьмо» ў бок выпраставаньня ранейшых збочаньняў пісьменьніка з шляху рэвалюцыйнай савецкай літаратуры,—зьяўляецца яшчэ недастаткова выразнай, пасьлядоўнай, дадатнай. Але творчы мэтад і мастацкая спэцыфіка пісьменьніка ідучы ад буржуазнага рамантызму яшчэ ў большай меры не паказваюць пералому, пераносяцца амаль ня цалкам у сваіх характэрных праявах і ў новы твор «Вязьмо». Перад М. Зарэцкім няўхільна паўстае задача далейшай, больш грунтоўнай і глыбокай перабудовы, асабліва—перабудовы свайго творчага мэтаду і мастацкай спэцыфікі, задача пераключэньня сваіх, даволі буйных, мастацкіх сродкаў на службу пабудовы бяскласавага сацыялістычнага грамадзтва.

В. Селіванава

# НЕКАЛЬКІ ЗАЎВАГ ПРА ДЗІЦЯЧУЮ ЛІТАРАТУРУ

## I.

Нарадзіліся яны ў 19, 20, 25. Растуць, дужэюць на нашых вачах, у эпоху жорсткай барацьбы і вялікага дойлідства, у эпоху суровую, складаную і радасную, у гераічную эпоху пабудовы першага ў сьвеце сацыялістычнага грамадзтва. Яны—гэта мільёны сур'ёзных, удумлівых вачэй, што пільна ўглядаюцца ў нашае сёньня, што вучацца пазнаваць навакольную рэчаіснасьць, змагацца і будаваць.

За іх маленькаю постацьцю паўстае, выростае вобраз новага, усебакова разьвітага чалавека, сьвядомага і актыўнага будаўніка бясклясавае грамады. Іх трэба выхоўваць здаровымі, думкамі, загартаванымі вялікай ідэяй барацьбы, трэба сур'ёзна, уважліва кіраваць працэсам іх росту, разьвіваючы ў гэтага маленькага, разумнага чалавека пачуцьці калектывізму, інтэрнацыянальнай пралетарскай еднасьці, прышчапляючы яму лепшыя якасьці новага чалавека з дыялектыка-матэрыялістычным сьветапоглядам.

Адным з важнейшых фактараў камуністычнага выхаваньня нашага маладога пакаленьня—зьяўляецца мастацкая дзіцячая літаратура.

Высока ідэёвая, эмацыянальна дзейная, цікавая мастацкая кніжка арганізоўвае думкі і пачуцьці маладога чытача, дае яму багатыя веды фактаў сучаснасьці і гісторыі, пашырае кола яго разуменьняў, разьвівае здаровую дзіцячую фантазыю, вынаходлівасьць, здаровыя эстэтычныя пачуцьці, ідэёва загартоўвае, актывізуе маладога чытача, фармуе яго сьветапогляд.

У бальшавіцкай барацьбе за культурную рэвалюцыю, за новага чалавека, наша партыя не аднойчы паказвала на вялікую палітыка-выхаваўчую ролю мастацкае дзіцячае кнігі. Партыя неаднойчы падкрэсьлівала, што «барацьба за бальшавіцкае выхаваньне юнацтва і дзяцей у духу ленінізму, за інтэрнацыянальнае выхаваньне пралетарскай, калгаснай моладзі Савецкага саюзу патрабуе на дадзеным гістарычным этапе выключнае ўвагі да вайстрэйшай бальшавіцкай зброі на ідэалёгічным фронце—да літаратуры для моладзі і дзяцей» (з пастановы ЦК УсеКП(б) за 1931 год).

Правядзеньне ўсеагульнага навучаньня, пашырэньне і рост піянэрскіх арганізацый, значная палітычная актывізацыя нашых дзяцей—асабліва ўзьнімаюць ролю дзіцячай кніжкі ў агульнай сыстэме камуністычнага выхаваньня. З кожным днём узростаюць патрабаваньні да дзіцячай кніжкі; малады чытач прагне знайсьці ў ёй адказ на тыя шматлікія разнастайныя пытаньні, якія штачас рупяць, хвалююць яго, ён патрабуе цікавага, удумлівага твору, які-б хваляваў яго, вучыў працаваць і змагацца, які-б у простай, зразумелай дзецям форме паказаў усю веліч, увесь патас нашай барацьбы і будаўніцтва. Малады чытач шукае поўнага, жывога вобразу новага чалавека як лепшага для сябе прыкладу, вобраз, які хацелася-б пераймаць і любіць.

Мастацкая дзіцячая кніжка—найлепшы агітатар, які заклікае, вядзе за сабою. Але дзіцячая кніжка і «палка з двума канцамі»,—кажа Крупская,—яна можа адыгрываць вялікую арганізавальную ролю, можа адыгрываць вялікую дэзарганізавальную ролю. Яна можа дапамагаць выпрацоўцы матэрыялістычнага сьветапогляду, але можа садзейнічаць і выпрацоўцы сьветапогляду ідэалістычнага, можа выхоўваць калектывіста, але можа выхоўваць і індывідуаліста з мяшчанскай дробна-ўласьніцкай псыхалёгіяй.

Усё залежыць ад таго, зброяй якое клясы зьяўляецца літаратура, чые імкненьні і ідэалы праводзіць яна. Досыць прыгадаць буржуазна-сантымэнтальныя, мяшчанскія раманы Чарскай (якімі ў свой час зачытваліся гімназысткі), буржуазна-гуманістычныя аповесьці Лукашэвіч з маральлю хрысьціянскай пакорлівасьці і любові да бліжняга, буржуазна-нацыяналістычныя, містычныя п'есы актыўнага контр-рэвалюцыянэра пілсудчыка Гаруна—каб убачыць, як актыўна змагаліся буржуазныя рэакцыянэры за сваё панаваньне, як актыўна выкарыстоўвалі яны дзіцячую літаратуру ў мэтах выхаваньня дзяцей у патрэбным ім духу.

Барацьба за беларускую пралетарскую, савецкую дзіцячую кніжку, як сродак камуністычнага выхаваньня—ёсьць бязьлітасная бальшавіцкая барацьба з буржуазна-ідэалістычнай ідэалёгіяй на фронце беларускай дзіцячай літаратуры.

Не азірнуўшыся назад, ня ўзважыўшы гэтае барацьбы, не ўсьвядоміўшы сутнасьці нацыянал-дэмакратычнай спадчыны ў галіне дзіцячай літаратуры—цяжка ўявіць сабе і тыя значныя дасягненьні, якія мы маем на гэтым фронце.

## II.

Трэба сказаць, што да Кастрычніка мы ня мелі на Беларусі амаль ніводнага больш менш буйнага дзіцячага мастацкага твору. З кніжак таго часу, што дайшлі да нас, мы маем два надзвычай цікавых літаратурных дакуманты: кніжка В. Ластоўскага «Першая чытанка—кніжыца для беларускіх дзетак дзеля навукі чытаньня», выдадзеная ў 1915 годзе ў Вільні, і кніжка, складзеная Якубам Коласам «Другое

чытаньне для дзяцей беларусаў», надрукованая ў 1909 годзе ў Пецярбурзе.

Кніжка Ластоўскага, гэтага вядомага нам махровага нацыянал-дэмакрата, зьяўлялася ў той час (не гаворачы ўжо пра функцыянальнасьць яе для нашага часу) яскравым выяўленьнем глыбокай рэакцыйнасьці буржуазнага нацыяналізму. Гэтая чытанка для «беларускіх дзетак» па-сутнасьці зьяўлялася «апэляцыяй да нізоў» з боку ідэалёга беларускай буржуазіі, якая з аднаго боку, адчувала сваю слабасьць і імкнулася ў тактыцы свае барацьбы абапёрціся на масы, выступаючы пад лёзунгам адзінага нацыянальнага фронту, і, з другога боку, змагаючыся за свае панаваньне, імкнулася асьлабіць, ідэёва разлажыць небясьпечныя для сябе «нізы» шляхам прапаганды рэлігіі, сваіх буржуазна-рэфармісцкіх, эксплёататарскіх ідэй, дасьціпна апранутых у вопратку «агульна-чалавечых», «агульна-нацыянальных» інтарэсаў.

Уся кніжка Ластоўскага прасякнута ідэяй клясавага міру, патрыятычным усхваленьнем «залатое пары», з лагоднымі і моцнымі князямі-ўладарамі зямлі беларускай, з заклікам накшталт:

„Дружна, дзеткі, будзьма ў згодзе
Ці ў нядолі, ці ў прыгодзе,
І злучымся ў шнур, як гусі,
На дабро ўсёй Беларусі."

Або

„Ад Дзьвіны і да Прыпяці,
Ад Дняпра да Буга вод
Аднэй маці жывуць дзеці,
Беларускі жыве род."

На фоне гэтага рэакцыйнага бруду з 15 перакладзенымі на беларускую мову малітвамі багародзіц, малітвамі перад вучэньнем, пасьля вучэньня, за жывых і за памёршых—на гэтым фоне выразна вылучаюцца творы Коласа ў напісанай ім чытанцы, якія, ня гледзячы на сваю значную нацыянальную абмежаванасьць, усё-ж у той час адыгрывалі выразна прагрэсыўную, рэвалюцыйна-дэмакратычную ролю. Колас, адцягваючы дзяцей ад рэлігійнай забабоннасьці, ад містычных цудаў і страхаў, імкнуўся давесьці свайму маладому чытачу, што «непанятнае і страшнае для нас усё тое, чаго прычыны мы ня знаем. Болей навукі, меней страху».

З выключным веданьнем спэцыфікі дзіцячага ўспрыйманьня, у эмацыянальных вобразах разгортвае Колас малюнкі жыцьця і побыту прыгнечанага працоўнага беларускага сялянства, прымушаючы задумацца маладога чытача над блізкімі яму сацыяльнымі пытаньнямі, выхоўваючы ў яго пачуцьці абурэньня супроць прыгнёту і эксплёатацыі.

Але пра дзіцячую літаратуру, як акрэсьленую, спэцыфічную галіну агульна-літаратурнай справы—мы можам гаварыць толькі пасьля Кастрычніка, бо толькі ён даў магчымасьць яе сапраўднаму разьвіцьцю.

Было-б вельмі наіўным думаць, што пасьля Кастрычніка мы маем на Беларусі рост і фармаваньне толькі пралетарскай, савецкай дзіцячай літаратуры, што клясавы вораг мірна здаў гэтую сваю ідэалёгічную зброю. Абвастрэньне клясавых супярэчнасьцяй, спэцыфічныя формы клясавай барацьбы ў пасьлякастрычніцкі пэрыяд маюць свой адбітак і ў дзіцячай літаратуры.

Адначасова з барацьбой за стварэньне пралетарскага дзіцячага твору (напрыклад, Чарот, пазьней Александровіч)—мы маем у гэты час і значную актывізацыю варожых нам сіл у галіне дзіцячае літаратуры.

Перад намі дзіцячая літаратурна-мастацкая часопісь «Зоркі», што выдавалася ў Менску ў 1921-22 годзе. Асноўнай мэтавай устаноўкай гэтай часопісі было ўзгадаваць «кадры» буржуазна-кулацкіх нацыяналістаў, прасякнутых адзіна-нацыянальным духам.

Такія творы, як апавяданьне М. Рамаscore Рамаўскага «Гузік», пад выглядам барацьбы за нацыянальную школу, арганізоўвалі маладога чытача на разрыў інтэрнацыянальнай пралетарскай еднасьці, выступаючы супроць усяго чужынскага—расійскага, супроць расійскай мовы наогул, якая прыносіць дзецям, на думку аўтара, гора, пакуту і сьлёзы. Апавяданьне М. Рамаоўскага «Белавеская Пушча», апавяданьне нейкага С. П. «Сіла ў грамадзе»—прасякнуты ідэалізацыяй «залатой пары», патрыятычным усхваленьнем багацьця зямлі беларускай, надрыўнымі скаргамі, што «нашае багацьце ўзбагачвае чужынцаў», і надзеямі, што «вялікая сквапнасьць ня ідзе ўзыск». «Будзем спадзявацца, дзеткі, што нашае нам і будзе».

Глыбока-рэакцыйным зьяўляецца і шэраг тагачасных вершаў, казак, апавяданьняў З. Бядулі, зьмешчаных у гэтай-жа часопісі. Шэраг, здавалася-б, бяскрыўдных, прыродаапісальных вершаў з элёгічнай пачуцьцёвасьцю, лірызмам, сантымэнтальнай гуманістычнасьцю ўслаўляюць уласную хацінку, уласную палоску; праз апісаньне пэйзажу беларускага сяла аўтар імкнецца выхаваць у маладога чытача шавіністычныя пачуцьці да маці зямлі беларускай—заўсёды працавітай, лагоднай, але заўсёды пакрыўджанай і прыгнечанай.

Замест паказу дзіцяці вялікіх і малых спраў нашае эпохі, замест арганізацыі думкі маладога чытача вакол таго новага сацыялістычнага, што прынёс і ўзгадаваў Кастрычнік, часопісь абкружае свайго чытача ідэалізавана-рамантычнымі апісаньнямі старых традыцыйных сьвят, паэтызуе рэлігійныя калядныя абрады, цягнучы дзяцей да «самабытнае» забабонасьці, папоўшчыны і містыкі.

Уся гэтая мараль агульна-чалавечае згоды, што мастацкі канкрэтызавалася ў зразумелай дзіцяці форме, па сутнасьці была ўпрыгожанай шыльдай, за рамантызаванай падфарбованасьцю якой хавалася самая аголеная эксплёататарская сутнасьць буржуазнага нацыяналізму.

Гэтыя творы, гэтыя цьмяныя «Зоркі» даўно ўжо адыйшлі ў нябыт, як брудныя і нікчэмныя. У барацьбе з гэтай буржуазнай рэак-

цыяй, у барацьбе з рэцыдывамі нацыяналістычных традыцый «Зорак» узрасла наша савецкая дзіцячая літаратура.

Значную ролю ў справе разьвіцьця беларускай, савецкай дзіцячай літаратуры адыграла часопісь «Беларускі піянэр», што аб'яднала вакол сябе лепшых дзіцячых пісьменьнікаў: Маўра, Якімовіча, які прыцягнуў да ўдзелу ў дзіцячай літаратуры Коласа, Купалу, Чорнага, Крапіву, Труса, Александровіча і інш. пісьменьнікаў. Вялікая роля гэтай часопісі была яшчэ і ў тым, што яна змагла супроцьставіць сябе нацдэмаўскай прадукцыі тыпу «Зорак».

## III.

Посьпехі нашай беларускай дзіцячай літаратуры, якія зьявіліся ў выніку правільнага праводзеньня партыяй ленінскай нацыянальнай палітыкі, зьяўляюцца адначасова неадлучнай часткай тых дасягненьняў, якія мы маем у дзіцячай літаратуры ўсяго Савецкага саюзу. Пра гэты значны рост дзіцячай літаратуры нашага саюзу сьведчаць такія буйныя мастацкія творы, як «Разсказ о великом плане» Ільліна—кніжка, пра якую тав. Кагановіч на IX-м зьезьдзе ЎсеЛКСМ гаварыў, што «яна чытаецца як лепшая рамантычная літаратура. Гэта лепшая цікавая кніжка пра тое, як мы расьцем, якія вялізныя багацьці ў нас ёсьць і якія грандыёзныя пэрспэктывы адчыняюцца перад нашай краінай, перад кожным рабочым і селянінам». Шэраг кніжак расійскіх дзіцячых пісьменьнікаў—Кажэўнікава, Гайдара, украінскіх пісьменьнікаў—Владко, Дончанка, сьведчаць пра ідэёва творчы рост савецкае дзіцячае літаратуры.

Зразумела, што на фоне выключна-мізэрнае лакастрычніцкае спадчыны асабліва яскрава паўстаюць нашыя дасягненьні ў справе стварэньня беларускай, савецкай дзіцячай кніжкі.

Мы маем шэраг пэрыядычных выданьняў для дзяцей: «Іскры Ільліча», яўрэйскую піянэрскую газэту «Юнгер ленінец», маем шэраг дзіцячых твораў Маўра, Якімовіча, Александровіча, Сташэўскага, Чарняўскай, Кагановскай і інш. Але нашыя посьпехі далёка яшчэ не здавальняюць тых вялікіх патрабаваньняў, якія прад'яўляе партыя да савецкай дзіцячай літаратуры. Вялікі процант перакладной і, параўнальна з ім, колькасна малая арыгінальная дзіцячая прадукцыя — сьведчыць пра тое, што савецкія пісьменьнікі яшчэ вельмі мала зрабілі ў справе кансалідацыі пісьменьніцкіх творчых сіл, што пытаньні дзіцячай літаратуры яшчэ шырока ня ўзьняты перад пралетарскай грамадзкасьцю, што аргкамітэт ССПБ невыстарчальна зрабіў яшчэ для стварэньня тае неабходнае творчае атмасфэры, пры якой маглі-б актывізавацца ды ідэёва-творча расьці новыя кадры дзіцячых пісьменьнікаў.

Гаворачы пра сучаснае становішча беларускай дзіцячай літаратуры, аналізуючы творчасьць найбольш буйных, таленавітых дзіцячых пісьменьнікаў, трэба сказаць, што куды больш моцная, куды больш багатая наша літаратура для старэйшага школьнага ўзросту.

Дашкольная-ж літаратура значна слабейшая і значна колькасна меншая.

Адным з папулярнейшых сярод дзяцей пісьменьнікаў зьяўляецца Янка Маўр, творамі якога літаральна зачытваюцца нашыя школьнікі. Пачаўшы сваю літаратурную дзейнасьць з 1926 года, Маўр за гэты час напісаў каля 10 буйных дзіцячых мастацкіх твораў. Творчы шлях гэтага пісьменьніка далёка ня просты, творчасьць яго патрабуе сур'ёзнага дэталёвага вывучэньня і прынцыповай таварыскай крытыкі.

Значная частка твораў Маўра напісана на гістарычныя, навукова-прыродазнаўчыя тэмы. У такіх сваіх творах, як «У краіне райскай птушкі», «Сьлёзы Тубі», «Амок», «Сын вады» аўтар шырока знаёміць маладога чытача з гісторыяй, жыцьцём, побытам і барацьбой каленіяльных народаў, першабытных дзікунскіх пляменьняў. Творы Маўра насычаны багатым геаграфічным прыродазнаўчым матар'ялам. Гэтыя значныя веды геаграфіі, гісторыі, прыроды, культуры розных народаў даходзяць да чытача праз жывую вобразную тканіну твору, праз цікавую, што захапляе дзяцей фабулу, часам праз яркую фантастычную сытуацыю. Усё гэта надае творчасьці Маўра адну надзвычай каштоўную якасьць, якую можна было-б характарызаваць, як высокую, пазнавальную сілу яго творчасьці.

І сапраўды. Пераважная большасьць твораў Маўра пашырае агульны кругагляд чытача шляхам умелага ўзбагачэньня ведаў дзіцяці з навакольнае рэчаіснасьці. Творчасьць Маўра прымушае маладога чытача **думаць, перажываць**, і ўжо гэта выразна адрозьнівае яго творы ад тых фіксатарскіх кніжачак-каратышачак, ад тых бабачак-аднадзёнак, якія часам трапляюць у рукі нашага маладога чытача, не пакінуўшы на ім ніякага ўражаньня, не ўзварушыўшы яго думак і пачуцьцяў.

У апошні час у шэрагу тэарэтычных артыкулаў Крупскай, Лядавай, прысьвечаных распрацоўцы творчых пытаньняў дзіцячае літаратуры, асабліва падкрэсьліваецца неабходнасьць узбагачэньня яе творамі шырока-гістарычнага, прыродазнаўчага характару. Творчасьць Маўра ў гэтым сэнсе мае выключную цікавасьць. Пры аналізе яе ўсплывае шэраг канкрэтных творчых пытаньняў, што зьвязаны з нашымі патрабаваньнямі да літаратуры гэтага тыпу.

Трэба сказаць, што творчы падыход пісьменьніка і да рэалістычна-гістарычнага твору і да твору прыгодніцкага, і да твору пэрспэктыўна-фантастычнага жанру—у першую чаргу залежыць ад тае клясавае мэтаімкнёнасьці пісьменьніка, якой ён заражае, арганізуе, фармуе сьвядомасьць маладога чытача. Можна падаваць у мастацкім дзіцячым творы багаты гістарычны, геаграфічны матар'ял з пункту гледжаньня перадавых ідэй сёньняшняга дню, але можна знаёміць маладога чытача з мінулым праз пасыўна сузіральніцкія апісаньні гэтага мінулага, выпустошваючы сацыяльную сутнасьць яго ў імя так званае «чыстае прыроды». Можна пісаць фантастычныя, прыгодніцкія дзіцячыя творы, дапамагаючы імі пранікнуць дзіцяці ў рэальную праўду жыцьця, дапамагаючы імі выпрацоўцы ў дзіцяці

зусім рэальнай, цьвярозай, жыцьцёдзейснай вынаходлівасьці, перадавога мэтаімкненнага волюнтарызму, але можна і містыфікаваць сьвядомасьць дзяцей буржуазна-фанстастычнымі творамі тыпу Уайльдаўскай казкі «Сад волата».

Гаворачы пра творчасьць Маўра, мы, з аднаго боку, павінны змагацца з тымі вульгарызатарскімі тэндэнцыямі паасобных літаратуразнаўцаў, якія расцэньваюць творчасьць гэтага пісьменьніка, як нешта не актуальнае, што ідзе ад далёкіх вякоў, і, з другога боку, улічваючы творчую індывідуальнасьць пісьменьніка, павінны паказаць на тыя сапраўды небясьпечныя моманты, якія тармозяць яго творчае разьвіцьцё.

Перад намі «Сын вады» (выданьне 1928 году). У гэтым творы Маўр з уласьцівай яму эрудыцыяй знаёміць чытача з жыцьцём, побытам паўночна-амэрыканскага племяні фуіджынцаў. На фоне прыгод сваіх дзікунскіх герояў аўтар паказвае жорсткую барацьбу чалавека з прыродаю, стварае вобраз сьмелага, моцнага, вынаходлівага хлапчука Манга, загартаванага ў гэтай першабытнай барацьбе за сваё існаваньне. Ня гледзячы на багаты фактычны матар'ял і ўменьне жвава, цікава падаць яго, апавяданьне ў сваёй аснове прасякнута своеасаблівай «апалітычнасьцю», сацыяльнай прытупленасьцю. Тут багата прыроднага, геаграфічнага калёрыту і гэтак мала жывых арганізавальных ідэй. Лёгіка падзей аповесьці прымушае аўтара паставіць сацыяльную праблему. У творы яна мастацкі канкрэтызуецца праз малюнкі прыгнёту, эксплёатацыі чорнага Манга белымі «цывілізаванымі» буржуа ангельцамі. Але гэты прыгнечаны Манг не ўзьнімаецца ў Маўра да сацыяльнага пратэсту, нават не абураецца гэтай эксплёатацыяй чалавека чалавекам. У барацьбе з прыродай ён дужы, сьмелы, поўны моцнае волі, у стасунках-жа грамадзкіх—пакрыўджаны, бязвольны, чорны раб, які здольны толькі марыць пра свабоду, прычым, свабоду свайго мінулага, якая дасягаецца шляхам дзікунскае першабытнае барацьбы чалавека з зьверам, чалавека з непадатліваю прыродаю.

Такім чынам, ставячы сацыяльную праблему, Маўр вырашае яе ня ў пляне барацьбы кляс, а толькі ў пляне барацьбы чалавека з прыродаю за свае існаваньне. Усё гэта вядзе да таго, што дзеця, прачытаўшы «Сын вады», здольна толькі спачуваць «беднаму», пакрыўджанаму Мангу. Аўтар прымушае толькі «шкадаваць» свайго героя, скіроўваючы пачуцьці чытача ў бок абмежаванасьці, памяркоўнасьці.

Мы так шырока спыніліся на гэтым творы не таму, што нібыта лічым менавіта яго характэрным для ўсёй творчасьці Маўра. Мы спыніліся на ім таму, што гэты вельмі небясьпечны момант, да таго згушчоны ў «Сыне вады», у тых ці іншых формах, у той ці іншай ступені дае сябе адчуваць і ў шэрагу іншых творах аўтара, ня гледзячы на тое, што ў іх ужо мы маем куды больш поўныя вобразы барацьбітоў за вызваленьне чалавецтва ад капіталістычнага прыгнёту. Варта толькі ўдумацца ў такі пазьнейшы твор Маўра, як «Амок» (напісаны на фактычным матар'яле з рэвалюцыйнага паў-

станьня на востраве Яве ў 1926 годзе), каб адразу заўважыць, як змагаецца пісьменьнік з двума тэндэнцыямі. З аднаго боку, імкненьне вобразна-эмацыянальна, ідэёва-моцна паказаць увесь жах капіталістычнай эксплёатацыі каленізаваных народаў, сьвядомую рэвалюцыйную барацьбу прыгнечаных і, з другога боку, пісьменьніка цягне да гэтае «чыстае» прыроды, да паэтызацыі драбнюткіх дэталяў старых часоў, да прыгодніцтва, якое вельмі часта ня зьвязана з унутранай ідэёваю лёгікаю твору, а выступае як чыста вонкавы, фармальны прыём, разьлічаны на «занимательность». У шэрагу ранейшых твораў Маўра гэтая другая тэндэнцыя перамагае. Пастаўленыя аўтарам грамадзкія, сацыяльныя праблемы вельмі часта зьяўляюцца толькі падаплёкай, у самым вузкім сэнсе гэтага слова, выступаюць у творы як фон, які часам зацямняецца, падаўляецца вялізнаю масаю прыродна-геаграфічных фактаў, штучнымі, фантастычнымі прыгодамі з агністымі зьмеямі, факірамі, раззлаванымі тыграмі і насарогамі.

І калі мы змагаемся супроць аголенае прасталінейнасьці пры трактоўцы ў дзіцячым творы разнастайных грамадзкіх праблем, дык ня менш сур'ёзна мы павінны падыходзіць і да якасьці тае «аздобы», тых творчых мастацкіх сродкаў, пры дапамозе якіх дзеці найбольш поўна, найбольш мастацкі адчувальна ўспрыймаюць асноўныя ідэі, закладзеныя ў тым або іншым творы.

І трэба сказаць, што гэтыя моманты фантастыкі, прыгодніцтва ў шэрагу ранейшых твораў Маўра выраслі часам у нешта самагоднае, самамэтнае. Часам у Маўра ня лёгіка ідэі твору рухае разьвіцьцё падзей яго, а разьвіцьцё пэўных прыгодніцкіх падзей накіроўвае далейшае разьвіцьцё ідэйнай лініі твору.

Так ў «Амоку» на фоне прыгодніцкіх падзей буржуазнага філістэра містэра Піпа Маўр разгортвае шматлікія малюнкі явайскай прыроды, знаёміць чытача з рэшткамі старое культуры, яе асаблівасьцямі. Але, імкнучыся зрабіць твор цікавым, аўтар так захапляецца стварэньнем нязвычайнай фантастычнай сытуацыі, што прымушаны ў імя яе ў пэўных момантах ахвяраваць рэальнай жыцьцёвай праўдай. Містэр Піп трапляе ў стары явайскі храм і парушае старажытныя законы гэтага племя. Яго чакае сьмерць. Але раптам шчасьлівая выпадковасьць. Містэр Піп выратаван. І кім-жа? Камуністамі ў час іх **тэрміновае канспэратыўнае падпольнае работы.** Сітуацыя атрымліваецца звышнатуральная і, па сутнасьці, скажае тое, што павінна-б было быць асабліва праўдзівым і мастацкі пераканальным.

Такім чынам, ня гледзячы і на пэўныя дадатныя моманты прыгодніцкай фантастыкі Маўра—напрыклад, імкненьне выпрацаваць у дзіцяці вынаходлівасьць, кемнасьць—яна мае і пэўныя небясьпечныя моманты, якія, як нам здаецца, у значнай ступені залежаць ад някрытычных адносін аўтара да такіх буржуазных пісьменьнікаў прыгодніцкага жанру, як Жуль-Вэрн, Майн-Рыд і інш.

Маўр творча расьце, разьвіваецца. Яго апошні фантастычна-перспэктыўны дзіцячы раман «Аповесьць будучых дзён» дае шырокую карціну жыцьця і працы людзей у эпоху поўнага камуністыч-

нага грамадзтва. Ня гледзячы на пэўныя наіўныя моманты (апісаньне камунізму, як нейкага няземнага раю), ня гледзячы на пэўную штучнасьць міжнароднай сытуацыі, у гэтым творы Маўр усё-ж здолеў больш глыбока паказаць асноўныя прынцыпы камуністычнага грамадзтва, стварыць вобраз новага бясклясавага чалавека з сьвядомымі камуністычнымі адносінамі да працы.

І, што асабліва каштоўна, Маўр здолеў тут куды больш арганічна з агульнай ідэёвай накіраванасьцю твору зьвязаць шэраг багатых, навукова - абгрунтаваных палітэхнічных момантаў, даючы гэтым магчымасьць зразумець маладому чытачу разнастайныя вытворчыя працэсы пры высокай тэхніцы камуністычнага грамадзтва.

Прынцыповая таварыская крытыка павінна дапамагчы пісьменьніку шчыльна падыйсьці да шматграннай тэматыкі нашай эпохі.

А трэба сказаць, што сацыялістычнае будаўніцтва паказана ў нашай беларускай дзіцячай літаратуры мастацкі надзвычай слаба. Найбольш ідэёва глыбокай сярод невялікай колькасьці кніжак пра наша змаганьне і будаўніцтва зьяўляецца кніжка Якімовіча «Перамога».

Гэтая кніжка прыцягвае да сябе сваею сур'ёзнасьцю і прастатою. Перад маладым чытачом праходзіць складаны працэс калектывізацыі, ставіцца ня менш складаная праблема перапробкі селяніна-ўласьніка ў калгаснага калектывіста. І важна, што Якімовіч не спрашчае рэчаіснасьці, а падае ўсе гэтыя цяжкія і блізкія нашым дзецям пытаньні ў зразумелай ім форме, праз жывых людзей з іх імкненьнямі і пачуцьцямі. Эмацыянальны тон апавесьці, адсутнасьць сантымэнтальнага сюсюканьня (якое некаторыя пісьменьнікі лічаць за сваеасаблівы падыход да дзяцей), сур'ёзнасьць, палітычная загостранасьць і паэтычная прастата—зьяўляюцца характэрнымі рысамі гэтае кніжкі.

Кніжка Якімовіча ў гэтым сэнсе выразна вылучаецца сярод такіх твораў пра нашыя гіганты, як «Асінстан» Барашкі, «Гомсельмаш» І. Волкавай.

Пісаць для дзяцей цяжка. Трэба знайсьці з імі агульную мову, трэба ведаць спэцыфіку дзіцячага мышленьня, успрыйманьня, а гэтага асноўнага якраз і не хапае шэрагу нашых маладых дзіцячых пісьменьнікаў.

Ніколі не ўзварушыць, ніколі не зацікавіць дзяцей такая кніжка пра сацыялістычнае будаўніцтва, як Барашкаў «Асінстан», бо ні яркіх тыпаў, ні вобразных апісаньняў, ні валявога запалу, ні паэтычнае лёгікі ў ёй няма. Замест гэтага—шаблённыя вобразы, незразумелая дзіцяці мова з рознымі «калькуляцыямі», «рэнтабельнасьцю», «праблемамі», перабойны рытм, худыя рыфмы, якія ня могуць разьвіць здаровых эстэтычных пачуцьцяў у дзяцей, ня змогуць запаліць іх пафасам барацьбы і будаўніцтва.

Няведаньне дзяцей, іх узросных асаблівасьцяй, іх патрэб, прыводзіць часам да такіх сьцюдзёна-рацыяналістычных, схэматычна-фіксатарскіх кніжак, якой зьяўляецца «Гомсельмаш» І. Волкавай.

Пішучы гэтую кніжку, Волкава, мабыць, мела самыя добрыя намеры—стварыць дзіцячую палітэхнічную кніжку на матар'яле Гомсельмашу. Але аўтар зразумеў палітэхнізм як нейкі своеасаблівы прафэсыяналізм, што, па сутнасьці, надало гэтай кніжцы выразна вузка-тэхнічны характар. Волкава, па сутнасьці, занялася фатаграфаваньнем, апісаньнем розных тэхнічна-вытворчых працэсаў, пры чым, у самай сухой, пратакольнай форме. Няма ў ёй асноўнага блізкага і зразумелага маладому чытачу, няма чалавека-героя, які адухаўляе гэтую тэхніку сваею рэвалюцыйнаю энэргіяй, які прымушае яе служыць сваёй сацыялістычнай мэце.

За апошні час у нашу невялікую дашкольную дзіцячую літаратуру пачынаюць прыходзіць новыя, маладыя кадры: Каганоўская, Дыла, Шыдлоўскі і інш.

Творчасьці іх бракуе яшчэ патрэбнае культуры, але шэраг апошніх рэчаў, напр. Каганоўскай («Як Натка гутарыла з маткай» і інш.), паказваюць на ўменьне яе падыйсьці да дзяцей, зацікавіць іх, і, з другога боку, абавязуюць яе да сур'ёзнай літаратурна-творчай вучобы.

Зусім зразумела, што нашыя пэўныя дасягненьні ў галіне беларускай дзіцячай літаратуры ў вогуле яшчэ невыстарчальныя. Перад дзіцячымі пісьменьнікамі паўстае шэраг важнейшых творчых задач. Трэба стварыць такі мастацкі твор, які-б дыхаў героікай нашай барацьбы, які-б знаёміў дзяцей з рэвалюцыйнай барацьбой замежнага пралетарыяту, трэба стварыць такія творы, якія-б увасаблялі самааддадзеную і герaічную барацьбу ленінскага камсамолу на фронце сацыялістычнага будаўніцтва.

Трэба ў прыватнасьці заняцца распрацоўкаю такога багатага жанру дзіцячай літаратуры, якім зьяўляецца казка, бо дзецям уласьціва любіць прыгожую казку,—пісаў калісьці Ленін. «У кожнай казцы ёсьць элемэнты рэчаіснасьці. Калі-б вы дзецям далі казку, дзе певень і кошка не размаўляюць на чалавечай мове, яны-б ня сталі ёю цікавіцца» (Ленін, т. XXII, стар. 324).

Стварыць прыгожую, мастацкую, эмацыянальную казку, з рэвалюцыйнай фантастыкай, прасякнутую камуністычнай мараль ю—важная і неадкладная задача.

Зусім зразумела, што далейшы рост нашае дзіцячае літаратуры можа быць пасьпяховым толькі пры ўмове выключнай увагі да яе з нашага камсамолу, пісьменьніцкай арганізацыі, у прыватнасьці, з боку нашае крытыкі, якая да апошняга часу гэтую важнейшую галіну агульна-літаратурнае справы пакідае бяз увагі.

Настаўніцтву, піянэр-важатым, бібліятэчным працаўнікам трэба сур'ёзна заняцца вывучэньнем нашай савецкай дзіцячай літаратуры, каб умела і правільна выхоўваць нашае новае пакаленьне.

**Д. Курлянд**

## Д. БЭРГЕЛЬСОН

### Кароткая характарыстыка яго ідэйна-мастацкага шляху

Д. Бэргельсон нарадзіўся ў 1884 годзе ў вёсцы Ахрымава, каля Умані (Украіна) у буржуазнай рэлігійнай сям'і, але з раньняй маладосьці ён ужо вымушан быў жыць самастойна. З 1908 году Д. Бэргельсон пражывае ў Кіеве. Там ён вучыцца і працуе. Пісаць Бэргельсон пачаў будучы яшчэ зусім маладым (раней на расійскай і гэбрэйскай мовах, а тады на яўрэйскай).

Спачатку буржуазная прэса яго ня друкавала, не хацела прызнаць Бэргельсона за навізну яго стылю. што здавалася ім небясьпечным, а галоўным чынам за некаторую опозіцыю супроць буржуазіі, якая (опозіцыя) была ў значнай меры ў яго першых творах.

Толькі ў 1909 годзе зьяўляецца першы друкаваны твор Бэргельсона «Навокал вакзалу», які ён выдаў за свой кошт і які быў добра ацэнен тагочаснай (буржуазнай і дробна-буржуазнай) яўрэйскай крытыкай.

Буржуазна-літаратурная крытыка, як відаць, зразумела, што, нягледзячы на яго мадэрнізм, Бэргельсон усё-ж добра адпавядае агульнай нацыяналістычнай літаратуры.

З таго часу Д. Бэргельсон займае адно з выдатных мейсц у яўрэйскім літаратурным руху.

У творы «Глухі» (першы твор Бэргельсона на яўрэйскай мове) яскрава выражан сацыяльны пратэст супроць адсталага, грубага яўрэйскага буржуа, супроць агіднай фізычнай эксплёатацыі і, галоўным чынам, супроць маральнага ўціску працоўных (Глухі, Эстэр). Але адначасова тут падкрэсьліваецца бязвыніковасьць, нікчэмнасьць і нават трагі-камізм падобнага пратэсту. Гэта таму, што нянавісьць да «Быка» (гэрой аповесьці) тут паказана несьвядомаю, сьляпою і глухою.

Ужо ў творы «Глухі» Бэргельсон, выражаючы пратэст супроць эксплёатацыі па-свойму, асьвятлу́ яго з пункту гледжаньня інтэлігента эксплёататарскай клясавай праслойкі, якая гінула, але якая ў гады агульнага рэвалюцыйнага ўздыму (1905—1907) усё-ж была здольна выразіць некаторы хаця-б лібэральны «пратэст».

У «Навокал вакзалу» паказваецца гандлярскае яўрэйскае асяродзьдзе, яго пустата і гніль, зайздрасьць і нянавісьць, якія ў ім пануюць.

Асабліва яскрава падкрэсьліваюцца настроі заняпаду напалову апустошанага інтэлігента і гандляра старога тыпу, які ня можа дапасавацца да новых для яго капіталістычных адносін, і які таму гадуе нянавісьць да багатых, сытых і самаздаволеных купцоў і багачоў.

Раман «Пасьля ўсяго»—самы вялікі і моцны твор таго часу (1911—1912 г.) у творчасьці Бэргельсона.

У ім падкрэсьліваецца нянавісьць Бэргельсона да капіталістычнай індустрыяльнай і гандлёвай буржуазіі (Тарабай, Бурнас, Зайдакоўскі), яскрава падкрэсьліваецца іх бязгустоўнасьць, сытае самаздаволеньне, іх цяга да высокага паходжаньня, іх бяспрынцыповасьць, набожнасьць і распуста, філянтропія і дробязная гандлярская скнапнасьць і г. д. Але гэта робіцца з пазыцыі ідэалізацыі старога патрыярхальнага яўрэйскага багацея і часткі буржуазнай інтэлігенцыі (Гурвічы, равін, Гэрц), якія былі зьвязаны з рэшткамі фэадальнага ладу царскай Расіі і якія часткова ўжо зьнікалі, ня маючы магчымасьці прыстасавацца да новых умоў капіталістычнага разьвіцьця, што ўзмацнілася пасьля першай рэвалюцыі.

Гурвічаў аўтар малюе, як пакрыўджаных, абойдзеных новымі капіталістычнымі ўмовамі. Яны зьнікаюць, бо тыя, што нанова зьявіліся, іх прыцiскаюць, ім не давяраюць, ня гледзячы на іх «сумленнасьць», «шляхетнасьць», высокае паходжаньне і «патрыярхальна-арыстакратычныя паводзіны».

Адначасова аўтар жадае даказаць тую пашану, якую маюць новыя багацеі да старога, былога багатыра, да яго высокага паходжаньня, набожнасьці і рэлігійнай вучонасьці. Аўтар стараецца даказаць тое агульнае спачуваньне, якое выклікае ва ўсім мястэчку хворасьць, а асабліва сьмерць багатыра Гурвіча. Агульнае спачуваньне ўсіх бяз розьніцы—багацея ці бедняка. Хто спачувае шчыра, а хто з патаемнай пагардлівасьцю, толькі для выгляду.

Ня гледзячы на ідэалізацыю фэадальна-патрыярхальных рэштак, Бэргельсон з сваімі тагачаснымі творамі мае для нас тую заслугу, што аб'ектыўна ён у некаторай меры выражае пратэст супроць капіталізму, супроць буржуазнай няшчырасьці, і ня гледзячы на ідэалізацыю клясавай праслойкі Гурвічаў, ён усё-ж даказаў нямінучае яе зьнішчэньне, яе—«пасьля ўсяго». Як усякі вялікі мастак, Бэргельсон вымушан быў у сваіх тагачасных творах ускрыць такія бакі рэчаіснасьці, мастацкі рэальныя, якія маюць для рабочае клясы дадатнае значэньне.

У сувязі з гэтымі бакамі тагачаснай творчасьці Бэргельсона і (ідэалізацыя аднае праслойкі буржуазіі і апазіцыя ў адносінах да другой) яго мэтады творчасьці розныя: там, дзе ён ставіць сваёю мэтаю ідэалізацыю сапраўднасьці, дзе ён хоча паказаць яе з лепшага боку, падфарбаваць яе, там Бэргельсон—імпрэсіяніст. Тады яго малюнкі элегічныя, статычныя, туманныя. У такіх выпадках ён стараецца ўсё завінуць, завэлюмаваць. Фарбы цёмныя, бледыя, тоны сумныя, мінорныя, якія павінны выклікаць смутак па мінулым добрым (для яго клясавай праслойкі) часе, спачуваньне да ягоных дадатных гэрояў. Гэтыя дадатныя гэроі малююцца ціхімі, абасобле-

нымі, замкнутымі, упартымі і капрызнымі: не непасрэдна праз учынкі і дзеяньні, а праз намёк, дэталь і г. д.

Замест таго, каб паказаць іх жыцьцё і быт, характэрны ўчынкі і г. д.—Бэргельсон перадае, вельмі мастацкі, іх рухі, прымасы, настроі і пачуцьці. Але і настроі і пачуцьці іх неяскравыя, туманныя, ў пакрытыя ценем.

Зразумела, што ўсе гэтыя гэроі маўчаць. Амаль ніколі іх ня чуваць, а калі Бэргельсон павінен дзе-небудзь прывесьці іх размову, ён дае яе ў кароткіх рэпліках і то ў трэцяй асобе.

Але там, дзе аўтар малюе сваіх адмоўных гэрояў і тыпаў, зьнікаюць усе гэтыя, раней названыя імпрэсыяністычныя тоны фарбы і г. д. Тут даюцца ўжо вельмі яскравыя мазкі, малюнкі быту характэрныя ўчынкі. Само апісаньне ўжо ня гэтакае сьціслае, а больш канкрэтнае, больш аб'ектыўнае.

Часта можна тут сустрэць гумар і нават сатыру. Мова таксама робіцца больш сапраўднай і характэрнай для дадзеных тыпаў.

Паколькі Бэргельсон таго часу быў выразьнікам ужо названай ідэалізаванай клясавай праслойкі, пастолькі галоўным мэтадам у яго творах зьяўляецца імпрэсіянізм. Гэта відаць з тых апісаньняў, шэрых, заўсёды цёмных асеньніх пэйзажаў, з «псыхолёгізацыі», што займаюць там досыць значнае месца.

Раман «Пасьля ўсяго» аб'ектыўна быў мастацкім помнікам пры Гурвічах, хаця ў сапраўднасьці, зразумела, некаторая частка гэтай праслойкі, прыстасавалася да новых капіталістычных умоў, але надалей арыентавацца на гэтую, як гэтакую, праслойку Бэргельсон ужо ня мог.

Для Бэргельсона пачынаецца пэрыяд шуканьняў, пэрыяд ідэалёгічна-мастацкай пераарыентацыі. Бэргельсон набліжаецца тады да дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, асабліва да той яе часткі, якую мы называем інтэлігентамі-каяльнікамі, г. зн. да былых дробна-буржуазных «сацыялістычных» (бундаўцаў, эсэраўцаў), якія пасьля рэвалюцыі 1905 г. рабіліся чым далей, тым больш рэакцыйнымі, сталі шкадаваць аб сваіх мінулых, «рэвалюцыйных памылках», пачалі яшчэ больш адчынена агітаваць за клясавае сяброўства, нацыяналізм «ідышызм» і заклікалі «назад у сынагогу» да старадаўняга юдаізму.

Бэргельсону была блізка як некаторая лібэральная «апазыцыйнасьць», якая яшчэ засталася ў гэтай інтэлігенцыі ў адносінах да буйнай буржуазіі, так і нацыяналізм і кансэрватыўнасьць.

Усё гэта было яму ўласьціва яшчэ тады, як ён быў выразьнікам ідэалёгіі старой патрыярхальнай гандлёвай буржуазіі, але цяпер ён яшчэ больш набліжаецца да гэтай інтэлігенцыі. Праўда, прыхільнікам сінагогі Бэргельсон ніколі ня выступаў, але ён ідэалізаваў зруйнаваньне старога, традыцыйнага яўрэйства. Ён таксама ня стаў выразьнікам шырокіх мас яўрэйскай дробнай буржуазіі, бо нават у яго пазьнейшых творах мы ня бачым матываў сацыяльнай нужды і адзіноцтва сярод гэтых мас. Таксама мы амаль ня бачым дробна-буржуазнага, мяшчанскага рамантызму і ідэалізацыі матываў «гэтто», хас

дызму, Палястыны, райскіх зямель і інш., чым была перапоўнена цераз край тагачасная буржуазная яўрэйская літаратура (Пэрэц, Аш, Эйнгорн і інш.).

Гэты пэрыяд у творчасьці Бэргельсона (з 1913 г. і да Кастрычніцкай рэвалюцыі) усё-ж адрозьніваецца ад ранейшага, па-першае, тым, што элемэнты опозіцыі супроць капіталізму робяцца ўсё слабейшыя, усё менш значныя. Усё больш слабее крытыка новай буржуазіі. Па-другое, мы бачым ужо ў некаторых творах Бэргельсона, наадварот, цягу да гэтай буйной буржуазіі, жаданьне мастацкі яе апраўдаць, ня гледзячы на тое, што часта мы яшчэ сустракаем некаторыя крытычныя адносіны да гэтай самай буржуазіі—да буйной і асабліва да сярэдняй (Пойзнэр, Любэр, Дэсьлер, Бромбэрг—у рамане «Адыход» і інш.). Гэтая цяга ні ў якім разе ня была ў супярэчнасьці з тэю ідэалёгіяй, якая тады была ўласьціва для рэакцыйнай, дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, якая арыентавалася на буржуазію. Гэтакая арыентацыя была тады амаль ва ўсёй дробна-буржуазнай літаратуры. Гэтая арыентацыя спыняецца толькі пазьней, пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, калі частка гэтай інтэлігенцыі, разам з Бэргельсонам, памалу перайшлі на бок рэвалюцыйнага пролетарыяту, а частка ўжо цалкам перайшла на бок буржуазіі.

У гэты пэрыяд Бэргельсон выдае тры досыць вялікіх творы аб інтэлігенцыі. У апавяданьні «У загрубелым горадзе» ён дае нам малюнак дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, якая ўзьбіраецца на лесьвіцу буржуазнага грамадзтва (студэнты, былыя курсысткі, экстэрны і г. д.), кідае сваю асьвету, плюе на ўсе свае ідэалы і шукае сабе карысьці, шляхоў, каб зарабіць як мага больш грошай і разбагацець. Гэтыя ўжо зусім не падобны да тых няшчасных нездаволеных інтэлігентаў з «Пасьля ўсяго». Гэтыя, у сваёй большасьці, актыўныя, прадпрыемлівыя, прагныя да грошай. Бэргельсон ставіцца з гіроніяй да гэтых гэрояў (Элесен, Фрункe, Бурман), да нядаўніх інтэлігентаў, якія раптам робяцца казённымі равінамі, уласьнікамі невялікіх прадпрыемстваў і інш. Усе гэтыя гэроі так або інакш церпяць паражэньне. Ім нешчасьлівіцца ў «Загрубелым горадзе». Бэргельсон паказвае, як яны самі, ня менш пустыя і загрубелыя, чым усе астатнія ў гэтым горадзе, і ня маюць нічога, апрача буржуазнай хцівасьці і зайздрасьці. Іх распуста (а асабліва канкурэнцыя з кагалам, аб чым Бэргельсон не гаворыць), іх ломка традыцыйных рамак «старога добрага яўрэйства» ўзбурае супроць іх «кагал». Апавяданьне тут цалкам рэалістычнае, а ў некаторых мясцох, нават, натуралістычнае. У паводзінах, як нідзе ў Бэргельсона раней—дынаміка. Тыпы яскрава намалёваны, усюды тут мы бачым лёгкую пагардлівую гіронію.

У сваім рамане «У змрочныя часы» Бэргельсон прабуе паказаць нам буржуазна-мяшчанскую «залатую моладзь», інтэлігенцыю богэмы і вучнёўскую моладзь (Вайнтройб, Левін-студент сіаніст і інш.), а таксама і яе мэцаната (гаспадара і наймальніка) буйнога буржуа (Аўром Рапапорт). Але ўсе яны ў Бэргельсона выйшлі ня зусім

удала. Паказана толькі іх надворнасьць, унутраны-ж зьмест іх застаўся мастацкі няяскравым. Цэнтральнае мейсца ў рамане зноў займае сярэдні багацей мястэчка (Іосіф Шур), які шукае каб як утышчыцца ў арыстакратычнасьць і багацьце Рапапортаў. Апрача таго, раман гэты застаўся незакончаным.

Шмат большае значэньне для таго часу мае другі раман Бэргельсона «Адход». Тут галоўныя гэроі і ўдалыя і дадатныя паводле тагачаснага паняцьця і разуменьня Бэргельсона, бо тут зноў паказана тая група дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, ідэалёгію якой Бэргельсон у той час выражае, а таксама іх прысуджанасьць і бязвыходнасьць гэтай інтэлігенцыі, як мы бачылі ў «Пасьля ўсяго». Тут нам Бэргельсон малюе толькі інтэлігентаў-каяльнікаў (Мойлах, Хаім-Моўша); яны, якія ў сапраўднасьці ўжо разлажыліся, тут ізноў малююцца ў ідэалізаваных фарбах, тымі-ж мэтадамі і мастацкімі сродкамі, як Гурвічы ў «Пасьля ўсяго». Тут яшчэ толькі дадаецца лёгкая сімбалічна-містычная афарбоўка, дзякуючы якой туман, які павінен засьценіваць іх, яшчэ больш гусьцее. Але і пра гэтых, што каюцца, можна сказаць таксама, як і аб прадстаўніках гандлёвай праслойкі, якая самаадмірае. Ім Бэргельсон таксама толькі спачувае, ён ідэалізуе іх, адлюстроўвае іх настроі, але ісьці з імі далей яму некуды, бо і гэта інтэлігенцыя таксама прысуджана зьнікнуць, і Бэргельсон ня бачыць для іх выйсьця.

«Адход»—азначае ў Бэргельсона ня толькі адыход ад рэвалюцыі (душэўны заняпад), але, нават, і адыход ад жыцьця наогул (фізычнае зьнішчэньне). Мойлах канчае самагубствам. Хаім-Моўша таксама носіцца з парашком атруты ў кішэні. І для іх, значыць, Бэргельсон адшукаў толькі «прыгожую сьмерць», але ня «ордэр на жыцьцё». У «Адыходзе» ўжо часткова аджываюць крытычныя адносіны да буржуазіі. Пэўзнэрам, Дэсьлерам, Любэрам і іншым сытым, самазадаволеным гаспадаром мястэчка і багацеям ён супроцьстаўляе, вядома, ня Хаім-Моўшаў, у якіх ужо нічога няма, апрача пакорлівасьці і роспачы, і якія гатовы выбачыць усё і ўсім. Гэтай буржуазіі ён супроцьстаўляе буржуазна-дэмакратычнага інтэлігента Прэгера і яго таварышоў—некалькі мяшчанскіх гультаёў; мы бачым у іх некаторыя выбухі бунтарства (фронды), але вельмі дробязныя і нікчэмныя. Сымпатыі аўтара таксама далёка не на баку гэтых гэрояў.

Апрача гэтых трох названых твораў, Бэргельсон ствараé ў гэты пэрыяд яшчэ шэраг лепшых апавяданьняў, якія ўвайшлі ў зборнік «Дробязі».

Гэтыя апавяданьні даюць сабою або паўтарэньні ранейшых матываў («Апошні новы год», «Гінучыя»), або невялічкія сымбалістычныя малюнкі («Два шляхі», «Уначы»). У адным з больш значных апавяданьняў «Адным летам» зноў выведзен галоўным гэроем «сацыяліст», які зусім, або напалову «каецца» (Айзік), ціхі маўчальнік, які верціцца, захоплены сам сабою, сваім каханьнем да дзяўчыны з багатага дому. Забастоўка, якая адбываецца там-жа на фабрыцы, нават ня ці-

кавіць гэтага «сацыяліста». Ён раўнадушны да ўсяго сьвету і гатоў усім прабачыць.

У гэты пэрыяд Бэргельсон, як мы бачым, быццам прасеяў ўсе групы дробна-буржуазнай інтэлігенцыі і больш стала спыніўся на рэакцыйнай дробна-буржуазнай групе, якая была яму бліжэй па сваіх настроях, пачуцьцях і ідэях.

Галоўныя ідэі названых твораў гэтага пэрыяду можна сфармуляваць прыблізна так: «Не парываць ні з кім («Запрубелы горад»), кагал—дужэйшы за аднаго (там-жа), ня лезьці напралом, ня брацъ без пары, усё прыдзе паступова (Іосіф Шур), няма супроць чаго пратэставаць, няма з чаго абурацца, лепей усё ганіць, абсьмяяць, усё і ўсім прабачыць («Адыход»).

Мы бачым тут паступовае разьвіцьцё аднэй і тэй-жа ідэі.

Такім чынам гэты пэрыяд у творчасьці Бэргельсона можна лічыць пэрыядам заняпаду, у параўнаньні з мінулым. Новых значна-мастацкіх дасягненьняў тут ня відаць. Ранейшы сацыяльны пратэст чым далей, усё больш гасьне. Гэта пэрыяд напружаных мастацкіх шуканьняў (рэалізм, імпрэсыянізм, сымбалізм) ідэалёгічных дробна-буржуазных хістаньняў, паміж буржуазіяй і дробнай буржуазіяй. Адно тут зьвязана з другім; адно зьяўляецца вынікам другога. Выйсьця і цьвёрдага кірунку Бэргельсон у той час яшчэ не знайшоў. Такім было становішча вялікай часткі дробна-буржуазнай інтэлігенцыі ў гады рэакцыі і сусьветнай вайны. Іхныя галоўныя настроі таго часу былі заняпад, зьбянтэжанасьць, роспач.

Першыя гады пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, гады грамадзянскай вайны яшчэ больш завастрылі ідэалёгічна-мастацкі крызіс Бэргельсона. Яму—пісьменьніку буржуазнага паходжаньня, з такою багатаю спадчынаю старой буржуазнай культуры, вельмі цяжка было раптам пераарыентавацца, перабудавацца і перайсьці зусім на бок рэвалюцыі. Рэвалюцыя прыйшла для яго, як і для большасьці мяшчанства, нечакана. Першыя гады ён быў яшчэ заняты заканчэньнем ужо названых твораў («Адыход», «Змрочныя часы»). Відаць, ён тады яшчэ не ўразумеў зьместу пралетарскай рэвалюцыі. У 1919 годзе мы ўжо чуем ад Бэргельсона (у яго праграмным артыкуле «Творчасьць і грамадзкасьць») згоду з новай рэвалюцыйнай грамадзкасьцю. Ён прызнае яе, як кажуць, «дэ-факто», ён нават спачувае рэвалюцыі, але ён, як відаць, згодзен «не ва ўсім». Ён яшчэ ня быў упэўнены ў тых каласальных творчых магчымасьцях пралетарыяту, і таму ня бачыў працэсаў перабудовы і творчасьці, і таму ён выступаў супроць савецкага культурнага будаўніцтва і літаратуры. Рэвалюцыя яму таму здавалася нечым хаатычным, ён, пакуль, бачыў толькі разлом, толькі хаос.

Спачуваньне да рэвалюцыі і ўспрыняцьцё яе дзеля гэтага было таксама вельмі ўмоўным, а менавіта пастолькі, паколькі рэвалюцыя прынесла з сабою поўную нацыянальную раўнапраўнасьць паміж усімі працоўнымі, у тым ліку і яўрэйскімі працоўнымі масамі.

Зусім ня дзіўна, што пагромы, арганізованыя контррэвалюцыйнымі бандамі на Украіне (Пятлюра, Дзянікін і інш.), зруйнаваньне, якое гэтыя банды і арміі пакінулі таксама і сярод яўрэйскага насельніцтва, знайшлі ўдзячную глебу ў Бэргельсона і павінны былі цяжка адбіцца на яго сьветапоглядах, узмацняючы ягоны нацыяналізм, як гэта было і з некаторымі іншымі пісьменьнікамі, былымі правымі спадарожнікамі (Ністор, Гофштэйн і інш.). У 1921 годзе Бэргельсон сумесна з некаторымі іншымі яўрэйскімі пісьменьнікамі эмігруе за граніцу. Гэтыя некалькі год (да 1925 г.) былі для Бэргельсона пакутнымі гадамі сумненьняў, рэакцыйна-нацыяналістычных блуканьняў і, адначасова, гадамі мастацкага зацішша. Але ўжо ў 1924 годзе друкуе Бэргельсон некалькі разьдзелаў новага твору «Бочко» (у Маскоўскай часопісі «Штурм»)—раман аб грамадзянскай вайне, дзе галоўны гэрой прыходзіць да рэвалюцыі, ня маючы яскравага ўразуменьня пра яе, маючы яшчэ шмат індывідуалістычных, анархісцкіх ухілаў, настрояў і г. д.

У 1927 годзе Бэргельсон прышоў з вялікім томам апавяданьняў «Бурныя дні», які азначае сабою некаторы пазарот у ідэалёгіі Бэргельсона. На парозе рэканструкцыйнага пэрыяду мы чуем ужо ад Бэргельсона некаторае прызнаньне рэвалюцыі, жаданьне ўключыцца ў яе. Самае характэрнае з гэтых апавяданьняў «Шлях аднаго», дзе галоўны гэрой, дробна-буржуазны працоўны, прыходзіць (але таксама стыхійна і в а к о л ь н ы м шляхам) у Чырвоную армію. У 1926 годзе Бэргельсон выдае ў Бэрліне часопісь «Ін шпан» з мэтаю арганізаваць вакол часопісі ўсіх сяброў і спачувальнікаў Савецкага Саюзу. Там Бэргельсон апублікаваў частку свайго першага вялікага раману савецкага пэрыяду «Судзімыя па закону». Гэты раман ужо далейшы крок наперад у творчасьці Бэргельсона. У гэтым творы апісваецца змаганьне з кулацка-эсэраўскай контррэволюцыяй, барацьба з гандлёвымі кантрабандысцкімі элемэнтамі прымежнага мястэчка. Бэргельсон дае нам, з аднаго боку, баязьлівасьць і здрадніцтва старой інтэлігенцыі (доктар Бабіцкі і інш.) і з другога боку, пачатак пераломуў шэрагах гэтай інтэлігенцыі (Сыпівак). Бэргельсону асабліва ўдалося апісаць усю бязгрунтоўнасьць, няміхучую пагібель яўрэйскіх гандлёвых элемэнтаў мястэчка, якія аб'ектыўна, а часткова і суб'ектыўна, служаць контррэвалюцыі, дапамагаюць белагвардзейскім кур'ершам. Слабей атрымаліся дадатныя гэроі, актыўныя рэвалюцыйныя барацьбіты (Філіпаў і інш.). Яны паказаны, як ня досыць актыўныя, як людзі, якім яшчэ не хапае бальшавіцкіх арганізацыйных здольнасьцяў, якія яшчэ ня зжылі некаторых індывідуалістычных ухілаў, якія яшчэ ня досыць зьліліся з калектывам і таму яны ня могуць уплываць на яго ў выстарчальнай меры. Ня досыць яскрава тут паказаны працоўныя мястэчка (Ханка, Нінка, Васіль). Мы тут яшчэ не адчуваем таго вялікага захапленьня, якое ўнесла рэвалюцыя ў шэрагі працоўнага насельніцтва.

Агульны фон Голіхаўкі-Камінабалкі ўсё яшчэ брудны і шэры. Бэргельсон тут яшчэ ня зусім вызваліўся ад сваіх старых сродкаў

паказу, на яго яшчэ уплываў цяжар спадчыны, імпрэсыяністычнага ідэалізму.

Але ў канцы Бэргельсон паказвае нам той пералом, які адбыўся сярод чырвонаармейцаў і працоўных мястэчка. Прышоў канец той апатыі, якая панавала сярод рэвалюцыйных элемэнтаў Галіхаўкі-Камінабалкі. Сьмерць Філіпава не выклікае сумненьняў і заняпаду духу, чаго чакала контррэвалюцыя, наадварот—гэта бандыцкае забойства выклікае агульны рэвалюцыйны ўздым нават і сярод тых, якія да гэтага часу хісталіся, або былі заняты асабістымі дробнымі сваркамі.

Галоўная ідэя гэтага твору, наколькі яна выражана ў апісаных тут здарэньнях, выведзеных гэроях, у асаблівых сродках стылю і г. д.—гэта тое, што рэвалюцыя мае свае законы, свае правы, сваю «вялікую праўду». Перад гэтай вялікай рэвалюцыйнай справядлівасьцю павінна адыйсьці, а не, дык і зусім зьнікнуць свая «асабістая праўда», з якой носіцца кожны паасобку.

Другім словам, агульныя інтарэсы рэвалюцыі—вышэй індывідуальных, дробязных інтарэсаў кожнага ўдзельніка рэвалюцыі паасобку. Рэвалюцыйныя законы строгія, але, аднačасова, яны гібкія і зьменныя ў залежнасьці ад часу, ад мейсца (прымежная паласа, або далёка ад мяжы) і, галоўным чынам, у залежнасьці ад таго, да якога сацыяльнага пласта яны накірованы (актыўныя контррэвалюцыянэры, ашуканыя працоўныя).

Гэтым раманам Бэргельсон зрабіў далейшы крок наперад да пралетарыяту. Тут ужо выражана ня толькі прызнаньне рэвалюцыі і яе ўспрыняцьце, але і жаданьне аўтара арганічна ўрасьці ў рэвалюцыю, стаць яе актыўным удзельнікам і барацьбітом.

У той-жа самы час (1925-1930 г. г.) Бэргельсон піша яшчэ цэлы шэраг меншых і большых апавяданьняў з тэй-жа тэматыкай, што і «Брудныя дні», «Судзімыя па закону», якія ўвайшлі ў яго два вялікіх томы «Сьвет усходзіць—сьвет гіне» і «Сустрэчныя вятры». У гэтых апавяданьнях мы знаходзім малюнкі грамадзянскай вайны, тыпы і вобразы старога мястэчка, яшчэ не пераварaныя ў савецкім катле (падзея з багацеямі і інш.), або з даваеннага мястэчка («Нота» і інш.), некаторыя вобразы «саветызаванага» дробнага буржуа («У савецкую суботу» і «У савецкія будні», «Воля Брэнар» і інш.). Ёсьць ў яго ўжо і спробы даць тып новага савецкага чалавека і рабочага.

Гэты пэрыяд уяўляе сабою пераломны час на грамадзка-літаратурным шляху Бэргельсона. Пэрыяд, калі Бэргельсон усё больш злучаецца з рэвалюцыяй, усё цясьней зьвязваецца з рэвалюцыйным пралетарыятам. Калі з сацыял-фашысцкай жоўтай газэтай «Форвертс» (Амэрыка) Бэргельсон парваў яшчэ ў 1926 г., дык у канцы гэтага пэрыяду Бэргельсон канчаткова парывае з дробна-буржуазнаю ідышысцкаю літаратураю і прэсаю і робіцца заўсёдашнім супрацоўнікам у камуністычнай «Моргн Фрайгайт». У гэтай самай Нью-Ёрскай камуністычнай яўрэйскай газэце Бэргельсон пачынае друкаваць часткі свайго новага твору «Пэнэк» («Ля Дняпра»). Гэты вялікі твор уяўляе сабою першую частку вялікага манумэнтальнага раману, які ахопіць

пэрыяд апошніх мінулых 30-40 год, які павінен адлюстраваць жыцьцё і барацьбу яўрэйскіх працоўных мас сумесна з працоўнымі іншых нацыянальнасьцяй у былой Расії супроць царызму і буржуазії.

Першая кніга, якая тут цяпер (1932 г.) вышла з друку, апісвае яўрэйскае мястэчка апошніх год XIX стагодзьдзя. Мястэчка паказана тут дыфэрэнцыраваным, падзеленым на супрацііўныя клясавыя слаі, чужыя і варожыя паміж сабою. Паказана, з аднаго боку, насельніцтва завулкаў, сьціснутае капіталізмам, зруйнованы дробны вытворца, рамесьнік і іншыя працоўныя. Там пануе жудасная беднасьць, голад, хворасьць, эпідэміі, фізычная і духоўная пад'ярэмнасьць.

З другога боку, Бэргельсон паказвае нам «дом багацея» Левіных і іншых капіталістых, якія купаюцца ў золаце з таго, што яны грабяць, душаць і эксплёатуюць працоўныя масы сваім гандлем, бровамі, цукровымі заводамі і г. д. Ён дае там цэлую галярэю тыпаў як гандлёвай буржуазіі яшчэ стара-фэадальнай фармацыі, якія з цяжкасьцямі прыстасоўваюцца да новых, больш заўзятых капіталістычных умоў (Левін, Брустанецкі), так і індустрыяльнай буйной буржуазіі (Шавель і інш.). Ён паказвае нам таксама і слуг буржуазіі, як больш высокіх служачых, што абуржуазіліся (вытворцаў, акцызьнікаў, агэнтаў, касіраў і г. д.), так і ніжэйшых—хатнюю прыслугу (Янкель, Буня і інш.) і звычайных працоўных, да якіх аўтар ставіцца з вялікаю сымпатыяй і любасьцю.

«Ля Дняпра» асабліва характэрна тым, што тут Бэргельсон ускрывае ўсю фальшывасьць, хітрасьць, няшчырасьць багацея-гаспадара, набожнага і рэлігійнага. Ён зрывае тут рэлігійную маску, якою прыкрываюць сябе паразіт Левін і іншыя яму роўныя. Пакрываюць сябе, каб лягчэй і бясьпечней рабаваць і эксплёатаваць, трымаць сваю ўладу над працоўнымі і беднатою. У сваёй аснове Левін—прадстаўнік таго-ж слою, што і Гурвіч у «Пасьля ўсяго». Шмат эпізодаў (хворасьць багацея, курорты замежныя, яго сьмерць) гэтых двух твораў супадаюць. Левін нават і з надворнага боку падобны да Гурвічаў (худы, расьсеяны, капрызны і г. д.). Але тымчасам як у «Пасьля ўсяго» гэты слой ідэялізаваны, тут Бэргельсон яго дэмаскуе, ускрывае як знутры (праз паказ сапраўднага яго характару і паводзін), так і з надворнага боку (праз супрацьстаўленьне яму захудалых завулкаў і слуг). Усяго гэтага Бэргельсон дасягае і шляхам непасрэдных ілюстрацый і аўтарскіх рэмарак і таксама шляхам пасярэдніх, асабліва праз галоўнага гэроя гэтай кнігі—Пэнака. Пэнак сам таксама з багатага дому, хлопчык цікавы і дапытлівы. Адпіхнуты і загнаны ўсімі хатнімі, ён пасябраваўся вельмі блізка з хатняю прыслугаю, набліжаецца да бедных завулкаў і робіцца там блізкім сваім. Яму кідаецца ў вочы тая вялікая розьніца, якая ёсьць паміж багатым жыцьцём у іхным доме і жыцьцём стомленых, зацямнёных і забітых працоўных. Усё гэта шырэй адчыняе яго дзіцячыя вочы, і ён бачыць і чуе шмат страшэнна дзікіх рэчаў, якіх ён раней не заўважаў. Гэта выклікае ў яго жаданьне даведацца аб сакрэтах «белага дому». Ён шукае,

раіцца, добра прыглядаецца, усё падслухоўвае і даведваецца аб самым важным—адкуль бяруць яны грошы.

Калі ён быў яшчэ зусім малы, бацька казаў яму: «грошы бяруць з Умані». Цяпер ён даведаўся, што зусім ня так проста зьбіраюць прыгаршчамі золата. У іхнай гуральні ён знаёміцца з самаю агіднаю эксплёатацыяй. У вільготным і цёмным склепе ён бачыць дзіцёнка, які паганяе коняй, тупаючы доўгімі, доўгімі днямі сумесна з сьляпымі коньмі, і з імі разам круціць кола гуральні, за што атрымлівае грошы.

І Пэнак пачынае разумець сапраўднае значэньне лягэнды, якая ходзіць па бедных завулках: багацеі кормяцца чалавечымі мазгамі... Яны купляюць іх у аптэцы ў зачыненых банках.

«Ля Дняпра» мае яшчэ багаты антырэлігійны матар'ял. Апрача шматлікіх мастацкіх малюнкаў, у якіх апісваецца прытворна-набожны дом, яшчэ вялікае антырэлігійнае значэньне маюць гэтыя вельмі прыгожыя малюнкі «Страшных дзён», дзе паказваюцца розныя адносіны да рэлігіі з боку розных слаёў местачковага насельніцтва.

Для працоўных гэтыя «страшныя дні», уся рэлігія, ня больш, як толькі рэшткі старога быту, ня больш, як звычайныя прывычкі, ад якіх яны яшчэ ня вызваліліся. Адны, якраз, ужо пачынаюць вызваляцца ад рэлігійнага ачмурэньня (Янкель, працоўная братва), або пачынаюць ужо моцна сумнявацца ў «літасьці божай» (Нахман).

Бэргельсон яшчэ дае нам малюнкі інтэрнацыянальнага яднаньня працоўных (Нахман-Петрык) у працілегласьць таму шавінізму, які пануе сярод багатых і больш адсталых.

Гэтая кніга мае таксама і шэраг важных недахопаў: завулкі і задворкі дадзены толькі як працілегласьць багатаму дому, але яшчэ не яскрава даказана непасрэднае ўладарства Левіных над местачковаю беднатою, не выстарчальна паказана эксплёатацыя мас і барацьба паміж рознымі клясавымі слаямі ў мястэчку. Мы тут толькі адчуваем нянавісьць, варожасьць паміж імі, ціхі, яшчэ затоены пратэст супроць уціску. Усе гэтыя досыць значныя недахопы Бэргельсону давядзецца выправіць у далейшых частках гэтага раману.

Але нават і цяпер яны ня могуць сабой засланіць таго вялікага значэньня, якое мае гэты твор.

«Ля Дняпра» ня толькі вострая крытыка ўсяе буржуазіі, але таксама—кніга самакрытыкі: Бэргельсон пераацэньвае тут свае мінулыя ўяўленьні і паняцьці. Ён мастацкі адмаўляецца ад рэштак заплесьнявелай спадчыны, якая яшчэ ціснула на яго да апошняга часу.

Па мастацку, з вялікім талентам і майстэрствам Бэргельсон разьлічваецца тут ня так з Левінымі, якіх рэвалюцыя даўно пахавала ўжо у нас на могільніку гісторыі, якія ўжо ніколі не ўваскроснуцца з мертвых, але, галоўным чынам, з сучаснымі буржуазнымі ідэалёгамі, якія з сучасных клясавых інтарэсаў буржуазіі бесьперапынна хваляць і услаўляюць старыя, традыцыйныя формы быту, што ўжо даўно аджылі, ён б'е па тых, якія ўсімі сіламі стараюцца захаваць, аднавіць і нават ажывіць рэлігійную яўрэйскую культуру, як сродак, каб

і надалей утрымаць буржуазную дыктатуру. У гэтым і ёсьць актуальнае значэньне гэтай кнігі, ня гледзячы на тое, што ў ёй апісана ўжо мінулая эпоха. Супрацоўнічаньне Бэргельсона ў камуністычнай прэсе, яго рашучы разрыў (з 1930 г.) усялякіх адносін з буржуазным і рэакцыйным дробна-буржуазным яўрэйскім замежжам, яго апошнія вельмі мастацкія творы, якія ён нам даў, і, асабліва, яго атакі супроць фашысцкай і сацыял-фашысцкай прэсы, яго вострыя памфлеты і артыкулы супроць усялякіх плётак на Савецкі Саюз, супроць ворагаў рабочае клясы, супроць фашызаванай нацыяналістычнай «культуры» і г. д.—усё гэта прывяло да таго, што Бэргельсон стаў адным з цэляў, куды накіраваны стрэлы нашых клясавых ворагаў. Уся контррэвалюцыйная яўрэйская прэса ня спыняе нападкаў на Бэргельсона, не перастае атакоўваць яго. Яны стараюцца адмовіць яго вялікі талент, яго вялікае мастацкае майстэрства. Усе прадажныя буржуазныя пісьменьнікі цкуюць і распаўсюджваюць плёткі пра Бэргельсона, яны крычаць, што Бэргельсон ня шчыры, што тое, што ён піша—гэта праз прымус, што ён прадаўся бальшавіком і г. д.

Але гэтым самым Бэргельсон нажыў сабе мільёны сяброў і прыхільнікаў рабочых тут, у нас, у Савецкім Саюзе і за межамі.

За апошніх некалькі год Бэргельсон ужо не адзін раз наведаў Савецкі Саюз. Таксама Бэргельсон наведаў Амэрыку, Францыю, Латвію і інш. капіталістычныя краіны, і ўсюды яго сустракалі працоўныя масы з пашанаю і любасьцю.

Бэргельсон не адзін. Лепшыя і найвялікшыя носьбіты старой культуры, якая адмірае, пераходзяць цяпер у лягер барацьбітоў за пралетарскую рэвалюцыю і ўсе яны сустракаюць дзікія і агідныя напады з боку буржуазіі і яе лёкаяў і, адначасова, пашану і любасьць з боку рэвалюцыйных рабочых мас.

Прыход Бэргельсона да нас ёсьць вынік тых перамог, якія мы маем на ўсіх франтох нашага будаўніцтва, і атакі супроць Бэргельсона з боку нашых ворагаў ёсьць адлюстраваньне абвостраных клясавых бояк, якія ідуць цяпер ва ўсіх кірунках сьвету.

# ХРОНІКА

## АДОЗВА „ЛІГІ ПРАФЭСЫЯНАЛЬНЫХ ГРУП“

У апошнія часы, і асабліва перад прэзыдэнцкімі выбарамі ўвосень 1932 г., у Амэрыцы вызначыўся значны рух інтэлігенцыі, якая становіцца на камуністычны шлях барацьбы пралетарыяту і яго авангарду—камуністычнай партыі. Гэты рух інтэлігенцыі ўзьнік для падтрымкі камуністычных дэпутатаў у прэзыдэнты ПАЗШ, а пазьней аформіўся ў «Лігу Прафэсыянальных Груп».

Лігай прафэсыянальных груп выдадзена адозва да ўсіх працаўнікоў разумовае працы, дзе гаворыцца, што эканамічны крызіс 1929 г. адчыніў вочы ўсіх работнікаў разумовае працы на пагібельны характар пасьляваеннай капіталістычнай грамады. Раўнавага гэтае грамады была надзіманай. За межамі Савецкага Саюзу любая галіна чалавечай працы, якая ідзе на задавальненьне чалавечых патрэб, залежыць ад прагных капіталістых.

Пасьля трох гадоў, якія прайшлі з пачатку крызісу, краіна знаходзіцца ў эканамічным зруйнаваньні і дайшла да палавіннага ўзроўню вытворчых мажлівасьцяй. Цяжкая індустрыя амаль што зьведзена да нуля.

Амаль усе сталёвыя волаты, найлепшыя па магутнасьці аўтамабільныя заводы на манер фордаўскіх—зачынены. Цэлыя галіны вытворчасьці, ад якіх залежаць у сваім існаваньні мільёны людзей, гінуць. У краіне, дзе масы галадуюць, няма попыту на прадукты харчаваньня. У краіне 12-15 мільёнаў беспрацоўных і мільёны рабочых, занятых на вытворчасьці толькі частку часу.

Адным з самых трагічных відовішч капіталістычнай дэпрэсіі зьяўляюцца 300.000 дзяцей, якія, як кажуць урадавыя справаздачы, разуты, разьдзеты і бяспрытульна вандруюць з мейсца на мейсца.

Работнікі разумовае працы таксама не застрахованы ад агульнага няшчасьця. Для таго, каб атрымаць яскравае ўяўленьне аб пакутах, якія выпалі на долю гэтай прамежнай клясы, варта толькі глянуць на палітычна-фінансавы хаос, які пануе цяпер у такім буйным гарадзкім цэнтры, як Чыкага. Настаўнікі школ не атрымоўвалі пэнсіі 13 месяцаў запар, і атрымалі яе, нарэшце, толькі за 5 месяцаў.

У адным толькі Нью-Ёрку каля 8.000 беспрацоўных настаўнікаў. Зачыняюцца школы для дарослых; урэзваючы школьны год, зьліваючы дзьве групы ў адну, заправілы школьна-пэдагогічнай справы пазбаўляюць працы вялікую колькасьць выкладчыкаў. У горадзе



Нью-Джэрсэй больш за 100 чал. з вышэйшай асьветай вымушаны былі ўзяцца за капаньне канаў і канкурыраваць з некваліфікаванымі рабочымі.

Тэатры зачыняюцца, актсры і драматургі галадуюць. Музыкі пакутуюць ня толькі ад крызісу, але і ад пэрманэнтнага беспрацоўя, якое зьвязана з разьвіцьцём радыё-вяшчаньня, гукавых фільм. Мастакі не знаходзяць збыту сваім работам. Пісьменьнікі не знаходзяць выдаўцоў, альбо павінны згаджацца на жабрацкія ўмовы і могуць разьлічваць на абмежаваны попыт на кнігі... Дзесяткі тысяч студэнтаў б'юцца з апошняга, каб скончыць унівэрсытэт і не памерці за гэты час з голаду, бо старэйшыя адабралі ад іх нават часовую працу. З трывогай яны ломяць галовы над тым, што чакае іх па сканчэньні.

Увесь гэты вопыт і таленты выкідаюцца за борт не ад таго, што ў Амэрыцы вельмі шмат дактароў, настаўнікаў, выкладчыкаў, пісьменьнікаў, а ня гледзячы на тое, што гэтая краіна ніколі не магла задаволіць культурныя патрэбы насельніцтва. Бясспрэчна, гэты культурны крызіс зьяўляецца простым вынікам эканамічнага крызісу.

Відовішча эканамічнай катастрофы—грандыёзнае, якое пэрыядычна паўтараецца, відовішча галоднай сьмерці працоўных сярод поўнага багацьця—выяўляе задачу сацыяльнай рэарганізацыі... Карэнная сацыяльная рэарганізацыя павінна зьнішчыць асноўныя прычыны цыклёнічных патрасеньняў і дэпрэсый, вытворчасьць для прыватнай нажывы, спэкуляцыю, анархію вытворчасьці, нераўнамернае разьмеркаваньне прыбыткаў, як разрыў паміж вытворчасьцю і спажываньнем, і эксплёатацыю рабочае клясы. Толькі сацыялізм можа зьнішчыць эксплёатацыю і жабрацтва, якія пануюць пры капіталістычным ладзе.

Пры сацыялізьме навука і тэхніка свабодныя і не залежаць ад прыватнага капіталу. Работнікі разумовае працы, якіх капіталізм эксплёатуе альбо прымушае эксплёатаваць другіх, будуць свабодна і творча выконваць свае прафэсыйныя функцыі. Настаўнік, пісьменьнік, мастак выразяць у сваёй творчасьці ідэалёгію новага сьвету, новае культуры.

Гэты ідэал, за які варта змагацца, практычна ільга ажыцьцёвіць, як гэта ўжо даказаў нам Савецкі Саюз.

Нас, працаўнікоў разумовае працы таксама прыгнечваюць, і покуль мы ня скінем рабскага ярма гэтага прыгнечаньня, мы будзем па-сьляпому і дрэнна выконваць сваю работу на патрэбу невуцтва і прагнасьці.

«Калі мы наогул здольны будаваць культуру, пара пачынаць, пара адстойваць свае функцыі, сваю адказнасьць; пара аднавіць наш таварыскі дагавор з рабочымі масамі для барацьбы супроць бязвыходнага жабрацтва і жаху вар'яцкага дому, што гатоў абваліцца».

«Да якога-жа часу інтэлігент будзе зьнемагаць у гэтай душнай атмасфэры? Калі-ж нарэшце ён памкнецца прарваць замкнуты круг у саюзе з адзінай сілай, якая змагаецца і шукае абнаўленьня? У інтарэсах сапраўднай чалавечай грамады, у якой усе формы эксплёатацыі будуць зьнішчаны, для новага культурнага адраджэньня, якое створыць

цэльныя творчыя асобы, мы заклікаем усіх і мужчын і жанчын—работнікаў разумовае працы і мастацтва, прымкнуць да рэвалюцыйнай барацьбы супроць капіталізму пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі».

## „ЦІ АБАНКРУЦІЛАСЯ БУРЖУАЗНАЕ ГРАМАДЗТВА?"

Дзеля таго, каб выявіць грамадзка-буржуазныя погляды на пытаньні далейшага лёсу буржуазнага грамадзтва, буржуазныя часопісі часта ўжываюць форму анкет.

Аднэй з апошніх анкет зьявілася анкета францускай часопісі «Ла рэвю мондыаль» пад загалоўкам «Ці абанкруцілася буржуазнае грамадзтва». Рэдакцыя часопісі лічыць «абавязкам выдатнейшых умоў усіх краін садзейнічаць вырашэньню гэтай праблемы, ад якой залежыць будучыня чалавецтва» і просіць даць адказы на пастаўленыя запытаньні.

Атрыманыя рэдакцыяй часопісі адказы на пастаўленыя запытаньні ў значнай сваёй частцы сьведчаць аб правільным разуменьні таго, што шляхам выхаду з крызісу, у якім знаходзіцца капіталістычны сьвет, зьяўляецца рэвалюцыя.

Мы падаем частку гэтых адказаў.

## БЕРНАРД ШОЎ

1) Ці лічыце Вы, што буржуазнае грамадзтва, альбо тое, што называецца буржуазным грамадзтвам, абанкруцілася?

Адказ: *Гэта яшчэ ня вырашана канчаткова.*

2) Ці адказна яно за войны, эканамічныя крызісы, празьмерны пратэкцыянізм, беспрацоўе?

Адказ: *Так.*

Ці зможа яно адхіліць гэтыя няшчасьці?

Адказ: *Не.*

3) Ці неабходна зьмяніць тое ўяўленьне аб індывідуальнай свабодзе, якое стварае сабе буржуазнае грамадзтва?

Адказ: *Так.*

Ці ня робяць памылкі, зьмешваючы буржуазнае грамадзтва з капіталістычным ладам, у той час, як буржуазнае грамадзтва бадай што з кожным днём усё больш і больш сацыялізуецца?

Адказ: *Буржуазнае грамадзтва—прадукт капіталістычнага ладу.*

Ці будзе для Вас пажадана такая эвалюцыя?

Адказ: *Разумеецца, я ў гэта веру.*

4) Калі сацыяльныя перамены немінучы, то ці зробяцца яны легальным шляхам?

Адказ: *Бадай што яны ўтворацца выпадкова, як гэта было ў Расіі. Жывёла з чалавечай пароды занадта заносьлівая, каб легальным шляхам зрабіць якую-небудзь вялікую перамену.*

## ВІКТАР МАРГЭРЫТ

*1) Так, буржуазнае грамадзтва, альбо па крайней меры тое, што так называюць, пацярпела крах.*

*2) Так, на ім ляжыць адказнасьць за войны, за эканамічныя крызісы, за празьмерны пратэкцыянізм, за беспрацоўе. Я ня думаю, што, будучы само прычынай усіх гэтых няшчасьцяў, яно зможа адхіліць іх дзейнасьць.*

*3) Індывідуальная свабода, як яе мысьліць буржуазнае грамадзтва, ёсьць ня што іншае, як анархія. Мы-ж імкнемся да новага парадку, да ладу сацыялізацыі, якая зьяўляецца мне ня толькі пажаданай, але і нямінучай.*

*4) Ці шляхам рэвалюцыі, ці шляхам эвалюцыі зьдзейсьняцца нямінучыя перамены? Адказаць на гэта павінна сама буржуазія, калі ў яе яшчэ захаваўся які-небудзь розум і калі яна разумее свае ўласныя інтарэсы.*

## ГАБРЫЭЛЬ РЭЙЯР (журналіст, радыкал сацыяліст)

*«Я думаю, што ўсякае грамадзтва, якое руйнуе сваю-ж прадукцыю, тым самым сябе асудзіла».*

*У многіх адказах адчуваецца страх перад рэвалюцыяй, якая надыходзіць. Аўтары гэтых адказаў бачаць, што капіталізм ня можа выйсьці з тэй эканамічнай катастрофы, у якой ён знаходзіцца. Клясавая злосьць прымушае іх узбройвацца супроць рэвалюцыі. «Я напружу ўсе сілы,—кажа Урбэн Гох'е (аўтар фашысцкіх памфлетаў)— дзеля таго, каб выпусьціць усе кулі са стрэльбы і абараняць рэжым індывідуальнай свабоды».*

## ПІСЬМЕНЬНІКІ ПОЛЬШЧЫ ГАЛАДУЮЦЬ

Матар'яльнае становішча польскіх пісьменьнікаў надзвычайна цяжкае.

За выключэньнем вельмі нязначнай прывілегіяванай групы, якая належыць да фашысцкага лягеру, пісьменьнікі Польшчы жывуць у жабрацтве. Польская кніга разыходзіцца ў 2-3 тысячы экзэмпляраў, г. зн. тыраж меншы, ніж самай непапулярнай кнігі ў СССР.

Крызіс яшчэ больш абмежаваў нязначны і ў ранейшыя часы кніжны рынак. Вядомы літэратар Павал Гулько Ласкоўскі, які прыхільна ставіцца да ўраду, кажа: «Крызіс адчуваецца цяпер надзвычайна. Працуючы па 12-15 гадзін у дзень, я зарабляю трэцюю частку таго, што зарабляў два гады таму назад» (Ведамосьці літэрацкі ад 8/І-33 г.). Можна ўявіць сабе матар'яльнае становішча пісьменьнікаў, якія не карыстаюцца апекаю Пілсудзкага.

У саюзе польскіх пісьменьнікаў пануе групаўшчына. Адзін з вядомых пісьменьнікаў заяўляе ў анкеце прафэсыйнага саюзу польскіх пісьменьнікаў: «Прыналежнасьць да групы зьяўляецца значна больш

важным эканамічным фактарам, ніж прыналежнасьць да прафсаюзу. Групы вядуць барацьбу супроць усякага праяўленьня самабытнай творчасьці, і толькі вельмі выдатныя і сьмелыя таленты могуць супроцьстаць гэтаму нябачнаму гвалтоўніцтву».

## НОВЫ РАМАН РОМЭН РОЛЯНА

Ромэн Ролян працуе цяпер над 4-м томам рамана «Зачарованай душы». Першая частка гэтага тому пад назвай «Сьмерць сьвету» выйшла нядаўна.

Віктар Маргэрыт зьмясьціў у сувязі з выхадам першай часткі тому артыкул у «Валантэ», у якім ён піша:

«Гніль сучасных бацькаўшчын выклікае ў Ролана гадлівасьць, амаль ташнату, і пісьменьнік зварочваецца да таго сьвету, дзе выкоўваецца ў гіганцкіх умовах сталёвая аснова чалавецтва... Ролян бачыць зару, якая ўсходзіць з боку Масквы, якая нясе адраджэньне».

Другая частка тому будзе называцца «Зараджэньне».

## „КАРДЫЯН І ХАМ“

Радыкалізацыя інтэлігенцыі праяўляецца ня толькі ў яе патрабаваньнях інфармацый пра СССР. Ня гледзячы на мінулагодні разгром «Месячніка літарацкага», уся рэдакцыя якога была адпраўлена ў турму, і зусім незалежна ад гэтай групы, зьявілася праца маладога, выключна таленавітага польскага пісьменьніка, што, відаць, стараецца стаць на марксыцкі пункт погляду. Гэта—раман Леона Кручкоўскага «Кардыян і хам» (выдадзены ў Кракаве). Кручкоўскі сам называе свой раман гістарычным мантажом. Раман гэты аснованы на дакладных гістарычных дакумантах і адносіцца да пэрыяду падрыхтоўкі польскага паўстаньня 1830—1831 году.

Паўстаньне гэта, што было крыніцаю натхненьня для вялікіх польскіх рамантыкаў—Міцкевіча, Славацкага, да апошняга часу заставалася недатыкальным табо для буржуазных польскіх гісторыкаў і раманістаў; ім трэба было захапляцца, але нельга было дакранацца яго скальпелем крытыкі.

Кручкоўскі дае няшчадны аналіз грамадзкіх адносін Польшчы таго часу і, рэзка малюючы клясавае змаганьне паміж абшарнікамі і прыгнечанымі масамі польскага прыгоннага сялянства, высьвятляе, чаму польскае сялянства павінна было заняць варожую пазыцыю ў адносінах да дваранскага антыцарскага паўстаньня.

Сцэны зьдзекаў над сялянамі і сцэны, што малююць бездапаможнасьць дваран—паўстанцаў, якія ідуць супроць царскага ўраду, не валодаючы нават багажом буржуазнай ідэалёгіі,—намалёваны з вялікім талентам. Аўтар вельмі добра зжыўся з моваю эпохі, і ягоная перапоўненая жаху грамадзкая драма пададзена ў эпічна-вытрыманым тоне. Рэч гэта зусім пазбаўлена патэтычных воклічаў. Дзяр-

жаўнае Выдавецтва мастацкай літаратуры ОГІЗ'у зьбіраецца выпусьціць кнігу Кручкоўскага на рускай мове. Урыўкі з яе зьяўяцца ў часопісі «Інтэрнацыянальная літаратура».

## ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ ДЗЯМЯНА БЕДНАГА

У красавіку Яфіму Аляксеявічу Прыдвораву (Дзямяну Беднаму) споўнілася пяцьдзесят год. Гэтая дата паэта-бальшавіка была ўрачыста адзначана працоўнымі ўсяго Савецкага Саюзу.

Дзямян Бедны нарадзіўся 13-га красавіка 1883 году ў вёсцы Глебаўка, Хэрсонскай губэрні, у сям'і селяніна, які служыў у Елізаветградзе царкоўным вартаўніком. Калі Беднаму было трынаццаць год, яго аддалі ў Кіеўскую вайскова-фэльчарскую школу. У 1904 годзе Дзямян Бедны паступіў на гісторыка-філёлёгічны факультэт Пецярбурскага Унівэрсытэту.

«Пасьля чатырох год новага жыцьця, новых сустрэч і новага ўражаньня,—піша Бедны ў сваёй аўтабіяграфіі,—пасьля ашаломлівай для мяне рэвалюцыі 1905—1906 году і яшчэ больш ашаломлівай рэакцыі наступных год я разгубіў усё, на чым трымаўся мой абывацельскі добра-намерны настрой. У 1909 годзе я стаў друкавацца ў Караленкавым «Русском богатстве» і вельмі блізка сышоўся з вядомым паэтам-народавольцам П. Ф. Якубовічам-Мельшыным... Даўшы ўжо раней значны ўхіл у бок марксызму, у 1911 годзе я стаў друкавацца ў бальшавіцкай—слаўнай памяці—«Звезде». Мае сьцежкі сыходзіліся да аднае дарогі. Ідэйная сумятлівасьць скончылася... З 1912 году жыцьцё маё—як струнка...»

Выступіўшы ўпяршыню 20-га мая 1911 году на старонках «Звезды» і пачаўшы ў чарговым годзе сваё супрацоўніцтва ў «Современном Мире», Бедны становіцца сталым фэльетаністам бальшавіцкага друку. Вялікая большасьць ягоных твораў упяршыню зьяўляецца на старонках «Звезды», «Правды», «Бедноты», «Известий ВЦИК'а».

Асабліва творчасьць Беднага робіцца папулярнаю ў гады грамадзянскай вайны. У 1923 годзе Дзямян Бедны быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сьцягу. З повалу гэтага прэдыдыум Усерасійскага ЦВК у сваёй грамаце адзначыў «асабліва выдатныя і выключныя заслугі» Беднага, творы якога, «простыя і зразумелыя» кожнаму, а таму і надзвычайна моцныя,—запалялі агнём сэрцы працоўных і ўмацоўвалі бадзёрасьць духу ў найцяжэйшыя хвіліны змаганьня».

Сапраўды творчасьць Беднага на ўсім сваім шляху цесна зьвязана з працоўнымі масамі. Ужо ў самых раньніх творах Беднага цэнтральным вобразам зьяўляецца батрак, які энэргічна змагаецца з кулацкім ярмом. У той час Бедны дае ў форме казак, фэльетонаў, эпіграм сатырычны паказ вясковых «міраедаў» (старшынь, ураднікаў, гандляроў, кулакоў, папоў і г. д.), паказвае на непраходную розьніцу паміж імі і працоўнымі масамі.

Пасьля Кастрычніка Бедны ўжо ня ў форме казак і баек, а ў форме адкрытай сатыры жорстка ганьбіць і высьмейвае ворагаў рабочых, служак рэлігіі, ўвесь чорны контррэвалюцыйны бруд, ад якога агнём і мячом ачышчалася маладая савецкая краіна.

На ўсіх этапах барацьбы за ўрачыстасьць сацыялізму— і ў дарэвалюцыйныя часы, і ў барацьбе з Керанщчынай, і пасьля Кастрычніка да нашых дзён—Дзямян Бедны зьнішчаў сваімі агіткамі, байкамі, фэльетонамі, вершаванымі лёзунгамі ворагаў рабочае клясы, адзначаў і ўсхваляў кожную перамогу сацыялізму. І няма ў Савецкім Саюзе другога паэта, вершы якога даходзілі-б да такіх шырокіх мас.

У прывітаньні Дзяміяну Беднаму ЦК УсеКП(б) адзначае, што «сваімі творамі таварыш Дзямян Бедны зрабіў вялізарныя паслугі рабочай клясе і працоўным сялянам у іх змаганьні супроць памешчыкаў і капіталістаў, у іх змаганьні за перамогу над імпэрыялістычнымі інтэрвэнтамі».

Прэзыдыум ЦВК СССР выдатнага пролетарскага пісьменьніка Дзямяна Беднага за яго літаратурныя заслугі перад рабочаю клясай і працоўным сялянствам узнагародзіў ордэнам Леніна.

## УСЕБЕЛАРУСКАЯ ДРАМАТУРГІЧНАЯ НАРАДА

У красавіку г. г. у Менску адбылася драматургічная нарада. Нарада абмеркавала наступныя пытаньні: становішча і задачы савецкай драматургіі БССР (даклад тав. Вольскага) і драматургія і самадзейнае мастацтва (даклад тав. Шамшура).

Аргкамітэт Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў БССР разгарнуў да нарады шырокую падрыхтавальную працу—арганізавана была прапрацоўка пытаньняў нарады на заводах «Камунар», Эльвод, фабрыка «Кастрычнік», у калгасе Смалявіцкага раёну, на агульнагарадзкой нарадзе кіраўнікоў самадзейных мастацкіх гурткоў. Для правядзеньня падрыхтавальнай работы вылучаны былі брыгады драматургаў, крытыкаў і работнікаў тэатраў: на заводзе «Камунар»— т. т. Рамановіч, Галіна, Літвінаў, Кобец, Чорны; на фабрыцы «Кастрычнік»—т. т. Кацовіч, Рафальскі, Даўгапольскі, Стэльмах, Колас; на Эльводзе—т. т. Сташэўскі, Усс, Мікуліч, Блісьцінаў, Курдзін.

У выніку добрай папярэдняй падрыхтоўкі, у нарадзе прынялі ўдзел ня толькі драматургі і тэатральныя працаўнікі, але і пісьменьнікі і шырокая савецкая грамадзкасьць. Нарада прайшла надзвычай жвава, спрэчкі былі высока прынцыповыя і гарачыя.

І ў дакладах і ў выступленьнях у спрэчках амаль усе прамоўцы зазначылі, што стварэньнем шэрагу беларускіх пралетарскіх савецкіх твораў, («Гута» Кобеца, «Напор» Александоовіча, «Бацькаўшчына» К. Чорнага, «Міжбур'е» і «Контратака» Курдзіна, «Качагары» і «Новы горад» Гурскага, творы Даўгапольскага, ды шэраг інш.) і выкарыстаньнем лепшых узораў, саюзнай — у першую чаргу рускай—драматургіі, мы нанесьлі жорсткі ўдар нацдэмакратам і апартуністам, моцна абагаціўшы нашу тэатральную культуру.

Але падкрэсьліваючы нашыя дасягненьні, удзельнікі нарады гаварылі пра адставаньне драматургіі ад попытаў тэатру на рэпэртуар, пра тое, што нашы тэатры зусім ня маюць у сваім партфэлі, у сваім рэзэрве высока-якасных драматургічных твораў. Нашы тэатры ў вялікай ступені выраслі. Вырас наш савецкі глядач. Патрабаваньні гэтых спажыўцоў драматургічнага матар'ялу робяцца ўсё больш настойлівымі. Нямала выпадкаў, калі той ці іншы тэатральны калектыў церпіць творчыя паражэньні, ідзе па лініі найменшага супраціўленьня з прычыны нядобраякаснасьці драматургічнага твору.

Нарада гаварыла пра тое, што трэба з усёю бальшавіцкаю рашучасьцю зламаць недаацэнку фронту самадзейнага мастацтва. За апошнія гады мы маем бязумоўны рост драматургіі для клюбаў (творы Сташэўскага, Блісьцінава, Стэльмаха, Кацовіча, Ільлінскага і інш.). Але як сам рост прадукцыі аўтараў, таксама і ўвага пралетарскай грамадзкасьці гэтай важнейшай справе—далёка невыстарчальная.

У сувязі з гэтым нарада завастрыла ўвагу на тым, што дагэтуль ня было належнага выхаваньня драматургічных кадраў, што кіраўніцтва драматургічнымі кадрамі слабое і што на гэтую работу, работу па стварэньню драматургічных кадраў, трэба палажыць усе сілы, паколькі драматургіі надаецца асабліваe значэньне, як найбольш масаваму і наглядному з усіх відаў мастацтва.

Нарада па драматургіі прайшла пад знакам рашучай самакрытыкі і згуртаваньня вакол партыі, вакол сёнешніх задач нашага сацыялістычнага будаўніцтва, пад знакам рашучага змаганьня з буржуазнымі кулацка-нацыяналістычнымі ўплывамі ў тэатры, з «ціхай сапай» клясавага ворага, які імкнецца пад фальшыва-нацыянальным сьцягам скарыстоўваць нашу савецкую сцэну для сваёй антысавецкай работы.

У адказнай тэлеграме на імя сакратара ЦК КП(б)Б тав. Жабroўскага нарада аднадушна заявіла: «Мы—драматургі і працаўнікі тэатру, завяраем Вас, тав. Жабroўскі і ЦК партыі, што пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі мы пакладзем усе сілы і здольнасьці для стварэньня Магнітабуду драматургіі, бо мы разумеем, што драматургія на дадзеным адрэзку часу ў пэрыяд абвостранага змаганьня набывае асабліва вялікае значэньне ў справе камуністычнага выхаваньня працоўных мас, у справе барацьбы за пралетарскі інтэрнацыяналізм».

Нарада вылучыла камісію пад кіраўніцтвам адказнага сакратара Аргкамітэту тав. Лынькова, у складзе драматургаў: Гурскага, Курдзіна, Чорнага, Коласа, Рамановіча, Мікуліча, Багінскага, Даўгапольскага; крытыкаў: Вольскага, Дунца, Модэля, Замоціна, Усса; рэжысэраў: Літвінава, Рафальскага, Міцкевіча. Гэтая камісія павінна падрыхтаваць тэзісы да ўсебеларускага зьезду савецкіх пісьменьнікаў аб становішчы і задачах беларускай савецкай драматургіі.

